

Работнікі цэха шасі Мінскага аўтазавода тэхнолаг Пётр Шацаў (на здымку злева) і начальнік тэхнічнай часткі Міхаіл Мангалёў паспяхова заканчваюць заняткі на завочным аддзяленні Беларускага палітэхнічнага інстытута. У чэрвені абодва яны атрымаюць дыпломы інжынераў.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:




**6 (64)**

Чэрвень.

1958.

Год выдання VI.

Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск.



«За баявыя заслугі» — так назваў сваю карціну мастак П. Смукровіч. У ёй адлюстраваны будні партызанскага атрада. Герой дня — маленькі партызан, які атрымоўвае ўзнагароду. Мастак нібы хоча сказаць гэтым, што на свяшчэнную барацьбу супраць фашызма паўстаў увесь савецкі народ.

Асноўная ўвага аўтара накіравана на партрэтныя характарыстыкі вобразаў, таму ён не імкнуўся да незвычайных сітуацый, складаной сюжэтнай лініі.



На Усесаюзнай мастацкай выстаўцы 1957 года ўвагу гледачоў прыцягнула карціна маладога мастака А. Ацманчука «Дан загад...». У ёй мастак адлюстраваў поўныя героікі дні грамадзянскай вайны, калі тысячы камсамольцаў са зброяй у руках ішлі змагацца супраць інтэрвентаў.

Незвычайная лаканічнасць не перашкодзіла мастаку перадаць дыханне той вялікай эпохі, рамантыку подзвігу.



**На Мінскім заводзе аўтаматычных ліній працуе многа маладых спецыялістаў, якія нядаўна закончылі навучальныя ўстановы. Інжынер-канструктар Грыгорый Гарэлік закончыў інстытут у Ленінградзе, Яўгені Крыжаноўскі — у Мінску. Абодва яны працуюць цяпер над стварэннем новых станкоў.**

На здымку: **Г. Гарэлік і Я. Крыжаноўскі за вывучэннем чарцяжа новага станка.**

Фота С. Чырэшкіна.



**Да Свята моладзі гурткі мастацкай самадзейнасці Ашмянскага раёна падрыхтавалі цікавую праграму.**

На здымку: **рэпетыцыя народных танцаў у г. Ашмяны.**

Фота А. Дзітлава.



Работнікі цэха шасі Мінскага аўтазавода тэхнолаг Пётр Шацаў (на здымку злева) і начальнік тэхнічнай часткі Міхаіл Мангалёў паспяхова заканчваюць заняткі на завочным аддзяленні Беларускага палітэхнічнага інстытута. У чэрвені абодва яны атрымаюць дыпломы інжынераў.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР**

**У НУМАРЫ:**



**6 (64)**

**Чэрвень.**

**1958.**

Год выдання VI.

Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-854.

Рукапісы не вяртаюцца.

АТ 04783. Здадзена ў набор 27.IV.58 г. Падпісана да друку 29.V.58 г. Заказ 259.

Фармат паперы 70×108 /16. Друк. арк. 10. Вуч. выд. арк. 12. Тыраж 12.000 экз. Цана 4 руб.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

# СВЯТА МАЛАДОСЦІ

У канцы мінулай зімы на старонках нашага друку быў змешчаны Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, кароценькі, у тры радкі: «Устанавіць святкаванне «Дня савецкай моладзі». У гэтых словах выказан бацькоўскі клопат нашай любімай Партыі і Урада аб моладзі, аб юнаках і дзяўчатах савецкай краіны.

Мы бязмежна ўдзячны за гэты клопат, мы радасна спаткаем сваё юнацкае свята. Яно прыходзіць да нас у самую лепшую пару года.

...Горача грэе летняе, агністае сонца. Пад яго ласкавымі праменнямі ўсюды расцвілі яркія кветкі. Іх мноства, як ніколі, на ўзгорках, на лузе, на лясных палянках. Шчаслівая савецкая зямля расцвіла пад сонцам... Самае буйнае і зялёнае лісце шапоча на дрэвах ад ціхага павеву лёгкага ветрыку... Хвалюецца жыта на полі... У бары кукуе зязюля...

Няма найлепшай пары для Свята маладосці, для юнакоў і дзяўчат, для якіх настае паўналецце. Самыя светлыя мары, самыя цудоўныя ўяўленні ў кожнага пра гэты дзень.

Ён будзе традыцыйным, з году ў год, як і кожнае свята ў народзе. Дзень савецкай моладзі!

Наш народ, самы шчаслівы ў свеце, мае многа свят. Ён шчыра працуе і шчодра святкуе. Яго святы ўзніклі, каб адзначыць штосьці важнае, дарагое, векапомнае ў жыцці. Яго сівая гісторыя помніць, як старажытныя святы забываліся, адміралі, зніклі, і бачыць, як на вачах людзей нараджаліся і расцвіталі новыя святы. Народ стварае сабе святы.

Мы, моладзь сацыялістычнай краіны, сваё слаўнае свята павінны зрабіць самым прыгожым, самым цудоўным, самым вясёлым і незабыўным.

Вось як нашы сябры-суседзі, латышскія камсамольцы, нядаўна ў друку дзяліліся сваімі думкамі аб правядзенні знамянальнага дня.

...Гэта дзень юнакоў і дзяўчат, якім споўніцца ў гэтым годзе восемнаццаць год. Год юнацкай сталасці. Іх браты і сёстры, родныя і блізкія будуць шаноўнымі гасцямі на свяце. Яно пачнецца парадам усіх, хто жадае прысутнічаць на ўрачыстасці.

Пойдуць калоны па вуліцах раённага гарадка. Наперадзе юнакі, пераапранутыя ў народных легендарных герояў. За імі — аркестры. Потым госці, родзічы і сябры тых, чыё ўслаўляецца паўналецце. Яны ў самым асаблівым убранстве: дзяўчаты ў белых плаццях з узорнай вышыўкай, хлопцы — у цёмных гарнітурах. Усе ў нацыянальных касцюмах. Шэсце рухаецца да стадыёна. Там у цэнтры зялёнага поля ўжо выступае самадзейны калектыў. І вось наступае ўрачыстае адкрыццё. Пасля паднесеных кветак кожнаму юнаку, дзяўчыне, якія дасягнулі паўналецця, уручаецца «Кніга чэсці». Складзена яна з шасці раздзелаў — «Мір», «Праца», «Дружба», «Маладосць», «Каханне», «Шчасце». Мір — галоўнае, што патрэбна для працы і шчасця маладосці! А асноўная думка ўсіх шасці раздзелаў: жыць у Савецкай краіне, быць маладым, сваёй штодзённай працай набліжаць светлую будучыню, дружыць, кахаць і жыць паўнацэнным жыццём — вось яно шчасце! У паасобных раздзелах кнігі прыведзены вытрымкі з успамінаў старых камуністаў, першых савецкіх актывістаў рэспублікі, бацькоўскія пажаданні і парады...

Мора кветак! Вогнішчы ўсю ноч, да світання!..

Дарэчы, у прыбалтыйскіх народаў існавала традыцыя адзначаць канфірмацыю. Што такое канфірмацыя? Гэта царкоўны абрад для тых, каму споўнілася восемнаццаць год. Юнакі і дзяўчаты ішлі на намаленства ў царкву. Па зместу свайму гэта свята рэакцыйнае. Яно было патрэбна царкоўнікам для таго, каб мацней прывязаць людзей да бога, да рэлігіі. І разам з тым набожным святкаваннем гэты абрад прыцягваў моладзь да сябе сваёй урачыстай прыгажосцю. Ён быў падзеяй, якую выкарыстоўвалі царкоўнікі.

Колькі новага зместу даюць камсамольцы Тукумскага раёна Латвійскай ССР, якія расказвалі аб сваіх планах! Як пераўтварылі яны гэта свята! Ім дарагі народныя традыцыі, і варожы для іх папоўскі дурман.

Штогод нашы суседзі ў ноч на 23 чэрвеня на высокіх берагах Нёмана, які пачынае сваё рэчышча недалёка ад Мінска, запальваюць вогнішчы. Палаюць агні прасмоленых бочак. Гучаць песні кахання. Святкуецца традыцыйнае свята «Ліго».

А хіба ў нас мала кветак для дзявочых вянкоў?!. Хіба няма чароўных мясцін для карагодаў па берагах Дняпра і Прыпяці?!. Не надыхацца пахам расквітнеўшай каліны ў лесе! Не забыцца цудоўнай купальскай песні!...

Ой, рана на Йвана!
Проці Йвана ночка мала.
Ой, рана на Йвана!
Дзе Купала начавала?
Ой, рана на Йвана!
Начавала ў чыстым полі...
Ой, рана на Йвана!

А як коціцца ў паветры задушэўная купальская песня «Ночка малая купальная»!

Ёсць на Беларусі традыцыйныя звычаі «Купалля», «Сёмухі». Перад ганкам моладзь утыкае ў зямлю бярозкі. Дзяўчаты пасцілаюць у хаце чыста вымытую падлогу пахучым аерам. Купальскія кветкі кладуцца на шулы ля веснічак... Усе адзначаюць глыбокую вясну перад пачаткам вялікіх работ на полі. У гульнях могуць ажыць гэтыя поўныя прыгажосці народныя звычаі «Купалля» і «Сёмухі», так, як ажыла і зазіхацела ў канцы мінулай зімы вядомая руская «Масленіца». Раней на «Сёмуху» дзяўчаты, а то і маладзіцы хадзілі з песнямі па вуліцы ад хаты да хаты. Потым танцавалі. Пускалі вянкі на хвалі...



Не абавязкова нам, маладым, сёлета аднаўляць усе звычаі старажытных абрадаў, але тыя, якія ўзніклі ў працы, дзе адчуваецца любоў да працы, да роднага краю, павінны загучаць. Іх дапоўняць такія сучасныя песні, як «Добрай раніцы ў полі шырокім вятрам-дабравеям...» ці такая лірычная песня, як «Толькі з табою»...

Наша свята — Дзень савецкай моладзі — павінна стаць незабыўным. Чалавеку спаўняецца восемнаццаць год. Непаўторная пара. Яшчэ ўчора ты быў дзіцём, а сёння — ужо дарослы. Перад табою адчынена дарога ў жыццё. І хочацца размахнуць крылы. Хочацца, каб назаўсёды запомніўся гэты дзень.

Ёсць яшчэ важныя акалічнасці свята ў гэтым годзе. Моладзь гэта ведае. Сёлета наша рэспубліка сярод усіх брацкіх рэспублік — сясцёр вялікага Савецкага Саюза — прыбіраецца па-святочнаму. На заводах і фабрыках, у калгасах і саўгасах рыхтуюцца да слаўнага юбілею, да саракагоддзя Савецкай Беларусі. Наша прамысловасць павінна даць прадукцыі ў некалькі разоў больш, чым у папярэднія, пасляваенныя гады. А якія адказныя і ганаровыя абавязацельствы ўзялі на сябе нашы калгаснікі!

І наша моладзь, неўгамонная, баявая змена, на свяце будзе адзначаць свае поспехі.

У гарадах па шырокіх вуліцах пройдуць парадам юныя калоны. Сцягі пранясуць маладыя пераможцы сацыялістычнага спаборніцтва. Тут і старэйшыя нашы таварышы, камуністы, тыя, хто змагаўся не толькі ў гады Айчыннай вайны, але і на франтах грамадзянскай вайны. Яны — нашы настаўнікі, бацькі. Мы прышлі ў жыцці да паўналецця і сталасці за іх плячыма. А ад гэтага яшчэ мацней гучыць наша песня.

На стадыёнах спаборнічаюць маладыя сілы ў сваёй дужасці, спрытнасці. На бегавых дарожках стадыёнаў Мінска, на хвалях Сожа ў Гомелі, на валейбольных і баскетбольных пляцоўках гарадоў і вёсак мільгаюць майкі, маладыя дужыя постаці. Няхай бацькі паглядзяць, на што здатны іх сыны і дочкі, на што здольна іх змена...

Калі вячэрнія змрокі агорнуць зямлю, у гарадах загарацца факелы, а ў сёлах — святочныя кастры. І там і тут зіхаціць лямпачка Ільіча. Яна асвятляе калгасныя сады і рампы тэатраў.

Колькі будзе канцэртаў, да якіх рыхтавалася мастацкая самадзейнасць! Летась усіх абудзіў фестываль моладзі. А сёлета мы свае песні і працоўныя будні прысвячаем саракагоддзю Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі.

XIII з'езд ВЛКСМ выказаў з глыбінь нашых сэрцаў словы аб тым, што мы апраўдаем давер'е нашай роднай Камуністычнай партыі, любоўю і клопатамі якой мы сагрэты і ідзём да вяршынь камунізма.

Ідзём з вясёлай песняй і працоўнымі подзвігамі!

*Антаніна БАЛАНКОВА,*
**сакратар Ашмянскага райкома ЛКСМБ**

# КАСЦЁР ДРУЖБЫ

У мінулым годзе мне давялося пабываць у складзе беларускай дэлегацыі на фестывалі літоўскай моладзі. Шмат цікавага ўбачыла я на свяце юнацтва нашых дарагіх сяброў. Але бадай самае моцнае ўражанне пакінуў вячэрні карнавал моладзі. Памятаю: мы стаялі на высокай фестывальнай трыбуне, а ўнізе перад намі бясконцай агністай ракой плыло карнавальнае шэсце. Гэта было сапраўды незвычайнае, казачнае відовішча. Кожная калона здзіўляла бліскучай маляўнічасцю афармлення, непаўторнасцю кампазіцый. Перад позіркам гледачоў ажывалі гераічныя эпізоды барацьбы літоўскага народа за сваю свабоду, фальклорныя легендарныя волаты — змагары за шчасце людзей, вобразы нашых слаўных сучаснікаў — будаўнікоў новага, светлага жыцця. Здавалася, уся шматвяковая гісторыя мужнага братняга народа праходзіла ў гэты час перад вачыма...

Незвычайны настрой апанаваў маё сэрца. Было вельмі радасна за нашых сяброў, за іх багатую нацыянальную культуру, за іх па-сапраўднаму невычарпальную творчую выдумку, вясёласць і энергію. І ў той жа час рабілася крышку крыўдна... за саміх сябе... Я з горыччу думала: чаму ж занядбаны ў нас нацыянальныя традыцыі масавых гулянняў, народных урачыстасцяў, маладзёжных свят?.. Было тым больш прыкра, што ў працы мы не адстаем ад сваіх літоўскіх суседзяў. Ужо не адзін год калгаснікі нашага раёна спаборнічаюць з імі. І можна не без гонару сказаць: у гэтым спаборніцтве мы не раз выходзілі пераможцамі. Чаму ж мы павінны ўступаць ім у вясёласці, у арганізацыі культурнага адпачынку, у паказе сваіх нацыянальных духоўных здабыткаў?

І вось з таго часу мінуў год. Мы зноў сустракаемся з нашымі літоўскімі сябрамі. Але ўжо не ў Вільнюсе, а ў нас, у Ашмянах.

Мы запрасілі да сябе камсамольскіх работнікаў Нова-Вільнянскага раёна, каб разам з імі абмеркаваць, як лепей правесці



наша сумеснае мерапрыемства — карнавал дружбы беларускай і літоўскай моладзі, ці як мы дамовіліся назваць яго — «Касцёр дружбы».

Вырашыўшы правесці гэтае свята, мы зыходзілі галоўным чынам з двух меркаванняў. Па-першае, яно дасць ашмянцам магчымасць пазнаёміцца з дзівоснымі здабыткамі літоўскай нацыянальнай культуры, са здзіўляючым самадзейным мастацтвам нашых суседзяў, шчодрых на творчую выдумку. Па-другое, мы пастараемся паказаць сваім гасцям, што і мы ўмеем не толькі выдатна працаваць, але і цікава весяліцца. Натуральна, што, рыхтуючыся да такой падзеі, нашы камсамольцы прыкладуць усе намаганні, каб паказаць, на што яны здольны. Я ўжо не гавару аб тым, якое вялікае значэнне мае гэтае мерапрыемства: яно яшчэ больш здружыць моладзь нашых раёнаў, будзе садзейнічаць умацаванню братніх сувязей паміж Беларуссю і Літвой.

Апрача ўсяго, наш Касцёр дружбы з'явіцца, так сказаць, генеральнай рэпетыцыяй да Усесаюзнага свята моладзі, якое ўпершыню будзе праводзіцца ў гэтым годзе.

Касцёр дружбы ў Ашмянах мы прысвячаем слаўнаму саракагоддзю Ленінскага камсамола. Гэта і вызначыць характар мерапрыемстваў, асаблівасць кампазіцый, якія мы мяркуем паказаць.

Вядома, цяжка загадзя прадугледзець усе падрабязнасці і дэталі праграмы. Мабыць, у самым ходзе падрыхтоўкі ў нашы планы будуць унесены істотныя папраўкі. Але ў асноўным план у нас распрацаваны, і мы пастараемся прытрымлівацца яго.

...Свята працягваецца два дні.

У першы дзень, калі змяркаецца, на стадыёне збіраецца моладзь — і ашмянцы і госці. Адгэтуль калонамі яны накіроўваюцца цераз горад у парк. Калышучы лісце прысад, гучаць бадзёрыя песні: словы роднае мовы сплятаюцца з літоўскімі і, нібыта на крыллях, ляцяць далёка-далёка...

У парку адбываецца адкрыццё свята. Пад урачыстыя гукі Гімна Савецкага Саюза ў неба ўзнімаюцца беларускі і літоўскі сцягі.

...І вось пачынаецца самае цікавае — карнавал. У своеасаблівых кампазіцыях адлюстроўваецца слаўная гісторыя Ленінскага камсамола. Наперадзе першай калоны — вялізны ордэн Чырвонага Сцяга — узнагарода, якую атрымаў камсамол за баявыя подзвігі ў гады грамадзянскай вайны. Цішыню разрывае цокат падкоў — і на вуліцы паяўляюцца коннікі... Суровыя, абветраныя твары. На галовах — будзёнаўкі. Цяжка пазнаць у гэтых удалых конніках ашмянскіх хлопцаў. Здаецца, гэта сапраўдныя байцы легендарнай будзёнаўскай конніцы.

Адзін за другім узнікаюць перад гледачамі гераічныя эпізоды барацьбы савецкай моладзі за свабоду і шчасце, нібыта вецер гартае старонкі самой гісторыі.

Асабліва маляўнічай і каларытнай павінна быць калона, якая адлюстроўвае жыццё і справы камсамольцаў у пасляваенныя гады. Асноўнае месца тут зойме кампазіцыя, прысвечаная маладым пакарыцелям цаліны. Першыя палаткі ў стэпе, плуг, які разразае спрадвеку драмаўшыя дзірваны, урачыстая хвіліна

зажынак цаліннага ўраджаю і, нарэшце, дажынкі — шумнае і радаснае свята маладых хлебаробаў. Усё гэта адлюструецца ў своеасаблівай кампазіцыі.

Другая частка карнавала — мастацкая, паэтычная. У ёй будуць паказаны невялічкія інтэрмедыі па матывах беларускіх народных казак і творах мастацкай літаратуры. Перад гледачамі ўваскрэснуць многія знаёмыя персанажы твораў Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, З. Бядулі, К. Чорнага і іншых пісьменнікаў.

У гэтым аддзяленні карнавала шмат цікавага пакажуць нашы госці. Паэтычнай будзе сцэнка, якая носіць назву «Палангос юзе». На машыне — вялізны драўляны башмак. А на ім — шавец... Гэта вядомы і папулярны герой літоўскіх народных казак. Ён незвычайны майстар: умее пашыць такі абутак, які прынясе шчасце кожнаму, хто яго адзене. Усюды чакаюць цудадзейнага шаўца, але ён наведвае толькі тых, хто не скараецца перад цяжкасцямі, умее пераадольваць іх.

Закончыцца першы дзень свята за горадам, у лесе, на прасторнай паляне. У начной цемры ўспыхне пятнаццаць кастроў, кожны з якіх сімвалізуе адну з братніх рэспублік нашай краіны. А праз некалькі хвілін у цэнтры запалае вялізнае вогнішча — у знак непарушнай дружбы савецкіх народаў. Да раніцы будзе весяліцца ля агню моладзь.

Другі дзень — гэта дзень сустрэч маладых працаўнікоў па прафесіі. Збяруцца і пагутараць аб сваіх справах беларускія і літоўскія даяркі, свінаркі, ільнаводы і г. д.

Вечарам — заключны канцэрт дружбы, на якім будуць паказаны лепшыя нумары мастацкай самадзейнасці гаспадароў і гасцей.

Агонь, запалены на нашым свяце,— гэта агонь юнацтва, дружбы і міру. Нязгасным панясе яго моладзь у сваіх сэрцах.

Моцна рукі мы злучым
у пошуку шчырым.
Нашы мары —
аб шчасці,
Нашы думкі —
аб міры.
За дружбу і шчасце
Мы будзем змагацца
І словам,
І песняй,
І працай!

Мы ўпэўнены, што касцёр нашай дружбы будзе ўспыхваць штогод, яднаючы юныя сэрцы, натхняючы іх на слаўныя справы.



Васіль Вітка нарадзіўся ў 1911 годзе ў вёсцы Еўлічы на Случчыне. Пасля вучобы ў слуцкай прафтэхшколе металістаў працаваў слесарам на Бабруйскім лесакамбінаце.

Першыя вершы паэта з'явіліся ў друку ў 1928 годзе. Выйшлі яго кнігі «Гартаванне», «Поўдзень», «Вернасць», «Вавёрчына гора», «Буслінае лета».

Цяпер В. Вітка працуе адказным рэдактарам часопіса «Вясёлка».

**Васіль ВІТКА**

# ДЭСАНТНІКІ



Я шчэ невядома, вясною ці ўвосень,
Праз год, а можа праз пяць
Галоўны штаб міжпланетных зносін
Будзе ў палёт карабель выпраўляць.

А ўжо заявы шлюць камсамольцы,
Што прагнуць пабачыць сусвет,
Крылатай рамантыкі добраахвотнікі,
Разведчыкі першых планет.

Даўно іх песні гучаць на Юпітары,
Лунае на Месяцы сцяг,
Яны па сустрэчных сузор'ях, як літарах,
Увесь прачыталі ўжо Млечны шлях.

Даўно спадарожнікаў нашых арбіты
Напамяць да дробязяў знаюць яны,
Нібыта стэп казахстанскі абжыты,
Нібыта барозны тае цаліны,

Што будзе на Марсе ўзарана, засеяна
Зусім гарачай яшчэ, як чарэн,
І нашым смехам вясёлым заселена...

Трывогу, трывогу б'е бізнесмен,
Усюды на біржах падаюць акцыі,
І хіжы, учэпісты камерсант
У космас сабраўся перасяляцца,
Пакуль не з'явіўся савецкі дэсант
І не рассеўся наўкола Сатурна,
На яго туманным кальцы.

Рыдаюць газеты маршам хаўтурным,
Што хутка ўжо свету канцы.

І над знямелым, спалоханым Захадам,
Над яго галавой сівой
Сучасны дзікун размахвае
Атамнаю булавой:

«Купляйце хутчэй на Нептуне плантацыі,
Венеру ў арэнду бярыце,
Не паддавайцеся агітацыі
Аб мірным сужыцці,
Бо ўжо ва ўсім узбраенні дэсантнікі
Сусвет штурмаваць гатовы!..»

Так разумеюць рамантыку
Кручаныя галовы.

Не ўпершыню падымаюць сковыт,
Гатовыя сонца засціць,
Ворагі нашае праўды жыццёвай,
Ворагі нашага шчасця.

Смялей жа у новыя далі, разведчыкі!
Кідайце дэсанты заўсёды
Туды, дзе будучыня высвечвае
Праз цяжкасці і перашкоды.

Мы не чакаем сцежачкі гладкай,
Без каляін, без ухабаў,
Але дзе ставім сваю палатку,
Знаем, што быць ёй штабам,

Быць ёй плацдармам для новых узлётаў
У зорныя высі сусвету
Бясстрашных дэсантнікаў, мужных пілотаў,
Рамантыкаў і паэтаў.

## ЗУБР І ФОРД



Нядаўна на выстаўцы аўтамабільнай
Сустрэліся два ўладары:
Форд — кароль манаполіі фамільнай
І зубр, што сілы збіраў да пары,

А потым, як волат, прыйшоў і горда
На самазвале магутным стаў,



Каб зверху ўніз на апошняга форда
Спакойна зірнуць са свайго паста.

Ну як, паважаны калега, справы?
Не можаш часу забыць, калі
З кішэні маёй маладой дзяржавы
Кіпцямі драў залатыя рублі,

Калі яшчэ дзед твой, нябожчык «фордзік»,
Чмыхаў па ўсіх каляінах дарог,
З пагарднай ухмылкай на тоўстай мордзе
З натугі хрыпеў, ад знямогі глох?

Нам прадракалі — сыйдзе ў крыві ўся
Зямля, што ўстала на ўласны шлях.
Нямала хто ў злосці і выў, і крывіўся,
Убачыўшы веліч яе і размах.

А што ты прарочыў маёй краіне —
Балоты, каўтун, камарыны звон?
А тое, што я на сваёй машыне
Цяпер падымаю аж сорак тон,—

Ты чуў, спадзяюся, і ведаеш гэта!
Марна хваліцца я не люблю.
Вось бы такую, скажам, карэту
Табе персанальна, як каралю!

За фурмана я гатоў бы згадзіцца.
Хай паглядзела б мая зямля,
Як па роднай слаўнай традыцыі
Я пракаціў бы разок караля...

Чаго ж адступаешся ты асцярожна
І на адказ не знаходзіш слоў,—
Такое турысцкае падарожжа
Хіба не па густу для каралёў?..

Гэтак на выстаўцы аўтамабільнай
І разышліся два ўладары:
Даўні кароль манаполіі фамільнай
І волат, што сілы збіраў да пары,

А потым на радыятары горда
На мінскай магутнай машыне стаў,
Каб зверху ўніз на апошняга форда
Спакойна глядзець са свайго паста.

# САЛАВЕЙ



Крытык фарсісты, модны,
Каб укусіць зласней,
Дзяўбе, што самы свабодны
Між нас, песняроў, — салавей.

Даруйце, сябры паэты,
Ад вашага я імя
Спытаўся пра гэта
У салаўя.

«Люблю і слаўлю свабоду, —
Згадзіўся спявак лясны,—
Яшчэ слата, непагода
І не чуваць вясны,

А я ўжо з далёкага выраю
Лячу на радзіму сваю
І песню самую шчырую
Роднаму сонцу пяю,

Хоць праз туманы густыя
Яшчэ не прабіўся прамень,
Хоць голас за ноч застыне
І ледзьве адыйдзе за дзень,

Хоць шорсткімі языкамі
Вылізвае снежны сувей
Лёд, учарнелы, як камень,
Намёрзлы крынічны глей.

Узлесак крупой прыцярушвае,
А глянеш—зусім замяло,
Але і ў холадзе мушу я
Жаданае славіць цяпло...»

Не, салавей не жаліўся
І не пажалюся я,
Рады, калі пахвалішся
І ты, можа, песня мая,

Што ў перадвеснюю замяць,
У сквіле халодных завей,
Грэла людскую памяць
Аб тым, як пяе салавей.



Усевалад Краўчанка нарадзіўся ў 1915 годзе ў в. Каплічы Даманавіцкага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і вясковага настаўніка. У 1932 годзе скончыў Мазырскі рабфак, затым завочна вучыўся ў БДУ. У гады вайны працаваў спачатку ў армейскай газеце «Боевое знамя», а з 1942 года загадчыкам партызанскага аддзела газеты «Савецкая Беларусь».

Першыя апавяданні апублікаваны ў 1933 годзе. Выступае У. Краўчанка пераважна ў жанры апавядання. Выдаў каля двух дзесяткаў зборнікаў, сярод іх — «На крутым павароце» (1937 г.), «Калгасныя навелы» (1940 г.), «У імя Радзімы» (1948 г.), «Вясна на Палессі» (1952 г.), «Крыгаход» (1957 г.). Любімая тэма пісьменніка — жыццё і сацыялістычныя пераўтварэнні сучаснага Палесся, яго новыя людзі.

Усевалад **КРАЎЧАНКА**

# ДВА АПАВЯДАННІ

## 1. НЕ ПОЛЕ ПЕРАЙСЦІ...

Мал. П. Калініна.

Побыт на невялікім рачным буксіры, вядома, мае свае нязручнасці. Людзей тут мала, каманда, уключаючы ўсіх — ад капітана да качагара, складаецца якіх чалавек з дваццаці і, зразумела, кожны жыве на віду: нічога ні добрага, ні дрэннага ад суседзяў не схаваеш.

У матроса Васі Гардзевіча сёння з самай раніцы быў цудоўны настрой, і гэта адразу ж заўважыла ледзь не ўся каманда буксіра «Уля Громава». Белавалосы, невысокі ростам, але моцны і стройны нават у прасторнай парусінавай робе, Васіль, ці як яго па маладосці год звычайна называлі — Вася, Васёк, Васюта, увесь час нешта сам сабе напяваў, у час снедання жартаваў, смяяўся.

Паглядаючы, як Вася, закасаўшы рукавы, рашуча завіхаўся са швабрай, мыючы кармавую палубу, вольны ад вахты трэці механік Жора Змушко падштурхнуў локцем свайго сябра матроса Мірутку.

— Глянь на Ваську... Смехатура! Або ён па латарэі «Пабеду» выйграў, або нарэшце атрымаў пісямцо ад сваёй бакавецкай Дульсінеі, Няйначай!..

Васіль чуў гэтыя жарты сяброў, але не крыўдзіўся. Чаго там крыўдзіцца, няхай сабе гавораць, што хочуць. Яны можа таму і чэшуць языкі, што зайздросцяць яму. Як бы там ні было, а ён адчуваў сёння вялікую радасць, і ў яго не было ніякага жадання хаваць гэта ні ад каго. Шчасце — а што гэта, уласна, такое, калі падумаць? Ну, можа там па-навуковаму гэтае пачуццё і мае якое пэўнае тлумачэнне. У Васі

ж было сваё разуменне шчасця, і якой бы нязначнай ні здалася каму прычына яго сённяшняга настрою, скажыце дзякуй, калі лёс пашле вам такія прыемныя хвіліны, якія перажываў зараз гэты дзевятнаццацігадовы юнак.

Карацей кажучы, жартаўнікі хоць і гаварылі наўгад, але амаль трапілі ў цэль — першапрычынай усяго сапраўды былі сардэчныя справы. Учора ўвечары Вася набраўся смеласці і пайшоў у каюту да Леаніда Ільіча, капітана. Сёння, прыблізна апаўдня, «Уля Громава», павольна цягнучы ўгору тры цяжкія, гружаныя рудою баржы, павінна будзе праходзіць непадалёк ад Бакаўца, Васілёвай вёскі. Ад Прыпяці да Бакаўца напрасцяк было кіламетраў з дзесяць, не больш. Васіль папрасіў у Леаніда Ільіча дазволу адлучыцца з парахода на пару сутак, пакуль буксір дацягне баржы ў Нырчу, на перавалачную прыстань, адкуль іх павядзе далей нейкі другі буксір. Многія хлопцы з каманды,— вядома, найбольш тыя, хто быў родам з недалёкіх ад ракі сёл, — ужо бралі такія кароткія, на дзень-два, адпачынкі. Паедуць пераведаюць бацькоў або жонак і потым даганяюць параход у пэўным месцы, а іх работу на буксіры па дамоўленасці выконваюць сябры. Вася ж яшчэ ні разу з самага пачатку навігацыі дамоў не ездзіў, і ён быў упэўнены, што Леанід Ільіч не адмовіць. Тым больш, што ў яго была пільная патрэба пабываць у Бакаўцы.

Леанід Ільіч, пажылы, вусаты мужчына з маршчыністым, бронзавым ад загару тварам «марскога воўка», павольна зняў акуляры, адсунуў убок лічыльнікі, з дапамогай якіх ён, відаць, займаўся нейкімі падлікамі, запаўняючы гаспадарчыя ведамасці, і запрасіў Васіля сесці. Сіні форменны кіцель быў на ім па-дамашняму расшпілены, а з-пад кіцеля выглядала паласатая марацкая цяльняшка.

— А што ў цябе там за важныя справы?— спытаў ён, падняўшы сваю стрыжаную вожыкам сівеючую галаву.

— Ды ведаеце, Леанід Ільіч...— твар Васі пыхнуў чырванню, хлапец збянтэжана заміргаў вачыма. І як гэта ён ішоў сюды і не прыдумаў якой-небудзь важнай прычыны?..

Капітан усміхнуўся, пільна паглядзеў на Васіля, і ў яго ўсмешцы, у позірку той адчуў нешта такое цёплае, роднае, што адразу супакоіўся, даверліва ўзняў вочы на Леаніда Ільіча. Нібыта перад ім быў не камандзір парахода, а родны бацька.

— А каб цябе!— калыхнуў галавою Леанід Ільіч.— Які ты яшчэ малады, Васёк. Хоць бы хацеў зманіць, не зможаш... Дзяўчына, праўда?..

— Угу,— сцвярджальна кіўнуў Вася.

— Ну, добра, з'ездзі,— дазволіў Леанід Ільіч.— Заўтра ўвечары мы будзем у Нырчы, перададзім баржы «Тэльману», а паслязаўтра на запраўку вугалем станем. Там ты нас і дагоніш. Толькі дамоўся з кімнебудзь, каб у выпадку патрэбы падмянілі.

— Я ўжо дамовіўся. Мяне Цімка Жаўрыд падменіць,— паспешліва адказаў Вася.

— Ну, тады не пярэчу, едзь,— з мяккай усмешкай паўтарыў капітан і ўзяўся за акуляры, як бы паказваючы, што размова скончана.

Але Вася, камечачы ў руках шапку, працягваў сядзець. Заўважыўшы гэта, капітан непрыкметна зноў паклаў на стол акуляры.

— Тут такая справа, Леанід Ільіч,— апусціўшы галаву, загаварыў Вася.— Я б можа і не прасіўся, але так па ёй засумаваў... Паверыце, за апошні месяц можа дваццаць пісем паслаў. Усё ёй пішу, і як мы плывем, і розную там прыроду апісваю...



Уважліва, усё з той жа бацькоўскай усмешкай слухаючы Васю, Леанід Ільіч набіў тытунём сваю люлечку з доўгім прамым чубуком і паволі запыхкаў дымам.

— А то, памятаеце, мы каля Канатопа на мель наскочылі, паўдня прастаялі?.. Дык я і пра гэта ёй напісаў. Няхай чытае, я ведаю, ёй усё гэта цікава будзе. З нашага сяла з маладых адзін я на параходзе служу, а то ўсё больш у калгасе або на экскаватарнай станцыі працуюць.

Вася прымоўк, і Леанід Ільіч, памаўчаўшы, асцярожна спытаў:

— А што, Вася, яна табе таксама піша, ці?..

— Піша, як жа! — выгукнуў Вася, нырнуўшы рукою ў бакавую кішэню, з радаснай гатоўнасцю выцягнуў адтуль тоненькае і, мяркуючы па затрапанаму выгляду, даволі даўняе пісьмо.— Во! Як жа...— Вася пакруціў пісьмо ў руках. Па тым, з якою гордасцю ён пакручваў яго, можна было здагадацца, што не надта ўжо многа было ў яго другіх доказаў яе ўвагі. Але гэта, відаць, не выклікала ў яго трывогі.

— Та-ак,— прамовіў Леанід Ільіч і апусціў уніз вочы.

— Праўда, яна тут нічога такога... Ну, там пра навіны напісала, прыветы ад усіх. «Жадаю табе,— піша,— Вася, шчаслівага плавання, і каб ты, Вася, стаў сапраўдным смелым мараком»...— Васіль усміхнуўся, жалкуючы прычмокнуў языком.— Смелым... А ў гэтым, Леанід Ільіч, акурат была мая бяда. Я калі адзін на адзін з ёю заставаўся, то ў мяне адразу язык аднімецца, у сярэдзіне ўсё скамянее, і я маўчу, як пень... Цяпер мне дык аж смешна ўсё гэта ўспамінаць. Здаецца, і часу няшмат мінула, а я адчуваю, што... Вось паеду, сустрэнуся — усё ёй адразу скажу.

— Та-ак,— густа задыміўшы люлечкай, зноў прамовіў Леанід Ільіч.

Адным словам размова з капітанам атрымалася шчырай, задушэўнай. Па сутнасці, гэта была яго першая шчырая размова з Леанідам Ільічом. Вася нават не чакаў, што гэты строгі, суровы на выгляд чалавек праявіць такую ўвагу да яго, радавога палубнага матроса. Не тое, што гэтыя зубаскалы Жора Змушко або Мірутка, з якімі ён ніколі не асмеліўся б гаварыць так даверліва і шчыра...

І вось сёння Вася нечакана награне ў Бакавец. Ці ж мог ён стрымацца і захаваць сваю радасць? Ды тут і самы халодны, разважлівы чалавек не змог бы застацца абыякавым. Вельмі магчыма, што ён яшчэ нават сёння ўвечары ўбачыцца з Клавай. Вось толькі гэты буксір, — як жа ён, ліха на яго, марудна паўзе супроць плыні! Васю здавалася, што яны яшчэ ні разу не ішлі так павольна, як сёння. Глядзіш на бераг, а ён нібы на месцы стаіць. Хутка паўдня ўжо будзе, а яны толькі-толькі Буйневічы мінулі. З такім ходам да той лугавой дарогі, што на Бакавец, яны будуць сунуцца яшчэ добрых гадзіны дзве.

Вася з непрыязню паглядзеў назад, на вялізныя, пад цяжарам грузу глыбока асеўшыя ў ваду тры тупарылыя баржы, што адна за другой выстраіліся па фарватару ракі. Высокія пеністыя хвалі, што ішлі з-пад пліц буксіра, хвалі, якія маглі запраста перакуліць любую вялікую лодку, разбіваліся аб першае судна, як лёгкія пушынкі. Судна, здавалася, і не адчувала магутных удараў вады. Аж крыўдна было за тыя дзвесце дзесяць конскіх сіл, што на ўсю сваю магутнасць стагналі і сіпелі ў машынным аддзяленні буксіра. Прывязаны да масіўнага чыгуннага кнехта тоўсты сталёвы трос, што цягнуўся да суднаў, увесь аж звінеў ад напружання, і Вася глядзеў на яго з міжвольным страхам і павагай,— каб гэтая штучка раптам трэснула, вось быў бы ўдарчык!



Плёснуўшы на палубу рэшткі вады з вядра, абпаласнуўшы яе начыста, Васіль падышоў да парэнчаў, абаперся на іх і пачаў глядзець на берагі. Нічога, як бы там павольна яны ні плылі, а ўсё ж плывуць, не стаяць на месцы. Ды зрэшты, хочаш не хочаш, а прыдзецца назапасіць цярплівасці і чакаць... Эх, а ўсё ж прыгожая рака, гэтая Прыпяць! Праедзь па ёй памалу раз-другі, скажам, хоць бы ад вусця да Пінска, і на ўсё жыццё запомніш і яе ціхія люстраныя плёсы, і таямнічыя старыцы, што заўсёды нечакана выходзяць аднекуль з густых нетраў лазняку, і абрывістыя правабярэжныя кручы, скрозь паточаныя чорнымі дзірачкамі стрыжовых гнёздаў, і прыгожыя пяшчаныя водмелі, што аж слепяць бляскам вочы на сонцы, і яе дубравы па правы бераг, і левабярэжныя лугі, і, нарэшце, самую яе, сціплую, слухмяную і такую павольную, як палескія жніўныя песні. Блакітная дарога да Дняпра!.. Вася, здаецца, яшчэ не так даўно і плавае на Прыпяці, а ўжо моцна палюбіў гэтую раку. Калі ўсё будзе ў парадку і капітан дасць яму, як некалі абяцаў, добрую атэстацыю, восенню Васіль паступіць на курсы рулявых і з наступнай вясны стане за штурвал. А там можна будзе завочна і за капітана вывучыцца, — як-ні-як, а ў Васі за спіною дзесяцігодка. І ён, бадай, назаўсёды застанецца на Прыпяці.

Памарыўшы гэтак крыху, пазіраючы на берагі, што павольна праплывалі перад ім, Вася аднёс на камбуз вядро і швабру і пайшоў у сваю каюту. Адчыніў насценную шафу, яшчэ раз аглядзеў распраўлены на спінцы форменны кіцель, штаны і чыстую паласатую цяльняшку. Як ні мяркуй, а ўсё ж яму ў Бакавец трэба з'явіцца апранутаму, як сапраўднаму мараку... Зноў праверыў сабраны ў дарогу маленькі чамаданчык — ці не забыў чаго, ці не ўзяў што лішняе? Выняў і разгарнуў складзеную ў некалькі столак вялікую ў кветкі паркалёвую хустку — падаруначак маці. У Чарнобылі ў магазіне купіў. Праверыў і другі невялічкі пакунак — для Клавы. Яна, вядома, будзе аднеквацца, адмаўляцца, але Вася што-небудзь такое прыдумае, ператворыць усё ў жарт і — быць не можа!— угаворыць узяць. Пасмяецца, скажам, што такія касынкі носяць самыя першыя прыгажуні на Крашчаціку ў Кіеве, і ён, маўляў, хоча, каб і бакавецкія дзяўчаты ад іх не адставалі... Адным словам, што-небудзь прыдумае.

Клава, Клава, каб ты ведала, як сумаваў па табе Васіль!.. З якой замілаванасцю ўспамінаў ён цяпер, перабіраючы ў памяці мінулае, гады сумеснай вучобы ў школе, вясёлыя калгасныя вечарыны пасля дзесяцігодкі, танцы пад гармонік на лясной паляне. Аднаго ён не мог зараз дараваць сабе,— колькі разоў было, што ён заставаўся адзін на адзін з Клавай, але так і не асмеліўся сказаць ёй пра свае пачуцці, пра тое, як моцна яе кахаў. Помніцца Васю, яна як быццам сама нават хацела, каб ён ёй нешта сказаў, чакала ад яго нейкіх слоў, але ён або маўчаў, або гаварыў дробязі. Магчыма таму зараз Клава і не піша... Уздыхнуўшы, Вася склаў назад пакуначкі і зачыніў вечка чамадана. Не, не можа таго быць, каб яна так ужо ні аб чым і не здагадвалася. Можа хто іншы і не здагадаўся б, а Клава? Са сваім такім чулым сэрцам, са сваімі вялікімі разумнымі вачыма, якія, здаецца, глядзяць у самую душу? Ды ці ж магло ёй нічога не сказаць хоць бы сабе тое яго збянтэжанае маўчанне? Яго цяперашнія пісьмы?.. Васіль выйшаў з каюты, прайшоўся ўздоўж парахода да самага носа. Прысеў там на скручаны канат. Акурат у гэты час «Уля Громава» размінаўлася са стрэчным пасажырскім параходам, і Вася правёў яго ўважлівым позіркам. Што казаць, непаглядным на выгляд быў іх буксір супраць гэтага беленькага пасажырскага прыгажуна з яго тэрасамі і салонамі, люстрамі і вялізнымі вокнамі. І аднак жа Вася не прамяняў бы на яго свой задымлены шэры буксір. Гаротнік, што ад яго патрабаваць прыгажосці... Затое, якія справы робіць! А паспрабуй ты да таго прыгажуна прычапіць хоць адну вось такую баржу, дык ён і з месца яе не зрушыць, стане як на мёртвым прыколе...

Праз колькі хвілін параход схаваўся за паваротам ракі. Васіль уздыхнуў, падняўся на верхнюю палубу, падышоў да рулявой рубкі. Вокны ў рубцы былі расчынены насцеж — гарачыня!

— Шо, Вася, не церпіцца?— спытаў рулявы Яўген Дубар, гэтакі чарнавусы прыгажун, украінец, родам аднекуль з-пад Белай Царквы. Яўген з паказной абыякавасцю насунуў на вочы сваю шыкоўную штурманскую шапку з вялізным беласнежным верхам і жоўтым бліскучым крабам над казырком. Верх у той яго шапцы трымала з сярэдзіны спецыяльная сталёвая спружына, і ён быў увесь напяты, роўненькі і круглы, нібы абведзены цыркулем.

— Ды нешта ж мы сёння су-унемся... — адказаў Васіль, міжвольна спыніўшы позірк на шапцы рулявога. Ну і шапка!.. Васілёва «цывільная» кепачка выглядала супраць яе такой нікчэмнай, заношанай — блін ды і годзе. І як гэта ён збіраўся ў дарогу і забыўся пра шапку? Для матроса ж яна ўсёадно, як вітрына. Каб да яго марацкай формы, ды яшчэ...

— А хочаш, Вася, — павярнуўшы кола штурвала, раптам падміргнуў рулявы, — хочаш я табе шапку сваю дам. На дарогу, а?..

Вася кінуў на Яўгена насцярожаны позірк: што гэта, жартуе з яго рулявы ці гаворыць усур'ёз? І як ён адгадаў яго думкі?..

— Навошта мне твая шапка, ну цябе, — няўпэўнена махнуў рукою Васіль.



— А па вачах бачу, ой, як хочаш!— шчыра засмяяўся Яўген і, не чакаючы яго згоды, схапіў з галавы Васіля яго старую кепку і спрытна насунуў яму сваю шыкоўную шапку.— Во!.. А цяпер ты толькі паглядзі ў люстра — арол!..

Шапка была акурат па Васілю, сядзела на галаве, як улітая, і ён увесь аж скалануўся ад радасці.

— Што ты, Жэня? Навошта?..— слаба пярэчыў ён, але шапкі не аддаваў.

— Ну, ну, топай,— хвацка ссунуўшы на патыліцу Васілёву кепку, лагодна прамовіў Яўген.— Ды, між іншым, стары, пара ўжо табе і збірацца. Глядзі, — паказаў ён рукою наперад, — за тою дубровай, здаецца, і будзе бакавецкая пераправа. Пазнаеш?..

— І праўда! — прыгледзеўшыся, спахапіўся Васіль. — Ну, дзякуй, Жэня! Пабягу апранацца!

— Ні пуху табе ні пяра!— з вясёлай усмешкай гукнуў, выглядаючы з рубкі, Яўген.

Сапраўды, хвілін праз дваццаць «Уля Громава», старанна стукаючы па вадзе сваімі магутнымі пліцамі, дачапала да бакавецкай пераправы, на ваду была спушчана шлюпка, і Вася Гардзевіч у поўнай сваёй марацкай форме быў акуратна дастаўлены на бераг.

Вася ўзабраўся на падрэзаную вадою кручу, абабіў ад пяску калошы штаноў і азірнуўся на раку. Цімка Жаўрыд і Мірутка, якія падвозілі яго сюды, парадкам ужо адплылі ад берага, накіроўваючы шлюпку наперарэз буксіру. Вася махнуў ім рукою.

Але доўга Вася на раку не глядзеў, не было яму часу лішне бавіцца. Па сутнасці, у яго было ўсяго якіх сорак вольных гадзін, і чым хутчэй ён дабярэцца да Бакаўца, тым больш часу правядзе сярод родных і блізкіх. Вася выйшаў на дарогу, што бегла напрасцяк ад ракі цераз луг, і рашуча пакрочыў...

Між іншым, гэтае яго сённяшняе з'яўленне ў Бакаўцы будзе для ўсіх нечаканасцю. Ні маці, ні бацька і гадаць не гадалі, што сёння ўбачаць свайго сына-матроса. А Клава — як яна будзе здзіўлена! Ён жа ёй таксама нічога не напісаў пра гэты свой прыезд. Цікава, як яна прыме яго падарунак?..

Васіль і не прыкмеціў, як мінуў прырэчны луг, а за лугам і алешнік і выйшаў на шырокае Перароўскае поле, скрозь, як глянуць, пакрытае рослай густой збажынай. Жыта абступала палявую дарогу шчыльнай сцяной, і так прыемна было ісці па зялёным муражку паўз каляіну, пад ціхі і роўны шэпт калосся. Васю ажно спяваць хацелася ад поўніўшых яго пачуццяў, і ён яшчэ больш прыскорыў хаду...

Ужо за якіх два кіламетры ад Бакаўца, калі Васіль пераходзіў забалочаную пойму маленькай рэчачкі Ваўчанкі, ён збоку ад грэблі пачуў то нарастаючы, то заціхаючы грукат рухавіка. Прыгледзеўшыся, ён убачыў зводдаль, сярод густога алешніку, стралу экскаватара.

«Эге, ды гэта ж, мусіць, Алесь тут пыхкае, капае свае канаўкі»,— падумаў Васіль і спыніўся. Алесь Каляда быў некалі ў школе яго аднакласнікам і сябрам. Скончыўшы пасля дзесяцігодкі курсы, ён цяпер працаваў механікам на экскаватары. Чаму б Васю не патраціць паўгадзінкі і не пераведаць друга? Невядома, ці знойдзе ён для гэтага больш зручны час, а пабачыцца з Алесем было б цікава.

Пастаяўшы з хвіліну ў нерашучасці, Вася звярнуў з грэблі і па самым беразе Ваўчанкі, які толькі і заставаўся топкім і незабалочаным, пайшоў углыб алешніку.



Ён не прайшоў і двухсот метраў, як убачыў экскаватар. Машына стаяла сярод алешніку, на беразе роўнага, як страла, калектарнага канала, які ішоў углыб балота колькі даставала вока. Па берагах канала ляжалі высокія бясформенныя груды рудой балотнай зямлі. Вялізны, шумны экскаватар раз-по-раз з грукатам кідаў у балота цяжкі чыгунны коўш, падымаў яго, асцярожна пераносіў і выварочваў на бераг канала балотную твань.

«А можа гэта не Алесь, а які-небудзь яго зменшчык працуе?»— падумаў Васіль, але тут жа ўбачыў у будцы экскаватара знаёмую постаць.

Вася ўзяў пад паху чамаданчык, вызваліў рукі і, сунуўшы ў рот два пальцы, зычна свіснуў, стараючыся перасіліць шум рухавіка. Свіснуў і, усміхаючыся, стаіўся за густой алешынай. Алесь, відаць, пачуў свіст, прыпыніў машыну і, пусціўшы матор на малыя абароты, высунуў галаву з акенца... Нідзе нікога не відаць. Можа гэта яму пачулася? Але толькі ён быў узяўся зноў за рычагі, як у другі раз пачуўся свіст, і з-за алешыны, смеючыся і вітаючы яго паднятай рукой, выйшаў Васіль.

— Вася! Друг!— здзіўлена выгукнуў Алесь і — доўгі, худы, загарэлы, з закасанымі рукавамі — у адзін момант сігануў на зямлю.— Штурман далёкага плавання! Якім ветрам?..— жартаваў ён, стукаючы Васю рукою па плячу.

— Ды так, на пабыўку,— адказаў Вася. Відаць, што яны абодва былі рады бачыць адзін аднаго.

— А шапачка на табе! Усе дзяўчаты галовы паскручваюць, ганяючыся за табой.

— Усе не ўсе, а якая-небудзь адна можа і скруціць,— у тон Алесю пажартаваў Вася.

Абодва шчыра засмяяліся, абнялі адзін аднаго за плечы.

— Ну як, Вася, служба на рацэ падабаецца? Не каешся, што разам са мною на экскаватарную не пайшоў?

— Што ты, Алеська!— Вася пачаў горача расказваць аб сваёй рабоце, пахваліўся, што рачная служба моцна прышлася яму па душы: і няцяжкая, і цікавая — штодня ўсё новыя і новыя месцы бачыш, новых людзей. Расказаў і пра тое, што восенню мае намер ісці на курсы рулявых.

— Та-ак,— прамовіў Алесь.— Ну, у нас, вядома, працаваць цяжэй. Але ж затое, брат, і зарабляем!.. На тым тыдні я сабе матацыкла купіў, «Іжа». Цягне, што звер!..

Хлопцы пагаварылі аб навінах, аб сваіх сябрах па школе, успомнілі, дзе каторы працуе або вучыцца пасля дзесяцігодкі.

Пагаварыўшы гэтак некалькі хвілін, Васіль працягнуў руку сябру:

— Што ж, Алесь, не буду табе замінаць, а то вунь як сярдзіта бурчыць твой экскаватар.

— Нічога, няхай крыху пабурчыць,— засмяяўся Алесь.— Ды мы з табой, відаць, яшчэ ўбачымся. Я сёння ўвечары ў клубе буду.

— Дык да сустрэчы!

— Пакуль! — пацiснуў працягнутую руку Алесь і пайшоў да экскаватара.

Вася яшчэ крыху пастаяў, праводзячы позіркам Алеся, паглядзеў, як той улез на экскаватар, забраўся ў сваю будку. Алесь газануў, і паслухмяны матор з сілай загрукатаў.

Васіль ужо быў павярнуўся і хацеў ісці, як раптам матор экскаватара зноў прыглух, і ён пачуў голас Алеся:

— Гэй, Вася!

Васіль спыніўся, азірнуўся. З акна будкі выглядаў вясёлы твар Алеся.

— Шкада, Вася, што цябе ў мінулую нядзелю не было. Як мы гулялі!..

— А што такое было?— павярнуўшыся, гукнуў Васіль.

— Вяселле спраўлялі. Клава замуж пайшла...

Васіль увесь сумеўся, адчуў, як у яго ад твару разам адхлынула кроў. Быццам ён з разгону балюча стукнуўся грудзьмі аб нейкую каменную сцяну. Думкі ў галаве адразу закружылі, замітусіліся, як бывае кружыцца на быстрай вадзе сухі лісток.

— Якая Клава?— дрогнуўшым голасам спытаў Васіль, яшчэ не верачы, не жадаючы верыць таму, што пачуў.

— Ды наша Клава, канцавая, Бягунова дачка. І ведаеш за каго пайшла?.. За Алёшку Бондара, лётчыка. На тыдзень прыехаў і з ходу распісаліся... Да вечара, Вася!

Алесь махнуў з вакенца рукой і схаваўся ў будцы, павярнуўшыся да сваіх рычагоў. Матор зноў загрукатаў і, скрануўшыся з месца, страла экскаватара асцярожна панесла над багнай ашчэраныя клюшні каўша.

Вася павярнуўся і павольна пайшоў да дарогі.

Ён ішоў, як сляпы, натыкаўся на кусты, спатыкаўся аб купіны. Не заўважаючы вузкай сцежкі, што ішла паўз бераг рэчачкі, раз-по-раз збіваўся ў твань.

Вышаўшы на грэблю, Вася спыніўся, апусціў уніз галаву і так доўгую хвіліну стаяў, нерухомы, нібы ашаломлены. Стаяў, як быццам у забыцці, нейкім дзіўна спакойным, бяздумным.

Потым ён уздрыгнуў, зірнуў на дарогу. Відаць, ён усё ж здолеў перамагчы тую сваю разгубленасць, бяздумнасць. Паправіўшы ў руцэ чамаданчык, Вася хутка пакрочыў — але не ў Бакавец, а назад, да ракі...

Пачало ўжо добра змяркацца, калі Васіль, адмахаўшы, дзе пехатою, дзе на падарожных машынах, кіламетраў з пяцьдзесят, дастаўся да Нырчы. Яшчэ здалёк, з узгорка, ён убачыў на запані, на фоне яшчэ крыху светлай паверхні ракі, выразныя цёмныя абрысы свайго буксіра. «Уля Громава» ўжо стаяла каля берага адна, без баржаў, і яе цень адлюстраваўся ў ціхай вечаровай вадзе вязілнай чорнай плямай.

Васіль ведаў, што звычайна ў гэты час большасць каманды бывае на беразе. Моладзь ідзе на танцы або ў кіно, у пасялковы клуб, старэйшыя збіраюцца за куфлем піва ў закусачнай, ці ў тым жа клубе гуляюць у даміно. Васіль спадзяваўся, што яму як-небудзь удасца прайсці на судна непрыкмечаным. А як бы ён хацеў зараз не бачыць нікога, — не бачыць, каб не растлумачваць прычыны вяртання, не маніць і не казаць праўды, не адкрываць ні перад кім свой боль і крыўду і пякучы сорам. Апынуцца аднаму ў сваёй маленькай утульнай каюце, кінуцца ў ложак і ціха-ціха ляжаць...

Толькі адзін чалавек на судне здолеў бы зразумець, што рабілася



зараз у яго душы. І толькі яму аднаму Васіль мог бы прама і смела глядзець у вочы, выказаць усё, што агнём пякло яго збалелае сэрца,— Леаніду Ільічу...

Парашыўшы абмінуць пасёлак, Васіль звярнуў з дарогі, што вяла да Нырчы, і лугам пайшоў напрасцяк да ракі. Ён сышоў з кручы да самай вады і так па беразе пакрочыў да запані, дзе ў далечыні чарнеў буксір.

Шчасце ўсё ж не зусім пакінула Васіля. Адзінокі вахценны ў прыцемку мелькам глянуў на яго і — вось дзе дапамагла яму тая славутая штурманская шапка!— відаць, прыняў яго за аднаго з штурвальных. Акрамя вахценнага, на судне не было відаць нікога, і Васіль крадком хутка прайшоў да кармы, спусціўся ўніз у сваю каюту. Не запальваючы святла і не распранаючыся, толькі кінуўшы на столік шапку, ніцма бухнуўся на ложак, зарыўся тварам у падушку...

Ён ачнуўся ад забыцця, толькі пачуўшы, як нехта асцярожна дакрануўся яго пляча. Васіль рэзка падняў галаву — у каюце было светла, каля самага ложка, нахіліўшыся, стаяў Леанід Ільіч. Твар яго быў нахмураны, вочы дапытліва глядзелі на Васіля.

— Што з табою, Вася? Што здарылася?— ціха спытаў ён.

Васіль разам падхапіўся, кінуў вінаваты позірк на свае забруджаныя ў балоце калошыны штаноў, чаравікі, на памятую коўдру.

— Даруйце, Леанід Ільіч...

Але капітан не глядзеў на яго штаны. Паклаўшы Васілю на плячо руку, ён пасадзіў яго на ложак і, падсунуўшы да сябе табурэт, сам сеў блізка насупраць, каля засланага сурвэткай століка. Ціха пабарабаніў пальцамі па краі стала.

— Яна ашукала, Вася, так?..

У вачах у Васіля паказаліся слёзы, твар перасмыкнуўся ад болю.

— Хто б мог падумаць, Леанід Ільіч!.. Хто б мог падумаць!— Губы ў яго задрыжалі, вочы бліснулі гневам.— Здрадніца!..

— Ну, ну, супакойся, хлопчык, — паглядаючы на расхваляванага Васіля, ціха прамовіў Леанід Ільіч.— Не трэба так... Ты падумай, яна ж не давала табе ніякіх абяцанняў, праўда?

Васіль уздрыгнуў, падняў вочы на зрэзаны глыбокімі зморшчынамі твар Леаніда Ільіча. Ён не ведаў, што адказаць на гэтыя словы. Ну так, не давала абяцанняў, але ж... але ж яна...

— Вось бачыш...— Леанід Ільіч апусціў галаву, у роздуме пакратаў рукою вусы. У каюце было ціха-ціха.— Жыццё пражыць, сынок, не поле перайсці. Так не бывае, каб чалавек пражыў без адзінай хмурынкі. Будзеш ты бачыць і шчасце, можаш стрэціць і бяду...

Васіль увесь страпянуўся:

— Дык што ж мне цяпер рабіць, Леанід Ільіч? Што рабіць?..

— Анічога не рабіць, Вася.— Капітан паклаў на стол сціснуты кулак.— Стрэціць сваю першую бяду, як належыць мужчыне. Ясна?.. А шчасце тваё цябе не міне. Толькі само яно, Вася, не прыходзіць, за яго трэба змагацца, трэба рвацца яму насустрач...

Леанід Ільіч замоўк, глянуў на Васіля.

Той сядзеў задумённы, прыціхлы, і Леаніду Ільічу здалося, што ён як быццам убачыў на яго твары нейкія новыя рысы, быццам сённяшні дзень паклаў на ім першую адзнаку сталасці.



## 2. ОЙ, РЭЧАНЬКА, РЭЧАНЬКА!..

У канцы поля, на ўзлессі, трактар прыпыніўся, і Казімір Бачура лёгка саскочыў на раллю.

— Гані! — крыкнуў ён і махнуў рукою Кастусю, маладому стажору, які выглядаў з адкрытага акенца цяжкога, магутнага ДТ у чаканні гэтага бласлаўляючага руху свайго настаўніка.

Бачура — чарнявы, загарэлы, гадоў дваццаці трох хлапчына, у лёгкай парусінавай блузе з замком-маланкай і падабраных унізе шэрых спартыўных штанах, пастаяў з хвіліну, выціраючы пакуллем рукі і ўважлівым позіркам праводзячы трактар. Крануўся як быццам ніштавата. Праўда, не адчуваецца ў яго яшчэ вадзіцельскай упэўненасці, лёгкасці, вядзе машыну напружана. Ды гэта нішто, з практыкай прыдзе і лёгкасць. А наогул гэтыя хлопцы з дзесяцігодкі народ кемлівы, усё схопліваюць на ляту...

І ўсё ж Казімір не без боязні сустрэў апошнія перамены ў сваім жыцці. Было ясна, што перабудова МТС адкрыла перад калгасамі новыя шырокія магчымасці развіцця. Але што прынясе гэтая навіна асабіста яму — ці яму лягчэй будзе, ці цяжэй, ён не ведаў. Адна справа працаваць брыгадзірам трактарнай брыгады ў МТС, прычым брыгадзірам знатным у раёне, са сталай славай перадавіка, і зусім другое — намеснікам старшыні калгаса па механізацыі. Новыя клопаты, новая большая адказнасць — ліха яго ведае, як ён з усім гэтым справіцца? А тут яшчэ нехапае трактарыстаў, і, у дадатак да ўсяго, яму самому давядзіцца рыхтаваць механізатараў, абучаць іх і тэорыі і практыцы. Добра яшчэ, што зараз у Ламачах ходзіць улегцы столькі хлопцаў з сярэдняй адукацыяй, і іх, натуральна, не так ужо цяжка вучыць.



Пераканаўшыся, што стажор здолеў добра развярнуцца ў канцы поля і роўна, спакойна павёў трактар у адваротным напрамку, Бачура паціху пайшоў уздоўж поля да высокага старога дуба, дзе ў халадку стаяў яго запылены зялёны матацыкл. Яму трэба было яшчэ з'ездзіць на Багуцкую паляну, праверыць, як там арэцца пад грэчку мінулагодняе аўсянішча. Час не церпіць, май на зыходзе, а ў іх яшчэ столькі работы...

Але не паспеў Казімір зрабіць і колькі крокаў, як ззаду, з дарогі, што бегла праз лес у вёску, пачуў тонкі вокліч:

— Ка-а-зі-ік! Гэ-эй!..

Бачура азірнуўся і зводдалек убачыў знаёмую тоненькую постаць Ірынкі, дачкі гаспадыні, у якой ён кватараваў, дзяўчынкі гадоў дванаццаці. Казімір міжвольна ўсміхнуўся, убачыўшы яе яркую чырвоную касынку, ружовенькую сукенку. Дзяўчынка бегла проста па ворыву, лёгка, як маладая козка, пераскокваючы са скібы на скібу. Над галавой яна трымала ў руцэ нешта белае, нейкую паперку. Казік зацікавіўся — што б гэта магло быць, чаго яна так спяшаецца? Можа якая тэлеграма?.. Ён павярнуўся і памалу пайшоў па раллі насустрач дзяўчынцы.

Але гэта была не тэлеграма.

— Табе пісьмо, Казік! — запыхаўшыся і яшчэ нават не дабегшы, выгукнула Ірынка і, жадаючы як найбольш уразіць Казіка, бліснуўшы вочкамі, усклікнула: — З Парыжа!

— З Парыжа? — перапытаў і сапраўды моцна здзіўлены Казік.

— Так, ад нейкага Шарля Касцелена,— урачыста паведаміла Ірына. Казік уздрыгнуў.

— Што?! Ад Шарля?.. Ух ты!..— Ён рыўком выхапіў з Ірыніных рук канверт.

— А хто ён такі? — адразу ж пачала дапытвацца Ірынка.— Можа гэта той, пра якога ты расказваў, вярнуўшыся з фестывалю, з Масквы?

— Ну так, Ірынка, той самы,— пакручваючы ў руках яркі замежны канверт, узбуджана пацвердзіў Казімір. Адрас на канверце быў напісаны па-руску,— дакладна, да апошняга кручочка, скапіраваны з таго, якім ён некалі абмяняўся са сваім фестывальным сябрам.

— Шарль Касцелен!..— задуменна прамовіў Казік, і яго вялікія шэрыя вочы, якія надавалі яго твару нейкую асаблівую прывабнасць, як бы затуманіліся. Перад ім, як жывая, устала яркая, уся ў сцягах, у маляўнічым святочным убранні фестывальная Масква, стракатыя да кругаверці ў галаве натоўпы шумлівай моладзі ўсіх краін і народаў — белых, чорных, жоўтых, успомніліся песні, музыка, залітыя вечаровымі агнямі плошчы і вуліцы і, нарэшце, дружба з гэтым цудоўным французскім хлопцам, тэхнікам аўтазавода Рэно. Ён пазнаёміўся з ім на вечары сустрэчы з моладдзю Францыі, і яны аж да самай поўначы сядзелі на канапцы, стукалі адзін аднаго па плячы і размаўлялі,— то з дапамогай перакладчыка, то падбіраючы словы па спецыяльных слоўніках для размовы.

Шарль быў вясёлы і шумлівы. Ён расказваў пра сваю работу на заводзе, пра тое, як моладзь Францыі змагаецца за мір. Тут жа ўспомніў і праспяваў любімую песеньку Гаўроша, героя слаўтага рамана Віктора Гюго, песеньку, з якою той парыжскі гамен падносіў на барыкады скрынкі з патронамі для паўстанцаў:

Я пташка дробнага памеру,
І гэта па віне Вальтэра,

Ды могуць на мяне ласо
Накінуць па віне Русо...

Спяваў ён нямоцна, але задушэўна, і ўсхваляваны Казік, які з дзяцінства памятаў і любіў смелага Гаўроша, слухаў яго з вялікай цікавасцю.

Потым Казік, у сваю чаргу, расказаў Шарлю пра сябе, пра сваю МТС, пра сяброў па тэхнікуму, пра свой цудоўны зялёна-блакітны край, беларускае Палессе... А пад канец, як бы ў адказ на песню француза, праспяваў сваю любімую песню:

Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты няпоўная?..

Памятаецца, Шарль моцна расчуліўся, слухаючы гэтую няхітрую, але такую мілую народную мелодыю, і хутка, не ўтрымаўшыся, сам пачаў падцягваць Казіку. Можа гэтыя песні тады найбольш і зблізілі іх. Ва ўсякім разе, далей яны спявалі «Рэчаньку» разам, абняўшыся, як даўнія сябры.

І вось, помніцца, расчулены Шарль раптам павярнуўся да Казіка і спытаў:

— Ну, а каханую ты маеш? Любіш каго-небудзь? — Шарль спытаў гэта і адразу неяк дзіўна прыціх, пасмірнеў, стаў задуменны.

Казік засмяяўся і пажартаваў, што вось, маўляў, на гэтым фронце ў яго яшчэ пакуль што поўнае зацішша, сэрца яго незанятае. Ёсць у яго шмат знаёмых дзяўчат, і ён сябруе з імі, але гэта не каханне, а толькі дружба. Адным словам, ён яшчэ не сустрэў такую, якая б, як кажуць, запаліла ў яго душы той вялікі, нязгасны агонь...

Тады Шарль, строгі, сур'ёзны, з раптам пасмутнелымі вачыма, абняў за плечы Казіка, даверліва нахіліўся да яго і спытаў:

— А скажы, дружа, ёсць на свеце імгненная любоў? Ты верыш у моцнае каханне з першай сустрэчы?..

Усё з той жа жартаўлівай усмешкай Казік прызнаўся, што, не маючы вялікай практыкі ў гэтых справах, яму цяжка адказаць на такое пытанне. Але ён мяркуе, што такое каханне наўрад ці магчыма, ён мала верыць у яго сур'ёзнасць. Людзі, вядома, могуць раптам спадабацца адзін аднаму, але для таго, каб узнікла сапраўднае каханне, яны павінны добра ведаць адзін аднаго. А раптам выявіцца, што яны зусім неаднолькавыя па складу сваёй натуры, што ў іх няма ніякіх агульных інтарэсаў,— тое іх першапачатковае, як кажа Шарль, імгненнае захапленне адразу ж рассыплецца, кахання не будзе...

— Не! — ускрыкнуў Шарль і ўвесь адкінуўся ад Казіка. — Ты не правы, мой дружа, не правы!..

Убачыўшы, што пытанне, да якога ён адносіўся амаль з жартам, пасапраўднаму хвалявала маладога француза, Казік перастаў усміхацца. І тут Шарль шчыра расказаў яму, што вось, едучы сюды, у Маскву, ён па дарозе пакахаў адну дзяўчыну, Жану Даладз'е, таксама ўдзельніцу фестывалю з іхняй жа французскай дэлегацыі, якую ён упершыню сустрэў. І ён перакананы, што гэтае яго каханне — на ўсё жыццё!..

За гэтую сваю непасрэднасць, шчырасць Шарль у той вечар моцна спадабаўся Казіку, і скончылася тым, што яны па-сяброўску абмяняліся адрасамі. З тых дзён мінула ўжо шмат часу, але Шарль, аказваецца, не забыўся пра Казіка, і вось першы напісаў пісьмо...



Казік ачнуўся ад успамінаў, якія прамільгнулі перад ім кароткімі малюнкамі, у руху і яркіх, як у калейдаскопе, фарбах, і рвануў краёчак канверта.

— Казік! — хапіла яго за руку Ірына. — Асцярожней! Ты ж не забывай, што я філатэлістка, не парві маркі. Гэта ўжо будзе мая дзвесце дваццаць першая марка!

— Ды не бойся ўжо, не бойся, не парву, — паблажліва прамовіў Казік і, выцягнуўшы з канверта дробна спісаны лісток, аддаў Ірынцы канверт з маркай.

Разгарнуў пісьмо, паглядзеў і весела зарагатаў:

— Ой, не магу, Ірынка! А як жа мы з табой яго прачытаем?

— Пакажы, пакажы! — Дзяўчынка выхапіла з рук у Казіка пісьмо, прыгледзелася і таксама засмяялася, шчыра, залівіста.— І праўда, як жа яго чытаць?..

— Хіба будзем так гадаць, як у той байцы непісьменныя батракі панскую запіску чыталі, — жартам прапанаваў Казік. — Кружочак, значыць пра гарох напісана, доўгенькае вусаценькае — пра ячмень...

Яны зноў абодва весела і шчыра засмяяліся.

— Эх, Шарль, дружа мой,— пакручваючы пісьмо, летуценна ўздыхнуў Казімір.— Ну і задаў ты мне задачку! І што ён тут піша?..

— Чакай, Казік! — раптам спахапілася Ірынка.— Давай зараз паедзем да нас у школу, папросім нашага «немца», Глеба Арцёмавіча. Можа ён і па-французску разумее?

— Гэта якога ж Глеба Арцёмавіча? — удакладніў Казік.— Таго адстаўнога «марскога воўка»?..

— Ну так! Ён жа нам расказваў, што на караблях увесь свет аб'ездзіў...

— А што ты думаеш! Магчыма, ён і «банжур» ведае... Паехалі!

Абнадзееныя Казік і Ірынка рашуча пакрочылі к дубу, да матацыкла. Рэзка тузануўшы нагою рычаг, Казік завёў матацыкл, сеў на сядло. Ззаду за ім, на меншае сядло спрытна ўскочыла Ірынка,— відаць, ездзіць з Казікам было ёй не ўпершыню. Бачура яшчэ з хвіліну пастаяў, паглядаючы, як працаваў малады трактарыст. Убачыўшы, што ў таго ўсё было ў парадку, трактар ішоў па палетку роўна і лёгка, Казік павярнуўся да Ірыны і, перакрываючы трэск матора, галасна гукнуў:

— Ну, трымайся, паехалі!..

Дзяўчынка ўхапілася за плечы Казіка, і матацыкл, плаўна крануўшыся з месца, пабег па полі да дарогі.

Дарога была роўная, торная, матацыкл імчаўся хутка, і хвілін праз дзесяць-дванаццаць Казік і Ірына падкацілі да новага, з вялікімі светлымі вокнамі будынка школы. Гарачае майскае сонца прыпякала амаль зусім па-летняму, і ад драўляных сцен школы ішоў духавіты пах свежай смалы.

Казімір паставіў матацыкл каля ганка і паспешліва падняўся з Ірынай па ўсходках школы. Але, як хутка выявілася, Глеб Арцёмавіч, гэты бывалы чалавек, у мінулым марак далёкага плавання, а зараз, на схіле год, сціплы выкладчык нямецкай мовы, таксама не ведаў па-французску. Не ведалі французскай мовы і іншыя настаўнікі, у большасці моладзь. Усе разам яны сабраліся ў настаўніцкай і, праяўляючы вялікую зацікаўленасць, пачалі думаць і ўспамінаць, хто б у іхніх Ламачах мог прачы-

тэць гэтае пісьмо. Але колькі ні ўспаміналі, знаўцы французскай мовы не знаходзіліся. Нямецкую мову ведалі ў сяле многія, два чалавекі ведалі англійскую мову, а адзін — мясцовы ўрач, былы баец інтэрнацыянальнай брыгады ў Іспаніі — ведаў нават іспанскую, але французскай, як на злосць, не ведаў ніхто.

Азадачаны, Казімір прымоўк, задумаўся,— ліха ведае, як яму ўсё ж прачытаць гэтае пісьмо?

— Во, успомніў!.. — выгукнуў раптам дырэктар школы Пятрэнка, малады, але ўжо таўставаты мужчына з бялесымі, як лён, брывамі.— Відаць, давядзецца табе, Казімір Іванавіч, у Тарушу з'ездзіць. Нядаўна там у сярэднюю школу прыехала адна настаўніца французскай мовы. Ні то Асташэнка, ні то Асташонак. Давай зараз пазвонім.

Пятрэнка, а за ім Казік з Ірынкай прайшлі ў маленькі дырэктарскі кабінет, дзе на сцяне над сталом вісеў тэлефон. Не мінула і колькі хвілін, як Пятрэнка дазваніўся да Тарушы, раённага цэнтра, звязаўся з першай школай і нават пагаварыў з гэтай самай настаўніцай французскай мовы. Звалі яе, аказваецца, Ніна Пятроўна Асташонак. Настаўніца ахвотна згадзілася перакласці пісьмо, толькі сказала, што лепш за ўсё было б зрабіць гэта сёння, таму што заўтра ў яе будзе заняты амаль увесь дзень.

— Вось і добра,— узрадаваўся Казік і, развітаўшыся з настаўнікамі, выйшаў на вуліцу.

— Вось што, Ірынка,— пастаяўшы хвіліну ў роздуме, сказаў ён.— Ты бяжы дамоў і бярыся за ўрокі, а я, відаць, адразу ж і махну ў Тарушу. Скажы маці, каб не чакала мяне к абеду. Магчыма, я там затрымаюся гадзіны на тры-чатыры. Ясна?

— Ясна, але ж ты зранку нічога не еў. Паабедай, а тады ўжо і едзь.

— Не, Ірынка, есці я пакуль што не хачу, а захачу, то з голаду не памру,— пажартаваў Казік.— Бяжы!

Казік калыхнуў матацыкл, на слых, па плюханню, правяраючы, ці хопіць у бачку гаручага на дарогу ў раён і назад. Пераканаўшыся, што бензіну было яшчэ шмат, Казік завёў матор і, махнуўшы рукой Ірынцы, хутка пакаціў па дарозе.

Ад Ламачоў да Тарушы, невялікага прырэчнага гарадка, што маляўніча раскінуўся ўздоўж высокага правага берага Прыпяці, было кіламетраў з дваццаць, але дарога скрозь была добрая, укатаная палутаркамі гравійка, і звычайна ўся яна займала ў Казіка не больш паўгадзіны. Кінуўшы позірк на газіннік, Казік прыкінуў, што калі яму пашанцуе і ён не доўга затрымаецца з перакладам, то, магчыма, ён паспее вярнуцца дамоў і хутчэй, чым праз тры гадзіны. А яму гэта было б вельмі важна. Ён бы яшчэ паспеў, як збіраўся, з'ездзіць на Багуціцкую паляну, а магчыма, і да Косціка яшчэ б разок зазірнуў: трактарыст неспрактыкаваны, мала што ў яго там можа здарыцца...

Дарога бегла то полем, то заскоквала ў лясок, і ўсюды прыемна лашчыла вока шчодрая і яркая майская зеляніна. Паўз дарогу раз-по-раз мільгалі дрэвы, адзінокія кусты дзікай шыпшыны, усыпаная пяшчотнымі ружовымі кветкамі з моцным прыемным пахам. Але бадай самым прыгожым на ўсім шляху да Тарушы выглядала месца каля Ракітнага, невялікай вёскі на паўдарозе да раёна, дзе гравійка выбягала на лугавіну. Луг тут скрозь стракацеў жоўтым кураслепам, блакітнымі незабудкамі,





і ад хуткай язды здавалася, што імчышся не па зямлі, а па вялізным расквечаным дыване, разасланым тут нейкім вясёлым казачным волатам.

Мінуўшы луг, Казік выскачыў на невысокі пясчаны ўзгорак. Адсюль дарога бегла роўна, як па лінейцы, і была відаць далёка-далёка. Уся яна была добра знаёмая Казіку, і ён смела павялічыў хуткасць.

Неўзабаве зводдалек за цёмнай паласой лесу паказаўся высокі цагляны комін Тарушанскай цукеркавай фабрыкі, а яшчэ праз кароткі час, калі Казік праскочыў малады хвойнік, за лазняком выбліснула сіняя істужка Прыпяці і сталі відаць першыя дамы пасёлка...

У школу Казік трапіў у час, калі ў класах ішлі заняткі, і ён доўга блукаў па ціхіх пустых калідорах, пакуль нарэшце на другім паверсе не натрапіў на дзверы з надпісам «Настаўніцкая». Пастукаўшы і пачуўшы дазвол, Казік адчыніў дзверы. У прасторным светлым пакоі, у самым канцы доўгага стала, засланага чырвоным абрусам, сядзела і нешта запісвала ў класны журнал маладая дзяўчына. Казік не паспеў яшчэ ні прывітацца, ні разгледзець як след дзяўчыну, як раптам яна ўстала і ветліва спытала яго:

— Гэта вы таварыш Бачура?.. З пісьмом?.. Добры дзень! — Дзяўчына выйшла з-за стала і, зрабіўшы крок-другі насустрач Казіку, па-сяброўску падала яму руку.— Я і ёсць тая, да каго вы прыехалі.

Крыху збянтэжаны нечаканасцю сустрэчы, Казік асцярожна паціснуў маленькую, але дужую руку Ніны Пятроўны.

— Ведаеце што,— сказала Ніна Пятроўна, зірнуўшы на свой наручны гадзіннік,— зараз будзе канец урока, і тут збяруцца настаўнікі. Давайце пойдзем з вамі ў піянерскі пакой, ён цяпер свабодны, і там ніхто не будзе нам перашкаджаць. Пайшлі?..

— Калі ласка,— згадзіўся Казімір, адчуваючы, як чырвань яшчэ большай збянтэжанасці паволі заліла яго твар.

Пакуль Ніна Пятроўна гаварыла, ён міжвольна акінуў яе ўсю уважлівым позіркам, як звычайна малады хлапец глядзіць на дзяўчыну. Глянуў, і ўвесь нібы сумеўся, у грудзях трывожна стукнула сэрца. Тонкая, стройная, з яснымі і нейкімі мілымі рысамі твару, з белымі, як лён, валасамі, якія пышнымі кудзеркамі спадалі на плечы, настаўніца як бы раптам асляпіла яго. Горш за ўсё было тое, што Ніна Пятроўна вось-вось павінна была заўважыць гэты яго недарэчны, праз меру ўважлівы позірк,— позірк, у якім так лёгка чыталася яго здзіўленне і нейкая незразумелая ўнутраная збянтэжанасць.

Але, на шчасце, яна не заўважыла яго, а можа зрабіла выгляд, што не заўважыла, і Казімір, перасіліўшы сябе, апусціў вочы...

Пачуўшы яго згоду на сваю прапанову, Ніна Пятроўна лёгкай паходкай выйшла з настаўніцкай і пакрочыла некуды ў канец калідора. Казік ішоў ззаду, але цяпер ён пазбягаў ужо глядзець на Ніну Пятроўну, пазіраў уніз, сабе пад ногі. Адчуваючы няёмкасць, Казік нахмурыўся, і яго тонкі маладжавы твар стаў ненатуральна строгім, сур'ёзным.

У піянерскім пакоі было пуста і ціха. У кутку над тумбачкай прыцягвалі ўвагу развешаныя ў строгім парадку піянерскі сцяг, бубен і горн — слаўныя атрыбуты вясёлай піянерскай дзятвы.

Ніна Пятроўна села за невялікі столік, што стаяў каля акна, жэстам запрасіла сесці побач Казіка і працягнула руку:

— Ну, давайце ваша пісьмо. — Разгарнуўшы паданы Казікам лісток, глянула ў яго і з палёгкай сказала: — О, у вашага сябра цудоўны почырк. А я, ведаеце, баялася... Ён, відаць, нейкі канторскі служачы.

— Не, ён тэхнік аўтазавода,— каротка адказаў Казік, пазбягаючы глядзець у вочы Ніне Пятроўне. Ён як бы баяўся, што ў яго позірку яна адразу ж прачытае яго думкі, а думкі гэтыя ён лічыў зусім недарэчнымі і стараўся адкінуць іх.

— Зробім так,— прапанавала Ніна Пятроўна, кладучы перад Казікам чысты лісток паперы.— Вазьміце сваю аўтаручку, я вам буду памалу чытаць, а вы запісвайце... Так мы яго і перакладзем.

Казік паслухмяна выцягнуў з верхняй кішэні сваёй блузы ручку і нарыхтаваўся пісаць.

«Мой далёкі мілы сябар! — павольна прачытала Ніна Пятроўна і адкінула рукою кудзёркі валасоў, што апалі ёй на лоб.— Сёння ў мяне цудоўны дзень, шчаслівы дзень. Ты памятаеш Жану? Я табе расказваў пра яе. Дык вось сёння яна падаравала мне сына...» У вашага друга сапраўды шчаслівы дзень,— з усмешкай зірнула Ніна Пятроўна на Казіка.— Хто гэтая Жана? Вы ведаеце яе? Відаць, ён моцна кахае яе...

— Гэта адна дзяўчына, ён пазнаёміўся з ёю ў дні фестывалю, — усё яшчэ хмурачы лоб, адказаў Казік.



— Ну, цяпер яна, відаць, ужо яго жонка, — заўважыла Ніна Пятроўна і спытала: — Я не хутка дыктую, вы паспяваеце запісваць?

— Так, паспяваю, калі ласка...

«...Нібы звар'яцелы ад шчасця,— прадаўжала Ніна Пятроўна,— я паўдня блукаў па вуліцах і бульварах Парыжа, зялёных майскіх бульварах, напяваў сам сабе песенькі, усміхаўся незнаёмым людзям. Успомніў фестывальныя дні ў Маскве, дарагія мне ўдвая, таму што я там знайшоў сваю Жану, успомніў цябе. Прышоў дамоў, сеў за стол і адразу ж рашыў падзяліцца з табой сваёй вялікай радасцю... Дарагі Казік, як ты жывеш, якія ў цябе навіны? Я часта ўспамінаю цябе, тваю цудоўную «Рэчаньку». Пахвалюся табе, што яе цяпер спяваюць ужо многія мае сябры... Так, дружа, ты быў правы, няма горшай бяды для людзей, чым вайна. Болем і гневам гарыць маё сэрца, калі я чую, што знаходзяцца вырадкі, якія зноў хочуць кінуць народы ў полымя вайны. Ты, напэўна, разумееш і падзяляеш мой боль і гнеў. Калі я і тысячы такіх, як я, простых людзей Парыжа, выходзім на вуліцы з пратэстам супраць бруднай вайны ў Алжыры, якую вядзе наш урад, я адчуваю, Казік, побач тваё плячо, і гэта мяне натхняе і падтрымлівае, мой дарагі далёкі дружа... Хочацца пісаць яшчэ і яшчэ, але няма часу. Зараз пабягу, пераведаю Жану, занясу ёй кветкі і паспрабую дабіцца дазволу хоць адным вокам убачыць сына. Пішы мне, дарагі дружа, а яшчэ прашу перадай мой шчыры прывет усім-усім сваім сябрам, Маскве, сваім палям і трактарам, свайму цудоўнаму Палессю і сіняму вяснovаму небу, якое ва ўсіх людзей на свеце адно. Абнімаю цябе. Твой Шарль»... Вось і ўсё,— закончыла Ніна Пятроўна. Яна ўтаропілася позіркам некуды ўдалячынь, за акно, і задумалася.— Цудоўнае пісьмо... Ён, мусіць, моцна палюбіў вас, гэты Шарль? — Ніна Пятроўна доўгім, вывучаючым позіркам паглядзела на Казіка.

— Не ведаю,— ціха адказаў Казік.— Але гэтае яго пісьмо мяне ўсхвалявала...— Памаўчаўшы, Казік паглядзеў проста ў вочы настаўніцы.— У мяне да вас просьба, Ніна Пятроўна...

— Завіце мяне проста Ніна,— раптам перабіла яна.— Добра?

Твар Казіка зноў пыхнуў чырванню.

— Добра, — апусціўшы галаву, згадзіўся ён. — Цяпер у Шарля, напэўна, столькі клопату, і я не хацеў бы абцяжарваць яго неабходнасцю шукаць перакладчыка. Ці не згодзіцеся вы зрабіць пераклад майго адказу на французскую мову? Я мог бы прыехаць заўтра пасля работы.

— Чаму ж не? Калі ласка! — адразу згадзілася Ніна Пятроўна і, чыркануўшы нешта на лістку паперы, падала яе Казіку. — Вось мой хатні адрас.

Не мінула яшчэ і чатырох гадзін дня, калі Казік вярнуўся з Тарушы ў Ламачы. Адразу ж, нават не заязджаючы дамоў, ён махануў на Багуціцкую паляну, пераведаў трактарыстаў, што ўздымалі пад грэчку аўсянішча. Адтуль перакінуўся на палетак, дзе працаваў Кастусь,— у таго за ўвесь дзень не здарылася ніякай замінкі, і хлопец быў на сёмым небе ад радасці, што першы дзень яго самастойнай работы прайшоў так удала. Потым Казік з'ездзіў дамоў, і сам — гаспадыні, цёткі Марыны, дома не было — наскора паабедаў і адразу ж зноў падаўся ў поле. Яму трэба было знайсці старшыню калгаса і яшчэ раз напамянуць, каб заўтра не забылі паслаць каго-небудзь у РТС за «звёздачкамі» да трактарных гусеніц — ляцяць, ліха на іх, не набярэшся...

Але што ён ні рабіў, вярнуўшыся з Тарушы, чым бы ні займаўся, ён адчуваў, што ў яго жыцці нешта здарылася, вялікае, значнае, непаўторнае... «Глупства гэта, глупства, не можа быць», — суцяшаў сам сябе Казік, як бы баючыся таго новага, што завалодала ўсёй яго істотай. Але тое не праходзіла, і ўласцівы яму душэўны спакой не вяртаўся. Казік ездзіў, хадзіў, размаўляў з людзьмі, даваў загады і парады, але ўсё гэта рабіў, нібы ў сне. З галавы не выходзіў вобраз тарушанскай настаўніцы, у сэрцы стукала адно і тое ж...

Увечары, вярнуўшыся з поля, Казік сеў за стол, запаліў настольную лямпу і пачаў пісаць адказ Шарлю Касцелену.

«Дзень добры, дарагі дружа Шарль!..» — пачаў ён.

Але гэта было і ўсё, што ён змог напісаць. Колькі ён ні сядзеў над сталом, як ні намагаўся, далей не мог выціснуць з сябе ні слова. З незвычайнай выразнасцю, нібы асветлены яркім майскім сонцам, стаяў перад яго вачыма вобраз Ніны Пятроўны, нібы ў яве, ён бачыў яе твар, вочы, ледзь прыпухлыя вусны, бачыў, як яна павяртаецца, ідзе, як падае яму сваю маленькую руку...

Амаль апоўначы, так і не здолеўшы больш напісаць ні радка, Казік раптам устаў, накінуў на плечы пінжак, надзеў шапку і, стараючыся лішне не грукаць, каб не пабудзіць гаспадароў, выйшаў за дзверы. Яркі прамень святла ад фары матацыкла асвятліў двор, і, выкаціўшы машыну за вароты, Казік з месца рашуча ірвануўся ў начную цемень.

Праз паўгадзіны ён ужо быў у Тарушы. Адшукаўшы вуліцу і дом, дзе жыла Ніна Пятроўна, ён па сцежачцы зайшоў у двор і асцярожна, але настойліва пастукаў у дзверы. У доме было ўжо цёмна, відаць, усе ўжо спалі.

— Хто там? — праз хвіліну пачуў Казік у сенцах сонны голас нейкай старой жанчыны.

— Я да Ніны Пятроўны. Паклічце яе, калі ласка,— папрасіў Казік. Голас яго дрыжаў ад хвалявання. — Скажыце, што гэта я, Казік...

— Пачакайце, я зараз...— Казік пачуў, як жанчына з сянец, мякка шлёпаючы пантоплямі, патопала ў хату.

Мінула хвіліна, другая... Сэрца ў грудзях Казіка стукала часта і моцна. Час, здавалася яму, цягнуўся надзвычай марудна, магчыма нават стаяў на месцы. Але вось у акне побач з ганкам раптам загарэлася святло. У сенцах зноў зарыпелі дзверы, грукнула адкінутая завала знадворных дзвярэй, і вось ён убачыў на парозе Ніну Пятроўну — у доўгім халаце, у начных туфлях.

— Казік?! — здзівілася Ніна Пятроўна.— Мы ж дамовіліся, што вы прыедзеце заўтра...

— Я прыехаў не за гэтым,— глуха прамовіў Казік.

— Што-небудзь здарылася? — запытала Ніна Пятроўна і адступіла ўбок.— Заходзьце ў хату.

— Не, не трэба, я ўсё скажу тут, — не кранаючыся з месца, усхвалявана і паспешліва, нібы ў трызненні, прамовіў Казік. — Магчыма, я буду казаць глупства, але я скажу... Я сёння ўбачыў вас, і з тае хвіліны не знаходжу сабе месца. Можа я проста дурань. Няхай я буду дурань, але я павінен быў убачыць вас — хоць ноч, хоць град з неба.

— Што з вамі, Казік, супакойцеся, — вышаўшы на ганак, ціха сказала Ніна Пятроўна. Яна, відаць, адчула ўсхваляванасць і шчыры парыў юнака. — Навошта вы гэта... Так адразу...



— Адразу? — падаўся наперад Казік.— Не, гэта не адразу. Я доўга, даўно ўжо шукаў вас, такую, як вы... Скажыце мне што-небудзь, хоць адно слова, Ніна...

Ніна Пятроўна задумалася, прыціхла. Казік застыў у чаканні, як туга напятая струна.

— А ведаеце, Казік,— павольна, як бы абдумваючы кожнае слова, сказала яна.— Мне падабаюцца такія... рашучыя. Мы, напэўна, будзем з вамі дружыць, а?..

Казік уздрыгнуў, ускінуў галаву, вочы яго бліснулі.

— Ніна! — выгукнуў ён і, не стрымаўшы сябе, хапіў дзяўчыну за руку. Але тут жа ён адпусціў яе і, як дзівак, кінуўся бегчы па сцежачцы на вуліцу. — Бывайце, Ніна Пятроўна! — гукнуў ён, ужо дабегшы да брамкі.— Заўтра я прывязу вам пісьмо да Шарля...

І Казік рынуўся ў ноч, у цемень, як нажом, рассякаючы яе промнем яркага святла. А ў грудзях яго білася, звінела любімая песня:

Ой, рэчанька, рэчанька!..



Ул. ВЕРАМЕЙЧЫК

# МАЦІ



Кінь жа, маці, кужаль свой ільняны,
Кроснамі хай грукае вясна...
Сын твой сыты, сын твой і прыбраны,
Бацька сынаў — ротны старшына.

На зямлі хай рота начавала,
Хай шынель не вельмі добра грэў.
Ведай, маці, з гэтага прывала
Сын адразу неяк пасталеў.

Можа бульбы цёплай з агуркамі
На сняданні сын не паспытаў,
Ды насілі кашу кацялкамі
Цераз пяць дарог і перапраў.

Можа неба стала сыну дахам,
Хай старое сэрца не баліць:
Сын твой стаў сапраўдным, мужным птахам,
Ён к табе са службы прыляціць.

Кінь жа, маці, кужаль свой ільняны,
Кроснамі хай грукае вясна...
Сын твой сыты, сын твой і прыбраны,
Бацька сынаў — ротны старшына.



Алесь АСІПЕНКА

# ВОДАР ЗЯМЛІ

## Апавяданне

Мал. М. Залознага.

На пятым дзесятку гадоў валасы ў Дзяміда Квяцінскага пасівелі, як добра абтрапаны лён; на твары, бурым і абветраным, пралеглі, нібы глыбокія барозны, маршчыны.

Усяму віною вайна. За няпоўныя тры гады, якія жыў Дзямід пры акупантах, страціў ён ледзь не ўсё, што меў. Спачатку гітлераўцы павесілі яго брата: нехта данёс, што ён працаваў старшынёй сельсавета. Потым п'яны акупант застрэліў Дзямідаву жонку. Малодшы сын памёр у партызанскім атрадзе ад раны. Старэйшая дачка Анюта, калі верыць людзям, наклала на сябе рукі ў далёкім рурскім гарадку Фрыдрыхсфельдзе: не вытрымала дзяўчына здзекаў бургамістрыхі, у якой была за парабчанку. Быў яшчэ ў Дзяміда самы старэйшы сын Антон, што перад вайной пайшоў у армію. Пакуль Дзямід жыў пад акупацыяй, не пакідала яго надзея хутчэй убачыць сына. Пасля вызвалення стары засумаваў: чым далей адыходзіў на захад фронт, тым менш спадзяваўся Дзямід на сустрэчу. Нарэшце закончылася вайна, а пра сына нічога не было чутно.

Доўгі час думаў Дзямід, што застаўся на свеце ўжо адзін, хоць закрадалася дзесьці кволая надзея: можа Антон жывы, можа зараз прышле аб сабе вестку. Ён і сапраўды аб'явіўся гады праз два пасля перамогі: ляжаў у шпіталі цяжка знявечаны варожым снарадам. Сын Антон і быў той зачэпкай у жыцці, якая ўтрымала Дзяміда ад бязглуздай абыякавасці, бо прыахвоціўся Дзямід да гарэлкі. Не раз задум-

ваўся аб тым, калі гэта ўжо развітаецца з жыццём, з якім яго цяпер нічога не звязвала. Жыў не жыў, а пакінуць яго не рашаўся. Вось за бутэлькай спірту-сырцу і застала Дзяміда пісьмо ад медыцынскай сястры Дашы, якая даглядала і лячыла Антона. Неяк адразу прасвятлела ў старэчых вачах. Скрыгатнуўшы зубамі, ён змахнуў са стала недапітую бутэльку, устаў на ўвесь рост і сказаў: «Годзе!»

Праз тыдзень ён сядзеў ля ложка сына, прыціхшы і сарамлівы. Антон ляжаў пад тонкай бальнічнай коўдрай, бясконца родны сваімі блакітнымі вачыма і адначасова незнаёмы. Дзямід прыглядзеўся. Здавалася, Антон схаваў некуды свае ногі. Таму выглядаў ён кароткім і тоўстым, хоць на самай справе быў шкілет-шкілетам.

Тут, ля сынавага ложка, Дзяміду яшчэ раз стала сорамна за сваё маладушша: хто ж тады аблегчыў бы горкае Антонава жыццё.

Кожны месяц Дзямід высылаў Антону грошы, а Дашы ліст, у якім прасіў дзяўчыну добра глядзець яго сына. Ён тры гады падрад купляў Антону пуцёўкі на курорт, звыш тых, што належалі сыну па закону. Гэтыя клопаты не спыніліся і потым, калі Антон выпісаўся са шпіталю, ажаніўся з Дашай і застаўся жыць у невялічкім украінскім гарадку.

Не раз ужо сын зваў да сябе бацьку на сталае жыццё. Быў у яго невялікі гародчык на ўскраіне, чатыры калоды пчол, садок, сякая-такая гаспадарка, якая патрабавала безупынных клопатаў. Прыязджаючы ў госці, Дзямід бачыў, як поўзае сын, стараецца трымаць гаспадарку спраўнай. Аблівалася тады ў яго сэрца крывёю і ён цвёрда намерваўся дапамагаць сыну, пакуль будуць сілы. З такой думкай вяртаўся ён у МТС, адкладваючы свой ад'езд на восень, а з восені на вясну. І не таму, што не хацеў ісці на сынавы харчы.

Па-першае, Дзямід думаў сабраць больш грошай, каб не прысці ў сынаву хату з пустымі рукамі. Па-другое, ён вельмі прывык да МТС, да людзей, якія там працавалі, да машын, кожную з якіх ён ведаў, як свае пяць пальцаў, нават да таго спарахнелага барака, у якім яму была выдзелена невялічкая каморка. Летам Дзямід найчасцей спаў ля трактара, паслаўшы на зямлю кавалак брызенту.

З гэтай МТС у Дзяміда Квяцінскага была звязана большая палова жыцця. За трыццаць з лішнім гадоў, што праседзеў Дзямід на трактары, многа чаго змянілася ў Кісялях. Помніць стары, як на месцы цяперашніх майстэрняў стаяла панская цагляная канюшня. У ёй стаяў некалі адзін пузаценькі трактар «Фардзон». І трактарыстам на ім быў Дзямід. Тады ішла пра Дзяміда слава па ўсёй акрузе, пра яго гаварылі болей нават, як пра мага і гіпнацізёра Бен-Бахара, які, выступаючы перад кісялёўцамі, глытаў дзесяткамі цвікі і шпагі, а звычайную калодзежную ваду ператвараў у віно.

Не абмінала Квяцінскага павага і слава потым, калі з саўгаса стварылі МТС. Кожны новы трактар, што прыбываў у МТС, давалі на выпрабаванне Дзяміду. Ён жа першым выехаў руйнаваць межы на мужыцкіх палосках. Першага ж яго за тыя палоскі хутаранцы перацягнулі па галаве сталёвым прутам. З МТС пайшоў Квяцінскі ў партызанскі атрад, на папялішча МТС вярнуўся з лесу, сам па вінціку сабраў трактар.

Кожная драбніца тут напаміналa пра што-небудзь дарагое, незабыўнае. Вось чаму МТС стала чалавеку даражэй за родны куток.

А сын усё ўпрошваў пераехаць да яго на сталае жыццё. На прадвесні ён зноў прыслаў бацьку ліст. Дзямід збіраўся напісаць адказ, але не было часу. Рамонт зацягнуўся, і Дзямід да позняй ночы быў у майстэрні.



У той вечар ён рана прышоў у сваю каморку. Сталовая ўжо была зачынена, і Дзяміду давялося самому рыхтаваць вячэру. На гэты выпадак у яго заўсёды быў у запасе кавалак сала, бляшанка кансерваў, паўбуханкі хлеба, пачак цукру, а часам і яшчэ што-небудзь з эмтээсаўскага буфета. Запаліўшы паяльную лямпу, ён падсмажыў на ёй сала, разагрэў кансервы, згатаваў чай. Доўга вячэраў і ўсё вырашаў, што адказаць сыну. Нічога не рашыўшы, лёг спаць. Скрозь сон чуў, як за сцяной, дзе жыў брыгадзір трактарнай брыгады Паўло Хутарэнка, гаварыла радыё. Потым яно змоўкла, але Хутарэнкі чамусьці доўга яшчэ не спалі, гучна размаўляючы, нават спрачаючыся.

Прачнуўся ён рана і адразу ж пайшоў у майстэрню. На двары сабраліся ўжо амаль усе трактарысты. Гэта крыху здзівіла Квяцінскага. Ён паздароўкаўся з імі і хацеў ужо ісці ў майстэрню, калі яго затрымаў напарнік Валька Дрозд.

— Ці вы, дзядзька, нічога не чулі? — запытаўся ён.

— А што здарылася? — у Дзяміда пахаладзела ў грудзях.

— Дык жа МТС рэарганізоўваюць. Па радыё перадавалі.

— Напалохаў, чорт,— буркнуў Дзямід.— Я ўжо думаў, ліха ведае што. Аж вось якая навіна... Што ж, у народзе гэтага даўно чакалі. Хадзем працаваць, няма калі балабоніць — вясна на носе.

Дрозд неахвотна паплёўся за ім. Гэта быў гультаяваты хлопец. Ён увесь час бегаў ад аднаго трактарыста да другога і нешта даказваў.

За работай Дзямід заўсёды любіў абдумваць свае справы. Але сёння думкі бязладна мітусіліся ў галаве. Чаму гэта? Няўжо і яго так балюча закранула вестка аб рэарганізацыі МТС? Ці даўно ён сам гаварыў, што трэба дазволіць калгасам купляць машыны? А цяпер гэта яго непакоіць. Няма нічога дрэннага ў тым, што давядзецца працаваць у калгасе на працадні. Гэта нават лепш. Калгасы сталі багатыя. На працадні, напэўна, атрымаеш яшчэ больш, чым зарабляеш у эмтээс. Канешне, пакуль усё ўладзіцца, пакуль прывыкнеш да новых умоў, дык будзеш хвалявацца.

Дзямід пастараўся сябе супакоіць, але падкраліся аднекуль і апанавалі ўсёй істотай другія думкі.

«Няўжо ж усё пачынаць спачатку? Пакуль ёсць кут, сталы заробак. А як будзе далей? Заводзіць новае гняздо — позна. Ісці да каго на кватэру — сорамна, падумаюць, што не прымае сын. А можа Антонава праўда: хопіць бабыльнічаць. Будзе і мне добра, і сыну. Бадай, так і трэба зрабіць».

Тут увагу Дзяміда прыцягнуў яго напарнік. Валька Дрозд сабіраў падшыпнік: ён даставаў з бляшанкі шарыкі, заганяў іх паміж двума ўтулкамі. Шарыкі былі дрэнна прамытыя і, як здалося Дзяміду, не з аднаго камплекту.

— Пакажы работу,— папрасіў ён. Валька неахвотна працягнуў падшыпнік. Дзямід глянуў і загадаў: — Перарабі, лайдак. Гэты падшыпнік і двух тыдняў не прастаіць.

— Ліха з ім,— махнуў рукой Валька.— Якая нам да таго справа. Усёроўна працаваць нехта другі будзе.

— А ты што? — здзівіўся стары.

— Я?.. Найду месца. Адзін знаёмы абяцаў уладзіць на грузавое таксі.

— А пакуль тут, дык рабі як след,— спакойна сказаў Дзямід.

— Табе, дзядзька, заўсёды больш за другіх трэба. Няўжо ты сам пойдзеш працаваць у калгас?

Дзяміду здалося, што Валька падслухаў яго думкі і цяпер пасміхаецца з яго.

— Гэта мы яшчэ паглядзім, што рабіць,— раззлаваўся ён.

Цяпер яго думкі пайшлі ў другім кірунку. Ён здзівіўся нават, як гэта можна кінуць МТС якраз цяпер. Папрацуе яшчэ год, атрымае пенсію, а там відаць будзе. Ды і МТС, мабыць, не так хутка рэарганізуюць. А сын пачакае да восені. Летам добрыя заробкі, а цяпер не вельмі разгонішся.

Ад такога рашэння Дзямід павесялеў, увішней запрацавалі яго рукі. Незаўважна надышоў абед. У перапынак і адбылося тое нязначнае здарэнне, якое крута змяніла Дзямідаў намер.

На сядзібе раптам з'явіўся зялёны газік Дрэля, сенькаўскага старшыні калгаса. Усе бачылі, як Дрэль, падтрымліваючы доўгія полы кажуха, вылез з машыны, пабег у кантору. Неўзабаве ён зноў паявіўся на двары разам з дырэктарам і бухгалтарам. Старшыня ішоў наперадзе, быццам ужо цяпер ён тут быў гаспадар.

— Ну як, стары, з рамонтам? — ляпнуў ён Дзяміда па плячы.

— Канчаем ужо...

— Рамантуеце абы з рук, ці па-гаспадарску?

— Як заўсёды.

— Ну-ну, рамантуй! — зноў ляпнуў ён Дзяміда па плячы і раптам запытаўся ў бухгалтара.

— Колькі яго трактар будзе каштаваць?

— Пакуль невядома яшчэ. Мяркую, тысяч пятнаццаць.

Старшыня ўхапіўся за галаву.

— Ай-яй-яй, дык жа я лепей новы куплю,— залемантаваў ён.

Усе пачалі смяяцца, бо добра ведалі натуру сенькаўскага старшыні, які вельмі любіў таргавацца.

— Не бяры, другія возьмуць, ды яшчэ дзякуй скажуць,— спакойна заўважыў дырэктар МТС.

— Возьмуць. Я табе пакажу возьмуць,—зноў залемантаваў Дрэль.— Сам куплю. Ну як, па руках?

Ён працягнуў сваю здаравенную руку дырэктару. Той паклаў у яе сваю маленькую, пухлую, і яна схавалася ў старшынёвым кулаку.

— А можа тысячу збавіш? — жартаваў Дрэль.

— Ні рубля.

— Тады вось што: аддасі мне Дзяміда ў прыдачу.

— Паабяцаеш адступнога — аддам,— нібы ўсур'ёз сказаў дырэктар.

Дзяміда апякла крыўда. Гэтага самага Дрэля Дзямід памятаў малым хлапчуком. Бегаў ён у парваных штанах па баразнах за плугамі і вельмі быў рады, калі Дзямід дазваляў яму пад'ехаць на трактары. Неяк ён нават украў у яго маслёнку, і Дзямід адлупцаваў будучага старшыню папругай. І вось табе маеш. Гэты самы Дрэль купляе яго разам з трактарам.

Дзямід супакойваў сябе, што Дрэль жартаваў, але ад таго крыўда не змяншалася. «Якое права меў гэты сенькаўскі старшыня так адносіцца да мяне? Што я, прывязаны да гэтае ламачыны? А ў мяне ты запытаўся: хачу я працаваць у тваім калгасе ці не? Ну, дык і чакай. Знайшоўся гандляр. Вось паеду да сына, будзе табе «прыдача»...

Дзямід адчуў, што гэтае рашэнне канчатковае. Ён сядзеў, слухаў, як хвалілі трактарысты сенькаўскага старшыню за яго гаспадарлівасць, за ўменне абыходзіцца з людзьмі, але гэта ўжо не кранала яго. Дзямід думаў пра тое, як прыедзе да сына, як дагледзіць гародчык, адсадзіць улетку чатыры новыя раі і будзе ўжо стаяць у садку восем пчаліных домікаў.



Пасля работы ён пачаў пісаць ліст. Здавалася, што Антону трэба вельмі многае сказаць пра крыўду, якую нанеслі сёння яму Дрэль і дырэктар МТС. Але ўся яго крыўда заняла на паперы менш, чым паўстаронкі ў вучнёўскім сшытку. Дзямід парваў ліст і напісаў новы: паведаміў Антону, што хутка прыедзе да яго.

Зімовыя вечары заўсёды здаваліся Дзяміду вельмі доўгімі. Звычайна ён бавіў іх у эмтэесаўскім клубе. Але сёння ісці туды не было ніякай ахвоты. Сядзець жа ў сваёй каморцы таксама было невымоўна цяжка. Тады Дзямід надумаў зайсці да сваіх суседзяў Хутарэнкаў.

У суседзяў перад яго прыходам, відаць, сварыліся: у Тамары былі заплаканыя вочы, а сам Паўло то даставаў з пачка папяросу, то зноў хаваў яе. Дзямід зразумеў, што ён тут лішні, але было нязручна адразу ж пайсці. Дзямід прысеў на зэдлік.

— Сумна аднаму, хоць воўкам вый. Дай, думаю, зайду, пагаворым,— сказаў ён, каб растлумачыць свой нечаканы прыход.

Паўло нарэшце закурыў.

— Справы, Дзямід Нупрэевіч. Вось пацапаліся. Не хоча мяне слухаць, дый годзе.

Тамара адразу ж падхапілася.

— Вы толькі, дзядзька, падумайце, куды ён мяне цягне. На Палтаўшчыну, да сябе. А я не хачу туды ехаць. Нас мой бацька заве, палову хаты аддае. А ён заладзіў адно — паедзем...

Дзямід сказаў:

— Чаму б і не паехаць. Зямля ўсюды аднолькавая, наша.

— Дык каб жа зямля! На цукровы завод мяне цягне, у горад. А чаго я там не бачыла. Ні кала́, ні двара...

— Дык жа таварыш пісаў,— умяшаўся Паўло.

— Пісаў, пісаў... Ведаю я тваю палітыку. Чаму ты мяне ў кантору перавёў, бо не хацеў, каб я на трактары працавала. А ты хочаш у горад, на каменне завезці. Ды тут жа адным паветрам жыць можна.

— Паветра, паветра... Выдумала. Скажы, не хочаш са мной ехаць,— раззлаваўся Паўло.

— Дык жа няхай бы ты ў саўгас які або калгас ехаў. Я ж вясной уцяку адтуль, як пачую, што зямлёй запахла.

Тамара заплакала. Збянтэжаны Паўло запытаўся ў Дзяміда:

— Парай, мне Дзямід Нупрэевіч, што рабіць. Хоць кол на галаве чашы, заладзіла сваё і таўчэ ўвесь дзень.

Дзямід не ведаў, што сказаць. Мае рацыю Паўло, але не хочацца крыўдзіць і Тамару. Можа, сапраўды ім лепш паехаць у горад? Паўло набудзе там спецыяльнасць. Тамары проста не хочацца ехаць ад бацькоў. Таму і выдумала: зямлёй пахне. Няхай пахне...

Пабеглі дні, як узмыленыя коні. Кожны дзень на эмтээсаўскі двор прыязджалі старшыні калгасаў, аглядалі трактары, камбайны, аб нечым раіліся з трактарыстамі. Дзямід здагадваўся, што яны ўсяляк спрабуюць пераманіць да сябе найлепшых трактарыстаў. Аднаго разу і да яго зноў прычапіўся сенькаўскі старшыня. Хаваючы крыўду, Дзямід сказаў, што ён кідае работу і едзе да сына.

— Сын, ён, браток мой, сын і ёсць. Хадзем лепей да мяне,— ледзь не за рукаў цягнуў яго Дрэль.— Бабу табе найлепшую дамо. Хоць бы Рыгора Навічонка ўдаву. От баба — далібог, сам бы ажаніўся.

— Не, не, рашыў і баста...

— Ну, глядзі!.. Але дай мне слова, што калі часам не захочаш жыць у горадзе, дык толькі да мяне прыедзеш.

У Дзяміда крыху паменшала злосці, і ён даў слова, а ўвечары таго ж дня атрымаў тэлеграму ад сына і нявесткі. Антон і Даша прасілі прыязджаць хутчэй.

Яшчэ праз некалькі дзён узяў Дзямід разлік, сабраў свае рэчы і паехаў. Усю дарогу прыгнятаў яго смутак растання і нейкая неасвядомленая крыўда на людзей, якія так лёгка адпусцілі яго.

У сынавай хаце гэты смутак знік, хоць прадаўжала штосьці вярэдзіць душу. Напэўна, гэта рабіла вясна. У горадзе яна адчувалася значна больш. Блішчала пад сонцам мокрая зямля, дзе пасаджаны былі кусты, раставаў снег, і весела беглі мутныя ручаіны. Зырка свяціла сонца, хоць грэла толькі дзе-небудзь у зацішку, на прыпёку. Ноччу яшчэ падмарожвала. Кладучыся спаць, Дзямід заўсёды ўспамінаў Кісялі і чамусьці Тамару Хутарэнкавых. Як яна там?.. Ці ўгаварыла Паўла застацца?

Аднаго дня асабліва пацяплела. Дзямід выйшаў у садок і здзівіўся: ля плота ўжо адтаяў невялікі кавалак зямлі з бурай леташняй травой. З-пад гэтай паблеклай, вымачанай дажджамі травы прабіваліся маладзенькія лісточкі шчаўя. Дзямід сагнуўся, каб нарваць кволых, мяккіх лісткоў, і раптам адчуў, што ад гэтага кавалка адталай зямлі ідзе знаёмы, родны пах. Лёгкі водар зямлі заказытаў у носе, чамусьці пачаў шчыпаць вочы. Перад ім раптам паўстала чорнае ўзаранае поле, затым паплыла перад вачыма зеляніна ўсходаў, золата спелай збажыны, і нарэшце найтанчэйшыя павуцінкі, што слаліся па іржышчу. І пакуль перад ім то ўзнікалі, то прападалі гэтыя яркія малюнкі, ён адчуваў пах нагрэтай зямлі, травы, паспелага хлеба, кветак, маладой руні. Але ўсё гэта цяпер сышлося ў невялікім лапіку зямлі пад плотам. Дзямід падняў галаву. У небе плылі воблакі, белыя, вясновыя воблакі. Ён зноў успомніў Тамару і яе словы, і цяпер зразумеў яе. «Як жа я тут жыць буду?» — здзівіўся ён. Потым успомніў развітальныя словы Дрэля і ўзрадаваўся, што засталася сцежка назад.

Сарваўшы шчаўлінку, Дзямід паклаў яе за шчаку і пайшоў у хату, добра ведаючы, што ён зноў будзе сядзець на сваім трактары. Балазе яшчэ не пачалася сапраўдная вясна.



Міхась ЛЫНЬКОЎ

# ТАЛЕНАВІТЫ ПАЭТ

Успамінаючы Ізю Харыка — гэтага слаўнага паэта, нельга не прывесці такія радкі з яго цудоўнага верша:

...Падымеш павекі,
не можаш ніяк надзівіцца:
Калі ж гэта выраслі
тут навакол камяніцы?
Даўно хіба тут,
як старыя жабрачкі-жанчыны,
Стаялі пахілыя,
ўрослыя ў зямлю хаціны?
Іх сумную памяць
цяпер нібы дражняць заўзята,
За корпусам корпус
святкуе вясёлае свята.

Прайдзіцеся па вуліцах і кварталах нашага любімага Мінска, завітайце на Старажоўку, Камароўку ці ў іншыя раёны горада,— і вы паўсюды сустрэнеце гэтае вясёлае свята, калі ўзнімаецца «за корпусам корпус», калі адступаюць у нябыт струхнелыя хацінкі, калі драўляная абымшэлая цвіль саступае месца выгоністым гмахам-камяніцам.

У які ж час напісаны гэтыя радкі, так сугучныя нашаму часу? Сягоння? Учора? Хіба толькі па адной прыкмеце, што ў іх не ўспамінаецца пра руіны, так неад'емныя ад гарадскога пейзажу пасляваенных год, мы можам здагадацца, што радкі гэтага верша напісаны былі не сягоння, не ўчора, а значна раней. Верш «На будоўлі», з якога мы прыводзім радкі, быў напісаны ў 1929 годзе, амаль што трыццаць год таму назад.

Чаму ж і праз трыццаць год верш гэты не страціў для нас свае першароднае свежасці ўспрыняцця, не выцвіў пад ясным сонцам, не пакрыўся амярцвелым пылам часу?

А таму, што ён напісаны быў сапраўдным паэтам, паэтам вялікіх дум і пачуццяў. Таму, што паэт гэты быў дастойным сынам свайго народа і сваёй эпохі — савецкага народа, будаўніка новага, нечуванага яшчэ ў свеце грамадства.

Толькі сапраўдны паэт мог стварыць такія запамінальныя вобразы-карціны, якой пачынаецца прыведзены намі верш «На будоўлі»:

Пад вечар ты, стомлены,
крочыш да дому з работы.
Цямнее і гасне
праменняў густых пазалота,
І дзень патухае імгненна
за домам і тынам,
Паветра ад стомы
трапеча крылом галубіным.

Вось гэтае трапяткое крыло галубінае і з'яўляецца адной з важнейшых адзнак паэзіі Ізі Харыка, адзнак яе тонкага лірызму, яе глыбокай пачуццёвасці і радаснай рамантычна-ўзнёслай усхваляванасці. Але паўтараем — адной з адзнак. Другая адзнака — гэта высокі грамадзянскі пафас песні паэта, голас якога быў голасам тых занядбаных некалі народных мас, якіх Вялікі Кастрычнік вывеў з нізін на шырокія і светлыя прасторы жыцця. Гэта быў голас гарадскіх і местачковых рамеснікаў, голас той яўрэйскай беднаты, якая ўпершыню за ўсё сваё жыццё адчула цвёрдую глебу пад нагамі і ўпершыню магла смела зірнуць у свой заўтрашні дзень, у сваю будучыню. Адыходзіць у нябыт усё старое, прыгнятаючае. Усе жахі мінулага: бяспраўе, беспрытульнае бадзянне па свеце, бядачы лёс, галеча, здань чорнага дня, усе яны —

Зніклі, згінулі навекі...
Ранак вуліцай ідзе...

Вось песняром гэтай «яснай раніцы», калі «сонца льецца проста ў грудзі», быў Ізі Харык. Ён прышоў у горад з мястэчка. Адтуль прынёс ён глыбокае веданне местачковага і вясковага жыцця, улюбёнасць у беларускую зямлю, у тыя родныя абшары, на якіх прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады, любоў да яўрэйскай і беларускай народнай песні. Адзін са сваіх вершаў паэт заканчвае такімі прачулымі словамі:

...І кажу я ўсім:
— Якая родная,
Любая якая ў нас зямля!

У вершы «Я знаю цябе, Беларусь» паэт разгортвае перад намі мінулае і сённяшняе роднай краіны. Перад намі мільгаюць прывіды старога, даўно перажытага: вясковы сум, дрымота, «пяскі пад абрывістым скрыпам калёсаў», гнілыя крыжы і курганы, «туга мястэчак гарбатых, кульгавых», натруджаныя «батрачыя спіны», цемра, глухамань. Для людзей гэтай краіны боханы добрага хлеба «з'яўляліся толькі ў марах...» І вось новая Беларусь і яе характэрныя адзнакі. Тут «кахання лісты калгасніца шле самалётам», тут «даўнейшы пастух у даўнейшай глушы пускае сягоння турбіну». Едзеш, едзеш дарогай, а «за намі адно яшчэ поле ўсё гоніцца: значыць, гэта калгас». А ў полі «дойны статак па вымя ў траве». І ўсюды новае: «новы мост і шаша. Каміны да нябёсаў усюды. На гары новы горад узняў галаву, аглядае прыволле».



Паэт быў страсным патрыётам Радзімы, якую і ўслаўляў сваёй песняй. Свае слова прысвяціў ён росквіту савецкай зямлі, яе слаўным людзям, іх стваральнай працы, іх гераічным подзвігам, іх запаветным марам і думкам. Сам паэт у адным з вершаў вызначае сутнасць сваёй песні:

...Мая Радзіма! Хай жа песні слова
Гучыць пра сакаліны твой узлёт.

Яго песня была неразлучнай з маладосцю краіны. Гэтай маладосці прысвячае ён многія свае творы, перад ёй трымае сваё «сэрца, раскрытае насцеж». Толькі з імклівай маладосцю бачыць ён свой жыццёвы шлях (паэма «Катрынка»). Ён марыць аб тым, каб усё жыццё прайсці маладым па зямлі:

Чуеш, зямля! Па табе маладым
Буду я крочыць да самае смерці!
Чуеш, зямля? Буду йсці маладым
Да апошняга стуку гарачага сэрца!

Паэт належаў да таго пакалення, якое разам з разбурэннем старога, аджываючага свету закладвала першыя падваліны новага, намячала ледзь бачныя яшчэ ў той час контуры будучага. «Мы з пылам разбурэння на руках замешвалі для будучыні гліну». Паэт марыў аб гэтай светлай будучыні, калі «век настане такі, усім на зайздрасць вякам», і ўслаўляе тыя казачныя вятры, якія ўзносілі нас «у будучыя вякі».

Аб чым бы ні пісаў паэт, кожнае яго слова прасякнута глыбокай любоўю да чалавека. Не да чалавека наогул, а да чалавека працы, які толькі-толькі выйшаў з глухіх сутарэнняў мінулага, які толькі-толькі скінуў са сваіх плеч спрадвечныя ярэм'і няволі і, распрастаўшы свае магутныя плечы, нястомна змагаецца за сваё сапраўднае шчасце, за светлую будучыню сваіх нашчадкаў. Гэтая любоў да чалавека, гэты, як гаворыць паэт, «па чалавеку сум тужлівы» напаўняюць сэрца паэта невыказнай радасцю і гордасцю за ўсе здабыткі і перамогі працоўнага чалавека. Паэта шчыра хвалююць і буйныя перамогі савецкіх людзей, іх нечуваныя гераічныя подзвігі і ледзь прыкметныя ў агульнай плыні жыцця падзеі і здарэнні, якія сведчаць, аднак, аб нарастанні новага ў жыцці, аб непрыкметнай часам, але рашучай ломцы старога, патрыярхальнага ўкладу местачковага жыцця, ломцы яго побыту і традыцый. Вось местачковы каваль запальвае лямпу ў суботу. Дробная, здавалася б, падзея, не такое ўжо важнае здарэнне. Але яно прыцягвае ўвагу паэта, бо ён бачыць у гэтай «дробязі» подых новых дзён у жыцці местачкоўцаў, адчувальную прыкмету новага ў жыцці працоўнага яўрэя. Каваль запальвае сваю лямпу з думкай: «Няхай будзе светла!». Светла ў самым шырокім сэнсе: светла для дзяцей, якія заняліся з кніжкай, светла для хаты, светла для ўсяго жыцця і для будучыні.

Багатая і разнастайная спадчына паэта. Яна з'яўляецца дастойным укладам у нашу савецкую літаратуру. Паэт пісаў не толькі аб лёсе яўрэйскага народа ў рэвалюцыі, што было, зразумела, асноўнай тэмай яго творчасці. У яго мастацкім слове знаходзім мы прачулыя словы аб працоўным беларусе, аб працоўных далёкага Азербайджана, Расіі і іншых братніх рэспублік. Ён адгукаецца на ўсе важнейшыя па-

дзеі ў краіне, у Савецкім Саюзе. Некалькі твораў прысвячае ён гераічнаму подзвігу чалюскінцаў, называючы гэты подзвіг гордай мужнасцю савецкага народа. Паэт не абмінае і падзей далёкага мінулага, рэха якіх ніколі не замоўкне ў нашых сэрцах, што адчуваюць кроўнае сваяцтва з людзьмі, якія некалі, як героі Парыжскай Камуны, аддалі жыццё сваё ў барацьбе за лепшую будучыню чалавецтва. У студзені 1924 года паэт напісаў верш, прысвечаны памяці любімага правадыра народаў Уладзіміра Ільіча Леніна:

...Замоўкнуць рыданні, завянуць вянкі,
Мінуць пакаленні, стагоддзі.
А справы яго перайступяць вякі,
Каб сонцам зіхцець у народзе.

* * *

Акрамя многіх вершаў, паэтам напісана было некалькі паэм, такіх, як «Мінскія балоты» — аб хвалюючых падзеях на Беларусі ў часы грамадзянскай вайны, «Хлеб» — аб працы яўрэйскай беднаты на зямлі, «Душой і целам», «Тыдзень за тыднем» і «На чужой бяседзе». Усе гэтыя буйныя творы паэта прысвечаны таму ж самаму герою, аб якім пісаў ён у сваіх узнёслых вершах. Герой гэты — чалавек новай эпохі, будаўнік новага, сацыялістычнага грамадства, чалавек, які ў працэсе станаўлення новага жыцця праходзіць складаны шлях уласнага перавыхавання. Учора яшчэ бяспраўны, прыгнечаны, адсталы, ён сёння ўжо становіцца ў шэрагі актыўных будаўнікоў новага грамадства, прымае чынны ўдзел у стварэнні матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей народа і ў працэсе вялікай стваральнай працы вызваляецца ад усіх перажыткаў мінулага ў сваёй свядомасці, у дачыненні з людзьмі, у побыце, у традыцыях. Буйныя творы паэта, як і вершы яго, прасякнуты той жа лірычнай усхваляванасцю, задушэўнай пачуццёвасцю.

* * *

Ізі Харык нарадзіўся ў мястэчку Зембін у 1898 годзе ў сям'і шаўца. У 1921—1923 гадах вучыўся ў Маскве ў Літаратурным інстытуце імя В. Я. Брусава. У 1924—1927 гадах вучыўся на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Першыя творы паэта з'явіліся ў 1920 годзе ў маскоўскім часопісе «Камуністычны свет». Першы зборнік твораў выйшаў у 1922 годзе. З таго часу шматлікія яго творы рэгулярна выходзілі на яўрэйскай, рускай, беларускай і іншых мовах. У 1937 годзе смерць абарвала жыццё таленавітага паэта.

Ізі Харык быў не толькі выдатным паэтам. Ён прымаў актыўны ўдзел і ў грамадскай дзейнасці. Ён рэдагаваў часопіс «Штэрн». Паэт-камуніст быў абраны членам ЦВК БССР. Ён быў членам-карэспандэнтам Акадэміі навук БССР. Самы непасрэдны ўдзел прымаў ён у кіпучым літаратурным жыцці тых год, як член праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР і СССР.

Ён карыстаўся шчырай павагай з боку сваіх таварышаў-пісьменнікаў, прадстаўнікоў розных нацыянальных літаратурных аб'яднанняў, як таленавіты паэт і як добры таварыш і друг. Ён дапамагаў маладым пісьменнікам і паэтам, бо ведаў, як патрэбны на першых кроках творчай дзейнасці і таварыская падтрымка і ў час дадзеная творчая парада.

Такі творчы і грамадзянскі воблік Ізі Харыка, таленавітага паэта і слаўнага чалавека.



**Ізі ХАРЫК**

* * *



Адсюль крычу я сэрцам і душою
Наступнага далёкім жыхарам:
Хай сённяшняе нашае зямное
Жыццё-быццё не здасца цудам вам.

Далёка там, у прышласці шчаслівай,
Шукаць для нас не ўздумайце акрас,
Не аздабляйце лірыкай гуллівай,
Легендамі не карануйце нас!

Не карануйце нашыя галовы
Карункамі, сатканымі з святла...
Мы тут былі, мы тут жылі сурова,
І праўда нас суровая вяла.

Мы першыя цагліны закладалі,
І кожны ў мур цаглінай лёг жывой...
Мы ўсе да болю ў сэрцы смуткавалі
Аб пары крыл мяцежных за спіной.

Праз пыл руін мы крочылі калонай,
З'яднаныя ў адзіную сям'ю...
І суджана яшчэ адно было нам—
Пакінуць з песняй гэтую зямлю.

Таму і шлю без смутку, без тугі я
Ад нас, ад акрываўленых, наказ...
Адсюль крычу я ў заўтра:
— Дарагія,
Крылатыя, не карануйце нас!

**Пераклаў А. КУЛЯШОЎ.**

* * *



Заходзіць сонца. На вачах
Стаў ярка вечар разгарацца.
О, маладосць — крылаты птах,
Маё лятучае юнацтва!
Як спелы колас на палях,
Ты пачынаеш нахіляцца.

Мне здэцца, я на караблі
Плыву, схіліўшыся імкліва.
Яшчэ далёка да зямлі,
І я, нястомны і шчаслівы,
Вітаю бераг, даль, палі,
Па чалавеку сум тужлівы.

**Пераклаў П. ГЛЕБКА.**

# ТУГА ПА ЧАЛАВЕКУ



Стэп і стэп... палыновае поле.
Сонца зыркае плавіць дарогі.
Толькі сонцу і ветру прыволле.
І палын і туга — да знямогі.

Травы вострыя, ў вострым паветры
Ціха дыхае мята спрадвеку.
Цішыня тут крычыць — і павер ты! —
Кліча скрозь цішыня чалавека.

Цішыня тут вісіць медным звонам —
Гулка рэха адклікнецца дзесьці.
Быццам вол, ты захочаш, стамлёны,
На рагах цішыню гэту несці.

Дзікі стэп... паглядзіш — і здаецца
Вёска даўна забытаю выспай.
Дрофа тлустая ў травах прачнецца —
Цішыня прагучыць, нібы выстрал.

Ані дрэўца... не ўзрадуе вока
Роснасць сытая стомленай нівы...
Стэп — у мроіве шызым навокал —
Чалавека чакае тужліва.



# ПОЎДЗЕНЬ



Сонца голае над самай галавой
Люта дыхае: — Вандроўнік, пакарыся...
Збан, напоўнены да краю цішынёй,
Лёгка я нясу між кіпарысаў.

Толькі я і сонца... збан крыштальны... сінь...
Толькі стрэлы кіпарысаў прад вачамі.
Сцежка вузкая змяіцца ўсё з вышынь,
І цячэ з-пад ног празрыстае маўчанне.

Засень сіняя, глыбокая трава.
Я застыў, як месяц сярод ночы.
Сонна хіліцца на камень галава...
Закрывае ўсмешка мае вочы...

**Пераклаў А. ВЯЛЮГІН.**

Барыс МІКУЛІЧ

# У МІНСКУ

### Урывак з аповесці пра Максіма Багдановіча

Беларускі таленавіты пісьменнік Барыс Мікуліч умеў усхвалявана і шчыра апавядаць пра жыццё сваіх равеснікаў-камсамольцаў трыццатых гадоў. З-пад яго пяра выйшлі вядомыя кнігі «Чорная вірня», «Наша сонца», «Ускраіна», «Дужасць», «Яхант» і «Дружба».

Пасля смерці Барыса Мікуліча (17 ліпеня 1954 года) застаўся вялікі архіў яго неапублікаваных твораў. Ніжэй мы друкуем урывак з незакончанага твору пра апошнія гады жыцця нашага выдатнага песняра Максіма Багдановіча, напісанага па ўспамінах Змітрака Бядулі, з якім у аўтара былі сяброўскія, блізкія адносіны.

Недалёка ад Мінска поезд раптам спыніўся. Багдановіч, узяўшы свой баульчык, выйшаў з вагона. Поезд стаяў перад апушчаным шлагбаумам. Чыгунку перасякала дарога, і па ёй бясконцай чарадой цягнуліся калёсы, пешаходы, прывязаныя да вазоў каровы. Людзі ішлі ўзбоч дарогі, а на калёсах быў іхні скарб — кажухі, клеткі з курамі і парасятамі, клункі адзежы, кулі з мукой, куфры. А на гэтым усім сядзелі дзеці, жанчыны. Коні былі стомленыя, і мала іх было добрых, усё больш хударэбрыя. Людзі ішлі ў лапцях, у атопках, многія былі босыя. А дарога — месіва веснавой гразі, якая ўжо не замярзала і ўначы. Над дарогай вісела хмарнае неба, навокал ляжалі шэрыя палеткі, далёкі бор здаваўся ахутаным шэрай ватай. Твары ў людзей былі стомленыя, нібы закопчаныя шэрай копаццю. Па беларускай дарозе, па шэрай гразі ішло народнае гора.

Быццам прыкаваны да зямлі, стаяў Багдановіч у накінутым шынялі, з фанерным баулам у абедзвюх руках. Стаяў і глядзеў на людзей, коней, калёсы, дарогу. У поле яго зроку трапіў воз; там на чорным ад часу куфры сядзеў хлопчык у вялікай шапцы з паламаным брылем і, трымаючы чорнымі ад бруду рукамі кавалак хлеба, прагна еў яго. Нічога асаблівага не было ў гэтым, але нешта як бы падштурхнула Багдановіча, ён падлез пад шлагбаум, кінуў на воз свой баул і пайшоў побач з возам. Ісці было лёгка, нібы не было нядаўняга прыступу знясільваючай хваробы.



Уцекачы...

З-пад Ваўкавыска, з-пад Гродна, з-пад Вільні...

Куды? Абы куды... Толькі далей ад пекла, ад жахаў, ад разбурэння і гвалту, ад папялішчаў і нямецкіх парадкаў...

Яны з розных мястэчак і вёсак, з-пад розных гарадоў, яны ніколі б не сустрэліся, каб не гэтае гора, каб не гэтае цёмнае ліха. Няшчасце з'яднала іх. Калі чалавек шчаслівы, яму не трэба шукаць падтрымання. Гора кідае яго на пошукі таварышаў, гаравацц у грамадзе лягчэй.

Багдановіч пераходзіў ад воза да воза, распытваў, слухаў, слухаў адну і тую ж гісторыю пра няшчасце. Ён слухаў сялян і жанчын, дзяцей і старых, думаў аб тым, што ён напісаў, і ў яго міжволі ўзнікала пытанне: «Хто з іх умее чытаць? Ці можа трапіць да іх кніжка, надрукаваная невялікім тыражом у друкарні Марціна Кухты?

Ён набавіў кроку і нагнаў пярэдні воз.

На возе сядзела дзяўчына гадоў семнаццаці. Русавалосая, з чыстым, крыху вузкім тварам. Сінія вочы. Лёгкая ружовасць. Трохі абветраныя вусны. Даматканая рудая світка, пашытая на мужчыну, на галаве — хустка з крамы. А ў руках — кніжка. Не ў першыя рукі трапіла кніжка з пашарпанымі краямі.

— Чытаеце?

Дзяўчына ўзняла вочы на студэнта, у сіняй глыбіні вачэй гарыць цікавасць да таго, што толькі што чыталася.

— Але.

Студэнт паклаў руку на воз і пайшоў побач. Відаць, што так яму лягчэй ісці.

— Сядайце.

Ён пакруціў галавой.

— Не, каню цяжка. Я дайду, скора горад.

— Вы таксама ратуецеся?

— Так, ратуюся, толькі не ад немцаў.

Яна паклала кніжку ў кішэню.

— Дык што ж вы чытаеце?

Яна апусціла вочы.

— Ат, нічога, адну кніжку...

Ён засмяяўся:

— Бачу і сам, што кніжку. Але хіба вам да кніжак цяпер?

— А што ж рабіць, па-вашаму? Плакаць? Ужо няма слёз.

Ён пайшоў моўчкі.

Набліжаўся Мінск.

— Скажыце, якую кніжку чыталі вы? — запытаўся Багдановіч.

На гэты раз засмяялася яна.

— Вы цікаўны! Не скажу.

Прыемны быў у яе твар — малады, з выразам надзеі.

— Ну, хоць на развітанне,— і ён засмяяўся па-маладому, бо і быў па сутнасці такім.— Хоць імя сваё скажыце...

Пад яго позіркам дзяўчына апусціла вочы.

— Вераніка,— ціха сказала яна.— А ваша?

— Ахрысцілі Максімам.

Дзяўчына паднялася з куфра. На твары было здзіўленне. Яна выцягнула з кішэні кніжку і кінула яму ўслед:

— Гэта — на шчасце, кніжку напісаў таксама Максім. Па-нашаму напісана кніжка. Назва яе «Вянок».

Ён спыніўся, нешта хацеў сказаць, але так і не змог, закашляўся.

Воз з дзяўчынай паплыў перад яго затуманенымі вачыма, потым знік. А па дарозе бясконцым патокам ішлі і ехалі бежанцы.

* * *

Самуіл Плаўнік працаваў на біржы багатага гандляра лесам. Быў у яго і за пісара, і за бухгалтара, і за дзесятніка. І за гэта гаспадар плаціў яму 80 рублёў у месяц. Гадзін дзесяць трэба было быць на біржы, толькі па пятніцах работу канчалі а другой гадзіне. Гаспадар быў набожны і суботні дзень сустракаў, як належыць набожнаму яўрэю. Яго ўніверсальны канторшчык таксама, мусіць, быў набожны, бо не раз здзіўляў гаспадара тонкім веданнем талмуда, а на старадаўняй яўрэйскай мове гаварыў так, як рэдкі рабін можа гаварыць. Гаспадар паважаў яго за гэта.

Але не ў малітвенны дом, не ў сінагогу спяшаўся з лясной біржы Самуіл Плаўнік. У маленькай сваёй кватэры, у цесным коле сяброў і знаёмых яго ведалі пад іншым прозвішчам: Ясакар — так падпісваў ён свае беларускія вершы. Змітрок Бядуля — так падпісваў ён свае апавяданні. І здавалася, што розныя гэта людзі, бо рознымі былі вершы і апавяданні.

Ён быў сярэдняга росту, каранасты, з вялікімі, злёгку на выкаце вачамі, з тоўстымі пачуццёвымі вуснамі і цёмна-рудымі кольцамі валасоў. Гаварыў вельмі мілапучна, з лёгкім напевам. Натура ў яго была вельмі энергічная. Колькі ён пісаў у гэтыя гады, усяго — і вершаў, і апавяданняў, і нарысаў! Колькі часу траціў на арганізацыю беларускага клуба — «Беларускае хаткі» на ўскраі Мінска! Якім уважлівым быў да таварышаў, якія прыехалі з захаду, адкуль гнала іх вайна! Фронт набліжаўся. Вільня страціла сваё значэнне культурнага асяродку — цэнтрам беларускай культуры станавіўся Мінск. Меркавалі аб выданні газеты, часопіса, арганізоўвалі бібліятэку.

У гэтую пятніцу, як заўсёды, Самуіл Плаўнік спяшаўся дадому. Вось ён сышоў з конкі, далікатна прапусціўшы жанчыну з кошыкам. Жанчына глянула ў яго вялікія, злёгку навыкаце вочы і падумала, што шмат каму варта было б павучыцца такой далікатнасці. Вось ён ідзе праз Губернатарскі сад і з амаль хлапечай цікавасцю назірае за тым, якія дзівосныя ўзоры саткала сонца з ценяў дрэў на дарожках. Наўкола шуміць горад, авеяны вясновымі вятрамі. Страціўшы празмерную саліднасць, Самуіл трохі што не бяжыць па дашчатым тратуары. Хутчэй дадому, за стол, на якім ляжаць аркушыкі з вершамі — яшчэ гарачымі ўчарашнім натхненнем. Ён раскажа паэтычнымі вобразамі, на мове, якая зрабілася для яго самай роднай. Ён з імпэтам адчыняе веснічкі і бачыць на ганку сваю сястру.

— Самуіл,— кажа яна,— да цябе зноў прыехалі. Нейкі студэнт. Усё кашляе...

Хто ж гэта можа быць? Ён адчыняе дзверы, і насустрач яму падымаецца, трымаючыся касцістай белай рукой за грудзі, Максім Багдановіч.

— Вітаю вас, Ясакар! — з усмешкай кажа госць.— Калі не прагоніце, госцем буду.

Ясакар ідзе да яго і разводзіць рукі, каб абняць і пацалаваць.

— Божа ж мой,— крыху збянтэжана, але вельмі шчыра кажа Плаўнік і пытаецца, як госць дабраўся да Мінска.

— Я ішоў пеша,— адказвае Максім Багдановіч.— Я не мог, я не меў права, калі тысячы людзей, страціўшы сваю хату, месяць шэрыя дарогі стомленымі нагамі....



— Паляжы, Максім Адамавіч,— клапоціцца гаспадар.— Адпачні. Але спачатку папалуднуем.

— Як падумаю, што дзесяткі такіх людзей гінуць у акопах і гінуць бессэнсоўна, дык мне лягчэй, што пакутую і я... Мне давялося бачыць хлопчыка, вельмі худзенькага. Ён з такім смакам еў чэрствы хлеб, такі хлеб, Ясакар!..

Увечары збіраюцца госці. Яны прышлі вітаць паэта. Яго просяць чытаць, але ён адмаўляецца. Не, ён прывёз рукапіс. Думаў у Вільні друкаваць, а цяпер гэта немагчыма. Ды яно і к лепшаму: многае трэба перарабіць, многае перакрэсліць, напісаць нанава. Аб пакутах чалавечых, аб народным горы. Вось ён толькі адпачне і будзе працаваць, працаваць...

Калі госці разыходзяцца, ён прыходзіць да Бядулі, прысоўвае да ложка крэсла і раскладвае на каленях рукапіс новай кнігі.

— Я вось думаю, што справа беларускай культуры будзе скора справай самых шырокіх мас. Прачынаецца народ, і за гэтым народам будучыня. Разумееш... У мяне так многа думак, што іх цяжка адразу выказаць...

І яны яшчэ доўга-доўга гутарылі.

* * *

Мінск быў перапоўнены ўцекачамі, параненымі з фронта, людзьмі, якія шукалі ў шматлікіх шпіталях родных. Для ўцекачоў былі арганізаваны камітэты, якія мелі размеркавальныя пункты, сталоўкі. Але народу ўсё прыбывала і прыбывала, сродкаў было недастаткова, транспарт быў загружаны ваеннымі перавозкамі, і людзі доўга таўкліся ў горадзе, галадалі і пакутавалі...

Уся інтэлігенцыя пайшла працаваць у камітэты. І Багдановіч не застаўся ўбаку.

З прыватных кватэр сюды, у камітэты, былі перанесены дэбаты, тут пісаліся творы і тут жа чыталіся. Але тут пачалося тое, што павінна было пачацца, няўхільна, абавязкова: размежаванне. Адны — былі такія — сцвярджалі, што прыход немцаў дасць волю беларусам, беларускай самастойнасці. Другія бачылі ў прыходзе кайзераўскіх войск пагібель. Яны сцвярджалі, што ў сям'і славян беларускі народ будзе раўнапраўным. Трэція патрабавалі, каб беларускі народ падняць на самастойнае паўстанне. І калі аднаго разу ўдалося ўцягнуць у спрэчкі Багдановіча, ён выказаўся рэзка і катэгарычна:

— Я ведаю гісторыю і ведаю, што ніколі тэўтоны не былі братамі славянам. Саюз з немцамі — гэта наша пагібель.

І больш ён не гаварыў. Ён не ўмеў спрачацца, яму цяжка было слухаць бясконцыя гутаркі. Ён пакідаў таварышаў і некуды знікаў.

... Рукапіс кнігі, параскіданы, ляжаў на стале, а навокал — на канапе, на крэсле, на падлозе — валяліся лісткі. Багдановіч прыходзіў, садзіўся за рукапіс, зноў раскідваў лісткі, хадзіў па пакоі і ўсё гаварыў сам сабе:

— Не тое, не тое...

Аднаго разу Ясакар падабраў з падлогі лісток са страфой верша. Сум быў у ім і выключная прыгажосць. І ён шчыра сказаў:

— Якая пекната, божа ж мой!

Багдановіч глянуў на яго, і вочы яго зрабіліся цёмнымі.

— Не, не тое. Цяпер не аб гэтым трэба пісаць!— і, усхваляваны, моцна закашляўся.

Плаўнік уздрыгануў.

— Трэба лячыцца,— адно сказаў ён.— Не можна без барацьбы губіць такі талент, Максім Адамавіч. І трэба спыніць гэтыя вашы начныя праходкі. Гэта ж і здаровы не працягне доўга, калі ночы не спіць.

Багдановіч глядзеў на яго, вочы святлелі, а бледны, стомлены твар стаў сапраўды маладым. Ён ціха загаварыў:

— Я не хаджу піць у кампаніі або на спатканне з каханай. Смешна, але прызнаюся, што ў мяне нават не было каханай, не было кахання... Быў толькі ідэал, ды і то — у вершах.— Ён павольна падняўся з крэсла і блізка падышоў да Плаўніка.— А не хадзіць я не магу... Я хаджу па начных вуліцах, выходжу ў поле, на рэчку, на Кальварыю... А які світанак бачыў пазаўчора! Вам, можа, неспакойна, дык я перабяруся да каго-небудзь жыць.

— Божа ж мой!— адно толькі сказаў Плаўнік з незахаваным абурэннем. — Што ты гаворыш, Максім!

А той ціха працягваў:

— Я хаджу на спатканне з Беларуссю. І не магу не хадзіць...

І ён хадзіў, блукаў па Мінску і яго ўскраінах, па заезджых дамах, па рынку, па вуліцах, па касцёлах і царквах. І гора, вялікае народнае гора паўставала перад ім. Ён доўга не мог зразумець, чаго ён шукае. І аднаго разу думка запалілася ярка, нібы вячэрняя зорка. Багдановіч нават засмяяўся. Гэта ж вельмі проста — яму дваццаць пяць гадоў, усяго дваццаць пяць гадоў! Вобраз русавалосай дзяўчыны з чыстым, крышку вузкім тварам, дзяўчыны ў даматканай мужчынскай світцы з кніжкай у кішэні паўстаў перад ім і ўжо неадлучна ішоў побач з ім. Ён садзіўся над ракой, і дзяўчына садзілася побач. Ён праходзіў пад дрэвамі Тэатральнага скверу, і насустрач ішла яна. Ён бачыў, як світанкам рэшткі туману растаюць у блакітным паветры — і там ён бачыў яе вочы... «Веранікa»... Мусіць, яна жартавала...

Дадому ён вяртаўся стомлены, але нейкі супакоены і шчаслівы. Першае, што ён рабіў заўсёды, як прыходзіў, глядзеў у люстэрка. Ён яго павесіў ля акна і кожны раз здымаў.

— Слухай, Ясакар, а я папраўляюся,— гаварыў ён.— Ты глядзі — нават загарэў.

Плаўнік бачыў хваравітую жаўцізну, бачыў, як абцягнула скура яго скулы, але ці маўчаў, ці пераводзіў гутарку на што іншае.

— Будзем верыць, што ты паздаравееш. Табе трэба на поўдзень, да мора.

Ён вешаў люстэрка на цвік ля акна.

— Ведаеш, Ясакар, я блукаю па вуліцах і шукаю адну дзяўчыну. Я сустрэў яе тады, пад Мінскам. Яна жартам назвалася Веранікай...— І, памаўчаўшы, раптам з нястрыманым пачуццём дадаў: — Прыходжу і пішу. Пішу вось што. Я табе прачытаю, верш я назваў «Пагоня».

Ён чытае — глухім, нізкім распевам аб тых, хто ў цяжкі час выракся Айчыны, аб тых, што забылі, як можна пакутаваць за яе. Паэт просіць Радзіму, каб яна даравала змардаванага сына і дазволіла памерці за яе... Хваляванне ахапіла Ясакара, хваляванне напоўніла пакой, хваляй выплеснулася за дзверы і прымусіла насцярожана застыць на месцы клапатлівую гаспадыню. «Няўжо гэты хворы чалавек,— мільганула ў яе думка,— валодае такой сілай?»

Слёзы стаялі ў Ясакаравых вачах.

Паўтараючы любімае «божа ж мой», ён выбег з пакоя.

А ўвечары ён пайшоў да знаёмага чыгуначніка, каб той дапамог адвезці Багдановіча на поўдзень.

Алег **ЛОЙКА**

# ЖЫЦЬ, СЛЕД ПАКІДАЮЧЫ, ПРАГНУ!..



Туды, дзе я быў хоць аднойчы —
Глухой партызанскаю ноччу,
Байцом, інжынерам, аратым,
Будзённымі днямі, у свята,
Дзе плакаў, смяяўся ці мроіў,—
Зноў цягне туды мяне часта,
Бо ўсюды там кінута мною
Жыцця майго нейкая частка.

Туды ж, дзе бываць не прышлося,
Дзе стэп расхінуўся бяскрайні,
Тайга дрэмле, хмурацца ўцёсы,
І штормам гудуць акіяны,
І пальмы стаяць урачыста,—
Мяне яшчэ больш туды цягне,
Бо я на планеце ўсёй чыста
Жыць, след пакідаючы, прагну!..



Міхась ДАНІЛЕНКА

# ПЕРШАЕ РАСЧАРАВАННЕ

Апавяданне

Мал. Ф. Бараноўскага.

Ларыса ў горадзе ўпершыню бачыла, як ажыў вялікі пяціпавярховы дом. Гэта надта ўразіла Ларысіну душу. Спачатку каля яго завіхаліся рабочыя — канчалі апошнія недаробкі. Трактарыст цяжкімі каткамі ўкатваў дарогу да другога пад'езда, фарбаваліся цёмна-зялёнай фарбай высокія стрэльчатыя вароты, у кватэрах перагукваліся члены прыёмачнай камісіі. Потым аднойчы зранку перад варотамі выстраілася чарга аўтамашын з шафамі, ложкамі, фікусамі ў высокіх кадках. Яшчэ зранку Ларыса з камендантам дома Валодзям хадзіла па кватэрах следам за старшынёй райвыканкома, які гаварыў:

— Галоўнае, каб быў парадак. Чалавек павінен адчуць радасць, усяляючыся ў новую кватэру. А часам бывае, што якая непрадбачаная акалічнасць можа сапсаваць увесь настрой...

Ларыса працавала ў гарадскім аддзеле камунальнай гаспадаркі.

Валодзя ішоў побач з ёю і перапісваў у сшытак прозвішчы жыхароў, якіх значыў крэйдай на дзвярах кватэр старшыня райвыканкома. На пятым паверсе ва ўсіх кватэрах не было кухонных юшак.

— Дзе прараб? — запытаўся старшыня райвыканкома ў Валодзі.

Камендант зашпіліў на адзін гузік запэцканы глінай плашч і ў сваю чаргу звярнуўся да Ларысы:

— Я зараз, я — мігам, — заспяшалася дзяўчына і, як на крыллях, паімчалася ўніз па лесвіцы.

— Прараб у канторы быў! Зайдзі туды! — крыкнуў ёй наўздагон Валодзя.

За дзень Ларыса так набегалася, што калі над горадам згусціўся ранні восеньскі прыцемак, яна адчула, што ногі яе ледзь трымаюць. Дзяўчына прысела на лаўку насупраць дома. «Неўзабаве тут пасадзяць дрэўцы — і праз колькі год будзе добры скверык», — падумала яна.



І раптам дзяўчына аж уздрыганулася: на ўсіх пяці паверхах у вокнах дома ўспыхнула электрычнае святло. Калі Ларыса па вечарах часам праходзіла сюдой да цётчынага дома, яна заўважала, што ў гэтым месцы вуліцы ланцуг электрычных агнёў як бы разрываўся. І вось разрыву гэтага зараз няма. Дзяўчына паднялася. Яна падумала, што дом гэты стаў нібы жывым і цяпер ветліва глядзеў у свет сваімі адкрытымі вачамі-вокнамі.

Ззаду пачуліся крокі. Падышоў і стаў поруч Валодзя.

— Ух, і гадзіны ж на чацвёртым паверсе ў шостую кватэру пасяліліся, — злосна сказаў ён. — Заходжу праверыць праводку, а яны адразу: «Вы хто такі, што без дазволу ўрываецеся да нас?..» «Хто такі?» — перадражніў яшчэ раз Валодзя. — Пачакайце, вы яшчэ пабегаеце за мною...

— Але ж яны, мусіць, не ведалі, што вы — камендант? — нясмела запярэчыла Ларыса.

Валодзя смешна адставіў нагу і, надзьмуўшы шчокі, прамаўчаў. З-пад каракулевай кубанкі на яго лоб выбіваўся хвалісты чуб. Юнак коса і неяк здзіўлена глянуў на дзяўчыну, быццам ацэньваючы яе вартасць, і зноў пачаў гаварыць, час-ад-часу сплёўваючы праз зубы:

— Што б яны ні думалі, а павінны цаніць нашу работу. Хіба не бачылі, колькі разоў мне прышлося патрабаваць, каб электрыкі закончылі ўстаноўку разетак і электрычных званкоў? А яны ўсяліліся і нават не памянуць нас добрым словам...

Ларыса пачырванела. Спачатку яна хацела было запярэчыць: іх жа пакуль няма за што памінаць добрым словам. Але потым падумала: Валодзя лепш за яе ведае, што да чаго — не першы месяц тут працуе. «Які ён разумны», — падумала яна і хуценька, нібы баючыся, каб малады камендант не разгадаў яе думак, затопала боцікамі да тратуара.

— Ты дзе жывеш? — запытаўся ў яе Валодзя, стараючыся ступаць з ёю ў нагу.

— У Чыгуначным раёне, за вакзалам.

— На кватэры там у каго, ці як?

— Цётка там мая жыве. Яны дом перабудоўваюць, — адказала Ларыса і зноў адчула, як чамусьці загарэліся шчокі. «Глупства я пляту, — раззлавалася яна на сябе. — Трэба яму ведаць, што цётка перасыпае свой дом».

Але Валодзя не звярнуў на гэта ніякай увагі. Ён ішоў, лёгка ставячы ногі ў новенькіх юхтавых ботах, і заклапочана выціраў на рукаве плашча прыліпшы камячок гліны. У небе, усеяным ядранымі зорамі, пранёсся рэактыўны самалёт. Удалечыні, за горадам, заціх яго гул. Валодзя прыпыніўся і дакрануўся да Ларысінага локця.

— Шчаслівага шляху, — сказаў ён. — Заўтра не спазніся на работу. Многа клопату будзе з прыпіскай жыхароў.

Ларыса моўчкі кіўнула і заспяшалася, баючыся, каб Валодзя не заўважыў яе пакрыўджана прыкушанай губы. Дзесьці ў глыбіні яе сэрца ледзь-ледзь зашчымела: ён нават не заўважыў яе сённяшняга старання. А сёння ж Ларыса дабраахвотна ўзваліла на свае плечы і частку яго, камендантавай, работы. Але ён прымаў Ларысіны паслугі, як належныя. Здавалася, Валодзю было прыемна пакрыкваць на дзяўчыну, пасылаючы яе куды-небудзь. «Як жа, трэба я яму!..» — разважала Ларыса. Падумаўшы так, яна раптам успомніла чарнявую Рыту з ярка нафарбаванымі

вуснамі. Сталы іх у камунальным аддзеле стаялі амаль насупраць. Невядома чаму, з першых дзён работы Рыта не ўзлюбіла Ларысу. Ларыса гэта адчувала па кожным руху прыгожа выгнутых броваў. Нават Рыціны туфелькі, калі яна праходзіла паўз Ларысу, пастуквалі, здаецца, зняважліва. Амаль кожны дзень Рыта прыходзіла на работу ў дарагіх, зграбна пашытых сукенках, за сталом яна праз кожныя дзесяць хвілін даставала мініятурную сумачку і падоўгу вывучала свой твар у люстэрку. Гэта выводзіла Ларысу з раўнавагі. Раней яна неяк не звяртала ўвагі на тое, як апранаецца. Ды і якая можа быць адзежына ў дзяўчыны, што прыехала з далёкай вёскі, каб паступіць вучыцца далей. Але, відаць, лёс наканаваў Ларысе ва ўсім быць няўдачніцай: у інстытут яна не паступіла. Тады цётка ўладавала дзяўчыну ў камунгас, да гэтай Рыты-задавакі.

Ларыса перайшла віядук, перакінуты праз чыгуначныя пуці каля вакзала. Тут яна раптам з радасцю ўспомніла, як нядаўна адчытваў Валодзя Рыту.

Рыта разам з пажылой, замкнёнай Юліяй Аляксандраўнай вылічвала кватэрную плату для жыхароў цэнтральнага раёна горада. Валодзя пацікавіўся, ці закончылі налік платы жыхарам аднаго дома па Савецкай вуліцы. Юлія Аляксандраўна маўкліва, як яна і ўсё рабіла, працягнула каменданту пачак квітанцый.

— А я яшчэ, Уладзімір Сідаравіч, не закончыла, — круцячы ручку арыфмометра, сказала Рыта.

І тое, што яна назвала Валодзю Уладзімірам Сідаравічам, і яе вінаваты тон насцярожылі Ларысу.

— Што ж ты, Рытачка, рабіла? — панізіўшы голас, у якім зазвінелі стальныя ноткі, запытаўся Валодзя. — Увесь час з люстэркам мілавалася?

— Не ваша справа! — успыхнула Рыта. У яе вялікіх чорных вачах заскакалі пякучыя іскаркі. — Трэба правільна размяркоўваць работу. А то ў нас адны карпеюць над гэтай праклятай кватплатай, а другія цэлымі днямі любуюцца на ногі прахожых...

Ларыса зразумела, што гэта — каменьчык у яе агарод. Па натуры ўражлівая, яна адчула, як недзе ў куточках вачэй закіпаюць слёзы крыўды. «Толькі б не заплакаць перад ёю... А ён хоць бы заступіўся за мяне», — праносіліся думкі.

— Па аддзелах работу без нас размяркоўвалі. На гэта ёсць загадчык, — адказаў Валодзя. — А калі квітанцыі не будуць выпісаны да канца рабочага дня, пойдзеце апраўдвацца перад загадчыкам.

Рыта яшчэ шпарчэй завярцела ручку арыфмометра. У той дзень яна не пайшла на абед і к вечару панесла паперкі на другі паверх. «Ой, Валодзечка, — у думках лікавала Ларыса. — Так ёй, хвалько, і трэба, няхай не задаецца...»

А вось і цётчын дом. На двары цётка дапамагала мужу размешваць гліну.

— Засялілі дом? — адразу запыталася яна, як толькі дзяўчына пераступіла парог.

— Засялілі.

— Прываліла ж некаму шчасце, — зайздросціла яна. — А то пэцкайся ў гліне дзень і ноч, і ўсё канца не відаць гэтай таўкатні.

Раней бы Ларыса змоўчала, а зараз не вытрымала і сказала:

— А хто ж вас прымушае, цёця, корпацца ў гліне? Хіба цесна вам было ў доме, што такую прыбудовіну яшчэ адвялі?



Цётка здзіўлена паглядзела на Ларысу. Яе, відаць, уразіла, што пляменніца выказала ўласныя думкі пра яе гаспадарку. Яна паднялася, памыла рукі пад шлангам з вадой і накінулася на пляменніцу:

— А ты прамоўчала б, галубка. Што ты ў жыцці цяміш? Як кажуць, чыё б цялятка мычэла, а маё маўчала. Хіба лішняя будзе якая капейка ад будучых кватарантаў? Ты ж не жыла ў горадзе, галубка, і нічога не ведаеш.

У сваіх планах цётка даўно размеркавала, колькі кватарантаў можна змясціць у разгароджанай прыбудоўцы. Аднойчы Ларыса нават пажартавала:

— Вы б, цётачка, над печкай гамакі прымайстравалі: які студэнт лішнюю сотню і перакінуў бы, пасяліўшыся там.

Аднак што праўда, то праўда: Ларыса ў горадзе ніколі не жыла. Яна нават і была раней тут усяго адзін раз, калі прыязджала з бацькам купляць сабе паліто. Таму зараз дзяўчына толькі паціснула плячыма і, усеўшыся перад люстэркам, пачала ў яго глядзецца, як гэта рабіла Рыта. У яе былі шэрыя вочы на поўным круглым твары. Маленькі носік неяк смешна задзіраўся ўгору, і дзяўчына яшчэ раз падумала, што, вядома ж, не заўважыць яе, такую непрыгожую, Валодзя. Нават і цяпер, калі Ларыса была далёка ад маладога каменданта, яна бачыла яго зухаваты чуб, смелыя вочы, стройную постаць. «Дурная. Я ж магу ў яго па вушы закахацца», — саромячыся сама сябе, думала Ларыса, прыгладжваючы бровы.

— Нешта ты, галубка, доўга перад люстэркам ахарошваешся, — уедліва заўважыла, зайшоўшы з кухні, цётка. — Можа ў тэатр з Ленай пойдзеце?

Ларыса адвярнулася ад люстэрка і насупілася. У тэатр яна ўжо хадзіла аднойчы з цётчынай Ленай. Але пасля таго разу ісці туды адпала ўсялякая ахвота. Лена была за яе старэй на два гады, баявейшая і ў кожны перапынак паміж дзеямі спектакля цягнула Ларысу ў тэатральнае файэ прагульвацца пад руку. А Ларыса саромелася, бянтэжылася. Ёй здавалася, што на яе паглядаюць усе гэтыя прыгожа апранутыя маладыя людзі насмешліва. Тады ж Ларысе раптам прышло ў галаву, што ў тэатры можа быць і Валодзя, — дзяўчына краем вуха чула, як ён нешта гаварыў Юліі Аляксандраўне, — і баялася ў антрактах нават падняцца з месца. А Лена злавалася і гаварыла, што болей ніколі не пойдзе з ёю ў тэатр.

— Яна скора павінна вярнуцца з інстытута, — праказала цётка і, падпёршы шчаку, уздыхнула: — Дастаецца беднай: ніяк гісторыю педагогікі не здасць.

«Ох, і дастаецца, — сама сабе ўсміхнулася Ларыса. — Вядома ж, зноў дзе на вечары танцаў у Палацы культуры затрымалася».

Да ўсяго ў жыцці Лена адносілася з нейкай лёгкадумнасцю, але ўсёроўна Ларыса яе любіла. Калі яна вярнулася тады з апухшымі ад слёз вачыма з інстытута і сказала, што яе не прынялі, Лена бесклапотна зірнула на дзяўчыну і зашчабятала:

— Кінь, дурненькая... Ужо і свет клінам сышоўся на гэтым тваім інстытуце. Я вось хутка яго скончу, а паверыш, Лорка, з радасцю прамяняла б вучобу на якую работу...

— Так бы і прамяняла?!. — падняла на яе поўныя слёз вочы Ларыса.

— Дзівачка ты. У цябе ж усё — наперадзе, — суцяшаючы яе, як маленькую, гаварыла Лена.

Усе гэтыя дні яна часцяком па дарозе з інстытута забягала да Ларысы на работу і ў першы раз, акінуўшы скептычным позіркам Рыту, больш не заўважала яе, а шчабятала то з Ларысай, то з Юліяй Аляксандраўнай.

Ларыса баялася спазніцца на работу і папрасіла, каб цётка завяла будзільнік на шэсць гадзін і паставіла на століку, каля самай Ларысінай падушкі. «Валодзя трывожыўся, што заўтра будзе многа работы, — думала яна. — Хаця б не спазніцца». У думках дзяўчына ўжо бачыла, як Валодзя радасна сустракае яе, радуецца, што яна такая акуратніца ў рабоце, такая спрытная.

Раненька падхапіўшыся, калі Лена яшчэ спала, — яна вярнулася позна, — Ларыса памылася халоднай вадой, а потым туга запляла сваю касу. З рэдкіх лісцяў каштанаў, якія раслі пад цётчыным домам, сцякала на зямлю сцюдзёная раса, на жалезных дахах трымалася намаразь, а ў густым тумане гучна пераклікаліся паравозы. Адчуваючы лёгкасць на душы, Ларыса паціхеньку напявала, збіраючыся на работу. Яна доўга перабірала свой немудрашчы гардэроб і прымервала, якую сукенку лепш сёння апрануць. «Хіба вось гэтую карычневую з каўнерыкам? Яна так падабалася Казіку, калі яны былі на выпускным вечары», — разважала Ларыса. І ёй успомнілася, як зусім нядаўна, перад засяленнем пяціпавярховага дома, яе выпадкова на вуліцы сустрэў Казік. Яны з бацькам прыязджалі з калгаса па запасныя часткі для электраматораў. Казік быў у стаптаных ботах, у старой, паношанай ватоўцы. Ён ніякавата пераступаў з нагі на нагу, і тады Ларысе чамусьці зрабілася шкада юнака: дзяўчына ведала, што Казік яшчэ ў дзевятым класе паціхеньку





ад сяброў уздыхаў па ёй, а на выпускным вечары са шчырай юначай непасрэднасцю раптам прызнаўся, што паедзе туды, куды і Ларыса, бо моцна яе кахае...

Аднак у горад за Ларысай ён не паехаў: у інстытут Казік зусім і не падаваў дакументаў, а застаўся працаваць дома.. Мусіць, гэта яго бацька так настроіў, і цяпер Казік вазіўся з машынамі ў будынку электрастанцыі, хадзіў, павесіўшы на плячо маткі праваду, і афіцыйна лічыўся калгасным электрыкам.

— Як там нашы? — запыталася дзяўчына ў Казіка.

Ён па-хлапечы, як гэта рабіў яшчэ ў сёмым класе, шмаргануў носам і адказаў:

— А нічога, працуюць. Яны табе, разумееш, пасылачку перадалі, — ён радасна бліснуў вачыма: — Я, Лорка, усёроўна, забег бы і занёс: адрас мне твая маці дала...

Ларысе не спадабалася, што Казік так на яе глядзіць. Дзяўчына нахмурылася і праказала:

— Лепш я сама да вас прыду і забяру. Дзе вы спыніліся?

Яна адпрасілася з работы і на рыначнай плошчы адшукала іхнюю машыну. Казік з бацькам стаяў у кузаве і адважваў тугія качаны. Ля машыны выстраілася ладная чарга, і Казікаў бацька ледзь паспяваў выбіраць качаны пад густ пакупнікоў. Вось Казік пачаў шукаць патрэбную гіру, разагнуў спіну і сустрэўся поглядам з дзяўчынай. Ён страшэнна сканфузіўся і, буркнуўшы нешта бацьку, спрытна пераскочыў борт машыны і стаў каля Ларысы.

— Разумееш, заадно прыхапілі і трохі калгаснай гародніны, — нібы апраўдваючыся, тлумачыў ён. — Усё лішняя тысяча ў касу, — па-даросламу, як сталы гаспадар, разважаў юнак.

Дзяўчына слухала яго, нечага сама канфузілася і старалася хутчэй пакінуць Казіка. «Хоць бы ботаў такіх не надзяваў, калі збіраўся сюды,— з раздражненнем думала яна. — Горад жа!..».

Успамінаючы ўсё гэта, Ларыса прышла на работу. Гарадскі камунальны аддзел знаходзіўся ў паўпадвальных пакоях старога аблупленага будынка. З раніцы, калі тут было цемнавата, запальвалі святло. Седзячы за сваім, выцертым локцямі, сталом, Ларыса бачыла ногі прахожых. Людзі тут часцяком пераходзілі на суседнюю Камсамольскую вуліцу.

Неўзабаве следам за Ларысай з'явілася Юлія Аляксандраўна. Яна кіўком прывіталася з дзяўчынай і павесіла паліто ў шафу. Ларысе вельмі хацелася гаварыць, з некім раіцца, спрачацца, і яна прызналася:

— А я, паверце, так спяшалася, Юлія Аляксандраўна: баялася, каб не спазніцца. Учора ж Валодзя папярэдзіў, што многа работы будзе па прыпісцы: у дом усялілася аж дзевяноста сем'яў...

Юлія Аляксандраўна пакорпалася ў шуфлядзе і ўзняла на дзяўчыну паблеклыя, добрыя вочы.

— Дзевяноста? Ну што ж, сходзіце, Ларыса, у пашпартны стол. Не забудзьце, каб з вайсковага ўліку зняліся мужчыны, якія з іншага раёна прыехалі.

— Гэта я ведаю: мне Валодзя тлумачыў... І яшчэ, ведаеце, Юлія Аляксандраўна, ён жа такі прынцыповы...

— Прынцыповы, кажаце? — здзіўлена ўзняла вочы зноў на Ларысу жанчына.

— Але ж. Можа і нядобра, што так здарылася, але я сама не ведаю, як яно так атрымалася: падслухала я, як Валодзю прапаноўваў адзін

чалавек, — на трэцім паверсе ён жыве, важны такі мужчына, — сто рублёў, каб камендант прыпісаў на яго жылплошчу пляменніка. А я тут жа якраз вытыркнулася...

— А што ж камендант?

— А ён, Юлія Аляксандраўна, так накрычаў, што той чалавек пачаў нават прабачэння прасіць.

— Гм... Прынцыповы, кажацe, — хмыкнула жанчына, углыбляючыся ў раскладзеныя на стале паперы.

Амаль адначасова збеглі з прыступак лесвіцы Рыта і Валодзя. Рыта была ў вішнёвага колеру блузцы, якая шчыльна аблягала на ёй. На Ларысу Рыта нават і не глянула, і тая адчула, што далёка ёй у просценькім плацці з каўнерыкам, якое яна так доўга прымервала ў цётчынай кватэры, да гэтай фарсухі. Няздарма і Валодзя так шматзначна паглядвае на Рыту. Яны вунь нават і на работу разам прышлі. На момант работа здалася Ларысе сумнай і непатрэбнай. Гэта б і любы чалавек сабраў у жыхароў дома дакументы, а потым запаўняў дамавую кнігу, або стаяў перад акенцам у пашпартным стале. А яна ж вучылася колькі год, яе так паважалі старэйшыя ў Брадках.

— Не адкладваючы спраў, ідзі, Лора, збірай дакументы, — сказаў Валодзя. — А я туды падыйду пазней. Толькі ты не пераблытай там чаго...

І дзяўчына адразу даравала Валодзю і тое, што ён прышоў разам з Рытай, і што ён увесь час не звяртаў увагі на Ларысіны старанні.

— Я нічога, Валодзя, не пераблытаю, я ведаю, што і як, — заспяшалася Ларыса. — Я — мігам.

Яна захапіла з сабой папку са спісамі жыльцоў і, як ластаўка, пырхнула за дзверы. Ужо зачыняючы іх, пачула, як Рыта насмешліва гаварыла:

— Мігам... Глядзі, каб не заблыталася ў пад'ездах...

На двары падаў першы ў гэтым годзе снег. Пушыстыя сняжынкі ціха апускаліся на дахі дамоў, на тратуары, — і адразу там расплываліся мокрымі плямамі. Людзі і аўтамашыны пачалі выглядаць неяк па-святочнаму. Чародка галак з тлумным крыкам узнялася з дрэў парка і панеслася над камінамі дамоў: ім, відаць, таксама было прыемна пакупацца ў снежных ручаінах.

Ларыса на хвіліну затрымалася каля свайго дома і змахнула рукой снег з лаўкі, каля якой яны ўчора стаялі з Валодзем.

А потым яна, не чуючы ног, насілася з адной кватэры ў другую — збірала дакументы. Было цікава пазваніць, а потым чакаць, як пасля яе званка ў кватэры мітусілася гаспадыня, звінелі галасы дзяцей. А пасля ёй адчынялі, прапанавалі распрануцца, пагрэцца...

— Я ж часу не маю, — адмахвалася рукамі дзяўчына. — У пашпартным стале працуюць толькі да двух гадзін дня...

У другім пад'ездзе, каля шостай кватэры, Ларыса на момант затрымалася, пачуўшы з-за прычыненых дзвярэй Валодзяў голас:

— Прыпіску я, канешне, аформлю. Але і вам трэба мазгамі варушыць: на якога д'ябла спатрэбілася пры той вароне грошы мне тыцкаць?

— Пры якой вароне? — прахрыпеў нізкі голас.

— Працуе тут адна ў домакіраўніцтве. У інстытут не прайшла, дык да нас упёрлі.

Ларыса адчула, як умомант гарачая хваля сораму прыліла да твару, стала цяжка дыхаць. «Хутчэй адсюль!» — маланкава пранеслася думка.



Ссутуліўшы плечы, яна, не бачачы нічога перад сабой, кінулася на вуліцу. На апошняй прыступцы лесвіцы ледзь не ўпала.

— Што гэта з вамі, дзяўчынка? — прымусіў яе ачомацца голас тоўстага мужчыны ў скураным паліто: Ларыса ледзь не ткнулася яму ў грудзі. Яна не зусім далікатна адштурхнула здзіўленага чалавека і выскачыла на двор. «Дык вось чаму ён тады так абураўся на таго, што дамагаўся прыпісаць пляменніка», — цяжка дыхаючы, разважала Ларыса. Успомнілася Юлія Аляксандраўна і тое, што яна прамаўчала, калі Ларыса расказвала ёй пра Валодзеву прынцыповасць.

На душы было прыкрае адчуванне. Не хацелася ісці ў домакіраўніцтва, зноў здалася на дзіва непатрэбнай, дробязнай яе работа. Ларыса, нейкая вялая і стомленая, зайшла ў кантору. У сваім стале знайшла памятае Казікава пісьмо, на якое так і не сабралася адказаць. Рыта адкрыла сумачку, падфарбавала губы і выйшла з пакоя. Ларыса пачала перапісваць прозвішчы жыхароў у дамавую кнігу. Літары скакалі перад вачыма, і дзяўчына паволі шавяліла губамі, каб не зблытацца. Неўзабаве пайшла на абед і маўклівая Юлія Аляксандраўна.

Грукаючы ботамі, у пакой забег ажыўлены Валодзя. Яго прыгожы твар расчырванеўся ад хады, кубанка цудам трымалася ля правага вуха. Гальштук, павязаны модным малюсенькім вузлом, выбіўся з-пад новага паліто.

— Ты яшчэ не ўнесла ўсіх у кнігу? — здзівіўся ён. — Ну, нічога. У міліцыю можаш заўтра схадзіць. Жыхары пачакаюць: нідзе не дзенуцца... Вось табе яшчэ тры пашпарты.... — і ён кінуў на стол кніжачкі ў акуратных вокладачках. — А сёння, ведаеш што, Ларыска? — Валодзя панізіў голас і, таямніча азірнуўшыся на Рыцін стол, прапанаваў: — Махнём у кіно на васьмігадзінны сеанс, а?

Ён нахіліўся да дзяўчыны, відаць, намерваючыся ўзяць яе за руку, але Ларыса адхіснулася ад яго.

— Ты, — Ларыса адчула, як дрыжыць яе голас, — шукай сабе каго іншага ў кіно, а з варонай туды не ходзяць. І, наогул, прыбяры гэтыя свае дакументы, — яна адштурхнула кніжачкі ў прыгожых вокладках,— прыпісвай іх сам...

Валодзя аблізаў адразу перасохшыя губы і здзіўлена ўтаропіўся на Ларысу.

— Ты што? Блёкату аб'елася? Хочаш, каб я шапнуў два словы загадчыку камунгаса і цябе адсюль — кыш у вёску?

Ларыса ўсхапілася з-за стала, адчуўшы, як шалёна закалацілася яе сэрца. На нейкі няўлоўны міг перад ёю ўзнік Казік у стаптаных ботах, у ватоўцы, каля тугіх качаноў.

— Ідзі! — захліпаючыся ад плачу, выкрыкнула яна. — Хаця я лепш сама пайду і аб усім раскажу! А аб вёсцы не маеш права так гаварыць! Не можаш!

Адчуваючы, што зараз яшчэ больш зойдзецца ў плачы, Ларыса хутчэй выскачыла з пакоя.

Быў якраз абедзенны перапынак. Сухі, як палка, стары ў старамодным капелюшы расказваў другому дзядку, які трымаў пад пахай венік з завяўшымі лісцямі, што пад раніцу ён бачыў штучны спадарожнік Зямлі ўласнымі вачыма, як вось гэтую дзяўчыну. Дзяды вярталіся з лазні і пасля лёгкай пары, відаць, кульнулі па кілішку, таму былі на дзіва лагодныя і гаваркія. Той, высокі, яшчэ раз паглядзеў на Ларысу, як яна хусцінкай выцірала твар, і працягваў філасофстваваць:

— Старасць, яна, вядома, не радасць. Ад гэтай бессані не толькі спадарожнік, а што хочаш убачыш. Але нам не так многа ўжо рыпець... Гэта вось яны, — ён кіўнуў на Ларысу, — дачакаюцца, калі можа яшчэ і паляцяць на які Марс...

Ларыса прайшла колькі крокаў, пакуль асэнсавала сказанае дзедам. Толькі цяпер яна шырока адчыненымі вачыма агледзелася навокал. З-пад бялесых пасмачак хмар нясмела выбліснула сонца, снег на тратуары ўвесь растаў, з вадасточных труб зацурчэла лагодна, як усёроўна вясной, вада. На душы ўтаймоўваўся боль, пругка і цвёрда ступалі па зямлі маладыя ногі.



Міхась БЯРОЗКА

# РАШАЮЧЫ КРОК

*Аднаактовая камедыя*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Фэлька — малады, модна апрануты чалавек.
Федзя — яго былы таварыш па школе.
Таня — каханая Фэлькі.

На лаўцы аднаго з бульвараў сядзіць Фэлька з букетам. Ён прышоў па дамоўленасці на сустрэчу. Чакаючы Таню, ён зрывае пялёсткі з кветак і шэпча сабе: «Кахае — не кахае». Паяўляецца Федзя з напакаванай сеткай. Заўважыўшы заклапочанага Фэльку, свайго колішняга школьнага сябра, Федзя ўкрадкі заходзіць ззаду, за спінкай лаўкі кладзе на дол сетку і рукамі хуценька закрывае вочы Фэльку.

Фэлька. Хто гэта? Ну, хто? Кінь жарты! *(Адною рукой, што зрываў пялёсткі, спрабуе дастаць Федзю і намацвае капронавы шалік, які Федзя пачапіў сабе на шыю.)* Таня! Таня, гэта ты! *(Федзя злёгку прыціскае да сябе галаву Фэлькі.)* Танечка! Даражэнькая! Ох, любая! Ручкі мае ласкавыя... Закрыла ты мне імі ўвесь свет... І не сярдую... Няма найлепшага шчасця за гэтае. Усё жыццё, здаецца, вось так гладзіў бы іх, гладзіў, гладзіў... *(Гладзіць і спрабуе пацалаваць руку Федзі, але той не можа стрымаць смеху. Агарошаны, Фэлька ўсхопліваецца з лаўкі.)*

Федзя. Ха-ха-ха!

Фэлька. Цьфу! Што за жарты дурныя! Найшоў з кім жартаваць, мядзведзь!! *(Пагрозліва.)* Як дам зараз!..

Федзя. Ну, не крыўдуй, не крыўдуй!..

Фэлька. Хапае лапамі за вочы... *(Дастае хусцінку і выцірае там, дзе рукамі браўся Федзя.)*

Федзя. Спалохаўся? А я цябе даўно прыкмеціў. Вышаў з універмага *(Падымае сетку, ставіць на лаўку, скідае капронавы шалік, кладзе наверх.)*, бачу ты з букетам. І рашыў разыграць цябе... Чакаеш некага?

Фэлька. Гэта некультурнасць з твайго боку.

Федзя. Падумаеш! А забыўся, як ты на выпускным вечары маю кепку схаваў у класе?.. Сядай!

Фэлька *(пачынае ўсміхацца)*. Табе ж у партфель тады паклаў... Ха-ха... А ты з голай галавой дадому пайшоў...

Федзя. Ну вось, мы квіты. Я табе адпомсціў. Сядай!

Абодва садзяцца. У аднаго збоку — букет, у другога — напакаваная сетка.

Федзя. Ну, як справы? Я даўно хацеў з табою пагаварыць.

Фэлька. Ай, маўчы! Закруціўся, як на каруселі. Дні бягуць і ліку няма. Адзін аднаго выштурхвае. Поўная цапная рэакцыя. Ха-ха! Справы!.. Паверыш, Федзя, так заняты... *(Глядзіць на ручны гадзіннік.)* Ну, у мяне яшчэ ёсць часінка, магу табе прысвяціць адну-дзве мінуткі. Як ні кажы, ты ж мой закадычны... *(Уздыхае.)* Ох, брат!..

Федзя. То-та ж! Успомніў, нарэшце, з кім за адной партай тэарэмы даказвалі... І чаго ты зазнаешся, Фэлька?

Фэлька *(задаволена ўсміхаецца)*. Хм!

Федзя. Скора мы вось так спаткаемся і, чаго добрага, не пазнаем адзін аднаго. І з чыйго боку будзе некультурнасць? *(Федзя ўважліва разглядае модны касцюм Фэлькі, паўбацінкі на тоўстай падашве.)*

Фэлька. Чаго ты глядзіш?

Федзя. А помніш, неяк на праспекце ля кафэ «Вясна» я табе паклон адвесіў?.. А ты — у мой бок і не глянуў...

Фэлька. Калі?

Федзя. Яшчэ вясной было. Быў такі выпадак. Я ішоў з жонкай, не адважыўся даганяць, капялюш націснуць задаваку на нос...

Фэлька. Ну, ты кінь! Чаму задаваку? Ды я не помню, калі тое было. Я ж кажу, так закруціўся, так закруціўся... Прабач, калі...

Федзя. Так закруціўся, што забываеш блізкага сябра. Не можна, брат. А змяніўся ж. Асабліва з выгляду. *(Разглядае ўбор Фэлькі.)*

Фэлька. Натуральна. Як вучыць навука: усё цячэ, усё мяняецца...

Федзя. Ну, гэта не ў дачыненні да таго, што расце на галаве...

Фэлька. А табе не падабаецца? *(Загладжвае прычоску.)* Навінка сезону.

Федзя. А чаравікі ж!

Фэлька. Што чаравікі?

Федзя. Усюдыходы-самазвалы! Падэшвамі камені валяць.

Фэлька. Правільна! Крочым у нагу з векам.

Федзя *(звяртае ўвагу на пінжак)*. Ну і шырачэзны які ты стаў!!.

Фэлька. А як жа! Расцем, мужаем!

Федзя. Некаму духмянае памяло падрыхтаваў *(Глядзіць на букет.)*, а я знянацку хацеў атрымаць яго.

Фэлька. Разумееш, ты не памыліўся. На гэтым месцы ў мяне *(Глядзіць на ручны гадзіннік.)* сустрэча! Так бяжыць час! Проста крыўдна. Што ж ты нічога не расказваеш аб сабе. Я ж нічога не ведаю. Раскажы, прашу, Федзя, хоць коратка. Ты ажаніўся?.

Федзя. Ажаніўся.

Фэлька. Ты?



Федзя. Я.

Фэлька. Ну цябе! Не хлусі!

Федзя. Сур'ёзна. Вось *(Паказвае на капронавы шалік і на пакункі.)* падарунак ёй!.. І гадавіну сёння адзначаем. Прашу да нас. Абое будзем рады спаткаць гасцей...

Фэлька. Пачакай, пачакай! Ты ўсё па парадку. Не магу ўцяміць: дзе, як, што, да чаго, з кім? Не верыцца... Федзя... Той самы Федзя, што дзяўчат за кіламетр абыходзіў, баяўся... і раптам!.. Ды не!.. Ніколі не паверу. Хлусіш!

Федзя. Вось табе, хлусіш!.. Скора будзе сын ці дачка... Хрышчоным бацькам запрашу. Запрашу, калі не зазнаешся...

Фэлька. Пачакай, пачакай! Як гэта ўсё ў цябе клюнула? Зайздрошчу, Федзя, далібог!.. Разумееш, справа ў тым, што мне таіць... скажу па сакрэту. Хачу па твайму прыкладу...

Федзя. Ажаніцца?

Фэлька. Ага!

Федзя. Што ж, добры намер. Даўно б так.

Фэлька. Лёгка табе гаварыць пасля ўсяго... А я вось, напэўна, чацвёрты раз спрабую і нічога не выходзіць. Далібог, гару! Трэба ўмець... умець зрабіць гэты рашаючы крок... А як — не ведаю! Аж мазгі сохнуць... Хвалююся!

Федзя. Дарэмна сохнуць. Гэта хоць рашаючы крок, але трэба проста, ад шчырага сэрца... Навошта мудрагеліць?!

Фэлька. Федзя, браток! Раскажы мне падрабязней. Так сказаць, падзяліся вопытам!

Федзя. Ну які тут вопыт?! *(Закурвае, дае закурыць Фэльку.)* Помніш, як мы з табой праваліліся ва ўніверсітэт...

Фэлька. Ай, ліха з ім! Што ўспамінаць?!.

Федзя. Дык ты ж просіш, каб усё па парадку. Ну?... Дарэчы, дзе ты працуеш?

Фэлька. Пакуль што, дружа, нідзе. Але тэрмін вось-вось канчаецца. Бацькі настроены агрэсіўна. Не хачу за імі плясціся. Ну іх! Старыя скнары!

Федзя. Та-ак! Ну, а мне, ведаеш, не было іншага выхаду, як пайсці на завод... Пайшоў я на завод. І ўсё пачалося спачатку. Некалькі год адхадзіў вучнем, і там, калі ласка, зноў адзнакі: пяцёркі, чацвёркі, тройкі...

Фэлька. Якое глупства! Не мог адразу цапнуць разрад?!

Федзя. А ты паспрабуй цапні сам. Сваімі рукамі! *(Федзя паказвае на рукі.)*

Фэлька *(адсоўваецца і, дастаўшы хусцінку, зноў выцірае лоб і пад вачыма)*. Ну, ты карацей пра сваю вытворчую кар'еру!

Федзя. Якраз гэта вытворчая кар'ера і паслужыла прычынай маёй жаніцьбы... Ведаеш, мяне прыставілі вучыцца да спрактыкаванага токара. А токарам аказалася яна. Мая Ніна. От, спачатку ішло, як ты казаў, усё бокам, бокам... І з яе боку — таксама. Строгая была, каб ты бачыў. Жах!.. Ну, а на экзамене паставілі мне пяцёрку. Я потым у цэху злавіў сваю настаўніцу і пры ўсіх пацалаваў. От!.. Першы раз...

Фэлька *(грэбліва ўсміхаецца)*. Хм! Цьфу!..

Федзя. Вось, вось! Яна мне ў адказ, пры ўсіх, размахнулася і... па бусях — трах!

Фэлька. У-у-х! Гаранція будучага разводу.

Федзя. Ды не! *(Смяецца, крануў куплены шалік з капрону.)* Ніна — мая душа!.. Праўда, я на яе тады дзьмуўся з месяц. Якраз камсамольцаў запісвалі паехаць на ўборку цаліны. Я ў спісак. Першы! Еду! Выступаю і кажу, што гатоў там застацца, на цаліне!.. Як дачулася яна, таксама прыпісала сваю кандыдатуру. З разрадам сама, але каб, значыцца, ехаць разам... А далей... і ўся гісторыя. Вярнуліся мы ўжо ўдваіх... Ад завода пакойчык нам далі. Пабачыш сёння!..

Фэлька. Стой, адно пытанне да цябе. Ты, так сказаць, шчаслівы са сваёй... ну, Нінай?

Федзя. Недарэчнае пытанне! Дзівак!..

Фэлька *(задуменна)*. Канешне, яно ад чалавека залежыць. У аднаго так, у другога так. Я не кажу, што мы розныя людзі. Я хачу сказаць, што ў цябе выключны выпадак. Абсалютная выпадковасць. Яна не можа паслужыць дзеля глыбокага вываду... Наогул, я лічу, трэба ставіць выпрабаванне. Старанная праверка! Праверка характару і гэтак далей... Ну, я вось на гэтым спатыкаюся каторы раз!

Федзя *(здзіўлена)*. Якая праверка?

Фэлька. Звычайная. Тыпу нашай кантрольнай у класе.

Федзя. Я не разумею. Аб чым ты гаворыш?

Фэлька. Што ж тут незразумелага?.. Ну, вось ты кантрольную праверку перад тым, як ісці ў ЗАГС, наладзіў жа сваёй будучай жонцы? *(Федзя здзіўлена пазірае.)* Эх, Федзя! Куды падзелася твая кемлівасць?! Друг! Ну, як табе растлумачыць? Ці было выпрабаванне яе кахання... Як адданасці табе, як рыхтоўнасці пайсці для цябе на любую ахвяру? Не рабіў гэта?

Федзя. Ну, навошта ж так?.. Я быў поўнасцю ўпэўнен...

Фэлька. Глупства твая ўпэўненасць!.. Ты адказвай: выпрабаванне такое правёў, ці не?

Федзя. Не. Да ЗАГСА не, не...

Фэлька *(уздыхнуў)*. Канешне, мы тут розныя... І я не хачу, як воран, каркаць на ваш лёс... Як сказаў Леў Талстой, кожная сям'я шчаслівая па-свойму... Помніш пачатак «Анны Карэнінай»?

Федзя. Паслухай, дык у мяне ж скора сын ці дачка будзе. Што ж тут сумнявацца?

Фэлька. Глупства! Дзіцё — гэта не выпрабаванне... Э-э, дык ты мяне не зразумееў і не разумееш. Што дзіцё, дзіцё?! Дзіцё — гэта дробязь. Для мяне яно ролі не іграе. Я кажу пра тое, дзеля чаго яна, дзяўчына, можа пайсці на любую ахвяру... Дапусцім... Таня! *(Глядзіць на ручны гадзіннік.)* О, яна скора прыдзе! Чорт, як бяжыць час! Загаварыўся...

Федзя. Нічога! Я вам не перашкоджу... Няхай прыходзіць!.. Кажы хутчэй!

Фэлька. Ну вось, я гуляў з Нэлай. Яна ў Доме ўрада працуе. Я ёй аднойчы намякнуў. Ідзём так па праспекту. З рэстарана вышлі якраз. Я і кажу: «Нэлачка, што ты рабіла б, каб я да другой пайшоў. На тваіх вачах!..» Разумееш, намёкі!!.

Федзя. Што ты?! Гэта ж абраза дзяўчыне!..

Фэлька. На словах, друг мой! Чаго ж тут абражацца? Гэта ж праверка, аб якой я табе дзяўбу. Ну, няўжо ты яшчэ не зразумееў?..

Федзя. Пачынаю разумець... І што яна табе адказала?

Фэлька. Што яна мне адказала? Што яна магла адказаць?! Кантакту між намі і да гэтага мала было. П-ф! Так што, як спяваецца ў песні... «Дан прыказ яму на захад!.. Ёй у другую старану!»... Вось, друг мой, якія канцы!..



Федзя ківае галавой.

Фэлька. Ну, а яшчэ было з Лялькай. Таксама! Яе бацька суддзя. У судзе працуе. Адзявалася па рыжскіх модах. На ёй усё замежнае... Во! *(Цалуе кончыкі сваіх пальцаў.)* Ну, я і ёй кантрольную секанўў! Кажу, вось вазьму камень і запушчу ў акно ўнівермага. Выручыць твой бацька з-пад арышту, ці не?..

Федзя *(смяецца)*. Ха-ха-ха!

Фэлька. Вось табе смех. *(Глядзіць на ручны гадзіннік.)* Ах чорт! Зараз...

Федзя. Ну, а гэта хто, што прыдзе?

Фэлька. Таня.

Федзя. Хто яна такая?

Фэлька. Только ўсё між намі. Ясна? Бацька ўласную «Волгу» мае. Маці, ну, цёшча мая, навуковы супрацоўнік. Аклад тры тысячы ў месяц. Кватэра з чатырох пакояў. У цэнтры. Разумееш, усё на ўзроўні.

Федзя *(ківае галавой)*. Так, так!

Фэлька. Вось ты мяне застаў проста ў самы той момант. *(Падносіць да носа букет кветак.)* Хвалююся, Федзя! Друг ты мой! Ну, падкажы! Падкажы, як мне з ёй пагаварыць? Федзя, браток, ты ж нейкі больш непасрэдны!..

Федзя. Ладна!.. Толькі цяпер ты мне адкажы на пытанне... Ты яе кахаеш? Гавары шчыра...

Фэлька. Я? Я малюся на яе.

Федзя. А яна цябе?

Фэлька *(амаль шэптам)*. Кахае. Распісацца згодна.

Федзя. Э-э, дык тут жа ўсё ўладжана.

Фэлька. Усё, ды не зусім.

Федзя. Як не зусім??

Фэлька. Таня наравістая. Ты яе не ведаеш. Ад бацькоў хоча незалежнай быць. Яна ж пайшла на працу, ведаеш, наперакор маці. І куды? У бібкалектар. Я ўжо ўсё выведаў. Чатырыста — шэсцьсот рублёў у месяц. Ну, гэта, кажа, каб дома сумна не было. Самастойнай хоча быць. Яна з характарам! Нікога не прызнае. Вось тут і тэарэма! Разумееш? Як такую выпрабаваць на самаахвярнасць? Каб пайшла за табой і ў агонь, і ў ваду?.. Эх, Федзя, друг, парай, брат, як бы ты зрабіў?..

Федзя. Ну, вось што! Добра, не хвалюйся! Колькі там на тваім гадзінніку? Я буду тут!..

Фэлька. Не, не, не! Прысутнасць твая не абавязкова.

Федзя. Добра, добра! Я не перашкоджу. Так ці інакш, мне яшчэ ў кандытарскі забегчы трэба... Не ўсё дастаў, што прасіла Ніна...

Фэлька. Я за парадай да цябе звяртаўся. Разумееш, у якім сэнсе дапамога? Што ты гаварыў бы з ёю на маім месцы?..

Федзя. Я?

Фэлька. Ты, ты!!.

Федзя. Ну што? Што?! Я сказаў бы так, як я сказаў бы сваёй Ніне... Таня!.. Я еду на цаліну... І калі ты са мной не паедзеш...

Фэлька *(спалохана)*. Але ж я не паеду!..

Федзя *(недаўменна)*. Чаму?

Фэлька *(дражніць)*. Чаму?! Бо я гэта дапусціць не магу!..

Федзя. Ах, так, правільна! Ну, правільна!.. Дык гэта ж, як ты казаў, выпрабаванне. На словах!.. Хіба ж ты камень ў акно шпурнуў бы.

Фэлька *(ганарыста выпучвае грудзі)*. Так, так, так!..

Федзя. Вось і ўсё. А далей ты глядзі, што яна табе адкажа. Ці пойдзе за табою, як ты кажаш, у агонь і... ваду?

Фэлька *(падумаў)*. Але, гэта моцная праверачка. Мацней за ўсе.

Федзя. Папільнуй тут маю сетку! Няхай застанецца пры табе! Дамовіліся! Сустракайцеся! Гаварыце! А я прыду, разам пойдзем да мяне. У госці! Ніякіх не! Ніякіх не!

Федзя ідзе. Фэлька застаецца на лаўцы, непрыкметна паглядзеўся ў люстэрачка. Паказалася Таня.

Фэлька. Таня! Дарагая! Золатка маё! Прывет! *(Цалуе руку.)*

Таня. Добры дзень!

Фэлька. Я цябе паўгадзіны ўжо чакаю.

Таня. Навошта ж раней часу прыходзіць?

Фэлька. Не магу! Сэрца неспакойнае, рвецца да цябе... Вось *(уручае кветкі)* твае любімыя.

Таня. Дзякую, Фелікс! *(Нюхае.)* А гэта што? *(Глядзіць на капронавы шалік, на сетку з пакупкамі.)* Каму ты купіў?

Фэлька *(кашляе)*. Кхм! Кхм!

Таня. Якая празрыстая, пяшчотная тканіна. Ой, як я люблю! *(Закідае на шыю.)*

Фэлька *(аглядаецца)*. Не... разумееш... Гэта майго сябра.

Таня *(здзіўлена)*. Твайго сябра?

Фэлька. Ага... яшчэ са школьнай парты. Ён тут. Зараз прыдзе...

Таня. Вось яно што!

Фэлька. Але ты можаш не скідаць. Табе вельмі да твару. Вельмі падыходзіць. Танечка! Любая! Ты гэткая прыгожая! Мы справім усё, што захочам...

Таня *(смяецца)*. Мы справім сваё, а гэта трэба акуратна пакласці на месца. *(Згортвае капронавы шалік і запакоўвае ў сетку.)*

Фэлька. Я не дачакаюся, калі ў нас будзе ўсё-ўсё!! Калі мы будзем толькі ўдваіх!

Таня. А хто ж нам не дазваляе?

Фэлька. Што? Ты ўжо гаварыла з мамай?

Таня. Аб чым?

Фэлька. Ну, пра ЗАГС, і так далей...

Таня. Не яшчэ.

Фэлька *(пасля паўзы)*. Таня!

Таня. Што?

Фэлька. Ды не, нічога!..

Таня *(нюхае кветкі)*. Ты хацеў штосьці сказаць.

Фэлька. Я? Ага, хацеў табе сказаць. Вось што! *(У бок.)* Досыць! Раз — і ўсё!

Таня. Ну, гавары. Я слухаю.

Фэлька. Ведаеш, Таня... Любая, дарагая мая!.. Танюша! Сэрца маё!

Таня. Хопіць! Я разумею, што ты хочаш сказаць. Толькі і я табе павінна прызнацца. У мяне ёсць для цябе навіна таксама. Яна датычыцца аднолькава мяне і цябе.

Фэлька. Мяне і цябе? *(Здзіўлены.)*

Таня. Але, мяне і цябе. Нашай будучыні. Сёння яна вырашылася. Не толькі ты чакаў гэтую сустрэчу, я таксама. Спецыяльна ішла. Так спяшалася...

Фэлька. Любая, дарагая! Дай руку. *(Цалуе.)*



Таня *(вырывае руку)*. Любы, не трэба! Нас чакае наперадзе сапраўднае шчасце...

Фэлька. Мілая, чаму толькі наперадзе, а не зараз?

Таня. Вельмі проста! Я запісалася ехаць на цалінныя землі.

Фэлька. Што? *(Ён выпусціў яе руку.)*

Таня. І я прышла табе гэта сказаць. Дарагі мой! Паедзем разам!

Фэлька. Што, што?..

Таня. Ну, паедзем разам!..

Фэлька. Ты смяешся. *(Ненатуральна смяецца, становіцца сур'ёзным.)* Не можа быць! *(Зноў ненатуральна смяецца.)* Ну і здорава ты мяне разыграла!

Таня. Не, я цябе не разыгрывала.

Фэлька. Гэ-гэ! Я ж бачу, жартуеш.

Таня. Не, я не жартую.

Фэлька. Паслухай! Мяне не лёгка купіць. Пасмяяліся і хопіць!

Таня. Я не смяюся.

Фэлька. Не трэба! Мы з табой, Таня, ужо дарослыя, сур'ёзныя людзі. І сур'ёзна думалі пра будучыню...

Таня. Я сур'ёзна і кажу. У нашым бібкалектары тры дзяўчыны запісаліся ехаць. Я чацвёртая. Усім выдаюць камсамольскія пуцёўкі. Нават сёння выдавалі.

Фэлька. Куды?

Таня. На Алтай!

Фэлька. Няпраўда!..

Таня. Вось табе чэснае камсамольскае! Я папрасіла, каб пачакалі. Заўтра мы разам возьмем... Ты і я!

Фэлька. Што ты выдумала? Ды мяне бацька не пусціць!.. Не, апошні раз пытаю, ты гэта сур'ёзна?..

Таня. Сур'ёзна!

Фэлька. А як жа там у вас? Як бацька, маці?

Таня. Яны нічога не ведаюць. І хай не ведаюць! Што ім? Гэта я ўсё наважыла. Надаела мне шпагатам кнігі перавязваць...

Фэлька. Так жа не можна! Трэба мець жорсткае сэрца, каб пакінуць родных... такую кватэру!.. Машыну!.. Такія выгады!..

Таня *(задуменная, пасля паўзы)*. Усё ўжо! Вырашана!

Фэлька. Усё? *(Таня маўчыць.)* Таня! Не пакідай мяне!

Таня. Дык ты... ты не разам са мной? Я ж прасіла ў сакратара пуцёўку табе выпісаць...

Фэлька *(крычыць)*. Таня, не рэж мяне без нажа!.. Як я паеду?! Я не магу! Гэта страшэнна неабдумана. Жах!.. Ідзі адмаўляйся!

Таня. Не, я паеду... паеду адна!

Фэлька. Ясна! А гаварыла кахаеш?!. Якое ж гэта каханне, калі яно не вытрымала выпрабавання... Ты не можаш ахвяраваць сабой дзеля мяне...

Таня *(устае)*. Ах, вось які ты! *(Пайшла)*.

Фэлька. Таня! Таня!.. Куды ты? Пачакай! *(Хапае Федзеву сетку і бегае з ёю навокал лаўкі, як прывязаны. Глядзіць то ў бок Федзі, то ў бок Тані.)* Таня!.. Пайшла... Ах, гэтая авоська, каб яна згарэла... *(Кідае, садзіцца на лаўку і бярэцца за галаву.)*

Падыходзіць Федзя.

Федзя. Ну, што, сябар? Адзін? Не прыйшла?.. Эх ты! Выдумляў яшчэ ёй кантрольную праверку...

Фэлька. На, бяры сваю чортаву сетку!.. Яна мяне затрымала толькі!..

Федзя. Дык што? Таня была?

Фэлька. Была!!

Федзя. Адказалася ехаць з табой на цаліну?

Фэлька. Я адказаўся з ёй ехаць! Няхай яна праваліцца скрозь зямлю, тая цаліна!..

Федзя. Нічога не разумею.

Фэлька *(устае)*. Прападзі яно!..

Федзя. Што?

Фэлька. Уяві сабе... Яна на самай справе едзе на цаліну. Пуцёўку выпісалі!.. І мяне туды пасватала... Вой-вой-вой! Я да гэтага часу не магу апамятацца...

Федзя. Дзівак-чалавек! Дык ты ж радуйся! Гэта ж яна кахае цябе... Самы рашаючы крок!..

Фэлька. Цьфу! Што з табой гаварыць?!. Мы з табой зусім розныя людзі. *(Паглядзеў у той бок, куды пайшла Таня, і пайшоў у адваротны.)*

Федзя *(некаторы час стаіць задуменны)*. Праўда, мы розныя людзі.

ЗАСЛОНА.

# З РАЁННЫХ ЛІТАБ'ЯДНАННЯЎ



Валянцін Лукша нарадзіўся ў 1937 годзе ў горадзе Полацку ў сям'і служачага. Скончыў ён Полацкі лясны тэхнікум і працаваў у Пензенскай экспедыцыі «Леспраект». Цяпер працуе ў рэдакцыі Полацкай раённай газеты.

Першыя вершы В. Лукшы з'явіліся ў 1955 годзе ў полацкай газеце «Сцяг камунізма», а пазней друкаваліся ў «Віцебскім рабочым» і «Чырвонай змене».

У часе паездак на Поўнач, Урал і ў Сібір малады паэт напісаў нізку вершаў, некаторыя з якіх мы друкуем у часопісе.

**Валянцін ЛУКША**

## ВЯСНОВАЕ



Прылізалі чупрыны сівыя сумёты,
Разбудзіў заіртышша траскун-крыгалом...
Выпаўзаюць нясмела на свет верталёты
З-пад брызенту, пакрытага кволым ільдом.

Дзень зялёныя латкі кладзе на пагорках,
Задыміўся за нашай палаткаю снег.
У тайгу нівелір углядаецца зорка,
Выглядае сцяжынку насустрач вясне.

Зноў лябёдка стракоча ля будучай шчыліны
І бураў у прамёрзлай зямлі скрыгатнуў...
Пэўна, гулам машын, электрычнымі піламі
Незнарок мы ў тайзе разбудзілі вясну.

* * *



Вечар пыхнуў у выгары чорным і знік.
Задыміла таежная ноч туманамі,
А мядзяны агеньчык працягваў язык
І скупое цяпло раздзяляў паміж намі.

Мы рабілі ў паходзе пярыны з галля,
І ад стомы ўся група ураз засынала.
Холад быў. І здавалася, маці-зямля
Нас грудзьмі, як сыноў, сагравала.

# З ПАХОДНАЙ КАЙСТРАЙ



Мне з паходнай кайстраю нямала
Давялося перамераць вёрстаў,
Ад бярозак ніцых Калевалы
Да пустэльняў жвірыстых і чорствых,

Ад азёр і ад крыніц наддзвінскіх,
Ад бароў, ад выганаў купчастых
Да шыракаплечых хваль сібірскіх,
Ірэндыкскіх выступаў зубчастых.

Ды ніколі сэрца не жадала
Хоць крыху ад стомы адпачыць:
На зямлі яшчэ дарог нямала
Трэба мне з сябрамі пралажыць.

# ШЧАСЦЕ



Не шукаў яго ў пялёстках бэзавых.
І «пятак» пад пятку я не клаў,
У зборышчах, дзе джазы вушы рэзалі,
Шчасця маладога не шукаў.

А цягнік павёз зялёнай вуліцай
Маладосць маю на край зямлі,
Дзе ў каўнер ад сораму не туляцца
Фанабэрыстыя гультаі.

Нас жыццё гасцінцамі не песціла,
Пад брызентам — дахамі часовымі —
Нам было і радасна і весела,
Сустракаліся мы з навасёламі.

За пасёлкам — поле расчасанае,
Песні, трактары і... стэп стрыножаны.
Пэўна, гэта шчасце! Тое самае,
Пра якое шмат паданняў зложана.



Уладзімір ДУБОВІК

# НЕЗАБЫЎНЫ ПАХОД

### Эцюд

Як і дамовіліся папярэдне, у нядзелю раніцой усе мы з'явіліся ў спартыўную залу нашага вучылішча ФЗН. Паліна Пятроўна, фізкультурны кіраўнік, ужо чакала нас. Мы ўзялі лыжы, і аднадзённы паход пачаўся.

Маршрут: прайсці полем да лесу, які ад вучылішча за тры кіламетры; абагнуўшы яго з поўдня,— дадому. Свае ўражанні запісаць у падарожным альбоме «Нашы прыгоды».

Зіхатлівая раніца. «Мароз і сонца — дзень цудоўны», — якраз да месца пушкінскія словы.

Ідзём гуськом, адзін за адным; хлопцы наперадзе, а дзяўчаты — за імі. Некаторыя дзяўчаты ўпершыню на лыжах і ледзь паспяваюць. Смех дый годзе!

Перад лесам хлопцы кінуліся навыперадкі, дзяўчаты — таксама. Эх, і было ж тут рогату! Тая ўпала, той на таго наскочыў...

Паліна Пятроўна — выдатная лыжніца. Але яна стартавала апошняй, бо дапамагала дзяўчатам-няўмекам то падняцца, то ў лыжах умацаванне паправіць.

Нэля, за якой я следам ішоў, бегла на дзіва ўдала: не прапалі дарма заняткі ў лыжным гуртку, які ўзначальвала Паліна Пятроўна.

Пакуль мы прабіраліся лесам, захапляючыся featureнымі цудамі зімы, надвор'е сапсавалася. Аднекуль наплылі нізкія хмары і зацерушыў дробны сняжок.

— Лебядзіны пух! — закрычалі ўсе, ловячы сняжынкі рукамі.

У гэтай мітусні Нэля, штосьці згледзеўшы, збочыла і пашыбавала ў гушчар, за якім віднелася палянка. Я, нібы мяне хто падштурхнуў, ірвануўся за ёй. І... трэба ж тут здарыцца! Правая лыжына ў Нэлі засела глыбока ў снезе, умацаванне парвалася, і яна бухнулася ў гурбу. Я рынуўся ёй на дапамогу.

Трэба сказаць, я наогул сачу за Нэляй. Яна падабаецца мне. Я нават пераняў яе манеру смяяцца: засланіць рукой рот і — «хі-хі-хі», тоненька, залівіста.

І вось мы разам прыняліся за рамонт. У мяне ў кішэні быў дрот: я заўсёды бяру яго, калі іду на лыжах. Праз якія-небудзь паўгадзіны лыжына была спраўная.

— Дзякую,— сказала Нэля.

— Ага,— выдыхнуў я, і мы ад душы засмяяліся.

Выехаўшы на палянку, Нэля, захопленая хараством лесу, святочным убраннем елачак, прадэкламавала:

Вечна зялёная,
Вечна прыгожая...

І далей:

Ветры напеўныя,
Гурбы сыпучыя...
Голкі калючыя —
Сябры надзейныя.

Потым затанцавала на месцы.

Я міжволі захапляўся ёю. Кірпаты носік, аснежаная пасмачка бялесых валасоў на ілбе, чорныя дужкі-бровы і ружовыя, падпудраныя марозам шчокі — усё, да кроплі, чаравала мой зрок.

А снег ужо не цярушыў, а сыпаў і сыпаў...

Мы стаім удваіх, плячом к плячу, і прыслухоўваемся: галасоў нідзе не чутно. «Што рабіць? — нібы хоча сказаць яна, дапытліва гледзячы на мяне.— Ці гукаць сяброў, ці дадому адным адпраўляцца?»

А я адчуваю яе цёплае дыханне, дотык рукі...

Мы маўчым.

А сэрца замірае ад невымоўнага хвалявання, і... маўчанне прадаўжаецца. З Нэляй таксама нешта адбываецца. Яна ўздыхнула, і я сціснуў яе руку.

— Пусці! — ціха прашаптала яна.

Я не пускаў.

— Пусці,— паўтарыла яна ледзь чутна.

І я абняў яе.

— Пусці...— І мы пацалаваліся.

— Шалёны ты...

Чырвань залівала яе твар.

А снег усё сыпаў і сыпаў...

Назад мы ехалі шпарка. Я часта збіваўся з лыжні і ледзь паспяваў за Нэляй. А яна імчалася і імчалася... Наперад! Насустрач сцюдзёнаму ветру!

Непрывычны тэмп мяне зусім выбіваў з сіл. Я пачаў адставаць. Галаву кружыў хмель яшчэ незнаёмага пачуцця.

І вось перад маімі вачыма мільгаюць яе кіі, сыплецца снег, яна ўсё далей і далей... Яшчэ імгненне, і яна знікне ў снежнай муці.

Я спяшаюся з усяе сілы. Я даганяю... Я даганю!

Праз нейкі час цераз снежную завесу паказаліся цьмяныя будынкі. Нэля спынілася.

— Вунь, бачыш, і прыехалі,— сказала Нэля, калі я параўняўся з ёю.

— Бачу,— адказаў я. Але сам, як сляпы, углядаўся на будынкі нашага вучылішча.

Потым я зірнуў ёй у шэрыя вочы і апусціў галаву. Яна таксама засаромелася. Мы ўспомнілі прыгажуню-елачку...

— Ну, ідзі, Пеця,— не гледзячы на мяне, вымавіла Нэля.

Так мы развіталіся.

Потым стала вядома, што ўсе нас шукалі ў лесе.

Так скончыўся лыжны паход. У альбоме «Нашы прыгоды» мы з Нэляй не запісалі нічога.



Яўген КАМАРОЎСКІ

# АДНОЙЧЫ НОЧЧУ...

## Успаміны

Мал. Ю. Пучынскага.

Вечарэла.

Лёгкі ветрык, разагнаўшы восеньскія хмары, к вечару пацішэў, і на зямлю пырснулі праменні вячэрняга сонца. У іх бляску золатам адсвечвала пажоўклае лісце вішняку і маладзенькага клёну.

— Відаць, на пагоду збіраецца. Абрыдла слата за восень, хай бог крые, — нібы да самога сябе сказаў бацька, кладучы на козлы абгарэлы аскабалак. — Давай пілу.

Мы рэзалі дровы. Падабалася мне гэтая работа і асабліва тады, калі даводзілася распілоўваць аполкі. Тут і дошчак можна нарэзаць на шпакоўню, і розных кружочкаў накрываць посуд у хаце, і калкоў для памідораў. Шкада толькі, што цяпер аполкаў няма. З таго часу, як прышлі фашысты, лесапільны завод не працуе. Кажуць, што нашы, адступаючы, вывезлі машыны...

Хутка бацька паклаў пілу, сеў на камлюк і пачаў круціць папяросу.

— Можа хопіць, сынок. На дзень-два нарэзалі. Збегай на поплаў, памажы Эдзіку прынесці атавы.

— Добра, тата.

У полі прыемна пахла прэлай зямлёй і рунню. На гарызонце злёгку дрыжэў вялікі вогненны сонечны шар, пасылаючы на зямлю апошнія праменні. Усход пакрываўся шараватай смугой, і ўжо амаль што нельга было адрозніць цёмна-сінюю палоску наднёманскіх лясоў. Усё гэта вабіла сваёй прыгажосцю і да таго падымала настрой, што хацелася заспяваць.

Але спяваць нельга было — непадалёку, на чыгунцы, хадзілі фашысты. Я іх вельмі баяўся, асабліва калі здаралася быць аднаму. Мне чамусьці заўсёды здавалася, што ўсе фашысцкія кулямёты, нават той, што стаіць на дваццаціметровай вышцы, накіраваны на мяне. Такое па-

чуццё з'явілася пасля таго, як немцы аднойчы адкрылі агонь па нашай хаце. З тае пары я іх ненавідзеў і баяўся. За лета я вывучыў іх звычкі, ведаў, што вечарам яны заўсёды выстройваюцца перад сваім баракам на паверку, каб ноччу распаўзціся і палохаць людзей бясконцай страляніна́й.

... Сумна праходзіў час. Работы ніякай не было. Аб вучобе гаварыць не прыходзілася: нават школьныя будынкі зрабіліся страшнымі з таго часу, як там размясціліся фашысты. Сумаваў я па школе. Яна заўсёды ўспаміналася мне разам са словам «добра». Ідзеш, бывала, дамоў, перагортваеш на хаду сшыткі і любуешся гэтым самым словам «добра». Акуратна выведзеная рукой настаўніка, чырвоная адзнака была як-бы ўпрыгожаннем сшытка. Збоку абавязкова стаяў размашысты подпіс: «Н. П. Шавель». Я нават сам налаўчыўся распісвацца так, як наш настаўнік... Цікава, дзе ён цяпер?

Бацька заўсёды хадзіў пануры, сумны. Ён увесь час быў на двары, корпаўся на дрывотніку, прыводзіў у парадак камлюкі і асмалкі ад спаленых будынкаў. Часам ён садзіўся на калодку, даставаў з кішэні капшук з самасадам, закурваў і доўга праседжваў у задуменні. А то, бывала, устрапянуўшыся, уголас гаварыў:

— От жа навалач чорт паслаў!

Я ведаў, што гэта ён пра немцаў. Бацька нацярпеўся ад іх гора. Яшчэ ў пачатку вайны яго параніла ў правае плячо і нагу, таму ён застаўся дома. Восенню фашысты спалілі наша гумно і хлеў. Згарэла ўсё і скаціна. Ледзь ўдалося ўратаваць карову.

Весткі прыходзілі невясёлыя. Гаварылі, што немцы ўжо ля Масквы. Зграі варожых самалётаў, дзіка равучы, штодня праносіліся на ўсход. Па чыгунцы адзін за адным ішлі цягнікі з танкамі, гарматамі, войскам. Але аб тым, што немцам не соладка, гаварылі доўгія эшалоны з велізарнымі чырвонымі крыжамі. Днём і ноччу яны ішлі на захад.

Бацька, гледзячы на гэтыя эшалоны, весялеў.

— Нясмачна, ягамосьці, — гаварыў ён. — Яшчэ паглядзім, чый будзе верх!

Мы жылі ля чыгункі, і па руху варожых цягнікоў здагадваліся аб тым, што дзеецца на фронце. Нямецкім газетам і лістоўкам не верылі— брахня. Даносіліся да нас чуткі пра партызан. Я іх уяўляў сабе велікана́мі ў скураных паліто, перавязанымі крыж-на-крыж патранташамі. Расказвалі, што партызаны перабілі многа фрыцаў на Нясвіжскай шашы, павесілі старасту ў суседняй вёсцы...

Па чыгунцы, якраз насупраць нашай хаты, стаяла некалькі нямецкіх баракаў. Кожны дзень, як толькі спадаў на зямлю вячэрні змрок і пачыналі перамірґвацца ў небе зоркі, з гэтых баракаў фашысты абстрэльвалі навакольныя лагчыны і будынкі.

— Канец свой чуюць, таму і палохаюць зайцоў у чыстым полі, — гаварыў бацька і замыкаў сенцы на засаўку.

Так было і сёння. Толькі паспеў бацька бразнуць засаўкай, як пачулася кулямётная і вінтовачная страляніна. Бацька сеў ля печкі на маленькім зэдліку і закурыў, а я прымасціўся поруч з ім на падлозе і, прыслухоўваючыся да кулямётнай чаргі, не падаваў выгляду, што баюся.

— Божа, калі гэта ўсё скончыцца... — з тугой у голасе прамовіла маці.

— Баіцца фрыц, таму і страляе, — тлумачыў бацька, глыбока зацяг-





ваючыся. — Кажуць, пазаўчора пад Баранавічамі партызаны спусцілі пад адхон цягнік з танкамі і снарадамі. Хапіла фашыстам...

Пасля вячэры маці паслала пасцель, і ў хуткім часе ў хаце наступіла цішыня; толькі ходзікі цікалі на сцяне.

Мой ложак стаяў ля акна, і я выразна бачыў, як на небе дрыжалі зоркі. Прыемна было глядзець на іх мігценне і чакаць, калі якая-небудзь з іх адарвецца ад другіх, праляціць па небе, нібы трасіруючая куля, і знікне. Аднак сёння чамусьці не было настрою пазіраць у неба. У вушах стаяў кулямётны трэск, хацелася спаць. Бацька заснуў, у апошні час ён многа курыў. Павярнуўшыся на бок, я нацягнуў на галаву коўдру і заплюшчыў вочы...

Прачнуўся я нечакана ад раптоўнай кулямётнай страляніны. За акном з нейкім шыпеннем і патрэскваннем ляцелі трасіруючыя кулі, быццам іскры з паравознай топкі. Зямля час-ад-часу асвятлялася ракетамі. Глуха бухалі ні то мінамёты, ні то гарматы.

— Апранайся, сынок, — пачуў я ўстрывожаны голас маці. Хата можа загарэцца.

Бацька быў ужо апрануты і раскатурхваў соннага брата.

— Ціха, — раптам устрывожана прашаптаў ён. — Нехта, здаецца, ходзіць за сцяною.

Мы прыслухаліся. Сапраўды, выразна былі чутны хуткія крокі, быццам хтосьці бег. Бацька падскочыў да акна і ў тую ж хвіліну прамовіў:

— Ніна, ды ты паглядзі, гэта ж партызаны!

Мы прыпалі да вокан. Па агародзе і за плотам, паўз сцены беглі, прыгінаючыся да зямлі, людзі. У прамежках, калі гасла нямецкая ракета, можна было выразна ўбачыць, як чорныя постаці людзей імкліва перабягалі з аднаго месца на другое.

Страляніна ўзмацнялася. Зямля раз-по-разу асвятлялася ракетамі. Нізка, амаль па самай зямлі, ляцела мноства запальных куль; глуха, з трэскам ірваліся міны. А людзі ўсё беглі і беглі то невялічкімі купкамі, то па аднаму без адзінага стрэлу.

За акном пачало хутка святлець. Чырвоны бляск зарыва поўз па загонах, па плоце, адсвечваўся на жоўтым вішняку. Клубы дыму знікалі ў чорнай бездані ночы.

Бацька выскачыў у сенцы.

— Лапкоўскі гарыць! — крыкнуў ён і кінуўся на двор.

А тымчасам на чыгунцы пачалася такая страляніна, што ўсё злілося ў адзін аднастайны грукат — прарэзлівы і страшны. Захліпаліся аўтаматы, мінамёты, і, быццам кропкі з працяжнікамі, далёка цягнуліся перарывістыя каляровыя ланцужкі кулямётных чэргаў. Сцены хаты ўздрыгвалі ад выбухаў мін; калі сціхаў кулямётны трэск, выразна даносіліся крыкі людзей.

Гарэлі падпаленыя фашыстамі будынкі. Афарбаваныя ў барвовы колер хмары і асветленая зарывам зямля набылі незвычайны, нейкі злавесны выгляд...

Паступова страляніна пачала сціхаць. Радзелі кулямётныя чэргі, усё менш і менш асвятлялася ракетамі зямля. Толькі водбліск пажару яшчэ свяціўся на ўзгорках, прабіваючы густы асенні туман.

Колькі прайшло часу, як пачаўся бой, ніхто ў хаце не ведаў. Бацька, маці і мы, дзеці, сядзелі проста на падлозе ля печы, хадзіць па хаце або стаяць было нельга: ляталі кулі. Плямы прабоін выразна чарнелі на атынкаванай сцяне. У трывожным маўчанні цяклі хвіліны. За ўвесь час ніхто не прамовіў і слова, толькі маці божкала пры кожным выбуху.

Здавалася, што гэта будзе цягнуцца бясконца.

Можа так мы праседзелі б да самай раніцы, калі б не раптоўны стук у дзверы. Некалькі разоў ціха забразгацела клямка, і ў сенцах пачуўся тупат чалавечых ног.

— Хто там? — азваўся бацька, выходзячы ў сенцы.

Ад страху мы з братам кінуліся пад ложак. Брат заплакаў. Маці забегала па хаце, гатовая да ўсяго.

— Свае, таварышы, не палохайцеся, — раздаўся з цемнаты мяккі мужчынскі голас.



Хату запоўнілі людзі. Недзе ў кутку забразгала аб вядро конаўка, нешта цяжкае ўпала на падлогу. — «Партызаны», — маланкай мільганула ў мяне думка.

— Гаспадар, — звярнуўся да бацькі той жа мужчынскі голас. — Тут у нас адзін таварыш паранены. Ты правядзі яго да ляска. Не бойся, фрыцаў мы ўсіх адправілі на той свет. Пакуль ім падыйдзе падмога, наш след прастыне.

Тым часам маці, зразумеўшы, што ў хаце свае людзі, чыркнула запалкай, і неўзабаве ў цьмяным святле газоўкі можна было ўбачыць некалькі незнаёмых людзей. Яны былі моцна стомленыя, некаторыя з іх тут жа прыселі, хто дзе мог, другія завіхаліся каля раненага, які сядзеў на падлозе, абапёршыся плячыма аб сцяну.

Цяжка было ўявіць тых партызан, якіх малявала маё дзіцячае ўяўленне. Адзенне на іх было самае разнастайнае: ад звычайнага вясковага кажуха і ватоўкі да цёплай палескай безрукаўкі. Той, што сядзеў на падлозе, быў апрануты ў чорнае паліто.

Маці выйшла ў сенцы і хутка вярнулася, несучы перад сабою збанок.

— Можа б малачка выпілі, таварышы, — працягнула яна конаўку партызанам.

— Дзякуем, маці, не адмовімся, — і медная пасудзіна пайшла па руках стомленых людзей. Маці па чарзе налівала ў яе халаднаватае малако. Яна нагнулася над раненым і асцярожна паднесла да яго губ конаўку, але тут жа рука яе як бы затрымалася і яна пачала прыглядацца да чалавека.

— Што, Ніна Паўлаўна, не пазналі? — хворы ўзварухнуў плячыма, і ледзь-ледзь прыкметная ўсмешка асвяціла на момант яго змучаны твар.

Маці яшчэ некалькі імгненняў маўкліва глядзела на партызана.

— Людзі добрыя! Ды гэта ж Нікалай Іванавіч! Ад здзіўлення маці ўспляснула рукамі і паглядзела на абступіўшых яе партызан, як бы жадаючы пераканацца ў правільнасці свайго меркавання.

— Так, так, маці, гэта наш камісар атрада, — з гонарам прамовіў высокі, яшчэ зусім малады хлопец.

«Няўжо гэта Нікалай Іванавіч?», не верылася мне. Я падбег да маці і пачаў углядацца у твар свайго любімага настаўніка.

— А, гэта ты, Янка? — Нікалай Іванавіч крыху падняўся на руках і ласкава паглядзеў на мяне. — Сумуеш па школе? Вось прагонім фашыстаў і тады, брат...

Нікалай Іванавіч раптам змоўк, твар яго скрывіўся ад болю. «Мілы, дарагі Нікалай Іванавіч» — мне стала да слёз шкада гэтага мужнага чалавека.

У хату ўвайшоў бацька і некалькі партызан.

— Ну, таварышы, пара ў дарогу, — паспешна прамовіў адзін з партызан, папраўляючы папругу і закідваючы на плячо бліскучы аўтамат.

Калі раненага Нікаля Іванавіча клалі на павозку, маці заплакала. Яна паспела сёе-тое завязаць яму ў торбачку. «Каб хутчэй папраўляўся», — гаварыла яна.

Праз хвіліну ў хаце і на двары запанавала цішыня. Не спяшаючыся, маці прымкнула сенцы, увайшла ў хату і моўчкі села на ложак. На прыпечку цьмяна капцела газоўка. Брат спаў ля ложка, падлажыўшы пад галаву рукі.

Я быў моцна ўсхваляваны падзеямі гэтай бурнай ночы. Перад вачыма стаяў вобраз настаўніка, з імем якога было звязана ўсё самае лепшае з майго дзяцінства.

— Мама, ужо, мабыць, позна?

— Кладзіся, сынок, спі, хутка пачне на свет займацца.

У хлеўчыку заспяваў певень. Захацелася спаць...

Назаўтра пасля абеду да нас зайшоў сусед і перадаў маці запіску. «Дарагая Ніна! Не сумуй і глядзі дзяцей. Я застаюся ў атрадзе. Міша».

Маці нічога не адказала. Твар яе зрабіўся сур'ёзным, задуменным. Потым яна падышла да мяне і брата і пагладзіла нас па галаве сваімі худымі, мазолістымі рукамі.



*Размова аб майстэрстве*

**Вера ПАЛТАРАН**

# СЭНС МАСТАЦКАЙ ДЭТАЛІ

Ляснічы Архіп Спірыдонавіч Шульга * пагадаваў сваіх дзяцей, і яны, адчуўшы моц маладых крылляў, разляцеліся кожны ў сваю дарогу. Старэйшы, Хведар, вывучыўшыся, ужо сам вучыў студэнтаў нейкай мудрай навуцы, назву якой бацьку ніяк не ўдавалася запомніць, малодшы, Сямён, працаваў у Кіеве ўрачом. Архіп Спірыдонавіч застаўся ў родным гняздзе дажываць веку са сваёю ціхманаю, працавітаю жонкаю. Адзін за адным ціха паплылі гады, робячы сваю руйнацкую справу. Нечакана памёрла жонка Архіпа Спірыдонавіча. На журботнае развітанне прыехалі абодва сыны. Старэйшы, Хведар, стаяў ля труны, учарнелы ад гора; вочы яго гарэлі сухім, пякучым агнём. Малодшы, Сямён, усё неяк тупаў на месцы, гучна ўсхліпваў, а калі пачалі выносіць труну, падставіў пад яе сваё плячо, не забыўшыся захінуць яго клятчатаю хусцінаю, каб не запэцкаць пінжака.

...Перасіліўшы цікавасць, якая ўзнікае з першых радкоў да такіх не падобных адзін да другога сыноў Архіпа Спірыдонавіча, спынім сваю ўвагу на першых рысах, першых дэталях, якія акрэсліваюць іх характары.

Хведара смерць маці ўразіла да глыбіні душы. На нейкі час, пакуль перад яго вачамі быў яе скамянелы, нежывы воблік, свет перастаў існаваць для яго; у сынавым сэрцы не было іншага пачуцця, акрамя смутку вечнай ростані з дарагім і блізкім чалавекам. Гэты душэўны стан Хведара пісьменнік паказвае праз дзве дэталі: учарнелы ад гора твар і сухі, пякучы бляск вачэй. Самі па сабе гэтыя дэталі скупыя, нешматслоўныя. Але ў дадзеным выпадку іменна гэта і патрэбна было пісьменніку, бо гаваркая толькі чалавечая радасць, гора ж чалавечае — маўклівае, невымоўнае.

Смерць маці засмуціла і Сямёна. І ён па-свойму перажываў гэтую страту: глытаў слёзы, неяк недарэчна тупаў на месцы, гучна ўсхліпваў. Для паказу душэўнага стану Сямёна аўтар знайшоў дэталі зусім іншага сэнсу, чым для пе-

* Натан Рыбак. Заранкам насустрач. «Вітчызна» № 2, 1958.

радачы настрою Хведара. І гэты, іншы, сэнс — у знешнім, а не ва ўнутраным выяўленні пачуцця.

Такім чынам, наша думка пра сыноў Архіпа Спірыдонавіча накіравана пісьменнікам у вельмі пэўных напрамках. У нас пачынае складвацца ўяўленне пра Хведара, як пра чалавека шчырага, праўдзівага, а Сямён нас моцна насцярожвае: што ён за чалавек?

Каб адказаць на гэтае пытанне, яшчэ крыху пройдземся па жыццёвай сцежцы асірацелага пасля смерці жонкі Архіпа Спірыдонавіча.

Застаўшыся адзін, Архіп Спірыдонавіч неўзабаве перадаў свае справы новаму ляснічаму, а сам парашыў наведаць сваіх сыноў, паглядзець, як яны жывуць, нават неяк прымерацца да іх жыцця, бо адзінота яму вельмі надакучыла. Невядома, чаму, — мо' таму, што Кіеў быў бліжэй, чым Екацярынаслаў (усё гэта адбывалася яшчэ ў час імперыялістычнай вайны), — Архіп Спірыдонавіч наведаўся спачатку да Сямёна.

Калі Архіп Спірыдонавіч з'явіўся на кватэру да сына, пакаёўка ў беласнежным фартушку, падазрона зірнуўшы на яго юхтавыя запыленыя боты, сказала, што «Сямён Архіпавіч сёння хворых не прымаюць». Лёгенька адхіліўшы яе ўбок, Архіп Спірыдонавіч прайшоў цераз прасторны пярэдні пакой і, адчыніўшы нейкія дзверы, трапіў у сынаў кабінет. Першае, што ён убачыў, былі перапалоханы, разгублены Сямёнаў твар. На ім не было і ценю радасці ад сустрэчы з бацькам. Каб пагасіць гэтую Сямёнаву трывогу, абражаны Архіп Спірыдонавіч сказаў, стоячы ў парозе:

«— Я, шаноўны, жыць у цябе не збіраюся. Вось як... І прасіць грошай таксама не буду. Мне свайго заробленага хопіць. А на мае боты вочы не вырачвай. Гэтымі ботамі я табе сцежку вытаптаў да ўсяго гэтага...

Архіп Спірыдонавіч абвёў навокал сябе рукою, паказваючы на мэблю і сцены, увешаныя карцінамі і застаўленыя зашклёнымі шафамі».

Прывітаць свёкра зайшла ў пакой Сямёнава жонка — худая, высокая, нямоглая жанчына. Старому ляснічаму яна нагадала сабою высахлае дрэва, паточанае караедам. У вачах яе застыў не то перапалох, не то перасцярога: маўляў, не падыходзьце да мяне блізка, а то рассыплюся на парахню. Архіп Спірыдонавіч успомніў словы нябожчыцы-жонкі, што Сямён узяў за гэтаю прафесарскаю дачкою ў пасаг два шматпавярховыя дамы і некалькі дзесяткаў тысяч золатам у банку.

Ад сустрэчы з нявесткай у Архіпа Спірыдонавіча стала яшчэ больш прыкра на душы. Узнікла і пачало расці нядобрае пачуццё да прагнага Сямёна, які дзеля грошай ажаніўся з гэтай сухастоінаю. Адмовіўшыся ад абеду, Архіп Спірыдонавіч выпіў на дарогу шклянку вады і, саромячыся за сына, сказаў, што ў яго — тэрміновая справа ў земстве і яму трэба ісці.

«Ужо выйшаўшы з пад'езду, ён звярнуў увагу на медную таблічку, якая паблісквала ў праменнях вячэрняга сонца. Архіп Спірыдонавіч уздзеў акуляры і ўважліва прачытаў: «Дацэнт Сямён Архіпавіч Шульга — прымае ўсе дні ад другое да пятае, акрамя нядзелі».

— Архіпавіч, та-а-ак, — прамовіў сам сабе Архіп Спірыдонавіч і з дакорам паківаў галавою. Каб было каму, ён бы зараз прызнаўся, што слова «Архіпавіч» ён з задавальненнем сцёр бы з таблічкі».

Цяпер мы ўжо вельмі пэўна можам сказаць, які ён чалавек, гэты дацэнт Сямён Архіпавіч Шульга, хоць пісьменнік не сказаў ад сябе пра яго ні слова. Ён толькі паказаў нам яго ў найбольш характэрных душэўных праяўленнях, мяркуючы па якіх, мы самі дадзім поўную і беспамылковую характарыстыку герою. Вось гэтае ўменне паказаць чалавека ў момант, калі самая сутнасць яго характару, яго душы раскрыецца ў нейкім вельмі характэрным учынку, — гэтае ўменне з'яўляецца неад'емнаю рысаю кожнага сапраўднага мастака. Яно вымагае глыбокага ведання чалавечае натуры і наогул жыцця.

І яшчэ адзін штрых, адна дэталь, вельмі значная ў дачыненні да сутнасці вобраза Сямёна. Прыгадаем кашчавую, нядошлую Сямёнаву жонку. Нездарма ж пры яе ўваходзе ў сынаў кабінет Архіп Спірыдонавіч успомніў тыя дзесяткі тысяч залатых рублёў, якія Сямён узяў за ёю ў пасаг.

Паставіўшы побач дзве дэталі: непрывабны воблік жанчыны і залатыя рублі, якія сваім бляскам засцямнілі для Сямёна гэтую жаночую непрывабнасць, пісьменнік паказаў нам, на які кампраміс з уласным сумленнем пайшоў дзеля грошай малодшы сын Архіпа Спірыдонавіча.

Так, паступова раскрываючы сутнасць чалавечага характару, пісьменнік падводзіць нас да тае мяжы, за якою заканчваецца «знаёмства» і пачынае складвацца прысуд раскрытай жыццёвай з'яве. У дадзеным выпадку жорсткі сынаў эгаізм сурова асудзіла бацькава сэрца: у Архіпа Спірыдонавіча з'явілася моцнае жаданне сцерці сваё імя з бліскучай шыльдачкі на дзвярах Сямёнавай кватэры. Калі б Архіп Спірыдонавіч пасварыўся з сынам, аблаяў яго самымі крыўднымі словамі, і нават пракляў яго, бацькава гора мы не адчулі б так глыбока, як гэта дала нам адчуць адна ўдала знойдзеная пісьменнікам мастацкая дэталь.

Ды, уласна кажучы, абражаныя бацькоўскія пачуцці Архіпа Спірыдонавіча і не маглі шукаць выйсця ў крыку або лаянцы. Такое праяўленне душэўнай узрушанасці больш за ўсё ўласціва натурам слабавольным. Архіп жа Спірыдонавіч — чалавек моцнага характару.

Вось тут само сабою і ўзнікае пытанне аб паслядоўнасці, ці, лепш сказаць, аднолькавай сэнсавай накіраванасці ўсіх тых мастацкіх дэталей, якія павінны служыць раскрыццю чалавечага характару.

Як можна было заўважыць на вобразе Сямёна, пісьменнік вельмі строга дабірае адну да аднае ўсе мастацкія дэталі. І падбор гэты робіцца па аднаму прынцыпу — па іх унутранаму сэнсу, па аднолькавай псіхалагічнай накіраванасці. Для таго, каб мы добра ўявілі сабе чалавека, якога малюе нам пісьменнік, трэба, каб характар гэтага чалавека быў паслядоўна раскрыты ў творы праз шэраг учынкаў або душэўных праяўленняў, псіхалагічна паслядоўных у дачыненні адно да другога. Калі ж гэтыя ўчынкі будуць супярэчлівыя па свайму сэнсу, то мастацкага характару яны сабою не акрэсляць.

Безумоўна, чалавек — істота вельмі складаная і, панаглядаўшы за ім, не адны паслядоўнасці заўважым мы ў яго характары. Але калі глыбей над гэтым падумаць, то нейкаю рысаю характару таго ці іншага чалавека паслядоўна падрыхтавана і тая «непаслядоўнасць», тая нечаканасць, якая здзіўляе нас часам з першага позірку.

Пісьменнік строга сочыць за ўчынкамі свайго героя, за паслядоўнасцю яго самавыяўлення. І ў залежнасці ад таго, наколькі яго ўчынкі будуць псіхалагічна адпа-

вядаць адзін другому, настолькі выразна будзе ўзнікаць перад намі пэўны тып чалавека.

У гэтай сувязі цікава будзе ўспомніць, як дакладна вызначаў лінію паводзін сваіх герояў Кузьма Чорны — вялікі знаўца чалавечай душы, адменны майстар мастацкай дэталі.

Пастушок Міхалка Тварыцкі падгледзеў, дзе кулак Скуратовіч схаваў ад прадатрада сваё збожжа. Прыгнечаны галечаю, хлопчык лёгка паддаецца на ўгаворы кулака не выдаваць яго. А праз некалькі дзён пасля іх гэтае размовы вяскоўцы дзіву даліся: чаму гэта ў Тварыцкіх, як запаляць у печы, кожную раніцу смажаным салам пахне? Не калолі ж яны нічога, ды і свінчаці ў іх двары не было. Яшчэ больш здзівіла ўсіх тое, што стары Тварыцкі малоў у млыне мяшок жыта пудоў на чатыры: ніхто не чуў, калі ён паспеў намалаціць гэтулькі.

Вось так, вобразна, праз дзве невялікія бытавыя дэталі, пісьменнік паказаў тую аснову, на якой Скуратовіч паладзіў са сваім пастушком.

На Скуратовічавым хутары Міхалка бачыў толькі хлусню, ашуканства і страшэнную прагнасць да багацця. І ў яго душы пачынае складвацца ўражанне, што гэта — тыя самыя неабходныя чалавеку якасці, без якіх ён не можа абысціся ў жыцці. Яшчэ дзіця, Міхалка пачынае хітраваць, каб з гэтае свае хітрасці мець выгаду: які пуд жыта ці кавалак сала.

Бачачы, куды пачынае хіліцца дзіцячая душа, Скуратовіч сваёю воўчаю філасофіяй імкнецца ўмацаваць у гэтай душы недаверлівасць да людзей, да жыцця. Ён вучыць Міхалку:

«На свеце што робіцца? Чалавеку ж ніколі не вераць, каб хоць сканаў, каб хоць крыжам лёг. Кожны ў чалавеку ворага бачыць, як ты добра з людзьмі ні будзь... Ты яшчэ малы, дурны. Жыць ты яшчэ не ўмееш з людзьмі, як трэба. Тое, што ты маеш, людзям не паказвай, бо адбяруць. А чалавека чорная часіна заўсёды можа спасцігнуць. Каму ты верыш? Людзі табе памогуць? Кожны стараецца, каб сабе ўварваць, а ніто што!»

І скуратовічава навука не прапала. Міхалка таксама пачынае глядзець, каб дзе чаго ўварваць. Застаўшыся адзін у хляве даглядзець каня нанач, ён скубяне з чужых саней пярэбірак, каб падкінуць свайму каню, убачыць на дарозе палавіну зламанай дугі — таксама не абыйдзе.

Па гэтых дэталях у нашым уяўленні пачынае складвацца тып чалавека-злыдня, скнары, які заўсёды спрыяе толькі сабе, нават за кошт свайго суседа. Такім чынам намячаецца канфлікт чалавека-ўласніка з іншымі людзьмі, з грамадствам. Праўда, роля грамадскага ў гэтым канфлікце яшчэ малая.

Але вось Міхал Тварыцкі, ходзячы па лесе, выпадкова натрапіў на забітага чалавека і знайшоў каля яго многа грошай. Гэтыя грошы ён узяў сабе. «Я нікога не забіў, не абакраў, — разважае Міхал, — а знайшоў іх — і гэта маё шчасце». Але Міхалава шчасце стала папярок дарогі шчасцю і дабрабыту дзесяткаў тысяч людзей. Справа ў тым, што гэтыя грошы былі прызначаны на будаўніцтва раённай электрастанцыі.

Пісьменнік мог паказаць, што Міхал Тварыцкі знайшоў так чые-небудзь грошы і прысвоіў іх сабе. У такім выпадку канфлікт не меў бы такога шырокага грамадскага сэнсу. А каб вынесці прысуд Міхалу Тварыцкаму, неабходна было надаць гэтаму канфлікту шырокае грамадскае гучанне, раскрыць грамадскую сутнасць міхалавых жыццёвых пазіцый. Вось чаму Міхал знаходзіць



не проста грошы, а грошы, прызначаныя на вялікую народную справу. У гэтым выпадку антыграмадская, антынародная сутнасць яго ўчынку, а значыць і яго характару, яго жыццёвых прынцыпаў выступае ў сваёй найбольш выразнай форме.

Такім чынам, цераз увесь раман «Трэцяе пакаленне» прайшла адна рыса галоўнага героя Міхала Тварыцкага — яго недавер да ўсяго, што ёсць на свеце, яго нават нейкая ваяўнічая абмежаванасць колам уласных інтарэсаў, яго крайні індывідуалізм. Рыса гэтая раскрылася так ярка, усебакова і глыбока па той прычыне, што ўсе сродкі яе раскрыцця— мастацкія дэталі былі нацэлены ў адну кропку.

Мы часта паўтаралі тут тэрмін «мастацкая дэталь». Што ж яна такое — гэтая самая мастацкая дэталь, які яе сэнс?

Мастацкая дэталь — гэта найбольш эканомны сродак раскрыцця думкі, гэта кандэнсацыя думкі, даведзенай да самай высокай ступені выразнасці.

Нямала слоў патрацілі б мы для таго, каб давесці, што, напрыклад, інжынер Баеўскі — кар'ерыст. А пісьменнік І. Гарэлік * пераконвае нас у гэтым адной дэталлю. Ледзь дачакаўшыся, пакуль «павысілі» начальніка яго аддзела, Баеўскі ў той жа момант «павышае» сам сябе, паставіўшы свой стол наўскасяк: каб адразу было відно, хто тут начальства.

Або ўзяць механіка сыраварні трапяткога Рыгорку з аповесці К. Чорнага «Вясна». Увесь яго клопат сканцэнтраваны на тым, каб задаволіць сваю ненаедную натуру. Рыгор употай цягае з гарышча каўбасы і есць іх, схаваўшыся ад жонкі і дачкі. Калі, здаралася, яго частавалі і ставілі на стол шклянкі і кубкі, Рыгор барджэй хапаўся за кубак: у ім не відаць, калі трохі і перальеш. Сварачыся на жонку і дачку, каб не сядзелі, склаўшы рукі, ён ведае адну работу: прыладжвае замок на кубел з салам. Тры штрыхі, тры характэрныя рыскі — і чалавек відаць, як на далоні.

Высокая скандэнсаванасць думкі — не адзінае, што вызначае сутнасць мастацкай дэталі ў творы. Не менш істотнаю рысаю з'яўляецца яе нагляднасць, яе жывы, зрокавы, адчувальны характар. Кожная мастацкая дэталь мае ярка выражаную эмацыянальную аснову, і дзякуючы гэтаму яна вельмі непасрэдна ўздзейнічае на нашы пачуцці, выклікаючы жаль, смутак, радасць, злосць і г. д. Успомнім, якое абурэнне, нават агіду выклікаў у нас Сямён Архіпавіч Шульга з памятнаю хусцінаю на плячы.

Зусім іншае гаворыць нашаму сэрцу другая мастацкая дэталь, ужытая Кузьмой Чорным у апавяданні «Начлег у вёсцы Сінегах». Жанчына будзіць свайго малога сына, каб ён пагнаў папасвіць карову. Яшчэ вельмі рана, і малы хоча спаць, а тут у яго нешта і нагу нарвала. Ён плача і ніяк не можа расплюшчыць вочы.

«Устань сынок, я табе новыя анучы ад свае старое сарочкі адарвала, каб табе было чым нагу мяккім абкруціць. Абуеш Міхалкавы лапцікі, яны табе велікаваценькія і вольна назе будзе... Устань, сынок».

У кожнага, хто прачытае гэтыя скупыя радкі, неяк міжволі сціскае ў горле, а вочы пачынаюць свяціцца вільготным бляскам. Уражаныя веліччу матчынага сэрца, мы дзівімся той мужнасці, з якою яно шукае свайму дзіцяці хоць якое-небудзь уцехі сярод вялікай неўладкаванасці жыцця. Мяккія анучы, велікаваценькія Міхалкавы лапцікі — вось тыя вельмі выраз-

* І. Гарэлік. Прынцыповая пазіцыя. Апавяданні 1956 года. Масква, 1957.

ныя дэталі, у якіх свеціцца святая матчына любоў, бясконцая яе пяшчота. Да гэтага трэба дадаць, што выяўленчая сутнасць гэтых дэталей намнога выйграе ад самой іх слоўнай інструментоўкі. Жанчына магла сказаць: «Абуеш Міхалкавы лапці, яны табе велікаватыя...» Але тут не было б той бязмежнай матчынай пяшчоты, якая схавана ў памяншальнай форме гэтых слоў, ужытай пісьменнікам.

Навакольны свет — багатая, невычарпальная скарбніца жывых, поўных глыбокага сэнсу і хараства праяў усемагутнага жыцця. Але самі па сабе гэтыя праявы яшчэ нямыя, невымоўныя. Пісьменнік сілаю свайго розуму, відучасцю сваё душы пранікае ў глыбіні жыцця, чэрпае з іх жывыя, многафарбныя вобразы. І гэтыя вобразы, прайшоўшы праз душу мастака, як праз вялікае чысцілішча, трацяць усё лішняе, нязначнае і насычаюцца вялікаю чалавечаю мудрасцю.

Да чаго б ні дакрануўся сваёю рукою мастак, усё ажывае пад яго разумным дакрананнем, усё акрыляецца думкаю. І нязначная на першы погляд жыццёвая праява набывае вялікі чалавечы сэнс. Вось гарадскі смяццяр пакахаў жанчыну. І з гэтага часу ўсё, што яе акружае, здаецца яму самым прыемным у свеце. Нават смецце, якое ён вывозіць з двара міс Стэлы Сіблі, выклікае ў яго душы нейкае замілаванне. Ён не хавае свайго пачуцця, і жанчына часта чуе прыкладна такое прызнанне: «Міс Стэла, ваша смецце — самае найлепшае ў свеце. Я не саромлюся везці яго па гораду... А ў другіх — хіба ж гэта смецце!» (Эрскін Колдуэл. «Гордасць міс Стэлы Сіблі». Пераклад з англійскай мовы С. Л. Дорскага).

З-за мяккай, крыху іранічнай усмешкі пісьменніка, якая тоіцца ў самім падборы мастацкіх дэталей, схавана вялікая любасць да маленькага чалавека са светлай і чыстай душою, які вымушаны з дня ў дзень чысціць і апратваць чужыя сметнікі. А побач з ім жыве другі чалавек, чысценькі з выгляду, але з бруднай, як сметнік, душою; ён урываецца ў жыццё міс Стэлы, у мары смецяра і пакідае пасля сябе адзін бруд.

Мастацкая дэталь служыць пісьменніку не толькі для таго, каб даць жывы малюнак псіхалагічнага стану чалавека, яго характару. Яе прымяненне ў мастацкім творы носіць вельмі разнастайны характар.

З дапамогаю ўдала знойдзенай дэталі пісьменнік можа адным штрыхом акрэсліць партрэт чалавека. Бацюшка з аповесці Якуба Коласа «У палескай глушы» заўсёды меў такі выраз твару, нібы яму хацелася чыхнуць. Гэтая рыска адразу робіць бацюшку смешным у вачах чытача і выяўляе іранічныя адносіны аўтара да свайго героя.

А вось яшчэ партрэт героя, толькі ўжо ўнутраны, псіхалагічны. Аляксандра Аляксандраўна Кушч, інструктар аддзела кадраў аднаго трэста, за ўвесь свой век ні разу не пакідала сцен свайго службовага пакоя. І вось аднойчы ўлетку яна паехала за горад, у піянерскі лагер, наведаць сваю дачку. «... Яна ішла задумаўшыся, пачула шорах лісця і спалохалася: ёй здалося, што гэта вецер здувае са стала параскіданыя дакументы» *.

А колькі дзівосных малюнкаў прыроды стварылі мастакі слова, паставіўшы асяродкам гэтых малюнкаў адну якую-небудзь характэрную рыску, якая адразу раскрывае змест той ці іншай з'явы прыроды, хараство навакольнага свету! Успомнім цудоўны малюнак Дняпра з апавядання Гогаля «Страшная помста», жывыя, невымоўна прыгожыя і поўныя глыбокага сэнсу пейзажныя замалёўкі ў творах Коласа, Лянонава, Прышвіна, Паустоўскага. Яны, гэтыя замалёўкі прыроды, значныя і каштоўныя тым, што, раскрываючы свет прыроды, пісьменнік раскрывае праз яго пэўныя рысы самое чалавечае сутнасці, пэўныя бакі жыцця. У аповесці «Вясна» Кузьмы Чорнага ёсць такі малюнак:

«Хаты гнуліся да зямлі, кастрыца і ўлетку не прымалася з-пад вокан. Прызбы паўрасталі ў зямлю, на стрэхах расла лебяда і мох. На Мікуцёвай хаце нават буяла каліва добрага жыта. Усё зраслося, сплялося, састаялася за век і ўязджала пакрысе ў зямлю»...

Гэта не толькі тыповы для свайго часу пейзаж, — гэта малюнак вясковага жыцця, зляжалыя, здзірванелыя пласты якога трэба было падымаць у памятныя трыццатыя гады. На фоне таго новага, што прыкмеціў пісьменнік у жыцці вёскі, малюнак гэты набывае сімвалічны сэнс: уязджае, асядае глыбока ў зямлю, парахнее ўвесь стары ўклад вясковага жыцця, адыходзіць у нябыт старасвеччына.

Мастацкая дэталь для пісьменніка — не самамэта, а сродак раскрыцця думкі. Калі ж ніякай думкі за ёю не ўгадваецца, то якой бы маляўнічай гэтая дэталь ні была, усёроўна яна траціць усякі сэнс.

Але бывае і так, што тая ці іншая падмечаная ў жыцці рыска, дэталь сама па сабе і мае сэнс, але яе дачыненне да ўсяго мастацкага вобраза ў цэлым вельмі слабае. У такім выпадку патрабавальны пісьменнік не пашкадуе выкінуць яе, як непатрэбную бразготку, каб не адцягвала ўвагу чытача ад галоўнай, асноўнай думкі. З гэтага повада Чарнышэўскі некалі пісаў: «Якой бы замыславатай або прыгожай ні была сама па сабе пэўная падрабязнасць — сцэна, характар, эпізод, — але калі яна не служыць больш поўнаму выражэнню асноўнай ідэі твора, яна шкодзіць яго мастацкасці».

Мастацкая дэталь у творы — гэта жывое праяўленне чалавечага характару або тых сувязей, якімі звязаны чалавек з навакольным светам. І чым глыбей ведае пісьменнік жыццё, тым больш ён умее выбраць з усёй бясконцай разнастайнасці жыццёвых праяўленняў самае істотнае, самае тыповае. А паколькі сутнасць той ці іншай жыццёвай з'явы ў мастацкім творы раскрываецца не інакш, як праз пэўныя рысы чалавечага характару, пастолькі мастацкая дэталь, як жывое ўвасабленне гэтых рысаў, набывае першаступеннае значэнне для стварэння паўнацэннага мастацкага вобраза.

* М. Юфіт. У камандзіроўцы. Апавяданні 1956 года. Масква, 1957.

**В. ЦІМАФЕЕВА,**
**кандыдат філалагічных навук**

# ЯНКА КУПАЛА Ў ЧЭХАСЛАВАКІІ

Пытанне аб чэшска-беларускіх літаратурных сувязях, нажаль, яшчэ вельмі мала распрацавана ў нашым літаратуразнаўстве. А між тым, гісторыя і чэшскай і беларускай літаратуры дае для яго распрацоўкі багатыя матэрыялы.

Цікавасць чэшскай літаратурнай грамадскасці да беларускай літаратуры асабліва ўзрасла ў гады першай рускай рэвалюцыі. Чэшскія літаратары і грамадскія дзеячы звярнулі ўвагу на паэзію вялікага грамадскага гучання Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Першае ў чэшскім перыядычным друку ўпамінанне пра Янку Купалу, як аднаго з буйнейшых беларускіх паэтаў, паявілася ў 1908 годзе ў часопісе «Славенскі прэглед» («Славянскі агляд»), дзе быў змешчаны артыкул пра абуджэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў. Аўтар гэтага артыкула знаёміць чытачоў з нацыянальным воблікам беларусаў, але найбольшую ўвагу ён удзяляе беларускай літаратуры другой паловы XIX ст. і называе імёны Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча і інш. У артыкуле ўпамінаецца і «Наша ніва», на старонках якой друкаваліся творы Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Больш грунтоўна пазнаёміў чэшскіх чытачоў з творчасцю Янкі Купалы выдавец і рэдактар таго ж часопіса «Славенскі прэглед» Адольф Чорны ў 1911 годзе ў газеце «Час». Яго артыкул называецца «Беларускі нацыянальны і літаратурны рух у 1909—1910 гадах». Аўтар знаёміць у ім чэшскую грамадскасць з перыядычнымі выданнямі на беларускай мове і характарызуе паэзію Янкі Купалы, якая з'яўляецца «найбольш арыгінальнай, найбольш спелай і найбольш шматабяцаючай з'явай маладой беларускай паэзіі». Адольф Чорны адзначае перш за ўсё блізкасць Янкі Купалы да народа: «... выйшаў з народа, належыць народу і сваім жыццём, і сваёй творчасцю». Адсюль ідуць, адзначае аўтар, і «своеасаблівасць яго вершаў, жывасць і выразнасць яго мовы, натуральнасць і прастата вобразаў, меладычнасць формы, народнасць сюжэтаў і ўсяго духу яго паэзіі, якая часта нагадвае народныя песні». Сваю высокую ацэнку паэзіі Купалы аўтар ар-



тыкула падмацоўвае перакладам верша «А хто там ідзе?», які «сваёю суровай, але сур'ёзнай і катэгарычнай прастатой хвалюе да глыбіні душы і адначасова вельмі трапна характарызуе ўсю разбуджаную самасвядомасць беларусаў». Пераклад гэтага верша, а за ім другога — «Песня і сіла» былі самай ранняй публікацыяй вершаў Купалы на чэшскай мове.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі чэшска-беларускія літаратурныя сувязі пашыраюцца і ўзмацняюцца. Немалую ролю ў гэтым адыгралі паездкі беларускіх пісьменнікаў у Чэхаславакію ў 1925, 1927, 1935 гг. Янка Купала, які наведаў Чэхаславакію тры разы, карыстаўся там вялікай папулярнасцю і кожны яго прыезд павялічваў цікавасць чэхаславацкай грамадскасці да яго творчасці. У 1925 г. у пражскім часопісе «Славянская кніга» быў змешчаны артыкул, прысвечаны 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Купалы. «Славенскі прэглед» змясціў у перакладзе на чэшскую мову вершы юбіляра «Брату-беларусу», «Цару неба і зямлі», «Мая вера», «Не глядзі».

Найбольшы водгук выклікаў прыезд Купалы ў Чэхаславакію ў 1927 годзе. У адным са жнівеньскіх нумароў орган Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Чэхаславакіі газета «Рудэ права» паведаміла сваім чытачам аб прыездзе «вядомага беларускага паэта і пісьменніка Янкі Купалы на лячэнне ў Карлавы Вары» і змясціла артыкул аб яго жыццёвым і творчым шляху. «Янка Купала,— піша аўтар артыкула, — мае для беларусаў тое ж значэнне, што і Тарас Шаўчэнка для украінцаў, Міцкевіч для палякаў, Пушкін для рускіх. Купала мае перад другімі беларускімі паэтамі тую перавагу, што ў яго творчасці пераважае сацыяльна-палітычны элемент, іменна таму Янка Купала і стаў духоўным правадыром беларускага народа на яго шляху да сучаснага палітычнага вызвалення».

У вераснёўскім нумары «Рудэ права» змясціла фота беларускіх пісьменнікаў, якія знаходзіліся ў той час у Чэхаславакіі,—Янкі Купалы, Цішкі Гартнага, Міхася Чарота, Міхася Зарэцкага.

У студзені 1929 года ў чэхаславацкім друку з'явіўся шэраг артыкулаў аб жыцці беларускага народа, прысвечаных 10-годдзю ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Часопіс «Нове Руско» прысвяціў Беларусі спецыяльны нумар. У артыкуле «10 год Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі», апублікаваным у «Рудэ права» 3 студзеня 1929 года, гаворыцца: «Беларуская літаратура за дзесяцігадовы перыяд стала літаратурай, якую можна залічыць у шэраг літаратур сусветнага значэння. Сведчаннем гэтага з'яўляюцца шматлікія пераклады беларускіх твораў на замежныя мовы». Ва ўсіх гэтых артыкулах з вялікаю павагаю і любоўю ўпамінаецца імя Янкі Купалы.

У 1930 годзе часопіс «Творба», рэдактарам якога быў выдатны чэшскі журналіст, камуніст Юліус Фучык, змясціў у сувязі з 25-годдзем літаратурнай дзейнасці Купалы пераклад яго пісьма, апублікаванага ў беларускім друку.

Ніводнага нарыса аб жыцці і культуры беларускага народа не абыходзілася без упамінання імя Янкі Купалы.

Цёплымі былі сустрэчы Купалы з прагрэсіўнымі чэшскімі пісьменнікамі і паэтамі. З вялікай увагай і цікавасцю слухалі яны жывое беларускае слова з вуснаў аднаго з віднейшых прадстаўнікоў брацкай славянскай літаратуры. І сам Купала не без хвалявання ўспамі-

наў пра чуласць і ўвагу сваіх чэхаславацкіх сяброў.

У пасляваенныя гады яшчэ больш пашырыліся сувязі паміж працоўнымі Чэхаславакіі і Беларусі, якія знаходзяцца ў адзіным сацыялістычным лагеры. Узрасла і цікавасць шырокіх слаёў чэшскага і славацкага народаў да беларускай літаратуры. На чэшскую мову перакладаюцца ўжо не толькі вершы і апавяданні, але і буйныя празаічныя творы Міхася Лынькова, Янкі Брыля, Піліпа Пестрака і інш. У 1955 годзе ў Празе выходзіць анталогія беларускай паэзіі. У ёй на першым плане — паэзія заснавальніка новай беларускай літаратуры Янкі Купалы. Тут змешчаны ўжо вядомыя пераклады вершаў беларускага паэта, а таксама вершы, перакладзеныя спецыяльна для анталогіі.

Шматлікія артыкулы, заметкі, пераклады твораў Купалы, змешчаныя на старонках чэхаславацкага друку на працягу 50 год, з'яўляюцца сведчаннем вялікай папулярнасці паэзіі Купалы сярод чэхаславацкага народа. Купала выступаў як паўпрэд беларускай савецкай літаратуры. Гэтая павага да творчасці нашага народнага паэта з'явілася адным з многіх праяўленняў той непарушнай дружбы, якая навек звязала два блізкія славянскія народы.





Б. КЛЕЙН,
П. КРАСНАБАЕЎ

# НЕАПУБЛІКАВАНЫ ЛІСТ А. М. ГОРКАГА

Калі гутарка ідзе аб спадчыне Аляксея Максімавіча Горкага, здаецца, што знайсці што-небудзь новае, невядомае яшчэ чытачу, можна толькі пасля доўгіх пошукаў у архівах, музеях, бібліятэках.

Але гэта далёка не так. Аляксей Максімавіч перапісваўся з вельмі многімі людзьмі і не пакідаў без увагі амаль ніводнага адрасаванага яму ліста. Таму яго лісты часам можна напаткаць у вельмі нечаканых мясцінах...

... Паперы, якія засталіся пасля смерці мужа, Іраіда Васільеўна Брунелер захоўвала вельмі беражліва. Да свайго маленькага сямейнага архіва яна не дапускала амаль нікога.

Але вось нядаўна, калі ў яе сабраліся старыя сябры і знаёмыя і гаворка зайшла пра мінулае, пра людзей, якія жылі інтарэсамі свайго часу, сваёй радзімы, Іраіда Васільеўна сказала:

— Такім быў і мой муж. Яму, простаму рабочаму, савецкая ўлада яшчэ ў самыя першыя гады дала адукацыю інжынера. Работы ў яго было вельмі шмат, але ён многа чытаў, і нават прабаваў пісаць. Яго друкавалі ў заводскай газеце.

— Ці не захавалася ў вас штонебудзь?..

— Захавалася.

— А можна было б паглядзець?..

І вось на стале, сярод пажоў-

клых рукапісаў, газетных выразак, фотаздымкаў быў знойдзены канверт. На ім — некалькі паштовых штэмпеляў, а ўнізе злева — зваротны адрас на італьянскай мове: «Сарэнта. М. Горкі».

Ліст быў напісаны Горкім 23 лютага 1928 года і пасланы з Італіі па адрасу: «СССР, г. Днепрапятроўск, чыгуначныя майстэрні, вытворчы аддзел, Сяргею Брунелер».

Што ж паслужыла повадам гэтай перапіскі?

Інжынер-камуніст Сяргей Віктаравіч Брунелер раптам цяжка захварэў і праляжаў доўгі час у пасцелі. Адзінай уцехай яго было чытанне твораў Максіма Горкага. Асаблівае хваляванне выклікаў у яго раман «Маці». І вось, думаючы пра лёс горкаўскіх герояў, інжынер не раз задаваў сабе пытанне: чаму пісьменнік, які напісаў такую палымяную кнігу, знаходзіцца далёка ад сваёй Радзімы? Гэтае пытанне хвалявала Сяргея Віктаравіча таму, што ў той час варожымі савецкай дзяржаве людзьмі распаўсюджваліся чуткі аб разнагалоссях Горкага з савецкай уладай, аб тым, што яго ад'езд выкліканы прычынамі палітычнага характару і г. д.

Сяргей Віктаравіч вырашыў напісаць Горкаму.

Адказ прышоў вельмі хутка.

Вось ён ад слова да слова:

**«ПАВАЖАНЫ т. БРУНЕЛЕР—**

**Я выехаў з Расіі ў лістападзе 21-га года таму што быў хворы і на ад'ездзе маім за граніцу настойваў У. І. Ленін. Тады ў нас у Расіі санаторыяў яшчэ не было.**

**Жывучы тут, я за пяць год напісаў 7 кніг, чаго ў Расіі не мог бы зрабіць.**

**Разнагалоссяў з савецкай уладай у мяне няма, як Вы, мабыць, ведаеце па артыкулах маіх у Маскоўскіх «Известиях».**

**Прывітанне**

**А. ПЕШКАЎ.**

23/II 28
Сарэнта».




**УЛАДЗІМІР МАЦВЕЕЎ**

# ПРА ТЫХ, ХТО НАПЕРАДЗЕ

**Нарыс**

Мне давялося правесці на заводзе некалькі дзён. Доўга гутарыў з Эдуардам Васільевым, сакратаром заводскага камітэта ЛКСМБ. Сустракаўся з членамі камітэта, хадзіў па цэхах. Уражанняў шмат. І сам завод — гэта выдатная навабудоўля шостай пяцігодкі, і людзі, што стварылі першыя станкі, выклікаюць захапленне. Для журналіста Мінскі завод аўтаматычных ліній — сапраўдны скарб. Зацікавішся перспектывамі яго развіцця ці першымі месяцамі заводскіх будняў — перад табой узнікаюць яркія, захапляючыя малюнкі. Тут, на гэтым заводзе, асабліва адчуваеш гіганцкі рост нашай сацыялістычнай прамысловасці. І справа не толькі ў тым, што прадпрыемства само па сабе з'яўляецца дзецішчам новага, сённяшняга размаху і што яго прадукцыя — спецыяльныя агрэгатныя станкі і аўтаматычныя лініі, народжаныя патрабаваннямі бурнага тэхнічнага прагрэсу. Тут усё — ад велічных карпусоў да самага просценькага абсталявання ў цэхах — сагрэта дыханнем шостай пяцігодкі.

Пра што ж пісаць?

Гэта вырашыць цяжка, калі вялікі выбар тэм. Хочацца расказаць і аб нараджэнні станкоў, і аб тэхнічных навінках, з якімі сустракаешся на кожным участку. Але важна сказаць сёння пра самае характэрнае для завода — пра яго маладосць, пра маладую рабочую сілу — камсамольцаў.

Эдуард Васільеў знешне здаецца спакойным, нават занадта флегматычным хлопцам. Гаворыць спакваля. Голас густы, нізкі. Але глянеш у яго гарачыя, неспакойныя вочы, і адразу адчуеш, што нічога флегматычнага ў натуры яго няма.

Мы сядзім ў невялічкім пакойчыку, дзе ўсяго змяшчаецца толькі два сталы. За адным — камітэт камсамола, а насупраць — заўком. Эдуард — цікавы субяседнік. Ён уважліва слухае. І расказвае ахвотна. Праўду кажучы, я баяўся, што шчырай размовы ў нас не атрымаецца. Ін-

шы ж раз даводзіцца нібы абцугамі выцягваць з чалавека кожнае слова.

З Васільевым лёгка гаварыць. Ён сам ідзе насустрач табе з адкрытай душой. А якая гэта добрая і важная якасць для камсамольскага важака: умець размаўляць з любым чалавекам — знаёмым ці незнаёмым!

Біяграфія ў Эдуарда невялікая. Школа, палітэхнічны інстытут. Завод. Прамы шлях савецкага юнака. Хлопец у інстытуце два гады ўзначальваў камсамольскую арганізацыю механічнага факультэта...

— Ат, кіньце вы! — спыніў мае роспыты Эдуард, — прышлі на завод, а запісваеце ўсё пра мяне... Вы лепш пра хлопцаў напішыце. Ведаеце, якія яны ў нас! Вось хоць бы тыя, што працуюць у камітэце. Вадзім Людвіг — тэхнік-канструктар. Мы яго філосафам завём. Або Крыжаноўскі Яўгені... Майстрам працуе ў эксперыментальным цэху. Старшыня савета маладых спецыялістаў. Я яму, як сабе, давяраю. А Грыша Гарэлік — талент! У яго ідэй — поўная галава. Кіраўнік групы канструктараў. Гэта чаго-небудзь ды варта! Ды любога вазьміце...

Вось Гена Крайко. Фрэзероўшчык. У тэхнікуме, на 4-м курсе займаецца. Тыдзень у першую змену робіць, два — у начную. І ў камітэце спраўляецца — добры парадак навёў у камсамольскай гаспадарцы. За фізкультуру ў нас Яўгені Анегін адказвае. Так, так, самы сапраўдны Анегін. Толькі па прозвішчу, а не па характару. Наш Яўгені — спартсмен, арганізатар...

— А адкуль узяліся яны, вашы актывісты?

— Адкуль? — здзівіўся Эдуард. — Усе нашы, заводскія. Адны з інстытута прышлі, другія — са школы, з арміі. Як і на іншых заводах...

Эдуард раптам змоўк, задумаўся. Вочы, якія толькі што смяяліся, спахмурнелі. Але гэта на адно імгненне. І вось ужо позірк адарваўся ад стала, разбегліся промнямі маршчынкі ад вачэй да скроняў. Перада мною ўжо зноў той Эдзік з крыху збянтэжанай, цёплай усмешкай.

— Ды хіба перабярэш у памяці ўсіх нашых камсамольскіх актывістаў. А адкуль актыў, пытаеце? Расцём!

Гісторыя завода аўтаматычных ліній настолькі невялікая, што, канешне, цяжка гаварыць пра якія-небудзь традыцыі, выпрабаваныя часам. Тут нават мінулагоднія выпускнікі інстытутаў, якія працуюць не намнога больш, як па паўгода, лічацца ледзь не ветэранамі. 1955 год — пачатак будаўніцтва; 1957 год — запрацавалі першыя цэхі. Сёлетні год даў ужо станкі.

Амаль адначасова з заводам нарадзілася і камсамольская арганізацыя. Нават у верасні мінулага года лік членаў арганізацыі ледзь перавышаў сотню. Зараз гэтая лічба павялічылася больш чым удвая. Створаны цэхавыя камсамольскія арганізацыі.

Мы перагортваем з Эдуардам лісткі камсамольскіх дакументаў, якія сабраны ў тоненькай канцылярскай папцы. І перад намі дзень за днём паўстае жыццё заводскага камсамола, яго баявога штабу — камсамольскага камітэта.

Верасень.

На 21-е прызначаны справаздачна-выбарчы сход. Васільева паклікалі перад пачаткам да парторга Міхаіла Амельянавіча Гарошкі. Гарошка быў не адзін. Насустрач Эдуарду паднялася дзяўчына, энергічна паціснула руку і пазнаёмілася: з райкома.

— Здаецца, вы былі камсоргам на сваім факультэце?

— Быў.



Умяшаўся Гарошка:

— Вось думаем, чаму б табе, Эдуард, і на заводзе камсамольскай работай не заняцца?

— Я ад яе ніколі не адмаўляўся... Любое даручэнне...

— А калі сакратаром цябе парэкамендаваць?

Эдуарду прыгадаліся сябры з канструктарскага, іх па-змоўніцку смяшлівыя твары. А марыў... Прыду на завод, з галавой акунуся ў работу. Новыя станкі! Пошукі, творчасць! І раптам...

Маўчанне зацягнулася.

— Падумай, Васільеў. Нам вельмі, вельмі патрэбен важак. Такі, каб вакол яго моладзь згуртавалася.

— Я падумаю.

У мадэльным цэху гуло, як у вуллі. Яшчэ не пачаўся сход, а спрэчкі захапілі амаль усіх камсамольцаў. Эдуард здалёк позіркам сустрэўся з сябрамі. Яны ўсміхаліся, прывітальна махалі рукамі. Віталі Шульжэнка, разгадаўшы настрой Эдуарда, раззлаваўся.

— Чаму нос павесіў?

— А ты не ведаеш!

— А што, хіба няправільная прапанова?

Эдуард прамаўчаў.

Абмеркаванне даклада праходзіла звычайна, як і ўсюды. Гаварылі аб актыве, які патрэбна выхоўваць, крытыкавалі камітэт за безыніцыятыўнасць, уносілі мноства добрых і карысных прапаноў. Паступова разгаварыліся: хіба мы не можам працаваць так, каб ва ўсім заводзе адчувалася прысутнасць камсамольцаў? Можам! Павінны.

— Пераходзім, таварышы, да вылучэння кандыдатур у склад новага камітэта...

З месца рашуча падняўся Віталі Шульжэнка.

— Я прапаную Эдуарда Васільева! Ведаю яго па інстытуту.

Эдуард слухаў дрэнна. У галаве вірылі думкі. «Што ж, калі і выберуць, — нічога! Папрашу любы сектар — вытворчы, фізкультурны... Зноў не будзе ні хвіліны спакою. Няхай! Затое — рух, творчасць. Хіба можна ў камсамоле без выдумкі, без творчасці?»

На пасяджэнні камітэта Эдуарда Васільева аднагалосна выбралі сакратаром.

Вася Івінскі адшукваў па заводзе Эдуарда. Ужо каторы раз хлопцы з інструментальнага цэха скардзяцца на свайго сакратара Валодзю Кажамяку. Што здарылася з ім? Заўсёды быў дысцыплінаваны, акуратны. Патрэбен стэнд — Валодзя знойдзе яго. За кожны сход душой адхварэе. А тут хлопца нібы падмянілі. «Не хачу, не буду» — і ўсё.

І Эдуард заклапочаны таксама. Ідзе з мадэльнага. Павіталіся.

— Трэба з Кажамякам рашыць.

— Канешне, трэба, — Эдуард уздыхнуў. — Камітэт збярэм. Але дзе збярэмся? Святла няма...

— Можна і без святла.

Гэта было, як жартам цяпер успамінаюць на заводзе, самае рамантычнае і цяжкае пасяджэнне камітэта камсамола. У пакоі, на другім паверсе, у корпусе мадэльнага цэха, моладзь сядзела ў поўнай цемры. Толькі праз акно пранікала цьмянае святло вулічнага ліхтара. Міжвольна імкнуліся гаварыць прыцішана, паўшэптам. Словы, здавалася, палахліва зрываліся з вуснаў і, як сляпое, гулка білася аб сцены.

Дакладваў Васільеў. Ён стаяў ля акна, імкнучыся разгледзець нешта ў сваіх запісах на невялічкім аркушыку паперы.

— Здарылася гэта так. Неяк Міхаіл Амельянавіч упікнуў Валодзю: ты нічога не робіш. А Кажамяка ўспрыняў гэта, як аса-

бістую крыўду. І самавольна адхіліў сябе ад абавязкаў сакратара. Выходзіць, парторг нібы абразіў Кажамяку.

— Глупства!

— Не, гэта не глупства. Чаму Кажамяка паводзіць сябе так? Растлумач, Валодзя...

Рыпнуў зэдлік. Падняўся Кажамяка.

— Я не хачу быць камсоргам... Рабіце, што хочаце...

І адразу ўзарвалася цішыня.

— Справа не ў тваім жаданні, а ў тваіх паводзінах!

— Які з яго важак, калі раскіс, як паненка!

— Вызваліць яго!..

— Цішэй, таварышы, — Вася Івінскі падышоў да акна, бліжэй да святла. — У мяне прапанова. Кажамяка зрабіў, канешне, цяжкі ўчынак... Гэта — дызертырства...

— Давай прапанову!

— Прапаную: за невыкананне камсамольскага абавязку таварышу Кажамяку аб'явіць вымову і вызваліць ад абавязкаў сакратара...

Першая вымова. Эдуард чакае.

— Якія яшчэ прапановы?

— Вымова — занадта, — гэта падаў голас Вадзім Людвіг.

— А ты з камсамольцамі ў цэху размаўляў? — адазваўся Івінскі. — Яны чакаюць нашага рашэння.

— Галасуем! — перарваў Эдуард. — Таварышы члены камітэта. Крыжаноўскі?

— За.

— Барсукоў?

— За.

Закончылася пасяджэнне. Але яшчэ доўга спрачаліся. Рашэнне ўмацаваць цэхавую арганізацыю неабходна было яшчэ і таму, што ўжо мацнелі камсамольскія калектывы і ў іншых цэхах. І там трэба было выхоўваць новых важакоў моладзі, у якіх камсамольцы змаглі б вучыцца прынцыповасці, адказнасці за даручаную справу. Цяжка даваць пакаранне таварышу, з якім столькі часу побач. Але нічога не зробіш: калі заслужыў — трэба!

Камсамольскі сход аднадушна падтрымаў рашэнне камітэта. На чале камсамольскай арганізацыі інструментальнага цэха паставілі слесара-лекальшчыка Міколу Галавача — ініцыятыўнага, энергічнага хлопца.

У камітэце сабраўся амаль увесь камсамольскі актыў. Размова ішла аб усесаюзным рэйдзе за эканомію металу, што аб'явіў ЦК ВЛКСМ. Васільеў зачытаў пісьмо-інструкцыю. Здаецца, усё ясна: ідзі і рабі. Правярай, як захоўваецца метал, паглядзі, дзе і як выкарыстоўваецца абсталяванне. Але актывісты задумаліся. Маўчанне прадаўжалася нядоўга.

— Што тут думаць, — кінуў нехта. — Правядзём рэйд!

— Гэта правільна, — загаварыў Васільеў. — У рэйдзе мы, канешне, прымем удзел. Але трэба падумаць пра тое, каб наш кантроль за вытворчасцю стаў пастаянным. Не на месяц, не на два, а назаўсёды.

— На іншых заводах камсамольскія пасты, — падхапіў Івашкевіч.

— І ў нас будуць... І не толькі па расходаванню металу...

Так нарадзілася рэйдавая брыгада з дзесяці чалавек, якая потым атрымала больш дакладную назву — камсамольскі штаб. Узначаліў яе Леанід Івашкевіч. Галоўную задачу брыгады вызначылі так: арганізацыя і кіраўніцтва кантрольнымі пастамі на ўсіх участках завода.

Першы рэйд брыгада надумала правесці сама, сваімі сіламі. Ля ўваходу ў мадэльны цэх сабраліся ўдзельнікі рэйду, — Васільеў, Галавач, Валя Белаброўкіна, Яўгені Крыжаноўскі, Алесь Яршовіч.



— Дзейнічаць будзем так, — прапанаваў Эдуард. — Некалькі чалавек пойдуць у цэх, да рабочых, некалькі — да начальства. Трэба абавязкова праверыць дакументацыю, асабліва нарады...

— Правільна, — падхапіў Яршовіч. — Дакументы патрэбна абавязкова паглядзець!

— Вось ты за гэта і бярыся.

Васільеў падышоў да дзвярэй, ужо было ўзяўся за ручку, але азірнуўся і раптам урачыста аб'явіў:

— Першы рэйд будзем лічыць пачатым!

Насустрач хлынуў прывычны шум з цэха. Дробна стукалі малаткі, свісталі рубанкі, і ў гэтую мелодыю ўліваліся віскілвыя галасы станкоў. Не паспелі хлопцы прайсці ў цэх, як ім насустрач імчаўся начальнік цэха Сяргееў.

— Прывітанне камсамоліі! — здалёк крыкнуў Сяргееў і крыху сумеўся: — Правяраць надумалі?

— Рэйд, — коратка адказаў Эдуард.

— Час нязручны... Людзі працуюць...

— Мы не перашкодзім.

Рэйдаўцы спыніліся ля аднаго з варштатаў. Рабочыя здзіўлена пазіралі то на камсамольцаў, то на Сяргеева.

— Як справы, таварышы? — звярнуўся Васільеў да рабочых.

— Гледзячы якія, — пачулася ў адказ, — ёсць і добрыя і дрэнныя...

Сяргееў і Васільеў сустрэліся позіркамі. Начальнік цэха зразумеў, што яго прысутнасць скоўвае людзей. І ён ветліва сказаў:

— А вы не саромцеся, гаварыце. Рэйдавая брыгада разбярэцца, а потым мы разам падумаем...

— Тут не думаць, а выпраўляць трэба, — выступіў наперад шыракаплечы хлапчына. — У нас тут з нарміраваннем ліха ведае, што творыцца!

— А дакладней?

— Можна і дакладней, — хвалюючыся, загаварыў мадэльшчык. — Робім мы пліты. На адну — 172 гадзіны, для яе робіцца адна стрыжнёвая скрынка; на другую 180 гадзін, і там дзве скрынкі... Адну робіш — спяваеш, другую — слёзы выціраеш...

— Чаму ж гэта?

— Так падлічвае нарміроўшчык.

Хлопец ажывіўся і, усміхнуўшыся, прапанаваў:

— Хочаце, я вам зараз пакажу запісачку цікавую? — і адразу знік за спінамі таварышаў, хутка зноў з'явіўся з чарцяжом у руках: — Во, чытайце!

На адваротным баку быў надпіс: «Егор! Добавь!» Усе здзіўлена пазіралі на гэты надпіс. А мадэльшчык хітравата ўсміхаўся:

— Незразумела? А я растлумачу: гэта майстар пісаў нарміроўшчыку...

Вакол рэйдаўцаў ужо сабралася шмат рабочых. Скаргі на дрэннае нарміраванне сыпаліся з усіх бакоў. Сяргееў злосна заўважыў Эдуарду:

— Ад работы адбіваем.

Васільеў змоўчаў. Людзі не разыходзіліся. Яны расказвалі аб простоях, аб перабоях у забяспячэнні матэрыяламі. І Сяргееў перамяніўся. Відаць, і яго захапіла гэта ўсхваляванасць рабочых. Ён узяў за локаць Васільева і шчыра сказаў:

— Вы дапамажыце нам, хлопцы. Вентыляцыі няма. А аддзел галоўнага механіка не спяшаецца.

... Рэйдаўцы ў мадэльным цэху правялі два дні. Матэрыялаў набралася шмат. Трэба было зрабіць усё, каб выправіць недахопы. Інакш загубіцца добрая ініцыятыва, загіне тое шчырае таварыскае адабрэнне, з якім сустрэлі рабочыя рэйдавую брыгаду.

Першае, што зрабілі камсамольцы, — гэта выпусцілі «Маланку». Яна паявілася хутка і неспадзява-

на, як гром сярод яснага дня. Трапную карыкатуру з загалоўкам «Нарміраванне» суправаджалі вершы:

«Среднепотолочное,
Приближенно-точное,
Без труда, без знания
Раздает задания.
И когда же, наконец,
Будет этому конец?»

Потым матэрыялы рэйда абмяркоўваліся на нарадзе ў дырэктара. Атрымалі суровае спагнанне таварышы з аддзела галоўнага тэхнолага. У мадэльным цэху адбыўся агульны сход.

У той жа дзень Гарык Барсукоў прыбег у камітэт і расказаў, што мадэльшчыкі ўжо стварылі свой кантрольны пост. Неўзабаве камсамольскія пасты з'явіліся ў ліцейным, эксперыментальным цэхах, у кузні. Спаборніцтва за культуру вытворчасці ахапіла ўсю моладзь.

У камітэт заскочыў старшыня заводскага фізкультурнага савета Кудзянаў.

— Такая справа, хлопцы! — выгукнуў ён. — На пасяджэнні заўкома гаварылі аб спортпляцоўках. Дырэктар сказаў, што нам на гэта адпушчана паўмільёна. Вось ён і разважыў, ці не лепш нам на гэтыя сродкі што-небудзь больш грунтоўнае пабудаваць...

— Факт! — падхапіў ззяючы Васільеў і развіваў сваю думку. — Падтрымаем ідэю дырэктара завода. Пляцоўкі зробім сваімі сіламі. А на гэтыя грошы адбудуем зал. Вы ведаеце, хлопцы, свой спортзал — гэта ж цудоўна! Праект бяру на сябе — пайду ў інстытут, студэнты нам такі праект зробяць!..

Але з інстытутам не выйшла. Праўда, было ўжо дамовіліся. А вось калі ткнуліся да гаспадарнікаў на заводзе, грошай не аказалася. Намеснік дырэктара па капітальнаму будаўніцтву Сямён Міхайлавіч Чэрчас пляснуў рукамі.

— Дзівакі, ды хто ж вам дасць паўмільёна? Дзе яны, такія грошы?.. Ох, мне гэтыя камсамольцы-фантазёры!..

Васільеў ветліва напамянуў: гэта ідэя Аляксандра Пятровіча, дырэктара... Але Чэрчас няўмольны.

Хлопцы выйшлі пахмурныя. Няўжо нічога не выйдзе?

— Эдзік, і сапраўды, можа не такі ўжо раскошны гэты зал? А то і сапраўды — 500 тысяч...

— А колькі спатрэбіцца, як ты думаеш?

— Трэба дазнацца.

— Дзе?

— Сходзім у АКБ.

— Паспрабуем!

У аддзеле капітальнага будаўніцтва Эдуард адшукаў маладых спецыялістаў Ілью Лейзеровіча і Лёву Шашкова.

— Хлопцы, зрабіце нам разлік зала, самага звычайнага спортзала... Хоць бы са шлакаблокаў.

— А для чаго?

— Што за пытанне — будаваць збіраемся.

— Як зімою каток? — упікнуў Ілья. — Вады шмат — спраў мала...

— За каток вы зіму ўпікайце, — не разгубіўся Васільеў. А зал во як нам патрэбен, — і ён разануў па шыі рукою.

— Паспрабуем, — усё ж згадзіліся хлопцы-праектыроўшчыкі.

101 тысяча рублёў! Гэтыя грошы яны здолеюць адрабіць. Нават няўмольны Чэрчас быў, як казаў Эдуард, абяззброены жалезнай логікай лічбаў. І паляцела ў праектны інстытут заяўка на новы спортзал. А ў гэты час разгарэлася работа на будаўніцтве спортпляцовак.

У нядзелю я адшукаў Эдуарда Васільева, Рыгора Гарэліка і Генадзія Крайко ў адным з пакояў



канструктарскага бюро. У іх ішла гарачая спрэчка. Васільеў нешта прапаноўваў, Гарэлік — адхіляў. Потым прапаноўваў Гарэлік, і Васільеў ператвараўся ў строгага і прыдзірлівага апанента.

— Абмяркоўваем варыянт нашага «Мінскага камсамольца», — растлумачыў Эдуард. — Універсальны станок хочам зрабіць для калгаса... Каб на ім і фрэзераваць, і абточваць, і свідраваць можна было...

— Ідэя, — жартуе Грыша Гарэлік. — Сонцам поўная галава...

— А што тут смешнага? Рашылі зрабіць такі станок — і зробім!

Пасля студзеньскага Пленума ЦК КПСС камсамольцы завода горача абмяркоўвалі свае магчымасці ўдзелу ва ўсенароднай справе дапамогі калгаснай вёсцы. У тыя дні і нарадзілася ўпершыню думка аб станку.

Цяпер, калі тэхніка перадаецца ў калгасы, ім неабходны свае майстэрні для рамонту машын. А для майстэрань патрэбны станкі. Такія станкі, каб на іх можна было рабіць розныя работы і каб гэтыя станкі не былі занадта дарагімі. Вось камсамольцы і рашылі стварыць універсальны станок, які каштаваў бы не дорага...

Узор станка даручан савету маладых спецыялістаў, які створан па ініцыятыве камсамольцаў, а ўвасабленне яго ў метале — камсамольскім групам у цэхах.

Васільеў з натхненнем расказвае:

— Над стварэннем станка працуе ўся заводская моладзь. Рыгор Гарэлік узначальвае групу, якая распрацоўвае агульную канструкцыю. Станок будзе называцца «Мінскі камсамолец». Мы яго зробім у пярэдадзень святкавання 40-й гадавіны ВЛКСМ.

У эксперыментальным цэху камсамольская брыгада слесараў робіць каробку перадач. Група канструктараў на чале з Барысам Шаўчуком — пярэднюю бабку. Мікола Аляксандраў працуе над вырабам задняй бабкі... Мадэльшчыкі ўжо робяць мадэль правай тумбы.

— А вось Гена, — Эдуард ківае ў бок Генадзія Крайко, — бярэцца падрыхтаваць з калгасных хлопцаў спецыялістаў для работы на станку.

— Дваіх навучу, — пацвярджае Генадзі.

— Так што ўвесь актыў на нагах, — заключае Эдуард Васільеў. — Да станка зробім наждак, інструмент розны...

Цікавым, вірлівым жыццём напоўнены будні заводскіх камсамольцаў. Ва ўсіх цэхах дзейнічаюць кантрольныя пасты; усё шырэй разгортвае работу савет маладых спецыялістаў. Рабочыя, інжынеры, тэхнікі, кожны, хто малады, уцягнуты на заводзе ў вір камсамольскага жыцця. А наперадзе — новыя планы, вялікія задумы.

Насустрач 40-годдзю ВЛКСМ

# ДЗЯЎЧЫНА З ЛІПЕНЯ

Непадалёк ад Асіповіч ёсць невялікае мястэчка Ліпень. Там жыла сям'я настаўніцы мясцовай школы Веры Маркаўны Кунько. Старэйшы яе сын Уладзімір вучыўся ў Мінскім палітэхнічным інстытуце, сярэдні Марка і малодшая дачка Рыма — у сярэдняй школе.

У 1939 годзе, калі пачалася вайна з белафінамі, Валодзя і Марка пайшлі дабраахвотна на фронт. Не хацела адставаць ад братоў і Рыма, хоць ёй тады не споўнілася яшчэ і трынаццаці год. Яна ўпотай паехала ў Оршу, дзе фарміраваліся батальёны дабраахвотнікаў, і шмат давялося вайскоўцам гаварыць з Рымай, каб пераканаць, што ёй рана яшчэ ваяваць.

Рыма, удумлівая і спакойная, з дзяцінства вызначалася глыбінёй пачуццяў і вялікай сілай волі. Вучылася яна выдатна, шмат чытала. Асабліва цікавілася геаграфіяй і марыла стаць выкладчыкам геаграфіі. І, вядома, па гэтым прадмеце ў яе былі адны пяцёркі.

Вайна перайначыла жыццёвыя планы Рымы і яе братоў і сяброў. Уладзімір, Марка і Рыма з першых дзён вайны пачалі актыўна змагацца з фашыстамі. Спачатку яны збіралі зброю, перадавалі партызанам патрэбныя звесткі, потым пайшлі ў партызанскі атрад. Валодзя і Марка сталі разведчыкамі і падрыўнікамі, а Рыма працавала ў гаспадарчым узводзе.

Партызанка Рыма Кунько на дыверсіі.
Малюнак С. Раманава.





У снежні 1942 года пры выкананні баявога задання загінуў Уладзімір Кунько. Усю ноч праседзела Рыма ў жалобным маўчанні, а раніцою, калі хавалі брата, яна сказала:

— Над тваёй труною, Валодзя, я клянуся: буду бязлітасна помсціць фашыстам за цябе, за наша загубленае юнацтва, за нашу савецкую Радзіму!..

Сваю клятву дзяўчына выканала — яна замяніла брата-падрыўніка. Навучыўшыся ад Алёшы Міцюрава, як карыстацца запаламі і ўзрыўчаткай, Рыма ўзяла зарад і ноччу пайшла на чыгунку. У зямлянцы яна пакінула запіску:

«Я пайшла на «жалезку». У лагер не вярнуся, пакуль не ўзарву эшалон. Пра мяне не турбуйцеся».

Толькі на чацвёрты дзень Рыма вярнулася, вельмі стомленая, але вясёлая і задаволеная. Вочы яе блішчалі ад шчасця. У першую ноч ёй не пашанцавала — паязды зусім не ішлі. На наступную — таксама. Дзяўчына ледзь не плакала. Кожную ноч яна накіроўвалася да чыгункі, ставіла міну і чакала, насцярожана ловячы кожны гук, узіраючыся ў цемень. Але эшалона не было. На дзень забірала зарад і хавалася ў стозе сена. Толькі на трэцюю ноч падышоў эшалон, які ўзляцеў у паветра.

У атрадзе спачатку не паверылі. Камандзір атрада паслаў разведку. Разведка пацвердзіла: сапраўды, на тым месцы, дзе была Рыма, — на перагоне паміж Асіповічамі і Татаркай, — ляжалі пад адхонам вагоны...

За самавольны паход на чыгунку Рыме давялося выслухаць нямала дакорлівых слоў ад камандзіра і ад сваіх сяброў на камсамольскім сходзе, але ўсё ж яна дамаглася свайго — ёй даручылі групу дзяўчат-партызанак, з якімі яна пачала рыхтавацца да падрыўной справы.

Неўзабаве Рыма павяла сваю групу на падрыў. Дзяўчаты прайшлі лес і апынуліся на ўзлеску, за якім віднелася чыгунка. Залеглі, чакаючы ночы. Рыма размеркавала абавязкі: Поля і Надзя засталіся ля шнура, а яна з Нінай папаўзлі да насыпу.

Раптам пачуліся крокі. Гэта ішоў нямецкі вартавы. Перачакаўшы, пакуль ён пройдзе, падрыўніцы зноў папаўзлі. Чуваць быў шум поезда. Рыма хутка нажом падкапала зямлю ля рэйкі, паклала тол, паставіла запал і замацавала шнур. А поезд набліжаўся...

Калі дзяўчаты адбегліся, ад выбуху ўзняўся ўгару вялізны сноп агню. З вышак, якія стаялі ўздоўж дарогі, секанулі кулямёты. Але дзяўчаты ўжо былі далёка. Перапоўненыя шчасцем, яны радасна віншавалі адна адну з першай удачай.

Аднойчы Рыма з сяброўкамі была ў засадзе. На дарозе раптам паказалася аўтамашына, яна вельмі хутка імчалася. Вось яна зусім побач...

— Рыма, глядзі! — падганялі дзяўчаты, але Рыма маўчала, не падавала каманды. Толькі калі машына была побач, пачулася аўтаматная чарга.

— Рукі ўгару! — крыкнула Рыма, наставіўшы аўтамат. З кузава падняўся немец-афіцэр, разгублена пазіраючы на тых, хто так нечакана спыніў машыну.

Рыма, усміхаючыся, сказала нямецкаму афіцэру, які ўсё трэсся і лыпаў вачыма:

— Не пазнаеце мяне, пане афіцэр? Я — сястра Валодзі Кунько...

Немец маўчаў, не ведаючы, што рабіць ад страху.

Кожны дзень у Рымы і яе сяброўак быў напоўнены баявымі справамі. На рахунку Рымы Кунько значылася 8 узарваных эшалонаў, яна ўдзельнічала ў разгроме некалькіх гарнізонаў, знішчэнні чатырох аўтамашын, у падрыве сямі мастоў і г. д.

Гэта была адважная дзяўчына, хоць ёй тады было ўсяго семнаццаць год.

...Савецкая Армія набліжалася да мястэчка Ліпень. Па шасэ Бабруйск — Мінск адыходзілі фашысцкія войскі, выбіраючыся з «бабруйскага катла». Яны накінуліся на партызан атрада, дзе ваявала Рыма Кунько. Завязаўся жорсткі бой.

Рыма і сем яе таварышаў-партызан адстрэльваліся ад ворага. Калі выйшлі ўсе патроны, яна паднялася і рынулася на гітлераўцаў. У жорсткім паядынку Рыма загінула, падкошаная варожымі кулямі...

Таварышы прывезлі Рыму ў Асіповічы. Схілілі галовы над свежай магілай.

— Мы панеслі вельмі цяжкую ўтрату, — гаварыў ад імя ўсіх партызан палітрук Мацвей Патапейка. — Загінула наша Рыма — бясстрашная партызанка, цудоўная дзяўчына-камсамолка. Мы яе ніколі не забудзем!..

У летапісу гераічных спраў юных герояў, якія аддалі свае маладыя жыцці ў грозныя гады Вялікай Айчыннай вайны за Радзіму, залатымі літарамі запісана імя ліпеньскай камсамолкі Рымы Кунько.

**Л. ГАЛІНІН.**

# НЕБЯСПЕЧНЫ РЭЙС

Адбылося гэта ўлетку 1941 года, на Дняпры, у першы месяц вайны.

У каюту камандзіра судна зайшоў вахценны матрос і паведаміў:

— Вас выклікае палкоўнік.

Капітан невялікага гомельскага буксірнага парахода «Праўда» Міхаіл Іванавіч Гацура хутка надзеў шапку-форменку, здагадваючыся, на што патрэбны ён у штабе вайсковага злучэння: відаць, новае заданне.

Выйшаўшы з Гомеля, параход «Праўда» з першых дзён вайны зрабіўся як бы вайсковым караблём і пабываў ужо не пад адной бамбёжкай.

Не было нічога дзіўнага, што капітана зноў выклікае да сябе камандзір дывізіі, — безумоўна, будзе новае заданне, толькі хацелася ведаць, якое?

— Паклічце Пятра! — загадаў Міхаіл Гацура.

Ён рашыў узяць з сабою механіка Пятра Рабянка, маладога, але вопытнага рачніка.

Палкоўнік ветліва сустрэў камандзіра і механіка парахода, запрасіў да стала, дзе ляжалі разгорнутыя вайсковыя карты.

— Тры дні назад, пры адступленні, мы не паспелі забраць на Сожы цэлую баржу са снарадамі. Добра было б гэты агнявы груз абрушыць на галовы фашыстаў! А?

— Вядома, добра, — стрымана адказаў капітан.

— А снарады ж на рацэ? Самі яны да нас не прыдуць...

Міхаіл Іванавіч Гацура выцягнуўся ў струнку, усхвалявана сказаў:

— Зробім.

— На гэта я вас і клікаў, — задаволена ўсміхнуўся палкоўнік і пацяплеўшым голасам дадаў: — Майце на ўвазе, справа гэта даўраахвотная...



Міхаіл і Пятро пераглянуліся.

— Мы пойдзем у гэты рэйс.

— Адпраўляцца трэба зараз жа, — устаў з-за стала палкоўнік, — пакуль фашысты не ведаюць, які груз на той баржы.

Такая аперацыя была па плячу не кожнаму ваеннаму судну. А тонкія барты буксіра лёгка праніжуць кулямі са звычайнай вінтоўкі. Але «Праўда» пайшла ў гэты небяспечны рэйс. Без гудкоў, ціхенька ўзяла курс уверх па рацэ. На мосціку стаяў толькі капітан, апрануты ў цывільную вопратку. Рулявы — у безрукаўцы, матросаў зусім не было відаць.

Да баржы — 20 кіламетраў. Параход ідзе гадзіну, другую, і ні аднаго стрэлу па рацэ, толькі дзесьці за ўзгоркамі грымела. Відаць, мала каго цікавіў гэты лядашчы параходзік.

Хутка відзён быў і бераг, ля якога стаяла баржа. Здаецца, там нікога не было. Але пільнае вока капітана прыкмеціла людзей, якія мітусіліся непадалёк ад берага.

«Гэта ж немцы!» — рашыў ён і перадаў у рупар:

— Пятро! Фашысты!

І механік, і качагары, а таксама салдаты, якія былі на параходзе, нарыхтаваліся. Салдаты праверылі зброю, паўстаўлялі ў гранаты запалы.

— Хлопцы, вугалю не шкадаваць! — спакойны голас механіка падбадзёрыў каманду. Качагары ўзяліся за шуфлёўкі. У топку паляцеў бліскучы антрацыт, і стрэлка манометра папаўзла да лічбы «15».

Цяпер кожнаму, хто быў унізе, хацелася хоць разок зірнуць, што робіцца на «свеце божым». Але капітан строга забараніў выходзіць на палубу, каб не выклікаць падазрэння ў ворага. Ён сам глядзеў за ўсіх.

На беразе гітлераўцаў было мала — яны, мабыць, лічылі, што ім пакуль тут няма чаго рабіць — фронт за 20 кіламетраў, па вадзе яшчэ не наладжаны рух. Немцы абыякава глядзелі на параходзік, які набліжаўся, нават прывітальна памахалі яму рукамі. Хіба можна было падумаць, што хтосьці адважыцца сам прысці ў рукі ворага?

Камандзір судна рашыў і далей прыкідвацца «сваімі». Матросы спакойна замацавалі параход ля баржы, паклалі сходні, і капітан і механік выйшлі на палубу і, нібы прагульваючыся, абышлі судна з кармы да носа. Селі, закурылі, жартавалі, гучна смяяліся. Гітлераўцы неўзабаве перасталі зусім звяртаць на «дзівакоў» увагу, пайшлі ад берага.

Міхаіл Гацура загадаў хлопцам рыхтавацца ў зваротны рэйс.

— Якар пакінем на памяць немцам, — сказаў Пятро Рабянок і, дастаўшы з-за пазухі нажоўку, лёг поруч з ланцугом, пачаў адпільваць якар, каб вызваліць баржу.

Зноў апусцела верхняя палуба. Нават капітана не было на мосціку — усё рабіў рулявы Мікалай Якіменка.

— Малы наперад, — ціха перадаў рулявы ў машыннае аддзяленне.

Пётр уключыў механізмы. Грабныя колы варухнуліся, і параход ледзь прыкметна крануўся. Уздрыгнуўшы, услед за ім паплыла баржа са снарадамі.

Вайсковы радыст уключыў рацыю, паслаў на камандны пункт шыфроўку: «Пакуль усё ў парадку, вяртаемся».

Першая частка задання выканана. А як далей? Як вырвацца з гэтага мяшка? Абодва камандзіры — капітан і механік — рашылі дзейнічаць і далей смела і раптоўна.

Заўважыўшы, што ўслед за параходам паплыла і баржа, немцы занепакоіліся. Адна за другой у неба ўзвіліся сігнальныя ракеты. З парахода паімчалася новая ра-

дыёграма: «Нас, мабыць, разгадалі, майце гэта на ўвазе».

Палкоўнік запрасіў лётчыкаў быць напагатове.

Тым часам ад берага рынуўся наўздагон параходу фашысцкі кацер з кулямётамі на палубе.

— Цяпер слова за намі! — сказаў камісар, які быў з атрадам салдат на параходзіку.

Як толькі гітлераўцы наблізіліся да судна, мяркуючы, што маюць справу з бяззбройным рачным «лапцем», засакаталі нашы кулямёты.

Бранебойныя кулі зрашацілі варожую пасудзіну. Кацер, даўшы некалькі стрэлаў, крута павярнуў назад.

Праз некалькі хвілін вакол савецкага судна выраслі высокія вадзяныя «султаны» — гэта варожая артылерыя пачала абстрэл.

«Нас накрывае артылерыя, не-пакоімся за баржу са снарадамі», — адстукваў у рубцы радыст.

... З-за ўзгорка вынырнулі тры самалёты з чырвонымі зоркамі на крыллях. Пярэдні нізка прайшоў над параходам, прывітальна памахаў крылом. Самалёты сваім агнём прымусілі варожую артылерыю змоўкнуць. Пад іх прыкрыццём транспарт вярнуўся да сваіх.

Паціскаючы руку камандзіру парахода, палкоўнік горача сказаў:

— Малайцы, хлопцы!

* * *

Потым рачнікі з гэтага адважнага экіпажа гераічна ваявалі. Пасля вайны з іх вярнуўся ў Гомель адзін Пятро Рабянок. Яго сябры аддалі жыццё ў агні барацьбы з ворагам.

Пятро Рабянок — лепшы механік Гомельскага рачнога параходства.

**П. ЧЫКУН.**

# ВЫРАТАВАНЫ СЦЯГ

Аркадзь любіў Залужжа — так называлі лес, які пачынаўся адразу ж за вёскай. Сюды хлопец бегаў улетку з сябрамі па грыбы і ягады, тут на зялёных палянках наладжваліся розныя гульні. Яму знаёмы з маленства і птушыныя гнёзды ў дуплістых бярозах, і нямоўчнае гудзенне пчол у лясных кветках...

Цяпер жа хлопцу было не да лесу. Ужо каторы дзень з Задняга Лугу даносіўся гул гармат, спачатку глухі і парывісты, нібы выбухі грому, а потым усё мацней і мацней, пераходзячы ў жудасную кананаду. Неўзабаве праз вёску пацягнуліся на ўсход бежанцы, а праз колькі дзён па Рыдамльскай дарозе пайшлі нашы войскі. У небе бясконца гулі варожыя самалёты...

Што было рабіць, калі табе шаснаццаць год? Аркадзь наважыў ісці з войскам на ўсход, ды падзеі разгарнуліся так хутка, што не паспеў аглянуцца, як нямецкія матацыклісты заляскаталі па вуліцы.

Фашысты пачалі ўжо рабаваць у вёсках. Дайшлі чуткі, што яны расстралялі чалавека ў Талачыне за тое, што пакарміў чырвонаармейцаў. У Новым Шляху, побач, забілі Івана Снапкова.

«Эх, Іване, не ўмеў ты схаваць зброю ў больш надзейным месцы!» — думаў пра Снапкова Аркадзь, бо добра яго ведаў і сам сабе ў думках наказваў: «Не, я зброю ў дом не панясу — схаваю ў лесе...»

У лесе Аркадзь адчуваў сябе, як дома. Схаваўшы зброю, ён ужо быў накіраваўся дадому, як яго нехта паклікаў:

— Хлопча!

На палянцы, пад густым арэхавым кустом, стаяў вайсковец з забінтаванай галавой і махаў Аркадзю:

— Хадзі сюды. Не бойся, свае!

— А я не баюся, — адказаў Аркадзь, ідучы насустрач чалавеку. Цяпер ён убачыў і другога байца. Той сядзеў пад кустом, адна нага яго была сагнута, другая выцягнута проста. З-пад штаніны віднелася закарэлая павязка. Побач ляжаў напакаваны рэчавы мяшок.

«Параненыя», — падумаў Аркадзь.

— Ты адкуль, хлопча? Як цябе завуць?

Аркадзь адказаў.

— Немцаў у вёсцы няма?

— Былі, цяпер няма.

Вайскоўцы доўга распытвалі Аркадзя, ці камсамолец ён, дзе вучыўся, дзе яго сваякі.

«Навошта ім гэта?» — думаў Аркадзь, але ахвотна адказваў на ўсе пытанні. Прозвішча яго Зелюткоў, яму пайшоў семнаццаты год. Вучыўся ў Мінскім педвучылішчы, ды вось вайна пачалася... Старэйшы брат Валодзя перад вайной служыў у войску недзе пад Беластокам, а цяпер пра яго няма ніякіх вестак.

— Пакажы камсамольскі білет, — раптам сказаў той, з перавязанай галавой.

— Цяпер з сабой не нашу. Схаваў я свой білет!

— Ты павінен нам дапамагчы.

Вайскоўцы папрасілі Аркадзя, каб ён прынёс ім ежы і цывільную вопратку. На развітанне сказалі:

— І камсамольскі білет захапі.

Праз якой паўгадзіны Аркадзь вярнуўся назад, прынёс бохан хлеба, добры кус сала, гладыш малака і сёе-тое з вопраткі. Адразу ж паказаў ім свой камсамольскі білет.

Падсілкаваўшыся, хлопцы павесялелі. Пераапрануліся ў цывільнае і загаварылі з Аркадзем, як са сваім чалавекам. Назвалі сябе. Адзін быў капітан Кулікаў, другі — старшы лейтэнант Максімаў. Разам прыселі пад кустом.

— Бачыш, Аркадзь, тут такая справа, — загаварыў капітан, — мы з пякельнага бою вынеслі сцяг дывізіі. Вось ён!..

Кулікаў дастаў з рэчавага мяшка чырвоны скрутак. Разгарнуў. Золатам ззялі на ім словы: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» і ніжэй: «56-я Маскоўская стралковая дывізія».

Капітан Кулікаў расказаў, што гэты сцяг яшчэ ў 1923 годзе ўручыў іхняй дывізіі легендарны Фрунзе, што дывізія пад гэтым сцягам змагалася супраць белафінаў.

— Вось і адзнака, — паказаў ён на дзірку ў палотнішчы. — Тады сцяг быў прабіты асколкам снарада.

Беражліва запакаваўшы сцяг у рэчавы мяшок, Кулікаў перадыхнуў і зноў глынуў з гладыша. Відаць было, што яму цяжка гаварыць. Усё ж ён трымаўся. Горш адчуваў сябе Максімаў. Таму, відаць, моцна балела нага, і ён часад-часу пацыху стагнаў, прылёгшы на траву.

— Сцяг трэба зберагчы, — горача прагаварыў Кулікаў. — А пра нас не турбуйся. Галоўнае — сцяг! Ён не павінен трапіць у рукі ворагу. Мы ж, калі выжывем, зойдзем да цябе...

— Разумею, — усхапіўся і павайсковаму адказаў Аркадзь. Гэ-

тае яго кароткае абяцанне прагучала, як клятва.

Аркадзь схаваў сцяг на гарышчы і нікому не гаварыў пра сваю тайну.

А вясной, калі зазелянелі лясы, усё часцей і часцей даходзілі чуткі аб партызанах. Нарэшце, яны пачалі наведвацца і ў вёску. Аркадзю ўдалося завязаць з імі знаёмства. Аднойчы ён пайшоў у лагер на Паддубскай выгары і перадаў партызанам некалькі вінтовак і гранат і сякія-такія звесткі пра немцаў, што сталі ў Абольцах. Хутка хлопец здружыўся з партызанамі-разведчыкамі Міколам Кабанавым, Паўлам Кузняцовым, Міколам Агафоненкам. Яны расказалі, што ваявалі пад Барысавам, трапілі ў палон, адтуль уцяклі і вось цяпер сталі партызанамі.

— А ў якой дывізіі вы былі?

— У 56-й Маскоўскай стралковай.

У Аркадзя ўстрапянулася сэрца. Гэта ж ён захоўвае сцяг гэтай дывізіі! Значыць, не загінулі яе байцы, у партызанскіх атрадах яны б'юць ворага!

Аркадзь паклаў сцяг у бляшанку з-пад патронаў і перахаваў яго з гарышча ў больш надзейнае месца, а сам пачаў рыхтавацца, каб пайсці ў партызаны.

Зімой 1942 года разам з сябрамі-аднавяскоўцамі Аркадзь Зелюткоў пайшоў у партызанскі атрад. Часта заглядаў ён у гушчар, да елкі, у вецціях якой захоўвалася бляшанка са сцягам.

Аднойчы Аркадзь расказаў пра сваю тайну камандзіру брыгады Мікалаю Пятровічу Гудкову. Той загадаў прынесці сцяг. На вачах сваіх баявых сяброў Аркадзь адчыніў бляшанку і беражліва дастаў чырвонае палотнішча.

— Дык гэта ж сцяг нашай дывізіі! — усхвалявана крыкнуў Мікола Кабанаў. — Малайчына, браток, — і ён горача пацiснуў руку Аркадзю.

Па рацыі далі тэлеграму на Вялікую зямлю. Адтуль прыйшоў адказ — даставіць сцяг у Цэнтральны штаб партызанскага руху. У хуткім часе сябры праводзілі Аркадзя на партызанскі аэрадром. Адтуль ён са сцягам вылецеў у Маскву.

56-я Маскоўская стралковая дывізія зноў пад сваім сцягам граміла ворага, ідучы з усімі савецкімі войскамі ў логава фашысцкага звера.

... Адгрымела вайна. Савецкі народ нястомна будуе мірнае жыццё. Аркадзь Карпавіч Зелюткоў цяпер — камуніст, працуе старшынёй Няклюдаўскага сельскага Савета, жыве ў роднай вёсцы Узноснае на Талачыншчыне. За свой подзвіг у час Айчыннай вайны ён узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

**Ул. ЗАХАРЭВІЧ.**

---

Ілья **МАСТКОЎ**

# СЛЯДЫ ВАЙНЫ

Апошнія залпы пад Берлінам, Кюстрынам, Прагай — даўно гэта было. Узняліся з руін мінулай вайны нашы гарады і вёскі. Былыя воіны прычакалі ўнукаў. Рыхтуюцца ўступіць у камсамол дзеці, якія не памятаюць вайны. Колькі разоў выспяваў ураджай на палях, дзе палаў пажар баёў, зруйнаваліся і замуравелі акопы і траншэі. Мір даўно і, хочацца верыць, трывала пануе на зямлі. І калі ненарокам пачуеш дзе-небудзь на будоўлі ці ў кар'еры выбух — не трывожышся, верыш, што ўзрыўчатка аблягчае працу людзей...

Капітан Калуцкіх.



Але часам цішыню ўскалыхваюць яшчэ выбухі мін, снарадаў і бомбаў. І добра, калі іх спачатку знаходзяць, абясшкоджваюць і ўзрываюць. А бывае і горш...

Яшчэ і цяпер, праз трынаццаць год пасля заканчэння вайны, на месцах баёў, у гарадах і сёлах, схаваныя ад вачэй, стаіліся небяспечныя сляды вайны — міны, снарады, бомбы. Паіржавелі ад часу металічныя абгорткі і ўзрывальнікі, але не страцілі сваёй смяротнай сілы і чакаюць, пакуль не кране іх коўш экскаватара ці чалавек.

Ёсць людзі, якія і сёння, рызыкуючы жыццём, знаходзяць і

абясшкоджваюць боепрыпасы, што засталіся пасля вайны, — гэта сапёры. Іх цяжкая, небяспечная праца — гэта сапраўдны подзвіг.

... Мы ў кабінеце аднаго з сапёрных падраздзяленняў, якое ўзначальвае капітан Калуцкіх. Ён, не спяшаючыся, гартае папку з паперамі і гаворыць:

— Глядзіце самі, тут акты нашых заданняў!

Звычайныя лісткі, занатаваныя кароткімі, па-вайсковаму лаканічнымі запісамі. «У раёне... заўважана... абясшкоджана... знішчана... ахвяр няма...»

А між іншым, за гэтымі скупымі запісамі паўстаюць жывыя, бясстрашныя людзі, якія перамагаюць смерць.



Лейтэнант Нагдзіеў.

## Першыя заданні

З наступленнем вясны салдаты ўсё часцей выходзяць на заняткі «на мясцовасці». Вось і сёння размясціліся яны на сонечнай лясной палянцы — ідуць заняткі па сапёрнай справе.

Хлопцы па выкліку падыходзяць да снарада, які чарнее сваім блішчастым бокам на іскрыстай зеляніне, растлумачваюць яго будову, сістэму ўзрывальнікаў, спосаб абясшкоджання...

З іх яшчэ ніхто ні разу не знішчыў, не абясшкодзіў, нават не бачыў «сапраўднага» варожага снарада. Але яны ўжо з гонарам называюць сябе сапёрамі. У роце толькі адзін спрактыкаваны, «сапраўдны» сапёр-мінёр — гэта капітан Калуцкіх. Усе ў роце адносяцца да яго з асаблівай павагай.

Сапёры жывуць марай аб баявых заданнях. Многія нават крыху палохаюцца: а раптам усё ўжо зроблена, раптам на іх долю ўжо не будзе ні «ВОП», ні «НАБ». Дарэчы, гэтыя словы таксама вымаўляюцца з асаблівай інтанацыяй — з ВОП і НАБ маюць справу толькі сапёры. Можна сказаць проста: выбухова-небяспечныя прадметы ці адзінкі, неўзарваныя авіяцыйныя бомбы, але гэта доўга і, галоўнае, — не гучыць. Іначшая справа, калі гаворыш: «ВОП», «НАБ», — неяк таямніча і рамантычна!

Так ужо водзіцца: вучань нецярпліва чакае сваёй першай самастойнай справы, заўтрашні лётчык — першага палёту, малады ўрач — першага хворага, сапёр — задання.

Сапёрам-навічкам прышло яно нечакана.

На стале ў капітана зазвінеў тэлефон.

— Капітан Калуцкіх? Гаворыць Макееў. Зайдзіце.

З Барысава паведамілі, што ў ваколіцы вёскі Вуглы вучні знайшлі снарад і надумаліся выкруціць узрывальнік. Неасцярожнасць прывяла да няшчасця: снарад узарваўся, і некалькі хлопчыкаў былі забіты і паранены. Так вясной мінулага года спіс ахвяр вайны павялічыўся імёнамі хлапчукоў, якія нарадзіліся пасля выгнання ворага з савецкай зямлі.



Калі знайшоўся адзін снарад, можа быць і другі, і трэці... Могуць быць і новыя ахвяры. Назаўтра на месца няшчасця выехалі салдаты-сапёры на чале з капітанам Калуцкіх.

Капітан бедаваў ад таго, што здарылася гора, якога магло не быць. А тут яшчэ неспакой пра заданне. Выконваць яго трэба людзям, якія ніколі дагэтуль не мелі справы з сапраўднай небяспекай. Можа разгубяцца? А калі, наадварот, раптам забудуць пра асцярожнасць? Яны ж маладыя, без практыкі — ім сорамна нават падумаць пра тое, што іх могуць западозрыць у баязлівасці. А ліхацтва да добрага не прывядзе.

Капітан пашкадаваў, што сеў у кабіну. З шафёрам не пагаворыш, а на сэрцы так неспакойна. Там, у кузаве, настрой узняўся — чуваць жарты, сцішаны смех. Гэта, відаць, загаварыў Мікалай Какурын — сакратар партыйнай арганізацыі, які валодае выключнай здольнасцю весяліць людзей заўсёды, нават калі ў самога на душы не вельмі лёгка.

На месца хлопцы прыехалі бадзёрыя, з жаданнем зараз жа пачаць пошукі снарадаў. Між іншым, гэта толькі гучыць вельмі звычайна «шукаць снарады». На справе ж гэта і цяжка і небяспечна. Калі ідзеш па колішняму полю бою, адкопваеш старыя траншэі, невядома, на што наткнешся, што знойдзеш у зямлі. Там могуць быць і снарады, якія не ўзарваліся, і міны — усялякія сюрпрызы, на якія майстрамі былі гітлераўцы. Вось чаму так асцярожна рухаюцца сапёры, так напружана ўслухоўваюцца ў аднастайнае гудзенне ў навушніках мінашукальніка, так уважліва мацаюць зямлю шчупамі.

Добрая рэч — мінашукальнік. Нясеш перад сабою невялікую квадратную рамку, якая ўмацавана на доўгай састаўной штанзе, і як толькі пад ёй акажацца метал, гудзенне змяняецца трывожным піскам: правер, што там — выпадкова закінуты шворан ці міна? Але мінашукальнік не ратуе чалавека ад небяспекі. На полі вайны засталося нямала і драўляных, і пластмасавых, і асфальтавых, і іншых мін, якія нельга выявіць мінашукальнікам. Даводзіцца дзейнічаць і шчупам. Паспрабуй памыліся, не угадай, дзе камень, а дзе міна... Спяшацца нельга. Асцярожна працуюць людзі. Нарэшце, першая знаходка — снарад. Потым яшчэ, яшчэ і яшчэ... Потым адразу па некалькі снарадаў. Не зважаючы на спякоту і стому, людзі прадаўжаюць пошукі. Трэба праверыць увесь участак, зрэзаны траншэямі — ад вёскі да шашы. Тут былі некалі артылерыйскія пазіцыі, вядома, што тут могуць быць не толькі снарады, але і міны.

Вось ужо стаяць трыццаць чырвоных сцяжкоў, яны азначаюць выбухова-небяспечныя прадметы. Снарады выяўлены. Але іх трэба абясшкодзіць. Як? Зусім проста — падарваць на месцы. Але ж побач вёска, шаша... Канешне, можна прыпыніць рух на шашы, вывесці людзей з вёскі. Так і прапанoўвалі хлопцам. Але капітан Калуцкіх надумаў інакш — вывезці снарады ў бяспечнае месца і ўзарваць.

Рашэнне прынята. Работа прадаўжаецца. Усе забыліся пра стомленасць. Ні аднаго неасцярожнага руху. Смеласць тут — гэта перш за ўсё асцярожнасць, уважлівасць. Кожны снарад трэба адкапаць, праверыць, можа дзе ёсць сюрпрыз, зроблены спецыяльна для сапёра. Капаць рыдлёўкай нельга — неасцярожны рух і... аб гэтым лепш не думаць. Людзі

працуюць асцярожна і толькі ножыкам або рукамі. Узрыўчатка магла ад часу ператварыцца ў новае рэчыва, якое вельмі лёгка ўзрываецца. Нязначны штуршок — і заплаціш жыццём.

Спацеў лейтэнант Нагдзіеў — камандзір узвода, расчырванеўся сержант Іван Казлоўскі — камсамолец з-пад Баранавіч. Ён выдатна авалодаў тэорыяй сваёй справы. Цяпер — праверка яго ведаў на практыцы. Ацэнка вядомая: правільна зробіш — выбуху не будзе, памылішся...

Адкапаны адзін снарад, другі, трэці, дзесяты і, нарэшце — апошні. Цяпер іх трэба абясшкодзіць. Зноў спакойныя, упэўненыя рухі. Зняты ўсе трыццаць узрывальнікаў. Снарады можна вывозіць.

У кузаў машыны насыпаецца пясок-падсцілка, каб снарады не датыкаліся адзін да другога. Кладзецца рад снарадаў — зноў насыпаецца пясок. На борце машыны чырвоныя сцяжкі — сігнал аб небяспецы. У кабіну побач з шафёрам садзіцца капітан Калуцкіх. Астатнія члены групы — на другім грузавіку.

Машына ідзе марудна. Шафёр нібы баіцца, каб у кузаве не расплюскалася каштоўная вадкасць. Дарога здаецца бясконцай. Але вось паваротка, яшчэ адна, і неўзабаве відаць стары, закінуты кар'ер. Тут — прыпынак.

— Здаецца, галоўнае мінулі,— гаворыць капітан, акінуўшы вокам раскладзеныя ўводдалі адзін ад другога снарады.

Узрываць, здаецца, прасцей. Удзельнікі аперацыі, адпачыўшы за дарогу, зноў узяліся за справу.

Выстаўлена ахова. Вызначаны падрыўнікі, падрыхтаваны запальныя трубкі. У неба ўзлятае чырвоная ракета: увага!

Адна за другой чуюцца каманды:

— Увага! Запальвай!

Дзве чырвоныя ракеты папярэджваюць аб выбуху. Запальваючы бікфардаў шнур, падрыўнікі дакладваюць:

— Ёсць!

— Ёсць!

— Ёсць!

Зноў каманда:

— Адыходзь!

Даўжыня запальнай трубкі 150 сантыметраў. Значыць, гарэць яна будзе 150 секунд. За гэты час трэба паспець схавацца. У сховішчы ўсе лічаць выбухі:

— Адзін, два, тры, чатыры, пяць...

І ўсё? Не можа быць. Снарадаў было шэсць — столькі ж павінна быць і выбухаў. Значыць, у аднаго не запаліла трубка. Чаму? Патухла ці тлее? Праходзіць мінута, пяць, дзесяць — выбуху няма. Трэба ісці да снарада.

— Іду я, — аб'яўляе капітан. — Усе застаюцца ў сховішчы.

Хлопцы не спускаюць вачэй з камандзіра. Што там такое? А раптам запальная трубка не патухла, і зараз агонь дойдзе да капсуля — тады грымне выбух. Але капітан нахіліўся, ірвануў за канец трубкі і адкінуў яе далёка — цяпер небяспека мінавала. Прыладжана новая трубка. Капітан адыходзіць — грыміць выбух.

Дзве зялёныя ракеты абвяшчаюць: адбой! А потым зноў: увага! Выбух! Чырвоная, дзве чырвоныя, дзве зялёныя ракеты. Потым — новы рэйс за снарадамі, якія засталіся. Зноў выбухі...

Заданне выканана. Хлопцы вяртаюцца ў казарму. Звіняць вясёлыя салдацкія песні. А ў папцы прыбавіўся невялічкі акт, напісаны спешна: «Мы, што ніжэй падпісаліся, склалі гэты акт у тым, што ля вёскі Вуглы Барысаўскага раёна выяўлена і знішчана 30 выбуховых адзінак...» Акт падпісалі — удзельнікі сапёрнай групы і мясцовы работнік міліцыі Хацкевіч.



**«Нарадзіўся сапёрам»**

— Я, напэўна, не выпадкова сапёр, — з усмешкай гаворыць пра сябе капітан Калуцкіх. — Вучылішча ж закончыў па мастадарожнаму будаўніцтву. Такі ўжо, відаць, лёс мой — з чаго пачаў, да таго і прышоў...

У суровыя дні 1943 года шаснаццацігадовым хлапчуком Васіль Калуцкіх пайшоў дабраахвотна ў Савецкую Армію, у 21-ы знішчальны батальён. А ў хуткім часе яму давялося выконваць першае сапёрнае заданне — удзельнічаць у размініраванні берагоў Масквы-ракі.

Адразу ж пасля вайны выдатнік баявой і палітычнай падрыхтоўкі Васіль Калуцкіх накіроўваецца ў вайскова-інжынернае вучылішча.

Потым — нялёгкая афіцэрская служба з частымі пераездамі, дасветнымі пад'ёмамі, вучэннямі і баявымі заданнямі. Юнак узмужнеў, стаў камуністам, камандзірам роты. На яго баявым рахунку — сотні абясшкоджаных бомбаў, мін і снарадаў. Пяты год, як ён вышуквае міны на колішніх палях вайны ў Беларусі.

... Мінчане добра памятаюць не так даўно збудаваны вялікі жылы дом на вуглу Маскоўскай вуліцы і Рабкораўскага завулка, у першым паверсе якога зараз — дзіцячы магазін-атэлье і сталовая. Дом гэты пачалі будаваць на месцы разбуранага, ад якога застаўся толькі падмурак і падвал. Калі разбіралі рэшткі старой кладкі, нехта з будаўнікоў раптам заўважыў, як бліснуў стабілізатар авіяцыйнай бомбы.

— Стой! Не бі!

Усе адхінуліся ад небяспечнага месца. Неўзабаве сюды прыбыў на матацыкле капітан Калуцкіх. Уважліва агледзеў бомбу. «Так, фугасная, 250 кілаграмаў. Узрывальнік кандэнсатарны. Тым



Радавы Ваўкагон.

лепш — электрычны зарад даўно пайшоў у зямлю. Ці няма яшчэ ўзрывальнікаў?»

Агляд ішоў доўга. Яшчэ даўжэй давялося вызваляць бомбу. Працаваў капітан адзін, асцярожна выкрышваючы вакол бомбы цэглу, абшкрабаючы зямлю. Калі ўпэўніўся, што нечаканасцей няма — паклікаў рабочых. А ў хуткім часе па вуліцах горада прайшоў грузавік з чырвоным сцяжком на левым борце — з абясшкоджанай бомбай.

Летась капітан Калуцкіх узначальваў сапёрную групу у Бягомлі. Заданне ўжо было зроблена. Заставалася толькі падпісаць акт і дзеля гэтага капітан і зайшоў у райаддзел міліцыі.

— Вось добра, што вы яшчэ не паехалі, — радасна сказаў работнік міліцыі Юрчанка. — Заўважана яшчэ бомба пад сценамі аднаго будынка. Але што рабіць — тэрмін жа вашай камандзіроўкі, напэўна, скончыўся?..

— Якія там яшчэ тэрміны?

Ніхто лепш за сапёра не ведае, што неўзарваная бомба амаль ні-

колі не бывае мёртвай, яна толькі стаілася, каб раптам ажыць, паказаць сваю страшную сілу, раскідаць вакол сябе смерць і калецтва.

Капітан папрасіў, каб яму паказалі тое месца.

— Гэтая бомба, напэўна, трапіла яшчэ ў 1944 годзе, — па дарозе расказваў Юрчанка, — калі фашысты бамбілі нашы войскі, што наступалі праз Бягомль...

З дому былі выселены людзі, выстаўлена ахова, і работа пачалася. Зняты адзін пласт зямлі, другі... Шчуп натыкаецца на метал. Рыдлёўку — убок! Капітан рукамі і ножыкам асцярожна здымае зямлю. Раптам пакатая крутасць пераходзіць у плоскасць. Такога яшчэ не было ў яго практыцы. Плоская бомба? Капітан працягвае ўважліва аглядаць... бомбу. Не — кацёл. Звычайны паравы кацёл, які нейкім чынам трапіў у зямлю. Што ж, у такім разе лепш памыліцца, чым не дагледзець.

Гэта было ў вёсцы Карсанавічы Барысаўскага раёна. Капітан абясшкоджваў чарговую бомбу. Яна адным канцом глыбока ўвайшла ў зямлю. Уважліва агледзеў яе кавалак, які тырчаў з зямлі. Злёгку пачысціў ножычкам. Нейкі блакітны колер. Ці бомба гэта? На ўсякі выпадак — гэта стала прафесійнай звычкай — капітан ачышчае ўсё далей невядомы прадмет. Заўважыўся аблом у сценцы, дзе пасля расчысткі выявілася ўзрыўчатка. Значыць, бомба.

Праца прадаўжаецца з яшчэ большай асцярожнасцю. Дзіўны нейкі корпус, нібы бетонны, узрывальнікі ўнутры? Ножык асцярожна абшкрабае зямлю. Пальцы асцярожна адграбаюць яе, ачышчаюць корпус. Стой! На нейкую долю секунды замёрла сэрца. Пальцы намацалі тонкі, але трывалы сталёвы тросік. Хто з сапёраў не ведае прызначэнне такіх тросікаў? Непрыкметныя, схаваныя ў зямлі, яны заўсёды цягнуцца да нябачнай чакі ўзрывальніка. Ненарокам кранеш — значыць, зробіш тую самую памылку, якую не паўтараюць двойчы.

Капітан павольна абчышчае пальцамі тросік. Адна рука намёртва трымае яго, ахоўваючы ад усялякай выпадковасці, другая вызваляе ад зямлі. Але што гэта? Зноў нечаканасць — тросік абарваўся, вось ён у руках!..

Вярнуўшыся, капітан зацікавіўся, які ж прадмет яму трапіўся. Аказваецца, гэта была асколачная бетонная бомба, іх немцы выкарыстоўвалі ў канцы вайны, калі нехапала металу. А тросік? Ён служыў для мацавання металічнага стабілізатара бомбы к бетону. Бомба разбілася. Стабілізатар адбіўся, а бетонны корпус уехаў у зямлю.

Баявыя заданні змяняюцца работай у падраздзяленні, навучаннем асабовага складу, роздумам над тэхнікай абясшкоджвання ўзрыўчатых прадметаў. Сапёры — народ творчы. І гэта натуральна. Кожная бомба — загадка, кожнае заданне — сапраўдная галаваломка з многімі невядомымі, якія абавязкова трэба знайсці. Так выпрацоўваецца звычка думаць, шукаць... Вось шчуп — звычайны прыбор для вышуквання мін, бомбаў і іншых прадметаў у зямлі. Сталёвы прамы стрыжань, які можна павялічваць, са спецыяльным наканечнікам. Сапёр, трымаючыся за вараток, уразае шчуп у зямлю. Здаецца, прасцей не прыдумаеш... Аказваецца, можна прыдумаць. Калуцкіх даўно думаў, як бы гэта палепшыць вараток, цяжкі, нязручны, з адным адвінчваючым рычагом. І вось рашэнне знойдзена — вараток зроблен пустацелым. Абодва рычагі адвінчваюцца. Проста і зручна!

Эканомія — слова, якое добра знаёма не толькі людзям цывільным, але і вайскавікам. Але як эканоміць узрыўчатку? Вядома, для таго, каб падарваць бомбу вагой пяцьдзесят кілаграмаў, патрэбна чатырохсотграмовая трацілавая шашка. Аказваецца, можна і тут дасягнуць эканоміі. Скласці бомбы ці снарады галоўкамі к цэнтру, зорачкай, а ў цэнтр адзін кілаграм аматолу, які куды таннейшы, чым траціл, і дастаткова аднрй 75-грамовай шашкі трацілу. Гэты спосаб падрыву і назвалі «зорачкай».





Сержант Пуздракоўскі.

Шмат заслуг, будзённых, звычайных, якія маюць і многія савецкія афіцэры, ёсць у капітана Калуцкіх. Глядзіш на гэтага простага, сціплага чалавека, які штодзённа рызыкуе сваім жыццём дзеля таго, каб усе мы маглі спакойна хадзіць па зямлі, і міжволі думаеш:

— Такія людзі, як Калуцкіх, сапраўдныя героі!

### «Поле смерці»

Непадалёк ад Пінска, за вёскай Лісяцічы, раскінулася вялізная паляна, вакол якой панастаўлены таблічкі: «Лесапасадкі». Прыгожая, зацішная мясціна.

Некалі тут ад бомбаў і снарадаў дрыжала зямля, дыбілася чорнымі смерчамі, пасля якіх заставаліся страшэнныя знакі — варонкі. У часе вайны на гэтай паляне быў аэрадром: там засталося шмат бомбаў.

Ішлі гады. Але падступіцца да гэтага страшнага месца было нельга — якая-небудзь праіржавелая бомба магла ўздыбіць зямлю пры першым дотыку. Мясцовыя жыхары баяліся гэтага месца.

Увосень мінулага года на «полі смерці» пабывалі байцы капітана Калуцкіх. Да задання рыхтаваліся, як заўсёды, старанна. Лейтэнант Рамніцын і радавы Капуста прыбылі ў разведку, агледзелі паляну, вызначылі ўчастак і характар работы. Прывезлі з сабой несуцяшальныя весткі: вялізнае поле ўсеяна ўзрыўчатымі прадметамі. І шукаць іх давядзецца толькі шчупамі — мноства асколкаў не дадуць магчымасці выкарыстаць мінашукальнікі.

Капітан Калуцкіх доўга раіўся з лейтэнантамі Рамніцыным і Нагдзіевым, каго з салдат вызначыць у гэтую групу. З аднаго боку — заданне вельмі складанае, трэба браць самых вопытных людзей, якія мелі справу з сапраўднымі бомбамі; з другога — гэтая практыка, як паветра, патрэбна і моладзі. І капітан вырашыў разам з людзьмі спрактыкаванымі ўзяць і салдат, якія самастойна не здымалі ні аднаго ўзрывальніка. У гэтую групу, апрача Калуцкіх і Нагдзіева, увайшлі сержант Пуздракоўскі, радавыя Братчун, Гулін, Ваўкагон, Капуста, Каленька, Жаголка, Мельнік і Няфёдаў.

Лісяцічы сустрэлі воінаў незвычайна халодным для верасня дажджом. Увесь дзень вісела саматная пеляна мораку. На кожным кроку сустракаліся гразкія лужыны...

Але баявое заданне — не прагулка, каб чакаць, калі надвор'е выпагадзіцца. Хлопцы адразу ж прыступілі да справы. Увесь участак разбілі, прыкладна, на роўныя квадраты. Іх набралася больш пяцідзесяці — у кожным гектараў па дванаццаць. Квадраты ў сваю чаргу падзялілі на палосы, каб не блытацца, не шукаць двойчы на адным месцы і не абмінуць ні аднаго шматка зямлі.

Першы ж дзень даў «багаты ўлоў» — 50 авіябомбаў. Бомбы былі розныя. Радавы Братчун адкапаў вялізную сталёвую аграмадзіну. Капаў асцярожна, разграбаючы і раскідваючы прыгаршчамі халодныя, гразкія камякі зямлі. Прыгаршчы за прыгаршчамі, пакуль бомба зусім не вылузалася з зямлі. Потым яе аглядаў лейтэнант Нагдзіеў. «Узрывальнік не спрацаваў! А ці няма дадатковага?» Але ў цеснай ямцы цяжка агледзець бомбу, і прыйшлося пад яе падапхнуць люстэрка. Усё добра на гэты раз, без сюрпрызаў. Можна ўзрываць.

Горш давялося, калі знайшлі маленькую, не цікавую на пагляд двухкілаграмовую асколачную бомбачку 5Д-2. Франтавікі ў гады вайны празвалі яе «матыльком» — яна мела крылцы, якія раскрываліся ў паветры. Яе нездарма лічаць самай каварнай — «матылёк» часта служыць мінай замаруджанага дзеяння, яна снараджаецца спецыяльнай прыладай, якая праз сорак мінут пасля падзення на зямлю ўключае вібратар, і бомба ўзрываецца ад самага нязначнага дотыку. І вось яе заўважылі — амаль зусім прысыпаную зямлёй, схаваную травой. Абясшкоджваў і ўзрываў яе лейтэнант Нагдзіеў, малады афіцэр, які ўпадабаў ужо сваю небяспечную прафесію.

— Вельмі цікава, — гаворыць ён з выразным акцэнтам каўказца, — кніга вучыць, настаўленне


Радавы Братчун.

вучыць, але справа — лепш за ўсё вучыць, — і ўсміхаецца весела, заўзята. — Праз гэту справу Беларусь палюбіў. У Азербайджане не знайшоў снарады — сюды прыехаў шукаць!..

Не так даўно Нагдзіеў жаніўся тут, узяўшы за жонку беларускую дзяўчыну Соню. У іх ужо ёсць маленькі сынок Раміс, які робіць першыя нясмелыя крокі па зямлі. Для Раміса, для ўсіх дзяцей Нагдзіеў і ачышчае зямлю. Ужо некалькі баявых заданняў выканаў ён — у Гомелі, на Магілёўшчыне, на Піншчыне, у тых мясцінах, дзе першыя свае баі правяла некалі польская дывізія імя Касцюшкі.

Аднак у такім заданні, як у Лісяцічах, Нагдзіеву давялося ўдзельнічаць упершыню. Палохала страшэнная колькасць бомбаў, вельмі перашкаджала надвор'е, стамляла няспынная трывога за людзей. Гарачы, рухавы лейтэнант быў поўнай супрацьлегласцю спакойнаму, нетаропкаму капітану Калуцкіх, з вопыту якога Нагдзіеў паспеў многае пераняць. Можа гэтая супрацьлегласць у характарах



і здружыла афіцэраў. Тут, пад Лісяцічамі, спакойнасць капітана ўвесь час асабліва дапамагала, ахалоджвала не ў меру гарачага Нагдзіева, і работа спорылася.

... Салдаты крок за крокам аглядалі ўчастак. Літаральна праз кожныя пяць-шэсць мінут выяўляліся бомбы. Тады да іх бег хто-небудзь з афіцэраў. Вырашалі, што рабіць, — сцягваць ці падрываць на месцы.

Трэці дзень работы супаў з адкрыццём у Маскве ўсеармейскага злёту выдатнікаў баявой і палітычнай падрыхтоўкі. Увечары сапёры сабраліся на камсамольскі сход. Гэта быў, мабыць, самы кароткі камсамольскі сход за час іх службы: без прэзідыума, без дакладаў і нават без спрэчак. Групкамсорг радавы Мікалай Капуста прапанаваў прысвяціць баявое заданне, якое выконвалі ў гэтыя дні, злёту. Прапанова была з вялікім захапленнем прынята. А назаўтра яны далажылі аб сваёй працы злёту — на іх рахунку было некалькі тон выбухова-небяспечных прадметаў.

За дзесяць дзён працы ўдзельнікі групы знайшлі і абясшкодзілі велізарную колькасць бомбаў — амаль чатыры з паловай сотні. На «полі смерці» было знята каля 23 тон выбухова-небяспечных прадметаў.

З вясёлым настроем вярталіся хлопцы з Лісяціч. Надвор'е праяснілася. Усім прыемна было ад той думкі, што заданне выканана, што пад Пінскам не будзе больш таго страшэннага «поля смерці», якое абыходзілі людзі.

Усе ўдзельнікі «пінскай аперацыі» атрымалі падзяку. Капітан Калуцкіх, лейтэнант Нагдзіеў, радавыя Братчун, Капуста, Мельнік, Гулін, Каленька ўзнагароджаны каштоўнымі падарункамі.

* * *

Калі сапёр правярае мінашукальнікам ці шчупам зямлю, ён нечым нагадвае ўрача, які ўважліва аглядае хворага. Ён гэтак жа насцярожана ловіць гукі мінашукальніка, як урач — сэрца, калі аглядае хворага. Нават агульныя прыборы ёсць у сапёра і ўрача — стэтаскопы. Толькі ў адным выпадку ён улаўлівае гук механізма, які пагражае жыццю людзей, у другім — небяспечныя хрыпы ў арганізме чалавека. Урач лечыць людзей, сапёр зямлю ад выбуховых прадметаў.

... За некалькі месяцаў сапёраў капітана Калуцкіх выклікалі «па хуткай дапамозе» 11 разоў. Больш 600 выбухова-небяспечных прадметаў знойдзены іх рукамі. Дзесяткі будынкаў, сотні гектараў зямлі «вылечылі» яны ад цяжкай хваробы. Хто ведае, а колькі чалавечых жыццяў выратавалі!

Ва ўсякую пагоду, у любую пару сутак сапёры гатовы да новага задання. Капітан Калуцкіх заўсёды чакае трывожнага тэлефоннага званка...

# Па партызанскіх сцежках

## I. ЗАЗЕКА

# СТАРОНКІ ДЗЁННІКА

### 1. ПРАВАДНІЦА

Было апоўначы.

Зося асцярожна адчыніла сянечныя дзверы і выглянула на двор. Вуліцай нехта ішоў павольнымі крокамі. Пад нагамі хлюпала гразь. Зоя ўгледзелася ў цемру. Дзве постаці, як чорныя цені, набліжаліся да яе двара. Зося прыпала да вушака і стаілася. Постаці прайшлі далей па вуліцы, да Зосі данесліся ўрыўкі нямецкіх слоў.

«Варта»,—падумала яна. Крыху пачакаўшы, Зося асцярожна пераступіла парог, зачыніла дзверы і цераз сад падалася на загуменне. Адразу за гумном пачынаўся бярозавы хмызняк.

Над лесам пачало бляднець цёмнае воблачка. Яно з кожнай хвілінай святлела і рабілася ясным. Нарэшце, верхавіны лесу асвятліліся дымчатым святлом месяца. З невыразных абрысаў лесу пачалі прыкметна выдзяляцца белыя ствалы бяроз, воддаль — стромкі хвойнік, каля яго, прытуліўшыся адна да другой, стаялі кучкай маладыя елкі.

У лесе панавала цішыня. Але вось непадалёку пачуўся трэск сучча. Зося насцярожылася і пачала ўглядацца ў той бок, адкуль пачуўся трэск. Зноў стала ціха. Паслухаўшы хвіліну-другую, Зося падышла да тоўстай хвоі і прысланілася да яе.

Зусім блізка ў кустах пачуўся шорах лісця. Зося прысела. Зрок і слых яе былі да болю напружаны. Хутка яна заўважыла чалавека, які ішоў кустамі. Чалавек выйшаў на ўскрай лесу і спыніўся. Пастаяўшы некаторы час, ён свіснуў, як дрозд. Зося кінулася да чалавека. Не прайшло і хвіліны, як яе з усіх бакоў абступілі партызаны.

— Колькі немцаў стаіць у нашай вёсцы?

— Даўно нас чакаеш?

— Не страшна было?—сыпаліся з ўсіх бакоў пытанні.

— У нашай вёсцы стаіць цэлая рота немцаў. Я ледзь з дому выбралася, — адказвала яна.

Да Зосі падышоў сярэдняга росту партызан у ваеннай форме. Прадаўгаваты яго твар бледна асвятляўся месяцам. Ён глянуў на Зосю крыху прыжмуранымі вачыма.

— Добры вечар, Зося,—ён падаў ёй руку.—Завуць мяне Андрэй. Пра вас я многа чуў у брыгадзе...

— А вас я першы раз бачу.— Зося прыглядалася да партызана ў ваеннай форме і перабірала ў памяці ўсе імёны, якія ёй калі-небудзь даводзілася чуць ад партызан.

— З Вялікай зямлі да нас прыляцеў,—шапнуў нехта Зосі.

— З гэтага часу будзем бачыцца з вамі часта,—сказаў Андрэй.

Было пасля поўначы. Пад вывараццю елкі партызаны расклалі невялікі агеньчык. Андрэй дастаў з планшэткі карту і пачаў чарціць падрабязны план падрыўной аперацыі. Побач з ім сядзела Зося.

— У ляску, каля рэчкі бомбасклады... Гаручае знаходзіцца пад горкай у кустах. Немцы накапалі канавы, абсадзілі іх ельнікам, навазілі туды скрынак і замініравалі подступы. На самай справе там ніякіх бомб няма, —паціху дакладвала Зося.

— Так... Гэта дакладна?— Андрэй кінуў востры і ўважлівы позірк на Зосю.

— Гэта дакладна. Я цэлы дзень сачыла, куды яны са станцыі возяць бомбы.

— Значыцца, таварыш камандзір, яны нас заблытаць хацелі: думайце, маўляў, што бомбасклады ў нас тут, а на самай справе яны ў другім месцы,—умяшаўся ў гутарку адзін з партызан.

— Яны маскіруюць свае базы і ад нас і ад нашай авіяцыі. Але мы ўсёроўна іх узарвем,—адказаў Андрэй, не адрываючыся ад карты. Ён чырвоным алоўкам ставіў на ёй крыжыкі, кропкі. «А што, калі бомбасклады ахоўваюць не два вартавых, а чатыры?»—прыходзіла ў галаву Андрэю думка.

Узважыўшы ўсе магчымыя акалічнасці, Андрэй склаў карту і падняўся.

— Ну, Зоська, вядзі.

Месяц даўно схаваўся за воблакамі. Працяжна шумеў лес.

Шмат часу партызаны ішлі балотам. Нарэшце выйшлі на чорнае ўзаранае поле. Уперадзе сінеў лес, у якім былі схаваны бомбасклады, за лесам—варожы аэрадром. Калі партызаны падыходзілі да лесу, з-за хмары нечакана выплыў месяц. Андрэй махнуў рукою, партызаны прыпалі да зямлі.

Хутка на месяц успаўзла чорная хмара і загасіла яго бледнае святло. Партызаны падняліся і пайшлі, асцярожна, часта спыняючыся. Над лесам узняліся адна за другой светавыя ракеты. Яны доўга віселі над яго верхавінамі. Партызаны зноў прыпалі да зямлі. Прайшло некалькі хвілін, і яны ўвайшлі ў лес. Зося, нахінуўшыся да Андрэя, паціху нешта тлумачыла, паказваючы ў бок лесу.

Андрэй павярнуўся і шэптам загаварыў:

— Кулямётнаму аддзяленню паўзці налева. За лесам праз рэчку будзе мост. Не даць ворагу перайсці яго, пакуль мы не адыйдзем.

— Ёсць, не даць ворагу перайсці мост!—шэптам адказаў камандзір кулямётнага аддзялення.

Над лесам плылі нямецкія самалёты. Прапелеры са свістам свідравалі чорнае неба. Партызаны адзін за другім паўзлі да складаў. Карэнне дрэў балюча драпала іх калені і локці.

— Вось дот, — Зося паказала пальцам на ледзь прыкметную горку.

— Злева дот,—прашаптаў Андрэй гранатамётчыкам.—На выпадак, калі пачнецца з дота абстрэл, закідаць яго гранатамі.

— Ёсць! — гранатамётчыкі папаўзлі да дота.

Андрэй з групай ляжалі і ўважліва аглядалі кусты. Злева бліснула іскарка агеньчыка. Відаць, вар-

тавы курыў, схаваўшы папяросу ў рукаў. Андрэй з групай папаўзлі ў той бок, дзе бліснуў агеньчык. Цемра стаяла сцяной перад імі. Зося тузанула за рукаў Андрэя і паказала на дзве ледзь прыкметныя чорныя цені. Андрэй павярнуўся да партызана Калевіча і паказаў на вартавога, які стаяў злева. Калевіч паклаў руку на кабуру.

— Ні, ні, — нахінуўшыся, шапнуў Андрэй.

— Разумею, — таксама ціха адказаў Калевіч і папоўз да немца.

Андрэй асцярожна пачаў падкрадацца да вартавога, які стаяў каля самага бомбасклада. Выбраўшы зручны момант, калі немец стаў да яго спіной, Андрэй спрытна скочыў вартавому на плечы і схапіў яго за горла. Немец паваліўся ніц на зямлю і пачаў выкручвацца. У гэты ж момант Калевіч схапіў за горла другога вартавога. Яны абодва паваліліся на зямлю. Немец, задыхаючыся, намацаў кальцо гранаты, якая была прычэплена да яго папругі, і рвануў яго. Грымнуў выбух. Немец і Калевіч узарваліся.

Выбух устрывожыў немцаў. Недалёка ўспыхнула ракета. Андрэй ірвануўся да бомбаскладаў і паклаў міну. Зусім блізка засакатаў кулямёт. Кулі свісталі над галавамі. Андрэй, разгледзеўшы, адкуль вораг вядзе агонь, падхапіўся, стаў на ўвесь рост і кінуў гранату. Грымнулі выбухі. Кулямёт змоўк. У гэты момант з дота хлынуў агонь. Заліўся доўгаю чаргою кулямёт. Адысці пад такім агнём было нельга. «Праз дзесяць хвілін выбух», — пранеслася ў галаве Андрэя. Раптам шуганула ўгару полымя, пачуўся выбух. Гэта ўзарвалася звязка гранат, кінутых у варожы дот. І кулямёт змоўк.

— Адыход! — з усіх сіл крыкнуў Андрэй. Падрыўнікі кінуліся ў лес. Хутка грымнулі адзін, другі, трэці гулкія выбухі. Уздрыганулася зямля. Хвалямі паветра Зосю адкінула ў канаву. Выбухі паўтараліся. Ламаўся, трашчаў лес. Узрываліся бомбасклады. Дзесяткі нямецкіх пражэктараў кідалі сваё святло ў чорнае неба. Вораг думаў, што паціху падышлі савецкія бамбардзіроўшчыкі і бамбардыруюць склады. З аэрадрома пачалі падымацца самалёты.

Зося ляжала ў канаве. У вачах яе роем мітусіліся белыя, сінія празрыстыя іскрачкі. Едкі ўдушлівы чад толу шчыпаў у горле, у роце было кісла. Яна хацела выбрацца з канавы, але ногі і рукі яе знямелі, пальцы не разгіналіся. У галаве прамільгнула думка, што яе кантузіла і што яна засталася ў лесе адна. Зноў замітусіліся ў вачах агністыя іскаркі. Зося застагнала і страціла прытомнасць.

Неўзабаве да канавы падпоўз чалавек і пачаў падымаць Зосю. Яна зноў застагнала.

— Ціха, Зоська, ціха. Мы панясем цябе.

Зося расплюшчыла вочы.

— Андрэй? Андрэйка!.. — задрыжаў яе голас.

— Я, я, — нагнуўшыся, ціха шапнуў ёй на вуха Андрэй.

**1944 год.**

## 2. ЖОЎТАЯ КНІЖКА

Пасажырскі цягнік стаяў на станцыі Беласток. Паравоз часта выдыхаў воблакі белай пары, якія таялі ў затуманеным паветры.

Павяваў свежы, вільготны ветрык. Ён лёгка падхапіў кавалак паперы і доўга круціў яго ў паветры.

Раптам маланка паласнула сіняй істужкай хмару, пачуўся далёкі, глухі гул. Хмара нізка прасоўвалася, неяк наўскос супраць ветру. Пацямнела. Раз за разам маланка прабівала хмару. Ударыў гулкі, раскацісты гром, шугануў моцны, парывісты вецер, ён павярнуў грозную хмару ўбок і пагнаў на поўдзень.



Незадоўга да адыходу цягніка на пероне з'явіліся гестапаўцы. Яны падазрона агледзелі салдат, а ў некаторых праверылі дакументы.

Каля вагонаў паважна хадзіў маёр гестапа. Адрузлы яго твар быў абсыпан рабаціннем, мясісты падбародак звісаў на каўнер. Маёр часта даставаў з кішэні гадзіннік і глядзеў на яго.

У паветры гуло і дрыжала. Сіняватая маланка ўспыхвала і гасла ў вадзяністай муці.

Да станцыі пад'ехала некалькі аўтамашын. З сярэдняй выйшаў дзяржаўны саветнік гер Кэмпэ. Ён кінуў сваімі бялесымі вачыма ўправа, потым улева, выпучыў уперад грудзі і накіраваўся ў вагон. За ім услед ішлі два афіцэры і памочнік Зэберг.

Параўняўшыся з маёрам, гер Кэмпэ строга паглядзеў на яго. Маёр выцягнуўся як толькі мог. Праваднік вагона адчыніў дзверы і стаў збоку навыцяжку. Гер Кэмпэ зайшоў у вагон.

У гэты момант з будынку станцыі на перон выйшаў невысокага росту чалавек у плашчы. Ён трымаў у руках невялікі чамадан. Чалавек кінуў на маёра ўважлівы і востры позірк. Маёр рэзка павярнуўся, яго позірк спыніўся на твары чалавека ў плашчы.

— Вашы дакументы?

Чалавек апусціў галаву. Губы яго ледзь заварушыліся, ён нічога не адказаў, дастаў з бакавой кішэні маленькую жоўтага колеру кніжачку і падаў маёру. Той адразу ўзяў пад казырок і далікатна сказаў:

— Калі ласка, прайдзіце.

Загудзеў гудок паравоза. Лёгка ўздрыгнулі вагоны. Цягнік паволі адыходзіў. Чалавек у плашчы на хаду ўскочыў на падножку вагона, у якім ехаў гер Кэмпэ.

Хмара прайшла. Вецер развеяў імглу. Паветра з кожнай хвілінай рабілася больш празрыстым.

Цягнік набіраў скорасць. Каля акна стаяў гер Кэмпэ. Перад яго вачыма штохвіліны мяняўся пейзаж. Воддаль паказаўся хваёвы лес і знік, мільгнулі абгарэлыя, з сухім лісцем ліпы, чорныя каміны. Пажарышча абудзіла ў памяці Кэмпэ ўспаміны аб нядаўнім мінулым. Яму з незвычайнай выразнасцю прыпомніўся момант, калі ў часе аблавы на партызан ён сядзеў у танку за кулямётам. Праз шчыліну байніцы былі відаць вузкая дарога і суцэльныя зараснікі. Рэсоры танка падкідалі цяжкую бранявую вежу. «Хто сустрэнецца, таму смерць», — пад'язджаючы да вёскі, падумаў гер Кэмпэ. Але ў гэты момант грымнуў выбух.

Танк падкінула ўгару, страшэнны ўдар аглушыў яго. Расстроены ўспамінамі, ён адышоўся ад акна і лёг на канапу.

У гэты момант у купэ адчыніліся дзверы, зайшоў Зэберг і далажыў, што ў вагоне едзе чалавек, які рэкамендуе сябе агентам гестапа.

— Папрасіце яго да мяне, — сказаў гер Кэмпэ.

У купэ зайшоў чалавек у плашчы. Ён прывітаўся і смела глянуў у вочы геру Кэмпэ.

Калючы позірк Кэмпэ спыніўся на твары чалавека.

— Дзе вы працуеце? — ён не мяняў позы.

— У Беластоцкім гестапа. Маё прозвішча Гросман, — голас чалавека быў спакойны.

— Гросман... Гросман... — гер Кэмпэ часта пачаў маргаць вачыма, відаць, прыпамінаў, дзе ён чуў гэтае прозвішча. — Гэта вы прымалі ўдзел у аблаве на партызан пад Валкавыскам? — гер Кэмпэ ўстаў з канапы і падышоў да чалавека.

— Я. Мой штурмавы атрад выбіў іх з Замкавага лесу. 7-га чэрвеня, калі на міну ўскочыў танк

асобага ўпаўнаважанага фюрэра, мой атрад першы падаспеў на выручку, — упэўнена расказваў Гросман.

На твары Кэмпэ ўспыхнула радасць, вочы яго праясніліся.

— Дык — гэта вы, Гросман, які, можна сказаць, выратаваў маё жыццё?! Вы — герой. Фюрэр вас высока ўзнагародзіць. — Ён бліжэй падышоў да Гросмана, паляпаў яго па плячы.

Гросман, відаць, ад радасці, пачырванеў.

— Сядайце і расказвайце, куды вы едзеце? І хто вы?

— Еду ў Берлін. Я — фольксдойч. Нарадзіўся ў Беластоку, але матка мая з Нямеччыны. Яна з'яўляецца стрыечнай сястрой гера Гімлера. — Гросман дастаў з кішэні жоўтага колеру кніжку і падаў яму.

— Так. Вось гэта цікава! Вы даўно бачылі свайго дзядзьку? — голас Кэмпэ быў лагодны.

— 19-га красавіка я быў у Берліне. Гэты дзень прынёс вялікае гора геру Гімлеру. У час налёту савецкіх бамбардыроўшчыкаў на Берлін яго старэйшая дачка Фрыда вельмі нервавалася, і ад гэтага ёй было адняло на каторы час мову. Яна нікога не пазнавала, — ад успамінаў твар чалавека выражаў вялікі боль і хваляванне.

— Гэты дзень я добра памятаю, — многазначна сказаў гер Кэмпэ і сеў на канапу. — Але гэта дробязі, іх трэба забыць. Я вельмі рад, што маю гонар ехаць з пляменнікам гера Гімлера. У вас такі ж нос, лоб і вочы, як у вашага дзядзькі. — Гер Кэмпэ яшчэ з большай уважлівасцю пачаў аглядаць Гросмана.

За столікам сядзелі: гер Кэмпэ, два афіцэры і Гросман. Першы кілішак віна гер Кэмпэ прапанаваў выпіць за фюрэра. Другі — за «новую Еўропу». Гросман сказаў тост за плённую работу гера Гімлера. Гер Кэмпэ чокнуўся і пачаў піць маленькімі глыткамі. Адзін з афіцэраў дастаў з кішэні пачак папярос і прапанаваў закурыць.

— Прабачайце, пан афіцэр, фірмы «Прыват» не куру, — гер Кэмпэ зрабіў кіслую міну. Афіцэр пачырванеў і разгублена пачаў нешта шукаць у кішэнях.

— Выбачайце... Нажаль, выйшлі.

Гросман устаў, расчыніў чамаданчык, бокам глянуў на сваіх спадарожнікаў, разарваў паперу, у якой было закручана нешта падобнае на прэс-пап'е, пакруціў медную пласцінку ўправа, дастаў пачак папярос «Дыпламат» і прапанаваў геру Кэмпэ і афіцэрам.

— Дзякую, у вас добры густ. Гэтыя папяросы не маюць сабе роўных, — гер Кэмпэ пачціва кіўнуў галавой.

— Згодзен з вамі, цудоўныя папяросы. — Гросман закурыў папяросу. Цень нервовасці была прыкметна на яго твары.

— Выбачайце мяне, — Гросман паглядзеў лагодна і вінавата на Кэмпэ і выйшаў з купэ. Ён паспешна прайшоў праз вагон, адчыніў дзверы тамбура і саскочыў з цягніка.

У вушах Канстанціна Груздзёва засвістаў вецер. Ён скаціўся пад адхон, хутка падхапіўся і падаўся ў зараснікі.

Праз нядоўгі час угару шугануў чорны дым. Раздаўся гулкі выбух. Цягнік усё імчаўся на поўным хаду. Цьмяная пляма дыму ўсё больш пашыралася. Тонкія вогненныя струмені пацяклі ўздоўж вагона, у якім ехаў гер Кэмпэ.

**1945 год.**

*Нашы землякі*

М. МЕЛЬНІКАЎ

# НАШ ГАНАРОВЫ КАМСАМОЛЕЦ

20 кастрычніка 1923 года камсамольцы Карманскай воласці на ўрачыстым сходзе рашылі выбраць ганаровым камсамольцам свайго выдатнага земляка Панцеляймона Мікалаевіча Лепяшынскага.

Імя Лепяшынскага было добра вядома ва ўсіх кутках маладой Савецкай рэспублікі. Адзін са старэйшых бальшавікоў, саратнік вялікага Леніна, буйны вучоны і грамадскі дзеяч, ён усё сваё жыццё аддаў барацьбе за шчасце народа. Партыя даручала яму самыя адказныя заданні. І Лепяшынскі заўсёды выконваў іх з гонарам.

Панцеляймон Мікалаевіч нарадзіўся 14 сакавіка 1868 года ў мястэчку Студзянец Клімавіцкага павету Магілёўскай губерні ў сям'і сельскага свяшчэнніка. Неўзабаве сям'я Лепяшынскіх пераехала ў вёску Літвінавічы Карманскай воласці.

Панцеляймон быў дапытлівым, кемлівым хлопчыкам. Бацькі прарочылі сыну будучыню свяшчэнніка. Аднак хлопчыка вабілі іншыя сцежкі.

Панцеляймону было толькі дзевяць год, калі ён стаў вучнем Магілёўскай гімназіі. Ужо тут хлопчык пачаў захапляцца палітычнай літаратурай. У характарыстыцы, якая захоўвалася ў яго асабістай справе ў гімназіі, адзначалася схільнасць здольнага гімназіста да «злачыннага вальнадумства». У гімназіі працавала шмат нелегальных гурткоў, якія займаліся вывучэннем твораў рэвалюцыйных дэмакратаў — Бялінскага, Чарнышэўскага, Дабралюбава. У адзін з такіх гурткоў уваходзіў і Лепяшынскі.

Сапраўдную рэвалюцыйную загартоўку Лепяшынскі атрымаў у Петраградскім універсітэце, куды паступіў у 1886 годзе. Тут ён цесна сходзіцца са студэнцкай нарадавольчай арганізацыяй, чытае і прапагандуе забароненыя творы, распаўсюджвае лістоўкі,



**Панцеляймон Мікалаевіч Лепяшынскі ў гады студэнцтва.**

у якіх расказваецца аб жудасных злачынствах царскіх жандараў.

Настаў 1890 год. Студэнцтва рыхтавалася да масавага рэвалюцыйнага выступлення. Панцеляймон Лепяшынскі да таго часу меў ужо значны вопыт рэвалюцыянера-падпольшчыка. Ён заслужана лічыўся важаком студэнтаў-беларусаў, якія вучыліся ва універсітэце.

Рашэнне студэнтаў арганізаваць масавую сходку ўскалыхнула ўсю моладзь, якая вучылася ў Петраградзе. Лепяшынскі пазней успамінаў аб гэтым: «Усе землякі мае, умераныя магілёўцы, ахвотна ці неахвотна, але ва ўсякім выпадку хутка падначалілі сваю волю баявой ініцыятыве, прычым я пастараўся выкарыстаць свой уплыў на іх так, каб ніводзін з іх не ўхіліўся ад удзелу ў сходках. І сапраўды, наша зямляцтва не зганьбіла сябе...»

Студэнцкая сходка не на жарт перапалохала гарадскія ўлады. На месца збору студэнтаў прыехаў сам «граданачальнік» з мноствам паліцэйскіх. Студэнтаў акружылі і павялі ў манеж. Тут іх пачаставалі чаем і папрасілі не вельмі шумець. Але не прайшло і некалькіх хвілін, як у сценах манежа загучала традыцыйная «Дубінушка» і іншыя народныя песні, якія выконваліся ў знак пратэсту.

Пазней усіх удзельнікаў сходкі развялі па паліцэйскіх участках. Не пазбегнуў паліцэйскіх рук і Лепяшынскі. Ён апынуўся ў Васільеастроўскім участку.

А назаўтра галоўных кіраўнікоў студэнцкіх хваляванняў выслалі з Петраграда. Сярод іх быў і Панцеляймон Лепяшынскі. Яму ўручылі «воўчы білет» і загадалі не паяўляцца ў сталіцы.

Пасля доўгіх блуканняў па Расіі Лепяшынскі зноў вяртаецца ў Петраград і паступае на працу ў дзяржаўную камісію па пагашэнню пазык. Тут ён хутка заваёўвае рэпутацыю стараннага чыноўніка. Начальства павышае яму аклад.

А «старанны чыноўнік» пасля работы праводзіў заняткі ў рэвалюцыйных гуртках, вывучаў творы Маркса. Разам з беларусам Гуляніцкім Лепяшынскі друкаваў на мімеографе рэвалюцыйныя лістоўкі і адозвы. Аднойчы вечарам, калі ён і яго таварышы друкавалі лістоўку аб хваляваннях рабочых на фабрыках Эдэльштэйна, на кватэру ўварвалася паліцыя. Яна была надта задаволена, бо, апрача ўсяго, паліцэйскія знайшлі лістоўку, у якой цар абзываўся «аўгусцейшым быдлам».

Так з 8 на 9 снежня 1895 года Панцеляймон Мікалаевіч апынуўся за кратамі ў славутым доме папярэдняга зняволення па Шпалернай вуліцы. Сцены гэтага дома шмат пабачылі. У іх пабывалі амаль усе выдатныя рэвалюцыянеры канца XIX стагоддзя.

Пачаліся пакутлівыя дні астрожнага жыцця. Але Панцеляймон Мікалаевіч і тут не траціць часу марна. Ён узмоцнена вывучае марксісцкую літаратуру.



Рэвалюцыйная арганізацыя, якой быў тады «Чырвоны крыж», прызначыла Лепяшынскаму ў якасці турэмнай «нявесты» слухачку фельчарскіх курсаў Ольгу Барысаўну Пратапопаву. Пратапопава насіла свайму «жаніху» перадачы — патрэбныя кнігі, пісьмы ад таварышаў. Праўда, першы візіт «нявесты» быў для Панцеляймона Мікалаевіча крыху нечаканым. Ён спачатку разгубіўся, але потым, зразумеўшы, адкуль у яго паявілася «нявеста», паспяхова сыграў ролю «жаніха». Настаў час развітацца. Панцеляймон Мікалаевіч сказаў не без суму:

— Бывайце, Ольга Барысаўна. Дзякуй за ўсё добрае. Больш не ўбачымся.

— Чаму? — запыталася Пратапопава.

— Нас вывозяць.

— Ну і што ж?

— Значыць, больш не сустрэнемся.

— Калі вас адпраўляюць, гэта не значыць, што мы развітваемся, — усміхнуўшыся, адказала Ольга Барысаўна.

Лепяшынскі здзіўлена паглядзеў на яе і раптам, зразумеўшы ўсё, але яшчэ не верачы здагадцы, усклікнуў:

— І ты едзеш!

Ён упершыню назваў сваю «нявесту» на «ты».

Ольга Барысаўна ў адказ сцвярджальна кіўнула галавой.

Гады ссылкі яшчэ больш загартавалі П. М. Лепяшынскага. У канцы 1898 года ў Мінусінску адбыўся з'езд ссыльных, на якім Панцеляймон Мікалаевіч упершыню сустрэўся з У. І. Леніным.

**Панцеляймон Мікалаевіч Лепяшынскі сярод прыхільнікаў МОПРа.**



Тут пачалася іх дружба, якая працягвалася да апошніх дзён жыцця Ільіча.

Лепяшынскі прымаў удзел у арганізацыі агульнарасійскай марксісцкай газеты «Іскра», быў актыўным яе карэспандэнтам.

У цяжкія гады, калі меншавікі захапілі «Іскру», бальшавікі адказвалі сваім ідэйным праціўнікам выкрывальнымі карыкатурамі, якія пісаў Лепяшынскі. Старыя бальшавікі і зараз успамінаюць аб гэтых таленавітых работах.

Жандары ўсё часцей і часцей нападаюць на след Лепяшынскага. Ён вымушаны шукаць прытулак у якім-небудзь аддаленым раёне. У пачатку 1907 года Панцеляймон Мікалаевіч становіцца выкладчыкам матэматыкі ў Аршанскім рэальным вучылішчы. Ужо з першых месяцаў работы ён заваёўвае сімпатыі моладзі і праз некаторы час з дапамогай таварышаў стварае партыйную групу на чыгуначным вузле ў Оршы.

Напярэдадні першай сусветнай вайны Лепяшынскаму давялося шмат вандраваць па гарадах і сёлах Расіі, хаваючыся ад паліцыі, якая хацела зноў арыштаваць яго.

Хвароба прыкоўвае Лепяшынскага на некаторы час да ложка. Па парадзе ўрачоў ён едзе ў Крым. Аднак лячыцца доўга не прышлося: яго запрашалі да сябе аршанцы. Хіба мог ён не адгукнуцца на запрашэнне землякоў?

Неўзабаве пасля прыезду ў Оршу Лепяшынскага выбралі гарадскім галавой.

Яшчэ ў дзень, калі паведамілі аб узяцці Зімняга і арышце Часовага ўрада, Панцеляймон Мікалаевіч злажыў з сябе паўнамоцтвы кіраўніка гарадской думы ў сувязі з тым, што контррэвалюцыйная большасць не прызнавала Савецкую ўладу. На наступны дзень бальшавікі пачалі кампанію па правядзенню новых выбараў, а 28 кастрычніка ўжо засядаў новы Савет, які сапраўды прадстаўляў народныя масы. Савет зацвердзіў Аршанскі Ваенна-Рэвалюцыйны камітэт. Ганаровым яго старшынёй быў выбраны П. М. Лепяшынскі.

У канцы лістапада Панцеляймон Мікалаевіч паехаў у Петраград. Тут ён зноў сустрэўся з У. І. Леніным. Гэта была хвалюючая сустрэча. Панцеляймон Мікалаевіч у кнізе «Вакол Ільіча», выдадзенай у 1926 годзе, пісаў: «Калі мы сустрэліся, нешта бясконца цёплае хлынула да майго сэрца. Пацалаваліся і сталі хутка абменьвацца рэплікамі. Трэба было шмат расказаць яму, адкрыць свае народжаныя ў цішы думкі ў сувязі з тым вялізным, што адбывалася вакол, атрымаць ад яго адказы на шэраг пытанняў, адным словам, выкласці перад ім усё сваё нутро і ўзяць ад яго максімум таго цікавага, значнага, павучальнага і інтымнасардэчнага, чаго так патрабавала душа».

Партыя паслала Лепяшынскага на адказную работу ў Народны Камісарыят асветы.

Летам 1918 года, пасля размовы з Леніным, Лепяшынскі атрымаў дазвол арганізаваць у вёсцы Літвінавічы Магілёўскай губерні першую савецкую вопытна-працоўчую школу. Ён едзе на працу ў вёску ў якасці радавога педагога.

З Лепяшынскім паехала яго жонка Ольга Барысаўна і дачка Ольга. Апрача іх, у групу ўвайшлі дваюрадны брат Панцеляймона Мікалаевіча М. І. Кернажыцкі, камуніст з 1905 года, а таксама маскоўскі рабочы Разумаў.

Літвінавічы сустрэлі энтузіястаў насцярожана. Тут добра ведалі Лепяшынскага і Кернажыцкага. Але школа без папа, школа бальшавіцкая ўсім здавалася нечым



неверагодным і немагчымым. Некаторыя мясцовыя настаўнікі выступілі супраць Лепяшынскага. І ўсё ж школа была створана. Першы вучань, хлопец у старым салдацкім шынялі, прышоў да Панцеляймона Мікалаевіча і сказаў: «Хачу вучыцца».

Неўзабаве ў школе ўжо налічвалася каля 40 хлопчыкаў і дзяўчынак. Яны вучыліся і працавалі. Не раз здаралася, што кулацкія сынкі падпільноўвалі іх па аднаму вечарам і збівалі да страты прытомнасці. Аднак навучэнцы новай школы не здаваліся. Лепяшынскі амаль увесь свой час аддаваў школе. Арганізоўваць вучэбна-выхаваўчую работу яму дапамагалі жонка і дачка. А сяляне-беднякі вялі барацьбу з кулацтвам, якое рыхтавала паўстанне.

Вясной 1919 года кулакам усё ж удалося падняць паўстанне. Цяжка прышлося камуністам. Частка іх загінула ў баях з бандытамі. Група Лепяшынскага вымушана была пакінуць Літвінавічы і накіравацца ў Маскву. А праз некалькі тыдняў Ольга Барысаўна вяртаецца ў ахопленую паўстаннем бандытаў губерню і выклікае з Літвінавіч 22 школьнікі, каб забраць іх у Маскву.

У 1921 годзе П. М. Лепяшынскі па рашэнню ЦК РКП(б) пераходзіць на работу ў Гістпарт (камісія па гісторыі Камуністычнай партыі). У гэты час Панцеляймон Мікалаевіч шмат працуе над зборам матэрыялаў, якія адлюстроўвалі слаўную гісторыю партыі бальшавікоў, рэдагуе работы і ўспаміны старых камуністаў, піша да іх прадмовы, актыўна дапамагае пісьменнікам і журналістам, якія працавалі над творамі аб рэвалюцыйным руху ў Расіі. Да апошняга часу было невядома, што Лепяшынскі аказаў вялікую дапамогу Фурманаву ў рэдагаванні кнігі «Чапаеў». Вось што напісаў сам Фурманаў на адным з экземпляраў свайго рамана: «Глыбокапаважанаму Панцеляймону Мікалаевічу, чыя рука па-сяброўску, беражліва і любоўна прайшлася па «Чапаеву» і выправіла добрую палову яго недахопаў. Вашай дапамогі не забуду ніколі. Д. Фурманаў, 16/3, 1923 года».



**Панцеляймон Мікалаевіч Лепяшынскі і яго жонка Ольга Барысаўна.**

Як выкладчык Маскоўскага ўніверсітэта і член Камуністычнай акадэміі Лепяшынскі вядзе вялікую навукова-даследчую і педагагічную работу. Ён адначасова з'яўляецца членам першай рэдкалегіі часопіса «Маладая гвардыя», дзе ўзначальвае аддзел дыскусій, а таксама ўваходзіць у склад рэдкалегіі часопіса «Пралетарская рэвалюцыя».

Шмат зрабіў П. М. Лепяшынскі для арганізацыі і разгортвання дзейнасці МОПРа. Яму, між

іншым, належыць і сама ідэя стварэння гэтай арганізацыі.

У 1927—1930 гадах Лепяшынскі кіруе Гістарычным музеем СССР і працягвае дзейнасць па вывучэнню гісторыі партыі. Ён нават не ведаў, што яму за тэарэтычныя работы па гісторыі партыі і рэвалюцыйнага руху Вышэйшая Атэстацыйная Камісія прысудзіла ступень доктара гістарычных навук без абароны дысертацыі. Вестка аб прысуджэнні навуковай ступені была для Панцеляймона Мікалаевіча нечаканасцю; ён збянтэжыўся перад работнікамі музея, якія прыйшлі яго павіншаваць, і разгублена сказаў: «Ну які я доктар».

Трэба адзначыць, што Панцеляймон Мікалаевіч быў наогул чалавекам выключнай скромнасці.

Панцеляймон Мікалаевіч падтрымліваў сталую сувязь са сваімі землякамі з Кармянскага раёна, горача адгукаўся на іх пісьмы, дапамагаў у вырашэнні гаспадарчых і іншых спраў праз адпаведныя дзяржаўныя органы. Памёр П. М. Лепяшынскі 30 верасня 1944 года.

П. М. Лепяшынскаму мы абавязаны асвятленнем раду важнейшых перыядаў рэвалюцыйнага руху ў Расіі. Ім напісана шмат кніг, сярод якіх — успаміны аб Леніне, аб першых этапах гісторыі партыі. Лепяшынскі — рэдактар серыі кніг «Гісторыя ВКП(б) у з'ездах», а таксама многіх савецкіх энцыклапедычных выданняў. Пяру Панцеляймона Мікалаевіча належыць цыкл артыкулаў па гісторыі будаўніцтва Савецкай улады на Гомельшчыне ў 1918—1919 гадах. Лепяшынскі быў ганаровым старшынёй Аршанскага райкома, ганаровым камсамольцам Беларусі. Яго імем названы калгасы, санаторыі, піянерскія дружыны.

**Мікалай ХАРКОЎСКІ**

# СПЯВАЕ ВЕРАНІКА БАРЫСЕНКА

Масква. Вялікі тэатр СССР. Сёння тут асабліва ажыўлена. Ідзе опера «Маці» кампазітара Ціхана Хрэннікава. Неўміручы твор М. Горкага знайшоў сваё другое жыццё на сцэне выдатнага тэатра.

Опера набліжаецца к фіналу.

Урачыста гучыць аркестр. Палымнеюць асветленыя пражэктарамі сцягі. На авансцэне палаюць агні незгасальнага полымя — сімвала вечнай славы змагарам, якія аддалі сваё жыццё за справу рэвалюцыі. Нілаўна, усхваляваная і радасная, акружаная сябрамі, прыціскае да грудзей чырвоны сцяг.

Ролю маці Паўла Уласава — Пелагеі Нілаўны выконвае Вераніка Іванаўна Барысенка.

В. І. Барысенка родам з Гомеля, беларуска. Яе маці доўгі час працавала на гомельскім сушыльна-фруктовым заводзе, а Вераніка — рэгістратарам у мясцовай паліклініцы. Пра голас Веранікі тады ніхто і не думаў. Спявала яна так, як усе яе сяброўкі. Толькі часам сяброўкі скардзіліся, што ад



голасу Веранікі ў іх звініць у вушах. І тады Вераніка пачынала яшчэ званчэй — ёй падабалася трошкі пазлаваць сяброўак.

Спяваць яна любіла. Спявала ўсюды. Нават на рабоце.

На яе голас звярнулі ўвагу, параілі вучыцца. І вось, паспяхова здаўшы экзамены, яна — у музычным вучылішчы.

Ішоў час. Год ад году расла любоў Веранікі да мастацтва, да вакальнага майстэрства. А што не зробіць любоў? Сяброўкі ішлі на гулянку, на танцы, а Вераніка ўвесь свой вольны час аддавала заняткам у вучылішчы. І калі студэнткай на IV курсе яна ўпершыню выступіла ў адкрытым канцэрце, зусім заслужаны быў яе поспех у гледачоў.

Гэтае выступленне засталося ў памяці Веранікі на ўсё жыццё. Як яна хвалявалася! Перад самым выхадам на сцэну ў дзяўчыны з'явілася думка збегчы, схавацца дзе-небудзь у кутку. Але прыйшлося выйсці. Як спявала, яна не памятае. Гэта было нібы ў сне, і абудзіў яе ад гэтага сну гром апладысментаў: слухачы патрабавалі спяваць яшчэ і яшчэ. І яна спявала ўсё, што было падрыхтавана ў яе рэпертуары.

Вучоба ў Мінскай кансерваторыі была перапынена Вялікай Айчыннай вайной. Вераніка Барысенка разам з канцэртнымі брыгадамі не раз пабывала на фронце. Прыходзілася спяваць пад акампанемент снарадаў, куль, што свісталі побач. Нярэдка канцэрт спыняўся, байцы ішлі ў атаку, а салісткі — у лазарэт, прымаць параненых.

Вераніка спявала ўсё: арыі, рамансы, песні, частушкі, якія сама часта і складала. Яна спявала сэрцам. Яе песні надавалі байцам сілы, энергіі, уздымалі іх і вялі ў атакі, рабілі бясстрашнымі, мужнымі. Байцы бачылі ў Веранікі таварыша, сябра, а некаторыя —



Вераніка Іванаўна Барысенка.

і вобраз той любімай дзяўчыны, якую пакінулі там, недзе ў тыле...

Камандаванне фронтам, бачачы выключныя вакальныя здольнасці спявачкі, адкамандзіравала Вераніку ў тыл, працягваць вучобу. Закончыўшы кансерваторыю ў 1943 годзе, В. Барысенка была залічана ў Свярдлоўскі оперны тэатр, дзе неўзабаве вырасла ў вядучую салістку, выканаўцу партыі Ольгі ў оперы «Яўгені Анегін», Паліны ў оперы «Пікавая дама», Ганны ў оперы «Майская ноч» і інш.

Працуючы ў тэатры, В. Барысенка не спыняла вучобы і займалася ў аспірантуры пры Кіеўскай кансерваторыі, якая ў той час знаходзілася ў эвакуацыі. Пасля заканчэння вайны яна разам з калектывам кансерваторыі пераехала ў Кіеў, дзе, адначасова з вучобай,

співала вядучыя партыі ў Кіеўскім оперным тэатры.

У 1946 годзе Вераніку Барысенка запрашаюць у Маскву, у Вялікі тэатр. Але запрашэнне яшчэ не азначае залічэнне ў тэатр. Трэба здаць «экзамен». Вераніцы трэба было праспяваць партыю Ганны ў оперы «Майская ноч».

Да свайго першага выступлення ў Вялікім тэатры яна рыхтавалася асабліва старанна, бо добра ведала, які гэта гонар спяваць у Вялікім тэатры. Гэтае ўсведамленне прымушала яе асабліва прыдзірліва ставіцца да свайго выканаўчага майстэрства. У ёй змагаліся два адчуванні: неадольнае жаданне вытрымаць «экзамен» і поўная незадаволенасць сабою.

Але ўсё скончылася вельмі добра. «Экзамен» быў вытрыманы, і Вераніка была залічана салісткай славутага Вялікага тэатра.

У 1947 годзе мы сустракаем В. Барысенка ў Празе, на Першым міжнародным фестывалі моладзі і студэнтаў. Той, хто не ведаў да таго часу Барысенка, чакаў пачуць проста нядрэнны голас. Але вось яна на сцэне. І першая ж нота насцярожыла ўсіх. Выкананне было настолькі дасканалае, прыгожае, што слухачы затаілі дыханне. І калі прагучала апошняя нота, у зале запанавала мёртвая цішыня. Збянтэжаная, Вераніка глядзела ў прыціхшую залу: што гэта — правал? І раптам усе ўскочылі са сваіх месц. Ураган воплескаў! Просяць паўтарыць... Гэта быў трыумф савецкага мастацтва. В. Барысенка атрымала першую прэмію.

Вераніка Барысенка неаднойчы прадстаўляла савецкае мастацтва за мяжою, і заўсёды ёй спадарожнічаў вялікі поспех. Памятны 1954 год, калі яна, як удзельніца савецкай дэлегацыі, была накіравана ў Англію на месячнік англа-савецкай дружбы. Выступалі вельмі многа, у вялікіх і маленькіх гарадах. І хто б яе ні слухаў — рабочыя Бірмінгама, студэнты Аксфордскага ўніверсітэта, лорды і мэры, што сабраліся ў буйнейшай зале Лондана Вестывал-холе, — заўсёды савецкая артыстка зачароўвала іх сваім цудоўным голасам. Канцэрты наладжваліся Таварыствам англа-савецкай дружбы, таму дэманстрацыя дасягненняў савецкага мастацтва мела палітычны характар. Пасля такіх канцэртаў іх арганізатары тут жа, у зале, пачыналі запіс жадаючых ў таварыства. І такіх жадаючы было шмат. У гэтым вялікая заслуга В. І. Барысенка, якая сваім цудоўным выкананнем будзіла ў англічан пачуццё дружбы і сімпатыі да савецкай краіны.

Складаны шлях прайшла Вераніка Іванаўна Барысенка ад простай сялянскай дзяўчыны з вёскі Вялікія Нямкі Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці да салісткі лепшага ў свеце опернага тэатра.

— Я жадаю сваім землякам, — гаворыць Вераніка Іванаўна, — вялікага шчасця, поспехаў у працы на карысць нашай любімай Радзімы. У кожнай справе неабходна ўпартасць, настойлівасць у дасягненні мэты. А мэта ў нас адна — шчасце народа. Будзем жа, дарагія землякі, упартай самаадданай працай дамагацца пастаўленай мэты.

# Бібліяграфія

## АПОВЕСЦІ АБ ЛЁТЧЫКАХ

Антон Антонавіч Алешка — чалавек, як кажуць, бывалы, ён прайшоў вялікі жыццёвы шлях. Амаль 30 год ён праслужыў у лётных часцях нашай слаўнай Савецкай Арміі. Але пісьменнік ён яшчэ малады. Апавяданні і аповесці А. Алешкі, што з'явіліся ў рэспубліканскім друку, прыцягваюць увагу чытача, асабліва моладзі, цікавым жыццёвым матэрыялам, веданнем людзей і характараў, жывасцю выкладання падзей.




**Антон Алешка. Іх першых вітэе сонца. Аповесці. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. 184 стар. Цана 4 руб. 25 кап. тыраж 4500 экз. Рэдактар І. Грамовіч. Мастак А. Сапетка.**

Калісьці Аляксей Максімавіч Горкі марыў аб тым, каб у мастацкую літаратуру прышлі вось такія людзі, якія пражылі багатае жыццё і змаглі б цікава аб ім расказаць. Гэта паслужыла б справе выхавання нашай моладзі. Першая кніжка Антона Алешкі якраз і вызначаецца багаццем выхаваўчага жыццёвага матэрыялу.

Кніжка адкрываецца аповесцю, якая называецца «Іх першых вітае сонца».

У лётную часць прыбыў навічок — лейтэнант Кучынскі. Разам з ім чытач знаёміцца з людзьмі авіяпалка, з іх учынкамі, думкамі, марамі, з разнастайнымі падзеямі ў жыцці часці.

Кампазіцыйная аснова аповесці — вобраз Кучынскага. Антон Алешка амаль не дае якіх-небудзь знешніх рыс свайго героя. Але адразу адчуваецца, што Кучынскі — малады, імклівы, напорысты, з цвёрдым характарам, здольны дабіцца свайго.

Кучынскі скончыў лётнае вучылішча на «выдатна». Таму, прыехаўшы на месца назначэння, ён трымае сябе трохі самаўпэўнена. Не тое, каб ён зазнаўся, не. Проста, на душы ў маладога лётчыка лёгка, радасна. Ён ірвецца да практычнай дзейнасці і, вядома, жадае паказаць сябе здольным лётчыкам. І вось першае выпрабаванне. Афіцэры палка трэніруюцца ў хуткасці прыёму радыёсігналаў. Кучынскі прыняў толькі шэсць знакаў. А на вучэбных палётах на рэактыўным знішчальніку Кучынскі пры пасадцы дапусціў звышпланавую хуткасць і патрушчыў крыло самалёта. Нарэшце аднойчы Кучынскі забыўся перад вылетам як след падрыхтаваць прыборы кіравання, і таму ў часе палёту ў яго перастаў працаваць прыбор хуткасці.

Пісьменнік удала і псіхалагічна

пераканӑўча паказвае, што настрой у лётчыка адразу змяніўся. Кучынскаму здаецца, што ўсе супраць яго — сябры, камандаванне палка і эскадрыллі, нават самы дарагі для яго чалавек — Ніна, якую ён моцна пакахаў. Кучынскі стаў нейкі разгублены, прыгнечаны, злосны на ўвесь свет. Ён нават абразіў свайго лепшага сябра і таварыша па звяну лейтэнанта Хмару. І тут на дапамогу Кучынскаму прыходзіць дружны калектыў лётчыкаў, які шчыра жадае яму дапамагчы, выправіць памылкі. Кучынскі пачынае разумець, што адных тэарэтычных ведаў, якія набыў у вучылішчы, яшчэ надзвычай мала для таго, каб авалодаць майстэрствам лётчыка-знішчальніка. Патрэбна перш за ўсё — практыка, а таксама ўменне ўзаемадзейнічаць з баявымі таварышамі ў складзе пары самалётаў, звяна, эскадрыллі. Пад кіраўніцтвам камандзіра эскадрыллі капітана Лакціёнава Кучынскі ўпарта і настойліва працуе над удасканаленнем свайго баявога майстэрства. На вучэбна-баявых вылетах ён не толькі выканаў пастаўленую камандзірам задачу, але і здолеў дапамагчы свайму таварышу Хмары, «выратаваўшы» яго ад атакі «праціўніка».

Аўтар паказвае свайго героя ў яго ўзаемаадносінах з таварышамі па эскадрыллі, з каханай дзяўчынай. Каханне Кучынскага і Ніны пісьменнік малюе скупымі, але даволі выразнымі фарбамі. Аднойчы Ніна пачула, як жонка камандзіра палка Загорына гаварыла сваёй сяброўцы, што вельмі цяжка быць жонкай лётчыка, што трэба заўсёды быць у думках з ім, асабліва, калі ён у паветры. Аповесць не заканчваецца вяселлем Кучынскага і Ніны, але, хвалюючыся і перажываючы разам з маладымі героямі, чытач упэўнены, што Ніна будзе якраз такой вернай жонкай і лепшым сябрам Кучынскага.

Характары герояў у аповесці раскрываюцца ў іх узаемаадносінах, у сутыкненні іх поглядаў, жыццёвых пазіцый.

Камандзір эскадрыллі капітан Лакціёнаў шмат увагі аддае якасці падрыхтоўкі лётчыкаў, а не колькасці практыкаванняў, выкананых імі у паветры. «Каб вялікая група знішчальнікаў умела дзейнічаць зладжана, трэба навучыць пару, звяно», — гаворыць Лакціёнаў. Але не згодны з гэтым камандзір палка Загорын. Ён лічыць, што трэба вучэбныя заняткі праводзіць не асобнымі парамі і звеннямі, а ўсёй эскадрылляй. Яго цікавіць перш за ўсё выкананне плана па колькасці выкананых практыкаванняў. Наогул, трэба адзначыць, што Загорын — складаны вобраз, і Антон Алешка здолеў перадаць усе супярэчлівасці яго характару. Жыццё даказвае, што праўда на баку Лакціёнава. Таму Загорын не любіць Лакціёнава. Ён бачыць, што Лакціёнаў абагнаў яго, камандзіра палка, у веданні новай тактычнай літаратуры і ў разуменні асаблівасцей новай тактыкі паветраных баёў. Адчуўшы настрой Загорына, розныя падхалімы, накшталт начальніка штаба палка падпалкоўніка Арыстава, стараюцца падказаць, як пазбавіцца ад неспакойнага і разумнага камандзіра эскадрыллі. Арыстаў прапануе пасласць дакументы Лакціёнава на павышэнне, — каб таго перавялі намеснікам камандзіра палка ў які-небудзь другі лётны полк. Калі Лакціёнаў зразумеў, куды хіліць Арыстаў, плануючы такое «павышэнне», ён горача выступае супраць гэтага. Яму блізкі і дарагі свой полк, свае баявыя таварышы, бо з многімі ён звязаны моцнай франтавой дружбай. Ды і сам Загорын у час баявых вучэнняў, убачыўшы, як пасняхова выканала адказнае заданне эскадрылля Лакціёнава, зразумеў, што лепшага за Лакціёнава камандзіра эскадрыллі няма не толькі ў яго палку, але нават і ва ўсім злучэнні.

Раскрыццё ўсіх складаных супярэчлівасцей у характары Загорына сведчыць аб добрых мастацкіх здольнасцях пісьменніка.

Другая аповесць кнігі — «Свежы вецер» — не вызначаецца такім імклівым развіццём сюжэта, як папярэдняя. Але ў аснове аповесці «Свежы вецер» ляжыць востры драматычны канфлікт. У цэнтры твора — вобраз адмоўны. Штурман палка старшы лейтэнант Цытвараў з'яўляецца носьбітам дробнаўласніцкай маралі. На першым плане ў яго — свае асабістыя інтарэсы. У гады Вялікай Айчыннай вайны ён аказаўся маладушным чалавекам, баязліўцам: аднойчы, калі ў час бою яго эскадрыллю атакавалі фашысцкія знішчальнікі, ён не стаў дапамагаць таварышам, а схаваўся за воблакамі і ўцёк. Цяпер у палку гэтага не ведаюць, бо Цытвараў хавае ад усіх сваё мінулае. Паступова раскрывае Антон Алешка агідную душу гэтага чалавека. Здаецца, што штурман авіяпалка павінен сам быць добрым лётчыкам і паказваць прыклад моладзі. Але Цытвараў не жадае вывучаць новую тэхніку, кожны раз ухіляецца ад вылетаў. А калі камандзір палка Дропіч усё ж прымусіў Цытварава ляцець, той паляцеў, але не вярнуўся. Праз некаторы час яго даставілі на ПО-2 з суседняга аэрадрома. Цытвараў апраўдваецца, даказвае, што машына была няспраўная. Але маёр Чыжыкаў прыляцеў з суседняга аэрадрома на самалёце Цытварава, і аказалася, што ўсё ў парадку. Учынак Цытварава выклікае не толькі смех, але і абурэнне ўсіх лётчыкаў палка.

Цытвараў — не проста абмежаваны чалавек, ён хітры, а таму небяспечны вораг. Каб неяк абяліць сябе і застрахаваць ад магчымасці раскрыцця яго мінулага, ён імкнецца ашальмаваць, зганьбіць сумленных людзей і гэтым падняць свой танненькі аўтарытэт. Першай ахвярай ён выбірае ўрача палка Альшэўскага. Альшэўскі — сумленны чалавек і баец, усё свае жыццё прысвяціў вялікай справе барацьбы за здароўе чалавека. Антон Алешка малюе вобраз Альшэўскага з асаблівай цеплынёй. Магчыма, што гэта вобраз у пэўнай ступені аўтабіяграфічны. Альшэўскі, няспынна сочачы за станам здароўя лётчыкаў палка, вядзе вялікую навуковую работу. Усё гэта вымушае Альшэўскага працаваць з падвоенай энергіяй. Назіранні, запісы, разлікі, зноў назіранні, запісы, разлікі... Аднойчы Альшэўскі вельмі позна заседзеўся ў лабараторыі. Уначы ў палку абвясцілі трывогу. Стомлены за дзень і вечар, Альшэўскі не пачуў сігналу і не з'явіўся на аэрадром. І вось гэты выпадак выкарыстоўвае кар'ерыст Цытвараў. На партыйным сходзе ён абвінавачвае Альшэўскага і схіляе камуністаў партарганізацыі ўпраўлення палка вынесці суровую вымову Альшэўскаму.

Але не ўдалося Цытвараву зрабіць сваю справу. Пісьменнік удала і выразна паказвае, як партыйная арганізацыя палка здолела разабрацца ў тым, хто правы, хто вінаваты. Камуністам палка дапамагае пісьмо старшага лейтэнанта Алеся Мурашкі, які ў гады Вялікай Айчыннай вайны змагаўся разам з Цытваравым і якога доўгі час усе лічылі загінуўшым. Мурашка выкрывае Цытварава, яго баязлівасць і дызертырства. Камуністы адзінадушна асуджаюць Цытварава.

Як і першы твор кнігі, аповесць «Свежы вецер» багатая шматлікімі эпізадычнымі вобразамі лётчыкаў палка — афіцэраў, сержантаў, радавых, — якія складаюць адзіны, дружны баявы калектыў вайсковай часці.

Аповесці напісаны простай і выразнай мовай. Стыль Антона Алешкі — лаканічны. Гэта вынікае з неабходнасці імклівага развіцця сюжэта твораў. Не мінае пісьменнік кароткіх пейзажных замалёвак, трапнай вонкавай характарыстыкі герояў.

Аповесці Антона Алешкі, безумоўна, не пазбаўлены недахопаў. Так, напрыклад, пры індывідуалізацыі герояў пісьменнік абмяжоўваецца вылучэннем двух-трох асноўных вобразаў. Расцягнены асобныя сцэны. У аповесці «Свежы вецер» дзеянне зацягваюць сходы, апісанне якіх можна было б скараціць.

Першую кніжку Антона Антонавіча Алешкі з захапленнем прачытаюць усе тыя, каго вабіць рамантыка прафесіі лётчыка, каго цікавяць вобразы мужных і смелых людзей, якія пільна стаяць на варце міру і бяспекі народаў нашай Радзімы.

**В. НІКІФАРОВІЧ.**

## Так яны жывуць

**ЖЫЦЦЁ Ў МАГІЛЕ. КАНГРЭС ГАНГСТЭРАЎ. ВЯСЕЛЛЕ ПА АЎТАМАТУ.**

По колькасці паведамленняў аб пачварных і анекдатычных праявах у штодзённым жыцці Заходняя Германія пачынае абганяць Злучаныя Штаты Амерыкі.

Вось некаторыя з гэтых паведамленняў.

Нейкі Альберт Цынер, даведзены да адчаю вострай патрэбай у жыллі, выбраў месцам свайго жыхарства... склеп на могілках Швандорф. Гарадскія ўлады паспрабавалі выселіць яго. Аднак Цынер катэгарычна адмовіўся падпарадкавацца паліцэйскім, юрыдычна абгрунтаваўшы свой учынак. Жывы насельнік прытулку мёртвых спаслаўся на адсутнасць закону, які забараняў бы жыць ва ўласнай магіле.

* * *

У заходне-германскім горадзе Лангене нядаўна адбыўся судовы працэс, на якім мясцовы настаўнік абвінавачваўся ў нанясенні фізічных калецтваў сваім вучням. Аднаму трынаццацігадоваму падлетку гэты «выхавацель» даў такія дзве аплявухі, што ў хлопца лопнула барабанная перапонка. Як ні дзіўна, суд вынес апраўдальны прыгавор. Рашэнне было матывавана тым, што «аплявуха з'яўляецца нармальным і неабходным сродкам педагагічнага ўздзеяння».

* * *

Прафесар фізікі Ральф Андэрсан быў запрошаны ў гор. Страсбург прачытаць лекцыю на тэму «Касмічныя прамені». За некалькі дзён да выступлення прафесара ў горадзе былі расклеены афішы. Білеты прадаваліся вельмі бойка. Але якое ж было здзіўленне Андэрсана, калі, узышоўшы на кафедру, ён убачыў, што слухаць лекцыю сабраліся адны жанчыны. Выявілася, што ў афішы была дапушчана памылка, і слухачы падрыхтаваліся да лекцыі не аб касмічных, а аб нейкіх «касметычных» праменнях. Калі высветлілася сапраўдная тэма выступлення вядомага прафесара, многія жанчыны ўголас выказвалі сваё расчараванне.

* * *

Ці чулі вы пра шлюбныя аб'явы ў газетах некаторых «заходніх краін»? «Бландынка з вельмі прывабным тварам і добра развітымі ўсімі часткамі цела жадае выйсці замуж за чалавека з чулым сэрцам і добрым багаццем. Прапановы паведамляць па адрасу...» Чулі? Такое было нават і ў газетах Расійскай імперыі. Але цяпер не тыя часы. Тэхнічны прагрэс не мог не закрануць і праблем падбору шлюбных пар. Так, прынамсі, думаюць у амерыканскім горадзе Лос-Анжэласе. Тут дэманструецца навінка тэхнікі — аўтаматычная сваха.

Машына зіхціць нікелем і лакам. Да яе прымацавана таблічка з кароткім тлумачальным тэкстам. Тут жа — вузенькая шчылінка для манет. Варта кінуць у гэтую шчылінку некалькі цэнтаў, як машына пачынае старанна паказваць фатаграфіі жанчын, якія жадаюць выйсці замуж. За долар аўтамат паведамляе большыя падрабязнасці: ён паведамляе аб узросце і месцы жыхарства выбранай асобы, і, што асабліва важна, аб яе багацці. У дадатак да ўсяго, паслужлівая машына паведамляе і адрас бліжэйшага свяшчэнніка, які можа выканаць «таінства шлюбу»... Зручна, забаўна і на дзіва цынічна. Бліскучы прыклад «амерыканскага ладу жыцця»!

* * *

Як вядома, цэнтр амерыканскага кіно Галівуд вызначаецца вельмі цёплым кліматам. Там амаль не бывае зімы. І вось адзін з дзелавых людзей, задумаўшыся над гэтым фактам, вырашыў атрымаць з яго карысць зусім незвычайным чынам. Ён пачаў гандляваць... снегам. Ён дастаўляе ў Галівуд снег і прадае яго оптам і ў розніцу. Цяпер ашчаслiўленыя галівудскія хлапчукі за пяць цэнтаў купляюць самыя натуральныя снежкі і б'юцца імі. А ў кішэню бізнесмена капаюць долары.

## Давайце пагаворым...

# „АБ МУЗЫЧНЫМ ВЫХАВАННІ МОЛАДЗІ“

**Водгукі чытачоў**

**АБ МАСТАЦКІХ ГУСТАХ ШКОЛЬНІКАЎ**

Першага ўрока спеваў вучні 5—6-х класаў, асабліва хлопчыкі, чакалі насцярожана. «Спяваць будзем», — заўважалі яны іранічна.

Пра гэты настрой дзяцей добра ведала выкладчыца спеваў Анна Мікалаеўна Сафонава, і таму лічыла, што з першых жа ўрокаў трэба зацікавіць іх новым прадметам. Анна Мікалаеўна старанна рыхтавалася да першых урокаў, прадумвала кожную, здавалася б, «дробязь», яшчэ і яшчэ раз праслухоўвала грамафонныя запісы песень, праглядала ноты, метадычныя дапаможнікі па музычнаму выхаванню школьнікаў.

На першым уроку ў 5-м класе настаўніца коратка паведаміла вучням аб узнікненні песні, потым захапляюча расказала, як музыка можа ўздзейнічаць на настрой і пачуцці чалавека, як у сувязі з гэтым развіваецца музычны слых, ствараецца музычны вобраз або карціна, і г. д.

Па меры таго, як Анна Мікалаеўна гутарыла з вучнямі, прыводзіла ім пераканальныя, простыя і хвалюючыя прыклады, вучні ўсё больш і больш рабіліся сур'ёзнымі і ўважлівымі. Як зачараваныя, слухалі яны настаўніцу.

Закончыўшы гутарку, Анна Мікалаеўна напаўголаса праспявала любімую песню У. І. Леніна «Замучен тяжелой неволей». Дзецям вельмі спадабалася песня. Калі настаўніца прапанавала пяцікласнікам вывучыць яе словы, усе дружна згадзіліся. Праз некалькі мінут празвінеў званок. Але вучні як быццам і не чулі яго. Настаўніца аб'явіла, што на наступным уроку яны будуць развучваць гэтую песню.

А на перапынку настаўніцу акружылі амаль усе пяцікласнікі і не было канца іх пытанням...

Гэта было два гады таму назад. За гэты час вучні палюбілі музыку, песні, самадзейнасць школьнікаў стала масавай. Усё гэта станоўча ўплывае на выхаванне мастацкіх густаў у дзяцей. Аднак тое, аб чым ішла гутарка вышэй, — толькі першыя маленькія крокі.

Гэтыя думкі ўсплываюць у памяці, калі чытаеш артыкул Анатоля Сабалеўскага «Мастацтва і густы», змешчаны ў трэцім нумары часопіса «Маладосць». Нам здаецца, і школа вінавата ў тым, што ў асяроддзі нашай моладзі часам сустракаюцца людзі, якія пагардліва ставяцца да выдатных твораў мастацтва і захапляюцца ўсім пошлым і банальным.

Юнакі і дзяўчаты, пра якіх ідзе гутарка ў артыкуле «Мастацтва і густы», несумненна, вучыліся ў школе і, напэўна, ужо там праявіўся іх «мастацкі» густ.

Вось чаму мне і хочацца пагаварыць аб эстэтычным выхаванні школьнікаў. Сярод некаторых настаўнікаў склаўся не зусім правільны погляд на пытанні эстэтычнага выхавання моладзі. Некаторыя таварышы задачы эстэтычнага выхавання моладзі разумеюць крыху звужана: навучыць вучняў разумець музыку, песні. Гэта, бясспрэчна, аснова асноў. Але бяда ў тым, што мы, настаўнікі, часта забываем, што трэба, акрамя гэтага, яшчэ імкнуцца выхоўваць у школьнікаў уменне бачыць сапраўды прыгожае як у мастацтве, так і ў рэчаіснасці, у паўсядзённым жыцці. А то здараецца так, што вучань на ўроку літаратуры гаворыць аб сардэчных адносінах пэўных літаратурных герояў да бацькоў, а сам груба абыходзіцца са сваімі бацькамі.

На ўроку ў вучаніцы Ч. настаўнік адабраў альбом, з мяшчанскімі вершыкамі аб каханні. Прагледзеўшы альбом, настаўнік сказаў: «Не варта гэтым займацца. Усё змешчанае ў альбоме—мяшчанскія ўяўленні аб каханні». Думаецца, што вучаніцу падобная заўвага настаўніка не пераканала. Патрэбна было тактоўна растлумачыць, чаму рамансы, «вершы» ці частушкі, перапісаныя ў яе альбоме, сапраўды безгустоўныя.

І другі прыклад. Дэманструецца кінафільм «Паэма аб каханні». І вось у самых драматычных месцах, дзе апавядаецца аб самых святых пачуццях людзей, у зале ўзнікае кплівы смяшок... Але рэзкі вокрык настаўніка прымушае весельчакоў змоўкнуць. Усталёўваецца цішыня, і настаўнік лічыць свой педагагічны абавязак выкананым. Ён і не падумаў, каб арганізаваць абмеркаванне прагледжанага кінафільма, паказаць тое прыгожае ў чалавечых пачуццях, што ўслаўляецца ў творы.

Гэтыя прыклады яшчэ раз наводзяць на думку, што мастацкія густы, адчуванне сапраўднай прыгажосці патрэбна выхоўваць у нашай моладзі з самага ранняга ўзросту. Азнаямленне вучняў з выдатнымі ўзорамі літаратуры, рэпрадукцыямі мастацкіх карцін, з музыкай, песеннай творчасцю, сцэнічным мастацтвам, прагляд і абмеркаванне кінафільмаў — далёка не поўны пералік форм работы, якія выхоўваюць у вучняў пэўныя эстэтычныя густы, робяць чалавека ўсебакова развітым, уплываюць на фармаванне светапогляду.

Вядома, што асновы выхавання і навучання закладваюцца яшчэ ў пачатковай школе. Надзвычай важна, каб ужо ў пачатковай школе вучань, у межах свайго развіцця, атрымаў хоць бы элементарныя веды і па пытаннях эстэтычнай адукацыі.

Эстэтычнаму выхаванню школьнікаў слабая ўвага адведзена ў саміх праграмах пачатковых, сямігадовых і сярэдніх школ. Ці не гэтым можна растлумачыць той факт, што многія вучні не ўмеюць і не жадаюць спяваць, не любяць чытаць вершы, не хочуць удзельнічаць у мастацкай самадзейнасці, не захапляюцца творамі жывапісу, лічачы гэта лішняй забавай.

На мой погляд, хвалюючыя пытанні, узнятыя ў артыкуле Сабалеўскага, у значнай меры датычацца школьнага выхавання. Час ужо, каб у кожнай школе была карцінная галерэя з рэпрадукцыямі карцін выдатных мастакоў, вучнёўскі хор, каб стала традыцыяй абмеркаванне твораў жывапісу, сцэнічнага мастацтва, кінакарцін, каб для школьнікаў чыталіся лекцыі, праводзіліся гутаркі па пытаннях мастацкіх густаў.

**І. РАБКОЎ,**
**настаўнік Абчугскай СШ Крупскага раёна Мінскай вобласці.**

## ПРЫВІВАЦЬ ЛЮБОЎ ДА МУЗЫКІ

Мяне, як выкладчыка спеваў сямігадовай школы, вельмі зацікавілі пытанні, пастаўленыя ў артыкуле «Аб музычным выхаванні моладзі». Хачу выказаць свае меркаванні.

На вопыце сваёй работы ў школе я пераканаўся, што ў першым ужо класе на ўроках спеваў неабходна вучыць дзяцей музычнай граматы (знаёміць з паняццямі аб нотным стане, ключы «соль», назвах нот і г. д.), каб не прыходзілася, як мне зараз, выкарыстоўваць на ўроках у старэйшых класах наглядныя дапаможнікі, падрыхтаваныя для пачатковай школы. Нажаль, музычная грамата ў многіх пачатковых школах не выкладаецца—ці з-за адсутнасці кваліфікаванага выкладчыка, ці з-за непатрабавальнасці кіраўнікоў школ да настаўнікаў.

Па-другое, настаўнікам трэба больш нагляднах дапаможнікаў. (Зараз самыя ходкія з іх — табліцы М. А. Румара для пачатковай школы, якія выкарыстоўваюцца і ў сямігодках.) Пажадана, каб гэтыя дапаможнікі друкаваліся на беларускай мове. Гэта дало б магчымасць пазбегнуць памылак і недакладнасцей у перакладах музычных тэрмінаў і некаторых паняццяў.

Па-трэцяе, у школах павінны абавязкова працаваць музычныя і харавыя гурткі, альбо адзін з іх.

І нарэшце, настаўнікі чакаюць ад кампазітараў распрацоўкі беларускіх песень для дзіцячага хору. Вучэбна-педагагічнае выдавецтва павінна выдаваць агульнадаступныя зборнікі песень. Зразумела, што на базе ведання народных песень лягчэй развучваць больш складаныя музычныя творы.

Хочацца сказаць асобна аб музычным выхаванні калгаснай моладзі.

Прынята лічыць, што калгасная моладзь аддае перавагу народным песням і танцам, песням «некаторай даўнасці». Гэта не зусім так. Я маю магчымасць назіраць, з якой ахвотай удзельнікі мастацкай самадзейнасці развучваюць складаныя музычныя творы сучасных кампазітараў. Другая справа, што гэтыя творы прыходзяць у вёску значна пазней, чым у горад. Наогул, забяспечанне хатчытальняў музычнай літаратурай пакуль што нездавальняючае.

Калі вы завітаеце ў нашу вёску, вечарамі вы зможаце пачуць у клубе «Уральскую рабінушку», «Слаўнае мора—свяшчэнны Байкал», «За фабрычнай заставай», «Толькі з табою». Але спытайце, хто напісаў гэтыя песні, і мала хто адкажа на ваша пытанне. Чаму ж гэта так? Чаму наша моладзь не ведае тых людзей, якія ствараюць музыку?

Навучыць дзяцей разумець музыку, выхаваць у іх добры эстэтычны густ павінна школа. З першых дзён у школе патрэбна прывіваць дзецям любоў да музыкі, улічваючы іх хатнюю падрыхтоўку. Толькі паўсядзённай работай з вучнямі, уважлівымі адносінамі да іх можна выхаваць у іх добры густ. Паступова знаёмячыся з усё больш складанымі творамі рускіх і савецкіх кампазітараў, калектыўна слухаючы радыё і наведваючы тэатр, працуючы ў гуртках, дзеці крок за крокам будуць асвойваць невычэрпныя скарбніцы музычнай культуры.

Не ведаю, ці варта стварыць таварыства аматараў музыкі, ці гэтую справу даручыць аддзелам культуры, якія яшчэ мала займаюцца арганізацыяй музычнага выхавання моладзі. Бадай што патрэбна і тое і другое.

Лічу, што пытанне, паднятае ў артыкуле «Аб музычным выхаванні моладзі»,—вельмі важнае. Бо вядома, што эстэтычнае выхаванне з'яўляецца часткай камуністычнага выхавання працоўных.

**В. ТРАЯНОЎСКІ,**
**настаўнік, сакратар камітэта камсамола калгаса «Зара камунізма».**

Петрыкаўскі раён
Гомельскай вобласці.

## НАВУЧАЦЬ ДЗЯЦЕЙ СПЯВАЦЬ З ПЕРШАГА КЛАСА

Я з цікавасцю прачытаў артыкул Р. Шырмы і А. Каландзёнка ў № 2 часопіса «Маладосць». У музычным выхаванні нашай моладзі, у прыватнасці ў выкладанні спеваў у школе, сапраўды шмат пытанняў, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння.

Цяжка працаваць зараз выкладчыку музыкі ў сярэдняй школе. Апрача праграмы, амаль ніякіх дапаможнікаў па выкладанню спеваў няма. І тут у першую чаргу папрок трэба зрабіць Міністэрству асветы БССР. Чаму б у дапамогу настаўнікам спеваў не выдаць падручнік, у якім бы матэрыял быў распрацаваны і выкладзены з гэткім жа метадычным майстэрствам, як гэта зроблена па іншых прадметах? Узяць, напрыклад, буквар для першага класа. Як усё ў ім прадумана і прадугледжана ў адпаведнасці з асаблівасцямі развіцця дзяцей!

На нашу думку, у падручніках па спевах павінен быць матэрыял як па тэорыі музыкі з прыкладамі для спеваў па нотах, так і аўтабіяграфічныя даведкі аб кампазітарах, якія рэкамендуюцца праграмай для вывучэння ў школе.

Варта сказаць і аб прапагандзе музычных твораў для дзяцей і выканаўчай творчасці лепшых дзіцячых харавых калектываў. Наша рэспубліканскае радыёвяшчанне, а таксама тэлебачанне пакуль што дрэнна займаюцца гэтай справай. Асабліва гэты папрок датычыць тэлебачання: перадача па тэлевізару дала б магчымасць дзіцяці не толькі паслухаць цікавую песню ў добрым выкананні, але і павучыцца нормам паводзін, уменню трымаць сябе пры спевах і ўбачыць, што гэтая песня выконваецца такімі ж дзецьмі, як і яно само.

Асабліва кепска прапагандуюцца новыя дзіцячыя песні, напісаныя беларускімі кампазітарамі. Апублікуецца тая ці іншая песня, і не чуваць яе год, а то і больш. Часамі гэтую песню пачуеш раней у самадзейнасці, чым па радыё. Вельмі мала ў нас і грампласцінак з запісам добрых дзіцячых песень.

Вось чаму нярэдка можна пачуць, як вучні малодшых класаў спяваюць лірычныя, не па іх узросту і разуменню песні. Не раз мне, напрыклад, даводзілася чуць, як васьмігадовыя дзеці спяваюць песні, накшталт: «А парень с милой девушкой на лавочке прощается»...

Мне здаецца, што пытанне аб музычным выхаванні моладзі—вельмі важнае і наспеўшае. Тут сапраўды ёсць аб чым падумаць.

**Г. ІГНАЦЕНКА,**
**выкладчык спеваў Паплаўскай сярэдняй школы.**

Бярэзінскі раён.

# Разгорнем карту роднага краю




## „Народны тэатр“ станцыі Бяроза-Картузская

Рэвалюцыйныя падзеі 1905—1907 гг. узмацнілі дзейнасць аматарскіх тэатраў у Беларусі. Так, напрыклад, у 1908 годзе на станцыі Бяроза-Картузская (былое Пагодзіна, Маскоўска-Брэсцкай чыгункі) арганізаваўся самадзейны «Народны тэатр». Будынак тэатра быў пабудаваны са старых шпал, дошчак, бруссяў.

Наведвальнікамі гэтага тэатра былі служачыя станцыі, рабочыя дэпо, жыхары пасёлка. Дэкарацыі рабіліся самімі аматарамі. Вельмі цікавай была галоўная заслона тэатра. Яна была напісана начальнікам пуці А. Ф. Кульбарсам, які з'яўляўся членам сацыял-дэмакратычнай партыі. На заслоне на фоне заводаў, над якімі падымалася заранка, была намалявана жанчына ў белым антычным уборы, якая ішла з запаленым факелам у руцэ. На залу глядзеў яе строгі, натхнёны твар. Жанчына сімвалізавала рэвалюцыю. На заслоне, акрамя таго, буйнымі літарамі было напісана слова «незакончана». Паводле расказаў К. А. Сапеткі, былога акцёра гэтага аматарскага тэатра, паліцыя не раз звяртала ўвагу на надпіс. Але кожны раз А. Ф. Кульбарс на пытанне паліцэйскага начальніка аб значэнні надпісу адказваў, што незакончана... заслона (!). Але гледачы добра разумелі, што ў сапраўднасці азначала гэтае слова ў 1908 годзе, пасля падаўлення рэвалюцыі. Гэтая галоўная заслона, поўная рэвалюцыйнага зместу, існавала да 1915 года. Яна згарэла разам з тэатрам у часе першай імперыялістычнай вайны.

Рэпертуар «Народнага тэатра», нягледзячы на супраціўленне адміністрацыі станцыі Бяроза-Картузская, складаўся з п'ес рускай і ўкраінскай класікі. У рэпертуары тэатра былі «Лес» і «Не ў свае сані не садзіся» А. М. Астроўскага, «Рэвізор» і «Жаніцьба» М. В. Гогаля, «Дзядзя Ваня» А. П. Чэхава, «На дне» А. М. Горкага і інш.

Дэкарацыі для гэтых п'ес былі ў асноўным напісаны В. В. Румянцавым — студэнтам інстытута грамадзянскіх інжынераў. Паводле сведчання К. А. Сапеткі, В. В. Румянцаў пры рабоце над той або іншай дэкарацыяй заўсёды імкнуўся вылучыць тыповыя рысы, характэрныя для асяроддзя, у якім дзейнічалі героі п'есы. Ён падкрэсліваў сацыяльныя моманты не толькі ў дэкарацыях, але і ў касцюмах герояў, дакладна перадаючы характэрныя асаблівасці адзення, уласцівыя тым ці іншым сацыяльным праслойкам.

Трэба адзначыць, што жывапісная культура дэкарацый на аматарскіх спектаклях была намнога вышэй, чым у прыватных антрэпрызах. «Тыповыя» дэкарацыі прыватных антрэпрыз, як правіла, вызначаліся крыклівасцю размалёўкай і адсутнасцю вобразнага пачатку.

Дэкарацыйнае афармленне спектакляў у Бярозе-Картузскай у многім адпавядала патрабаванням і задачам, якія ставіліся перад мастакамі «народных тэатраў» адным з арганізатараў «Секцыі садзеяння арганізацыі вясковых і фабрычных тэатраў» пры Маскоўскім таварыстве народных універсітэтаў Д. М. Паленавым.

«Увесь змест карціны, — пісаў Паленаў, — пейзаж, сцэны, пакоі з усім, што ў іх знаходзіцца, розныя збудаванні — усё гэта павінна быць, па магчымасці, намалявана на дэкарацыі. Такі спосаб зручны тым, што, з аднаго боку, спрашчае пастаноўку, а з другога, пры ўдалым жывапісу дае на невялікай сцэне большыя ілюзіі сапраўднасці, чым, зробленыя накшталт сапраўдных, прадметы».

Мастакам-аматарам В. В. Румянцаву і А. Ф. Кульбарсу ўдавалася дабіцца гэтай «ілюзіі сапраўднасці».

Самадзейны калектыў на станцыі Бяроза-Картузская з'явіўся тым «народным тэатрам» у Беларусі, які ўсёй сваёй дзейнасцю адпавядаў імкненням народных мас і перадавой часткі рускай і беларускай інтэлігенцыі. Для перадавой часткі грамадства «народны тэатр», як пісаў Д. М. Паленаў, з'яўляўся сродкам «выхавання мас на аснове шырокай грамадскасці, ідэйнасці і самадзейнасці».

**Б. ГУР'ЕЎ.**






## Гэта было ў Бачэйкаве

У фондах Віцебскага краязнаўчага музея захоўваецца цікавы дакумент, які сведчыць аб глыбокім пранікненні ідэй першай рускай рэвалюцыі ў масы сялянства. Пра адзін з такіх фактаў і расказвае выпіска з пастановы № 214 Віцебскага губернатара «Аб арышце сялян І. Гаўрылава, П. Фёдарава і інш. за падбухторванне супраць існуючага ладу».

30 сакавіка 1907 года з-пад пяра губернатара Гершаў-Флова нарадзіліся наступныя радкі:

«...27 мінулага лютага пасля заканчэння сельскага сходу Кляшчынскага і Бачэйкаўскага сельскіх таварыстваў, які праходзіў у Бачэйкаўскім павятовым праўленні, з натоўпу сялян, што сабраліся на сход, вылучыліся сяляне вёскі Жарнасекава — Іван Гаўрылаў і Пятро Фёдараў, вёскі Сенькаўшчыны — Антон Сямёнаў, вёскі Валькаўшчыны — Максім Сідараў і Сямён Ісакоў, якія, падаўшы павятоваму пісару раней складзеную заяву з выкладзенымі запатрабаваннямі, прад'яўленымі ад імя сялян да Дзяржаўнай думы, прасілі прачытаць яе сходу і затым пасведчыць устаноўленым парадкам. Калі ж павятовы пісар і старшыня адмовіліся выканаць іх патрабаванні, названыя асобы тут жа сказалі словы, якія падбухторвалі сабраўшыхся супраць існуючага ладу і парадку.

Праведзеным дазнаннем высветлена, што галоўнымі агітатарамі з'яўляліся сяляне Іван Гаўрылаў і Антон Сямёнаў...»

Група моладзі з Бешанковіцкага раёна, на тэрыторыі якога знаходзяцца вёскі, упамянёныя ў прыведзеным дакуменце, правяла пошукі звестак аб далейшым лёсе арыштаваных сялян. Інструктар райкома ЛКСМБ В. Андрэеў знайшоў Пятра Фёдаравіча Варанько, якога губернатар назваў Пятром Фёдаравым.

Стары калгаснік расказаў пра сход і тыя прычыны, што прымусілі сялян прад'явіць свае запатрабаванні Думе.

К пачатку 1907 года становішча сялян, якія жылі на тэрыторыі Бачэйкаўскай воласці, стала асабліва цяжкім. Памешчыкі прымянялі супраць іх складаную і суровую сістэму штрафаў, душылі іх вялікімі працэнтамі па збожжавых пазыках і г. д. Пётр Фёдаравіч прывёў такі выпадак. Неяк коні жарнасекаўскіх сялян парушылі граніцу уладанняў памешчыка Станіслава Ціхнавецкага (які жыў там, дзе цяпер размешчана Бачэйкаўская МТС) — зрабілі некалькі крокаў па выпасу, што належаў памешчыку. Ціхнавецкі ўзбудзіў супраць жыхароў Жарнасекава праследаванне і дабіўся, што яны ўсёй вёскай павінны былі суткі працаваць на яго.

У патрабаваннях сялян, якія яны спадзяваліся давесці да ведама Думы, выказваўся пратэст супраць памешчыцкага прыгнёту.

Адказам губернскага начальства было зняволенне на месяц у лепельскую турму групы сялян, у тым ліку і Пятра Фёдаравіча Варанька. Дзяржава паклапацілася толькі аб ахове вязняў, выставіўшы ля турмы вартавых. Што ж датычыць харчу, мыцця бялізны, лазні і іншых бытавых патрэб, дык на задавальненне іх кожнаму арыштаванаму выдавалася ў суткі па сем капеек. У першыя ж дні адбыцця тэрміну пакарання аднаму з жарнасекаўцаў — Івану Гаўрылаву—удалося ўцячы. Ён накіраваўся ў Пецярбург і хаваўся там дзён дваццаць. Калі ж сталічныя жандары знайшлі ўцекача, ён быў зноў арыштаваны, дастаўлены ў Лепель і пасаджаны ў турму ўжо на два месяцы.

Так склалася справа з адным сялянскім зваротам у Думу. Расійскія парламентарыі, вядома, не пачулі пратэсту сялян з Віцебшчыны. Аднак сялянам гісторыя зняволення ў турму іх аднавяскоўцаў паслужыла добрым палітычным урокам, накіраваўшы іх думкі да больш актыўных дзеянняў.

**А. ДУЛАЎ.**




## На радзіме Яна Чачота

Наўрад ці знойдзецца чалавек, якога не зачароўвалі б народныя песні, казкі, прымаўкі. Многія людзі з выключнай любоўю прысвячаюць сябе пачэснай справе — збіранню фальклору. Гэтым самым яны садзейнічаюць папулярызацыі культуры народа, больш глыбокаму і канкрэтнаму асэнсаванню багацейшых крыніц народнай мудрасці. Такім паўстае перад намі Ян Чачот, першы беларускі вучоны-фалькларыст і этнограф. Сваёй працай ён адкрыў дарогу для шырокай дзейнасці такім вучоным, як Павел Шэйн, Еўдакім Раманаў, Яўхім Карскі і іншыя.

Ян Чачот (1797—1847) нарадзіўся на Навагрудчыне ў вёсцы Малюшычы. Паходзіў з дробнай беларускай шляхты. Першапачатковую адукацыю ён атрымаў у Навагрудскай дамініканскай школе. Тут пачалося сяброўства Яна Чачота з будучым вялікім польскім паэтам Адамам Міцкевічам. Але асабліва цесным зрабілася яно ў перыяд сумеснага навучання ў Віленскім універсітэце. Абодва яны прымалі ўдзел у нелегальных студэнцкіх гуртках. У вачах сваіх калег, малодшых таварышаў, Ян Чачот быў узорам высокай чалавечай годнасці і самаадданага служэння агульнай справе. Яго равеснік Ігнат Дамейка ў сваёй працы «Філамацкае жыццё» піша: «Ян пашыраў сваю апеку над калегамі, асабліва малодшымі, і даваў ім напрамак маральны, але чым мацней любіў каго, тым больш ад яго патрабаваў».

Ян Чачот шчыра любіў творчасць свайго народа і сам пісаў вершы на які-небудзь матыў беларускай народнай песні.

Да нас дайшла вялікая колькасць сведчанняў былых удзельнікаў студэнцкіх патрыятычных гурткоў філаматаў (сябры навукі) і філарэтаў (сябры дабрачыннасці), якія расказваюць аб атмасферы сардэчнай блізкасці Яна Чачота і Адама Міцкевіча. Чачот разумеў і шанаваў здольнасці свайго земляка Адама Міцкевіча. Кожны новы твор яго ён сустракаў з пачуццем шчырай радасці і гордасці за аўтара. Таварыш дзяцінства і юнацтва, Ян Чачот быў першым рэдактарам ранніх паэтычных твораў Адама Міцкевіча.

У 1819 годзе, калі адзначалі дзень нараджэння Міцкевіча, Чачот прысвяціў свайму сябру песню на беларускай мове.

Аб сваіх адносінах да Яна Чачота Міцкевіч пісаў яму ў пісьме: «Што датычыцца дружбы, то клянуся яе святым імем і ўсім, што мне было дорага і што цяпер найбольш дорага, я лічу цябе такім сябрам, якога толькі можна жадаць; я не магу мець вялікшага, я ні да каго не быў такім прыхільнікам і нікога не паважаў у такой меры».

Адам Міцкевіч чула адносіўся да свайго сябра, як крытык яго твораў. У рэцэнзіі на лібрэта аперэты Яна Чачота «Маргарыта з Зэмбоцына» Міцкевіч патрабаваў ад аўтара глыбокага ведання душы, лірычнай усхваляванасці і прастаты.

Зараз у Навагрудку ў будынку беларускай сярэдняй школы імя Адама Міцкевіча ідзе падрыхтоўка да адкрыцця краязнаўчага музея, які, у доказ пашаны свайго знатнага земляка, калектыў школы вынес прапанову назваць імем Яна Чачота. Спалучэнне гэтых двух імён сімвалізуе дружбу Адама Міцкевіча і Яна Чачота ў іх родным горадзе Навагрудку, сімвалізуе дружбу сыноў польскага і беларускага народаў.

**Л. МІРАЧЫЦКІ.**

# *У свеце мастацтва*

**Г. БАРЫШАЎ**

## З ГІСТОРЫІ ПРЫГОННАГА ТЭАТРА БЕЛАРУСІ

Усё менш застаецца «белых» плям на тэатральнай карце Беларусі. Разам з імі знікае няправільная тэорыя аб «тэатральнай абмежаванасці» Беларусі на працягу велізарнага перыяду — з XVII і амаль да першай паловы XIX стагоддзя.

Дзякуючы новым даследаванням гісторыкаў мы даведаліся пра беларускіх акцёраў і мастакоў, якія ўдзельнічалі ў стварэнні ў 1672 годзе першага ў гісторыі Расіі прафесійнага тэатра пры двары цара Аляксея Міхайлавіча.

Нядаўна ў выніку пошукаў, праведзеных у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве СССР г. Ленінграда, знойдзены новыя каштоўныя матэрыялы, якія праліваюць святло і на іншыя важныя з'явы тэатральнага мінулага Беларусі. Першы дакумент, які трапіў у рукі аўтара гэтых радкоў, з'яўляецца настолькі цікавым, што заслугоўвае таго, каб прывесці яго цалкам. Гэта «Пасведчанне, выдадзенае генерал-маёрам Нinfoранчычам—Зорычам на праезд людзям Шклоўскага маёнтку».

«...Уладальнікі сяго прыгонныя мае людзі графства Шклоўскага накіраваны ў С.-Пецярбург па запатрабаванню тэатральнай дырэкцыі і выбару прысланага ад онай дырэкцыі пана балетмайстара Вальберха, а менавіта, танцоры: 1-ы Кірыла Скарабагаты, 2-і Фама Шамборскі, 3-і Сямён Кусакоў, 4-ы Герасім Бэкераў, 5-ы Яўсей Палітыка, 6-ы Крысцьян Буткевіч, 7-ы Раман Бэкер, 8-ы Яфрэм Чуцікаў, танцоркі: 1-я Кацярына Азарэвічава, 2-я Ганна Максімовічава, 3-я Мар'я Бушынская, 4-я Елізавета Саварава, 5-я Ялена Янкевічава, 6-я Наталля Сонiна. Усяго 14, коім з прыбыццём у С.-Пецярбург з'явіцца ў оную Дырэкцыю і заставацца ў яе распараджэнні, для чаго і прашу паноў каманду, якая маецца на заставах і каравулах, чыніць ім да азначанага месца свабодны пропуск, для запаўнення чаго і даю сіе за подпісам маім і з прыкладаннем герба майго пячаткі; у Шклове сакавіка 22 дня 1800 года.

Генерал-маёр і кавалер Няранчыч».

Хто яны, тыя 14 прыгонных танцораў? Які далейшы іх лёс? Што гэта быў за тэатр, у якім яны танцавалі?

З адказу на апошняе пытанне і хочацца пачаць свой расказ:

...У Беларусі ў канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзяў у многіх гарадах і маёнтках памешчыкаў, следуючы прыкладу царскага двара, пачалі ўзнікаць прыгонныя тэатры.

Для панскай пацехі прыгонныя архітэктары будавалі тэатральныя памяшканні, мастакі малявалі дэкарацыі, а прыгонныя акцёры пад кіраўніцтвам якога-небудзь іншаземца гралі ў операх, пантамімах і балетах.

У Магілёўскай губерні, дзе прыгонныя тэатры былі асабліва распаўсюджаны, вылучаўся Шклоўскі тэатр, створаны фаварытам Екацярыны II — генерал-лейтэнантам Сямёнам Зорычам.

Як сведчыць гісторык Е. П. Карповіч, «жыў Зорыч у Шклове сапраўдным магнатам — у пышных пазалочаных залах, даючы амаль штодзённа абеды на сто прыбораў, з гарматнай страляніной, уласнай музыкай і маскарадамі».

Меў Зорыч і свой «кадэцкі корпус». І самую вялікую нагрузку яго выхаванцы неслі ў час вучобы, а на пірах гэтага фаварыта, дзе яны забаўлялі гасцей прыкладнымі «ваеннымі эвалюцыямі» і танцавалі ў балетах. Аб своеасаблівым «напрамку» вучобы гэтых кадэтаў яскрава гаворыць табель грашовых акладаў настаўнікаў корпуса. Больш за ўсіх грошай атрымоўваў балетмайстар Мацвей Пранчынскі, запрошаны з «Белага-Стоку». Яго аклад складаў 500 рублёў, у той час як настаўнік геаметрыі атрымліваў 250 рублёў, а настаўнік расійскай граматыкі 200 рублёў у год.

Тэатр, які стварыў С. Зорыч, меў пастаянную трупу, вялікі балет, хор, аркестры. Яго рэпертуар складаўся з опер і балетаў, напісаных нямецкімі, французскімі і італьянскімі кампазітарамі.

Пакуль што ў нас няма падрабязных даных аб пастаноўках у тэатры Зорыча, але вядома, што ў ім наладжваліся грандыёзныя спектаклі. У якасці прыкладу можна прывесці ўспаміны Л. М. Энгельгардта, які апісвае спектакль, наладжаны ў тэатры Зорыча 31 мая 1780 года ў час сустрэчы Екацярыны II з аўстрыйскім імператарам Іосіфам II.

Зорыч да іх прыезду пабудаваў «велізарнейшы» дом, у якім «...паказвалі пантаміму ў тэатры..., з надзвычайнымі дэкарацыямі, якіх было каля сямідзесяці: склаў яе, а таксама і музыку, касцюмы і дэкарацыі барон Ванжура, адстаўны ротмістр аўстрыйскай службы».

З 1781 па 1783 год выхавацелем кадэтаў і асноўным кіраўніком прыгоннага тэатра быў вучань Вальтэра — Цімелеон Альфонс-Галіен дэ Салмаран. Ён пісаў музыку для камедый і опер, а таксама вершаваныя лібрэта. Яму ў рабоце дапамагала жонка — пані Саж (Лесаж), вядомая ў той час піяністка і спявачка.

Як вядома, у канцы свайго жыцця Сямён Зорыч збяднеў. Супраць яго была ўзбуджана справа, з якой і высвятляецца мноства падрабязнасцей жыцця тагачаснага прыгоннага тэатра.

Сярод знойдзеных дакументаў звяртае на сябе ўвагу скарга самога Салмарана на Зорыча, якая характарызуе норавы тых часоў.

«...За два гады, на працягу якіх жонка мая спявала, іграла на клавікордах, прадстаўляла камедыі для гасцей, скарыстоўваючы для гэтага сваё адзенне, патрабуе яна не 10.000 руб., якія яго правасхадзіцельства абяцаў ёй аднойчы, калі яна бяспрыкладна іграла, але толькі па 100 руб. на месяц, што складае за два гады, у якія яна не атрымала ні капейкі, — 2400 руб. За прадстаўленні мною камедый і опер у два гады, на што я скарыстоўваў сваё адзенне і складаў сам жа камедыі, у разважанні, што я не маю нічога пакінуць дзецям маім, апрача плёну, які я атрымліваю ад маіх дараванняў, патрабую я 800 руб.»

Ні Салмарану, ні яго жонцы Зорыч доўгу не аддаў. Праматаўшы на балах усе свае сродкі, ён узяўся за выраб фальшывых грошай, за што ў далейшым трапіў пад суд.

З судовай перапіскі высвятляецца, што Зорыч задаўжаў не толькі буйным вяльможам, але і дробным служачым, у тым ліку сваім музыкантам. Захаваліся скаргі шклоўскіх музыкантаў: Арцёма Малеева, Гаўрылы Адамовіча, а таксама прыдворнага камер-музыканта Антона Буланта, які патрабаваў: за «...навучанне музычнай навуцы прыгоннага пана Зорыча чалавека Нікіфара Каткова, якое працягвалася 4 гады і 7 месяцаў і які паказаў, дзякуючы маім намаганням, выдатныя поспехі, грошы па ўмове ўсяго 4018 р. 90 к.».

Пасля смерці графа Сямёна Зорыча тэатральнае жыццё Шклова занепадае. На гэта аказалі ўплыў і пазыкі пакойнага графа і ад'езд са Шклова ў г. Гродна кадэцкага корпуса, які меў аркестр з 24 музыкантаў.

У спісе музыкантаў аркестра Шклоўскага корпуса фігуруюць наступныя прозвішчы: Іван Багамазаў, Андрэй Уласаў, Сямён Патанчык, Андрэй Грыбоўскі, Васіль Жуйка, Піліп Лагоша, Даніла Ярашкевіч, Карл Падабедаў, Аляксей Зорка, Даніла Шафраноўскі, Гаўрыла Адамкоў, Іван Навіцкі, Васіль Краснава-



лік, Міхал Ануфрыеў, Захар Полацкі, Іван Вінарскі, Якаў Купчына, Клім Вігура, Іван Лаўрынаў, Андрэй Бліндура, Ігнат Мацвееў, Лаўрын Лабацкі, Афанасій Красоўскі, Андрэй Лімянтоўскі. Усе пералічаныя музыканты паходзяць з сялян.

Брат Сямёна Зорыча, генерал-маёр Давыд Няранчыч пісаў аб гэтым аркестры наступнае: «... нябожчык брат мой выдаткаваў на ўстанову і навучанне гэтых вялікі капітал, і яны за час знаходжання тут атрымоўвалі толькі паложаныя грошай у год каля трох тысяч рублёў, а зараз, знаходзячыся і на іншай службе, пазбаўляюцца свайго мастацтва, што я, як уладальнік маёнтку свайго, вымушан мець адчувальныя страты...»

З другога боку, ад'езд у 1800 г. з балетнай групы 14 лепшых «тансёраў і тансёрак», якіх Давыд Няранчыч перадаў Дырэкцыі Санкт-Пецярбургскіх імператарскіх тэатраў, таксама з'явіўся прычынай спынення ў Шклове вялікіх балетных спектакляў.

14 артыстаў шклоўскага балету, за якімі быў спецыяльна камандзіраван вядомы рускі балетмайстар Іван Іванавіч Вальберх (Лесагораў), па прыездзе ў С.-Пецярбург залічваюцца фігурантамі ў Імператарскі балет, а дзеці многіх з іх — у тэатральную школу.

Аб далейшым лёсе іх мы даведваемся з перапіскі наследніка Шклоўскага маёнтку Чарнаевіча з князем Цюфякіным.

Адказваючы ў 1821 годзе на фінансавыя прэтэнзіі Чарнаевіча, князь Цюфякін піша:

«Значная частка памянёных людзей выбыла ўжо з дырэкцыі, некаторыя з іх памерлі, іншыя Усеміласцівейшым узнагароджаны пансіёнам, а іншыя знаходзяцца ў афіцэрскіх чынах, — так што цяпер застаецца не больш 5-ці чалавек, ды і тыя за шматдаўнасцю ўжо выслужылі ўзаконеныя гады для атрымання пансіёнаў».

У дакументах, звязаных з жыццём і дзейнасцю шклоўскіх танцораў, маюцца вельмі цікавыя факты, якія сведчаць аб выдатных здольнасцях многіх з іх.

З усіх танцораў тэатра Зорыча выключны талент меў Крысцьян Буткевіч. Вядома, што, застаючыся фігурантам усё сваё жыццё, ён атрымліваў па 1118 руб. у год — аклад вельмі высокі для таго часу.

Вядома і тое, што на пасадзе фігуранта ён выконваў галоўныя партыі. Але такім быў лёс пераважнай меншасці народных самародкаў. Іншаземнае паходжанне ставілася вышэй здольнасцей.

«Крысцьян Ягораў сын Буткевіч» праслужыў на падмостках С.-Пецярбургскіх тэатраў 22 гады. Як сведчаць афішы за 1821—1824 гг., ён танцаваў наступныя партыі: 7 лютага 1821 г. — Тэокла — доктара з Адмент і пякельнага суддзю Міноса ў балеце «Альцэста, ці сашэсце Геркулеса ў пекла»; 1 студзеня 1824 г. — Гірэя, хана татарскага, друга Санчулея ў балеце «Каўказскі палоннік, ці цень нявесты» (на сюжэт А. С. Пушкіна) і г. д.

Разам з Крысцьянам Буткевічам у балетах танцавала яго жонка Марыя Буткевічава (Бушынская). Іх дзеці пасля заканчэння тэатральнай школы былі прыняты ў штат Дырэкцыі імператарскіх тэатраў: сын Канстанцін — у аркестр, дочкі Алена і Мар'я — у хор.

Ёсць кароткія звесткі і аб яшчэ двух фігурантах з тэатра Зорыча. Адзін з іх Яўсей Палітыка працаваў у балетнай трупе да 19 мая 1817 года. З матэрыялаў балетмайстра Вальберха вядома, што Яўсей Палітыка выконваў у 1814 годзе ў яго балеце «Урачыстаць Расіі, ці Рускія ў Парыжы» ролю дэпутата. Памёр Яўсей Палітыка ў жабрацтве і быў пахаваны ў Волагдзе 19 снежня 1820 года.

Другі фігурант, Раман Бекер, у 1812 годзе пайшоў добраахвольцам у Санкт-Пецярбургскае апалчэнне і за мужнасць, праяўленую ў баях, атрымаў званне прапаршчыка, а пасля выхаду ў адстаўку — пажыццёвы пансіён ...200 рублёў у год, якія перасылаліся яму ў г. Харкаў.

Знаёмячыся з лёсам беларускіх артыстаў, пераконваешся, што толькі талент адных, смерць другіх, воінская доблесць трэціх выратоўвалі іх ад прыгоннага ярма; усе 14 танцаўшчыкоў не былі афіцыйна выкуплены Дырэкцыяй з прыгоннай залежнасці, і доўгі час наследнік Зорыча і Няранчыча патрабаваў іх звароту ў Шклоўскі маёнтак.

Становішча прыгонных акцёраў было надзвычай жахлівым, іх прадавалі як жывёлу, а прыгонных музыкантаў нярэдка — цэлымі аркестрамі, разам з нотамі і інструментамі. Так званы «выкуп на волю» быў фіктыўным, «воля» заставалася на паперы. Музыканта, які чым-небудзь не дагадзіў Дырэкцыі, чакала здача ў салдаты, а яго сям'ю — жабрацкае існаванне.

Вось перад намі яркая ілюстрацыя вышэйсказанаму — дакумент, падпісаны Міністрам імператарскага двара

князем Валконскім 30 сакавіка 1882 года. «Па Высачайшаму загаду Гасудара Імператара выкуплены навечна на волю ў Г. Обер-Шэнка і Сапраўднага тайнага саветніка графа Чарнышова для прызначэння на службу да Прыдворных тэатраў дваццаць сем чалавек музыкантаў разам з іх сем'ямі. З прычыны чаго, пасылаючы пры гэтым у камітэт паімённы спіс музыкантаў і сапраўдныя адпускныя, дадзеныя ім ад памешчыка, я паведамляю яму, што ўсе гэтыя людзі з інструментамі і нотамі будуць прысланы сюды на імя... графа Віельгорскага, і за што за іх заплачана з кабінета яго Вялікасці пяцьдзесят чатыры тысячы рублёў».

У гэтым дакуменце ідзе гутарка аб вядомым магілёўскім аркестры, які належаў графу Чарнышову.

Ён, як і Зорыч, быў вельмі багаты. Рыхтуючыся да сустрэчы Екацярыны II у 1780 годзе, Чарнышоў выпісаў са сталіцы прыдворную італьянскую оперу, пабудаваў тэатр і бальную залу. У Магілёве, у час знаходжання там імператрыцы Екацярыны II, наладжваліся пышныя гулянні, феерверкі, маскарады, оперныя спектаклі. У гэтых святах удзельнічалі і так званыя «чарнышоўскія музыканты», скрыпачы — Нікіфар Цяпкін, Пётр Зялёнаў, Іван Пашкоў, Іван Рабцоў, альтысты — Якаў і Іван Салаўёў, віяланчалісты — Павел Зялёнаў і Даніла Новікаў і г. д.

Пасля прыезду аркестра ў Пецярбург «Дырэктар музыкі» Леў Яршоў наладжвае экзамен музыкантам і пасылае начальству рапарт: «Гонар маю прадставіць, што ...прыехаўшыя музыканты графа Чарнышова мною экзаменаваны, з чаго відаць, што некаторыя могуць быць выкарыстаны ў аркестрах у разбіўку для вадэвіляў і малых опер, а таксама і ў балеты...»

Як высвятляецца далей з дакументаў, Леў Яршоў 16 чалавек накіроўвае ў аркестры, 4-х — у нотную кантору, 3-х — у тэатральную школу, а Нікіфара Шчэціна, Фёдара Данцова, Аляксея Новікава і Васілія Красічкава ў «...турэцкую музыку».

Неўзабаве ад «чарнышоўскіх музыкантаў» у Дырэкцыю паступае скарга, з якой відаць, што граф Чарнышоў выправіў іх без пасцельных рэчаў.

А яшчэ праз некаторы час той жа Леў Яршоў дакладваў, што яны «...маюць патрэбу як у вопратцы, так і ў абутку з наступленнем восені».

Бяздушнасць гэтага прыгонніка, які прадаў аркестрантаў з сем'ямі, ледзь не голых і босых, не патрабуе каментарыяў.

Такі ж лёс напаткаў у 1829 годзе дваццаць дзевяць музыкантаў графа Салагуба з Гарыгарэцкага маёнтку (г. Горкі). Пасля таго, як іх прывезлі ў Санкт-Пецярбург, яны былі «...назначаны 10 чалавек у тэатральную дырэкцыю; астатнія 19 у палкі Лейбгвардыі...»

Але і гэтыя 10 чалавек *, якія атрымалі ў свой час слабую музычную падрыхтоўку ад «дырыжыраваўшага імі дваранiна Сіпайлы», не вытрымалі экзамена.

Князь Сяргей Гагарын пісаў: «...Дырэктар музыкі Яршоў знаходзіць, што ні адзін з азначаных музыкантаў не можа быць выкарыстаны ў аркестры. Капельмайстар жа Кавос, лічачы таксама іх музычныя веды досыць слабымі і яшчэ патрабуючымі адукацыі, мяркуе, паколькі галасы іх даволі прыгодныя для спеваў, сфармаваць з іх харыстаў».

У далейшым большая частка з іх была аддадзена вучыцца ў «Пеўчы хор» і па заканчэнню яго служыла харыстамі ў тэатрах Санкт-Пецярбурга.

Прыгонныя тэатры складалі цэлую эпоху ў гісторыі тэатра не толькі Расіі, але і Беларусі. Яны былі асноўнымі пастаўшчыкамі прафесійных кадраў як для імператарскіх, так і для шматлікіх прыватных тэатраў. Тут прыкладам можа служыць балетная прыгонніцкая трупа Цізенгаўза з г. Гродна, якая ў канцы XVIII стагоддзя стала асновай Варшаўскага балету.

Прывезеныя ў Санкт-Пецярбург беларускія прыгонныя танцоры і музыканты, а затым іх дзеці аддавалі ўсё сваё жыццё служэнню рускаму мастацтву. Гэта быў свайго роду працяг традыцый, пачатых іх продкамі яшчэ ў XVII стагоддзі пры двары цара Аляксея Міхайлавіча.

* У ліку гэтых дзесяці былі: скрыпачы — Іван Ермалаеў, Юрка Іваноў, Лаўрэн Гаўрылаў (Валодзікаў), Дзмітры Кузьмін; віяланчалісты — Іван Фёдараў, Аўдзей Раманаў і г. д.

Міхась МОДЭЛЬ

# РАЗМОВА АБ БАЛЕЦЕ

Цікавасць да балету няспынна ўзрастае. Асобныя балетныя спектаклі беларускага тэатра, такія, як «Лебядзінае возера», «Князь-возера», «Бахчысарайскі фантан», «Карсар» і іншыя, гледачы наведваюць нават лепш, чым оперныя пастаноўкі. Асабліва любіць балет моладзь.

І тут няма нічога дзіўнага.

Балет — музычна-танцавальны жанр. У балетным спектаклі музычная драматургія, жыццё герояў раскрываецца праз танец (класічны і характэрны) і пантаміму (міміка, жэстыкуляцыя і пластычныя рухі). Класічны танец — аснова балету. Танцу ўласціва душэўная грацыя, багацце эмоцый, паэтычнасць думкі, віртуознае майстэрства рухаў і поз. Багатай «бясслоўнай» мовай, красамоўнай лексікай класічнага танца захапляліся Чайкоўскі — аўтар цудоўных балетаў «Лебядзінае возера», «Спячая красуня», «Шчаўкунчык», Глазуноў — стваральнік «Раймонды» і іншыя кампазітары.

Выдатнымі прадаўжальнікамі іх высакародных рэалістычных традыцый сталі савецкія кампазітары Пракоф'еў, які стварыў балеты «Рамеа і Джульета», «Золушка», Глиер — аўтар «Чырвонага мака», Асаф'еў («Бахчысарайскі фантан», «Полымя Парыжа», «Каўказскі палоннік»), Хачатуран («Гаянэ», «Спартак») і іншыя.

Савецкі балет узнік на аснове багатага, выразнага народнага танца і выдатнай рускай харэаграфічнай школы. Рускі балет, асабліва з таго часу, калі з'явіліся творы Чайкоўскага, адрозніваўся ад манернага французскага і вонкава віртуознага італьянскага балету сапраўднай народнасцю, глыбокім зместам, шчырасцю і класічнай прастатой выканання. Сувязь з народнай творчасцю вызначыла дэмакратычны змест рускай харэаграфічнай класікі, багатую сцэнічную выразнасць яе.

Гэтымі якасцямі і заваявалі сабе пашану і сталае месца на тэатральных падмостках балеты П. І. Чайкоўскага. Іх музычная і харэаграфічная драматургія, іх эстэтычныя прынцыпы былі пакладзены ў аснову савецкага, у тым ліку і беларускага балету.

### Беларускае харэаграфічнае мастацтва

Вельмі паказальным з'яўляецца тое, што беларускі балетны тэатр нарадзіўся як тэатр рэвалюцыйнай тэмы. Яго першым спектаклем быў «Чырвоны мак» Р. Гліера (1932 год). Маладых артыстаў хвалявала вобразная, эмацыянальна насычаная і меладычна яркая музыка, характэрная праграмнай сімфанічнасцю.

Многае яшчэ было недасканалым у гэтым першынцы савецкага балету і беларускага нацыянальнага тэатра. У спектаклі адчуваліся меладраматычнасць, рысы ўсходняй экзотыкі, дывертысментнасць, якая часам разбурала сюжэтную тканіну твора (напрыклад, карціна сну Тао-Хоа). Яшчэ слаба валодалі класічнай тэхнікай нашы танцоры. Тэма рэвалюцыйнай барацьбы не стала галоўнай у творы, а была фонам, на якім разгортвалася душэўная драма кітайскай артысткі. У дру-

гой, пасляваеннай рэдакцыі балет набыў тыя рысы, якія ператварылі яго ў харэаграфічную аповесць з выразным сюжэтам і значнымі канфліктамі.

З таго, першага спектакля запомнілася гледачам таленавітая маладая балерына Аляксандра Нікалаева (выканаўца партыі Тао-Хоа). З яе сцэнічнай творчасцю звязана ўся гісторыя беларускага балету. Для маладой артысткі з багатай тэхнікай і яркім тэмпераментам, але яшчэ слаба спрактыкаванай у акцёрскім майстэрстве, было вельмі важна пачаць сваё самастойнае жыццё не «з простых і наіўных» вобразаў Пуні і Мінкуса, а з ролі гераіні-сучасніцы.

Чым жа запомнілася А. Нікалаева ў «Чырвоным маку»? Вобраз кітайскай артысткі Тао-Хоа вабіў свежасцю пачуцця і шчырасцю, рамантычнай узнёсласцю і прывабнай маладосцю. У ім былі рысы сапраўднай гераікі. Танец балерыны быў надзвычай экспрэсіўны, лёгкі і тэмпераментны. Яе варыяцыі, дзе раскрываўся багаты эмацыянальны свет Тао-Хоа, былі насычаны прадчуваннем непазбежнасці трагічнага лёсу гераіні.

Нажаль, артыстка тады не змагла яшчэ дасягнуць дасканаласці псіхалагічнага партрэта, яснай паслядоўнасці думкі ў вобразе. У гэтым сэнсе балет «Бахчысарайскі фантан» з'явіўся новай ступенню ў творчай біяграфіі не толькі А. Нікалаевай, але і ўсяго калектыву.

У гэтым спектаклі раскрыліся здольнасці і другога майстра беларускага балету Сямёна Дрэчына, які выконваў партыю Гірэя.

Прыродная прывабнасць Дрэчына, яго артыстычнасць і тонкі мастацкі густ праявіліся вельмі выразна. Артыст не абытаўляў вобраз, не шукаў для яго залішняй арнаментацыі і дэталізацыі. Гірэй — Дрэчын рамантычны герой. Складаны псіхалагічны партрэт Гірэя артыст стварыў вельмі сціплымі выяўленчымі сродкамі, але надзвычай дасканала.

У мастацкім лёсе тэатра выдатную ролю заўсёды адыгрываў і адыгрывае рускі класічны рэпертуар і, у першую чаргу, балеты Чайкоўскага. Вобразы геніяльнага кампазітара, цудоўная музычная драматургія твораў узбагацілі беларускі балетны калектыў. Шмат год на беларускай сцэне жыве паўнакроўным жыццём «Лебядзінае возера». Прыхільнасцю гледача карыстаюцца таксама «Спячая красуня» і «Шчаўкунчык».

«Лебядзінае возера» з'яўляецца гордасцю савецкай балетнай сцэны і заўсёды знаходзіцца ў рэпертуары амаль усіх музычных тэатраў нашай краіны. Цяпер існуюць дзве рэдакцыі балету — тэатра імя Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі і акадэмічных тэатраў.

Акадэмічная трактоўка балету, пачынальнікам якой былі Пеціпа і Іваноў, грунтавалася на глыбокім разуменні творчых ідэй кампазітара, яго стылю і мастацкіх імкненняў. Уся ўвага ў спектаклі была аддадзена чалавеку, багацці яго мараў аб светлай будучыні, пратэсту супраць жорсткіх і цёмных сіл, якія перашкаджаюць шчасцю людзей. Сапраўдным наватарствам у балетных партытурах Чайкоўскага быў лірыка-сімфанічны танец, які натхняў рэжысёраў і дырыжораў, акрыляў творчую думку артыстаў.

«Лебядзінае возера» — балет казачны, у ім багата фантастыкі. Але фантастыка тут з'яўляецца не самамэтай, а паэтычнай асновай для раскрыцця глыбокай ідэі твора. Галоўная гераіня балету — Адэта (дзяўчына-лебедзь) — не абстрактна-фантастычны, а рэальна-псіхалагічны вобраз.

**Н. Давыдзенка ў партыі Аўроры з балету «Спячая красуня».**





У гэтым спектаклі асабліва вызначылася маладая артыстка Ліда Ражанава. Артыстка, у адпаведнасці з музыкай, у вобразе Адэты стварае рускі рамантычны нацыянальны характар.

У класічных традыцыях пастаноўкі балетмайстра М. Пеціпы быў вырашаны К. Мулерам і спектаклі «Спячая красуня», «Шчаўкунчык». Ёсць і ў гэтых творах значныя рэжысёрскія і акцёрскія здабыткі.

Аднак ці ўсё зроблена нашым тэатрам, каб выдатныя балеты Чайкоўскага прагучалі на поўны голас і каб гэты голас быў індывідуальным, сваім? Ці не надта многа мы проста пераймаем традыцыі, а не ўзбагачаем іх самастойнай творчай думкай?

Шкада, што беларускі тэатр зусім не зацікавіўся наватарскімі пошукамі ў «Лебядзіным возеры» тэатра імя Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі. А вядома, што гэтыя пошукі не толькі не супярэчаць музыцы, а адкрываюць тыя старонкі яе партытуры, якія дарэмна былі «закрыты». Не парушаючы рэалістычных прынцыпаў класічнай і савецкай харэаграфіі, тэатр імя Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі смела дамаляваў некаторыя вобразы і сітуацыі, узбагаціўшы іх сваёй творчай думкай і майстэрствам.

Мы не прыхільнікі таго, каб усё, што там знойдзена, механічна пераносіць у наш спектакль, які пастаўлены ў акадэмічных традыцыях. Але чаму б некаторыя наватарскія здабыткі не выкарыстаць нашаму тэатру.

Мастацкае аблічча кожнага тэатра перш-на-перш вызначаецца яго нацыянальным рэпертуарам, здольнасцю творчага калектыву жыць думкамі і пачуццямі, марамі свайго народа.

Напісаны кампазітарам М. Крошнерам балет «Салавей» (па матывах аповесці З. Бядулі) быў нацыянальным спектаклем. Ён узнік на глебе народнай песенна-танцавальнай творчасці, пад непасрэдным уплывам высакародных традыцый рускай класікі і савецкага харэаграфічнага мастацтва. Разам з тым, наш балетны тэатр, кіруючыся метадам сацыялістычнага рэалізма, імкнуўся сказаць і сваё новае слова ў гэтым жанры.

Першы варыянт балету «Салавей» быў паказаны на Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве (1940 г.), дзе ён атрымаў ухваленне грамадскасці, хоць і выклікаў некаторыя спрэчкі.

У беларускай харэаграфіі, пачынаючы з першых крокаў яе развіцця, вырашаліся і некаторыя агульныя праблемы нацыянальнага стылю.



**Народная артыстка БССР А. В. Нікалаева, заслужаны артыст БССР Г. Мартынаў, артысткі Ю. Будзікава і М. Пятрова.**

У спектаклі шырока скарыстаны музычны і танцавальны фальклор для стварэння беларускага сцэнічнага танца. Фальклор з'явіўся істотным элементам у абмалёўцы вобразаў. Ён узбагаціў класічны танец, надаў яму выразную нацыянальную афарбоўку і сакавіты мастацкі каларыт. Былі таксама зроблены плённыя спробы драматызацыі харэаграфічнага вобраза.

Балетмайстар К. Мулер у новай пастаноўцы «Салаўя» (1950 г.) яшчэ больш палепшыў спектакль. У апошнім варыянце сталі дзейснымі сцэны і танцы, у якіх гучыць вальналюбства народа, пратэст супраць цемрашальства прыгоннікаў. Мяцеліца, кадрыль і іншыя танцы з'яўляюцца не асобнымі канцэртнымі нумарамі, а арганічнай часткай усяго спектакля. У сцэнах і танцах Зоські (Л. Ражанава), Сымона (В. Міронаў), Марылькі (Б. Карпілава) рэжысёр адцяніў грамадскія рысы герояў, тое, што паказвае іх, як змагароў за народную праўду, супраць панскай крыўды. У спектаклі ёсць вы-

разны сюжэт, значны драматычны канфлікт. Рэжысёр знайшоў багата сатырычных фарбаў для абмалёўкі вобразаў француза — настаўніка балерын прыгоннага тэатра, ганарлівай пані Ванды, панскага гайдука.

Творчыя магчымасці нашага балету яшчэ глыбей раскрыліся ў спектаклі «Князь-возера». Кіруючыся класічнымі ўзорамі балетаў Чайкоўскага і Глазунова, лепшымі здабыткамі савецкай харэаграфіі, тэатр паставіў спектакль у стылі сюжэтна выразнай і кампазіцыйна стройнай драмы. Сцэна сну Васіля і беларускія народныя танцы «Юрачка», «Крыжачок», «Полька-Янка» і іншыя, якія арганічна ўваходзяць у кампазіцыю спектакля, маюць дакладную і ясную функцыю. Яны дапамагаюць глыбей раскрыць высакародныя рысы Надзейкі і Васіля, паказаць, што нават сілы прыроды служаць добрым імкненням працоўнага чалавека, народа.

У «Князь-возеры» няма бессэнсоўных сцэн, «танца дзеля танца». Мізансцэны, танец або пантаміма разлічаны на тое, каб лепш раскрыць ідэю твора.

Узноўлены нядаўна спектакль выклікае шчыры водгук гледачоў. Яго высакародныя ідэі належаць не толькі гісторыі. Яны выклікаюць роздум аб велічнасці нашых дзён, калі, вызваленыя ад жахаў мінулага, савецкія людзі карыстаюцца ўсімі здабыткамі сацыялістычнай працы і культуры, дасягнулі здзяйснення тых мараў, у імя якіх народ калісьці перанёс страшэнныя пакуты і нястачы.

Асноўная ўвага ў спектаклі сканцэнтравана на вобразе Надзейкі (Л. Ражанава). Творчы почырк артысткі тут набыў асаблівую выразнасць. Карыстаючыся трапным выразам К. С. Станіслаўскага, яна жыве на сцэне «жыццём чалавечага духу». Л. Ражанава паводзіць сябе знешне вельмі сціпла, ёй не ўласцівы рэзкія, крыклівыя рухі і позы, аднак яе думкі выразна чытаюцца, як у змястоўнай кнізе. Разам з гераіняй мы верым, што чалавек створаны для лепшай долі. Надзейка Л. Ражанавай — беларуская дзяўчына з уласцівымі ёй нацыянальнымі рысамі і паэтычным аблічам.

Сапраўдны мастацкі твор заўсёды характарызуецца надзённасцю сваіх думак, адзінствам зместу і формы, добрым густам і значнай творчай культурай. У харэаграфічнай драме «Князь-возера» гэтыя рысы пры ўзнаўленні не толькі не згубіліся, але яшчэ больш паглыблены. Задавальненне выклікаюць цудоўныя дэкарацыі і касцюмы С. Нікалаева. Гэта мастак, які глыбока разумее музычную драматургію, тонка адчувае ўсё яе чароўнае характво.



**А. Карзянкова (Лаурэнсія) і В. Міронаў (Франдоса) з балету «Лаурэнсія».**

### Таленавітая моладзь

Балет — гэта перш-на-перш мастацтва моладзі. Маладыя салісты вызначаюць сучаснае творчае аблічча беларускага тэатра.

Поруч з Лідай Ражанавай, усё большую вядомасць набывае Ніна Давыдзенка. У яе ўжо ёсць багаты і разнастайны рэпертуар. Сярод значных партый салісткі — Адэта і Адылія («Лебядзінае возера»), Аўрора («Спячая красуня»), Марыя («Бахчысарайскі фантан»), Медора («Карсар»), Хасінта («Лаурэнсія»). У чым жа своеасаблівасць яе танца?

Для выканаўчага стылю артысткі характэрна добрае прафесіянальнае валоданне тэхнікай, пластычнасць і музычнасць рухаў і поз, строгая, упэўненая і дакладная форма танца ў складаных харэаграфічных кампазіцыях, яркая экспрэсія і тэмпераментнасць. Для яе сцэна — родная стыхія. Тут Давыдзенка жыве паўнакроўным жыццём.



Адэта — Адылія... Не кожная балерына мае магчымасць выступаць у адным спектаклі ў вобразе белага і чорнага Лебедзя, казачных гераінь з розным эмацыянальным станам. Не ўсё яшчэ бездакорна ў вобразах, з якімі нас пазнаёміла артыстка. Часам здаецца, што ёй бліжэй псіхалагічны партрэт дэманічнай, каварнай «круцёлкі» Адыліі, чым празрысты, сумны лірызм пяшчотнай Адэты. Аднак у галоўных сцэнах Н. Давыдзенка тут дамагаецца мастацкага сінтэзу.

Выпрабаваннем творчых магчымасцей артысткі заўсёды з'яўляецца падэ-дэ (вялікі балетны дуэт) Адыліі з Зігфрыдам (трэці акт). Найскладанейшая варыяцыя са славутымі фуэтэ (імклівыя вярчэнні) выконваюцца салісткай лёгка, без усякага напружання. І вельмі важным з'яўляецца тое, што ў багатым феерверку рухаў не траціцца тэма вобраза — здрада Адыліі Зігфрыду, імкненне прывабіць юнака да сябе.

Партыі, у якіх выступае Н. Давыдзенка ў «Лебядзіным возеры», выконваюцца ў рэальна-псіхалагічных інтанацыях. Белы Лебедзь Н. Давыдзенка адрозніваецца ад Адэты Л. Ражанавай. Л. Ражанава ў лірыка-сімфанічным танцы акцэнтуе сумныя інтанацыі. У Н. Давыдзенка светлае ўспрыйманне жыцця. Адэта Давыдзенка менш паэтычная і казачная, чым Ражанавай. Але яна бліжэй да рэальных чалавечых адносін.

Для Давыдзенка, як і для кожнай артысткі, вобраз пушкінскай Марыі («Бахчысарайскі фантан») мае асаблівае значэнне. Галоўная ідэя вобраза Марыі ў выкананні Давыдзенка ў тым, што ў няволі чалавеку няма сапраўднага жыцця. Харэаграфічны вобраз прасякнуты думкай, што са стратай радзімы і любага Вацлава — страчаны сэнс жыцця. Вельмі выразна падае артыстка кантраст паміж светлымі марамі дзяўчыны (першы «польскі» акт) і несуцешнай тугой паланянкі хана Гірэя.

Н. Давыдзенка цікава пачала сваё самастойнае жыццё на прафесіянальнай сцэне, і ў яе вялікія перспектывы ў будучыні. Але хочацца перасцерагчы артыстку ад захаплення першымі ўдачамі. Непакоіць тое, што Н. Давыдзенка не заўсёды аддае дастатковую ўвагу інтэлектуальнаму жыццю гераіні, індывідуалізацыі вобраза. І таму ў яе выкананні няма яшчэ глыбокага адрознення псіхалагічных рыс Адэты і Адыліі ад Аўроры («Спячая красуня»), нацыянальных рысаў грэчанкі Медоры ад польскай дзяўчыны Марыі. Добра валодаючы класічным танцам, балерына менш увагі аддае сцэнічнаму партрэту, злітнасці пачуцця гераіні з эмоцыямі, якія ёсць у музычнай драматургіі балету.

Мы наўмысля так многа ўвагі аддаем творчай практыцы Н. Давыдзенка, бо каму многа дадзена прыродай, у каго багатыя здольнасці і магчымасці, ад таго больш патрабуецца.

Найлепшы партнёр Л. Ражанавай і Н. Давыдзенка — Валеры Міронаў. Нягледзячы на параўнальную маладосць, ён ужо заняў у беларускім тэатры вядучае месца поруч з С. Дрэчыным. У творчай біяграфіі саліста, на нашу думку, значную ролю адыграў не толькі яго педагог і выхавацель прафесар Р. Захараў (Масква), але і вядомы майстар-рэфарматар мужчынскага танца ў класічным балеце А. Ермалаеў.

Вядома, што драматургія многіх дарэвалюцыйных балетаў аддавала мужчынскай партыі другарадную ролю ў параўнанні з галоўным жано-

**Сцэна з балету «Князь-возера».**



чым вобразам. Гэта часта збядняла палітру фарбаў салістаў, абмяжоўвала іх магчымасці ў лепцы псіхалагічнага партрэта героя. В. Міронаў—выхаванец Маскоўскага харэаграфічнага вучылішча. Там ён набыў тонкі густ, там засвоіў сучасны стыль класічнага танца, якому ўласцівы высакароднасць формы, прыгожы, зграбны малюнак, шырокі пластычны жэст і галоўнае—жыццёвая праўда вобраза.

Выпрабаваннем на сталасць для саліста з'явіўся лірыка-рамантычны вобраз Зігфрыда («Лебядзінае возера»). Герой Чайкоўскага поўны шчырага захаплення і маладой энергіі. Эпігоны старой балетнай драматургіі настойліва трактавалі Зігфрыда юнаком, які валодае ў дасканаласці манерамі галантнага кавалера «вышэйшага свету». Такі Зігфрыд па-сапраўднаму не кахае, а толькі «іграе» ў каханне. Акцёры ў гэтай ролі часта выкарыстоўвалі розныя рамесніцкія прыстасаванні: стандартную ўсмешку, прыцісканне рукі да сэрца і іншыя. В. Міронаў шукае больш дасканалых шляхоў увасаблення вобраза. Артыст пільна ўглядаецца ва ўнутраны свет героя, уважліва слухае музыку і знаходзіць у ёй акрыляючыя думкі і шчырыя эмоцыі. Зігфрыд Міронава—рамантычны юнак, які палымяна кахае Адэту і гатовы мужна абараняць сваё пачуццё. У лірычных сцэнах з Адэтай, у класічным дуэце з Адыліяй юнак жыве надзеяй на блізкае шчасце, але ён не пасіўна чакае яго, а вядзе барацьбу за тое, каб здабыць сабе шчасце.

Багаты думкамі і шчырымі эмоцыямі гераіка-рамантычны вобраз Сымона («Салавей»). Творча наследуючы найбольш значныя рысы, якія ўласцівы выкананню гэтай партыі старэйшым майстрам С. Дрэчыным, артыст разам з тым знайшоў і ўласнае вырашэнне ролі. У яго выкананні, у якім спалучаецца прыгожая форма класічнага і паэтычнага нацыянальнага танца, Сымон—энергічны, валявы і смелы змагар за народную праўду супраць панскай крыўды. Рысы пакорлівасці лёсу, прымірэнцтва з цемрашаламі не ўласцівы яму.

Вядома, што Сымон—чалавек таленавіты. Яго талент з'яднаны з мужнасцю і адданасцю народу. У мужным, натхнёным і гранічна выразным танцы гэтыя рысы героя набылі асаблівую рэльефнасць.

Дзейсны танец—вызначальная рыса і такіх выдатных партый В. Міронава, як Васіль («Князь-возера»), Вацлаў («Бахчысарайскі фантан»), Дэзірэ («Спячая красуня»), Франдос («Лаурэнсія»).

Хацелася б толькі папярэдзіць саліста ад паўтораў раней знойдзеных сцэнічных прыёмаў, ад нівеліроўкі класічных вобразаў і пажадаць яму нястомных пошукаў новых сродкаў сцэнічнай выразнасці.

Да ліку салістак, мастацтва якіх вызначае сучаснае аблічча беларускага балету, належыць і Бася Карпілава. Выхаванка Маскоўскага харэаграфічнага вучылішча, яна валодае разнастайнай тэхнікай класічнага балету, пластычнасцю рухаў і зграбнасцю танца.

Асаблівасці манеры балерыны выразна раскрыліся ў вобразах Тао-Хоа («Чырвоны мак»), Зарэмы («Бахчысарайскі фантан»), Эсмеральды і Марылькі («Салавей»), Адыліі («Лебядзінае возера»).

Дзейснымі адносінамі да жыцця, умельствам абараняць свае ідэалы вызначаюцца ў выкананні артысткі вобразы Зарэмы, гарэзлівай іспанкі, тэмпераментнай Кітры, ахвяры каталічнага фанатызму цыганкі Эсмеральды, дасціпнай беларускай дзяўчыны

**В. Давыдаў у партыі Робара з балету «Карсар».**





Марылькі, дэманічнай, здрадлівай Адыліі.

Даводзіцца толькі пашкадаваць аб тым, што ў апошні час балерына нібы спынілася ў сваім творчым росце, трапіла пад уплыў штампу, часта праяўляе абыякавасць да душэўнага свету сваіх гераінь. У вобразах Карпілавай прыкметны сталы прафесіяналізм, віртуозная тэхніка, тэмперамент, але менш раскрываецца ў іх думка, часам прыкметна неахайнасць у пластыцы, у лініі танца, няўвага да акцёрскага майстэрства. Над усім гэтым Б. Карпілавай варта сур'ёзна падумаць, каб не адстаць ад сваіх маладых, больш дбайных таварышак.

Сярод здольных салістаў моладзь балету—Н. Шэхаў, В. Крыкава, А. Карзянкова, В. Давыдаў і іншыя. Кожны з іх мае добрую школу, значныя здольнасці і шырокія творчыя магчымасці. Але выкарыстоўваюцца гэтыя магчымасці яшчэ па-рознаму. Даволі шырокі рэпертуар Н. Шэхава. Партыя Васіля («Князь-возера») і Вацлава («Бахчысарайскі фантан»)—найбольш значныя ўдачы артыста. Няблага валодае ён тэхнікай класічнага танца — моцным прыжком, дакладнасцю рухаў і зграбнасцю поз. Яго героі тэмпераментныя, настойлівыя ў абароне сваіх ідэалаў. Н. Шэхаў— чулы партнёр. Прафесіянальная сталасць саліста — характэрная рыса яго выступленняў не толькі ў сольных варыяцыях, але і ў ансамблевых танцах.

І разам з тым не ўсё задавальняе ў сцэнічнай творчасці артыста. Вобразы, з якімі ён пазнаёміў гледача, яшчэ недастаткова інтэлектуальныя, па-сапраўднаму не індывідуалізаваныя. Н. Шэхаў пакуль што адчувае сябе менш упэўненым у лірыка-рамантычных ролях, у вобразах, дзе ярка гучыць тэма кахання.

Своеасаблівая індывідуальнасць В. Крыкавай знайшла сваё праяўленне ў некаторых партыях і, на нашу думку, перш-на-перш у партыі Зарэмы. Зарэма Крыкавай—спешчаная ў гарэме «зорка кахання», якая палымяна абараняе свае выключнае права на прыхільнасць Гірэя. Артыстка малюе псіхалагічны партрэт гераіні буйнымі шырокімі мазкамі, без тонкіх нюансаў філіграннай апрацоўкі дэталей.

Пры першым знаёмстве А. Карзянкова прыемна здзівіла свежасцю фарбаў гераічнага вобраза Лаурэнсіі. Трагічны канфлікт Лаурэнсіі з акружаючым яе асяроддзем, валявая натура маладой іспанкі, якая палымяна выступіла супраць сярэдневяковай цемрашальскай маралі, прагучаў у спектаклі на поўны голас. У танцоркі добры густ, які выхаваны ў Ленінградскім харэаграфічным вучылішчы. На жаль, пасля Лаурэнсіі артыстка нічым значным не ўзрадавала гледачоў. Яе выступленне ў партыі Зарэмы нічога новага ў разуменне вобраза не прынесла. Нам здаецца, што бясспрэчна таленавітай артысцы патрэбна большая ўвага рэжысуры, сапраўдныя клопаты аб яе далейшым творчым росце. А яе талент і значная мастацкая культура заслугоўваюць такой увагі.



**В. Крыкава ў партыі Кошачкі з балету «Спячая красуня».**

В. Давыдаў радуе прыродным артыстызмам, імкненнем да строга акадэмічнага выканаўчага стылю. Гэта прыкметна ў «Карсары», «Лебядзіным возеры», «Спячай красуні» і ў іншых спектаклях, дзе ён выступае.

Але ад В. Давыдава з яго неабмежаванымі магчымасцямі ў балетнай класіцы можна патрабаваць большай канкрэтызацыі інтэлектуальных і псіхалагічных рысаў герояў, арганічнага спалучэння думкі і дзеі ў танцы.

Ёсць у тэатры і іншыя здольныя маладыя артысты (Г. Мартынаў, Г. Папоў, Ю. Чурко, М. Пятрова і іншыя). Усе яны з'яўляюцца надзеяй тэатра, яго сучасным і будучым.

### Аб тым, што турбуе

Многае дасягнута беларускім балетам за дваццаць пяць год яго існавання. Ён знаходзіцца ў стане ідэйнай і творчай сталасці. Аднак нельга не спыніцца на тым, што нас асабліва турбуе ў жыцці калектыву.

Найбольш непакоіць адсутнасць на беларускай сцэне героя-сучасніка, чалавека натхнёнай і дапытлівай думкі, глыбокіх і шчырых эмоцый, высакародных маральных ідэалаў — будаўніка камунізма. Яго не толькі няма на сцэне, але і ў рэпертуарным партфелі тэатра. Такі балет, наколькі нам вядома, яшчэ і не знаходзіцца ў бліжэйшых творчых планах беларускіх кампазітараў.

Ёсць розныя арганізацыйныя прычыны, па якіх наш балетны тэатр не мае такіх, асабліва патрэбных савецкаму гледачу, спектакляў. Адчуваецца пасіўнасць да гэтага жанра кампазітараў, адсутнасць прафесіянальна сталых сцэнарыяў, бестурботнасць да сучаснай тэмы мастацкага кіраўніцтва балету.

Але ёсць і сур'ёзныя творчыя прычыны: невыразнае ўяўленне жанравай своеасаблівасці балету на надзённыя тэмы, нясмелыя пошукі новай харэаграфічнай лексікі, якая на аснове выкарыстання класічнай традыцыі і нацыянальнага танца здольна глыбока перадаць унутраны свет савецкага чалавека.

Вядома, што такія пошукі ўжо рабіліся ў балеце «Салавей». Нажаль, яны не атрымалі далейшага развіцця ў спектаклях на тэмы нашай сучаснасці.

Існуюць няправільныя ўяўленні, быццам бы «спецыфіка» класічнага балету, дзе, у асноўным, дзейнічаюць казачныя героі і багата фантастыкі, нібы не падыходзіць для вырашэння тэм сучаснага жыцця. Гэта насцярожвае кампазітараў і балетную рэжысуру да сучаснага харэаграфічнага твора. Аднак гэта не мае пад сабой трывалага грунту. Няўдачы некаторых балетаў або невялікі поспех твораў, у якіх дзейнічалі героі нашых дзён, абумоўлены не іх тэмай, а неарганічным спалучэннем праўды жыцця і паэзіі класічнага танца, рэальнага і фантастычнага, сучаснасці і ўмоўных форм балетнай класікі. Няўдача вынікала з прымітыўнага, штучнага і механічнага прыстасавання новага зместу да кананізаваных форм класічнага танца.

Ствараючы балет на тэмы, якія найбольш хвалююць савецкага гледача, беларускім кампазітарам і опернаму тэатру варта было б прааналізаваць поспех героіка-рамантычных балетаў «Лаурэнсія» і «Чырвоны мак», «Бахчысарайскі фантан», якія, дарэчы, знаходзяцца ў рэпертуары беларускага тэатра і карыстаюцца прыхільнасцю нашага гледача.

Сярод некаторых артыстаў і артыстак балету яшчэ бытуе архаічнае, няправільнае разуменне, быццам бы толькі віртуозная танцавальная тэхніка вырашае ўсе складаныя праблемы харэаграфічнага вобраза. А між тым выдатная творчая практыка Галіны Уланавай і іншых вядомых савецкіх балерын сведчыць, што, пры выключнай зграбнасці формы танца, іх сцэнічныя вобразы перш-на-перш характэрныя хвалюючай жыццёвай праўдай, высакароднасцю духоўнага аблічча, гармоніяй унутранага і вонкавага малюнка вобраза.

А ў нас яшчэ сустракаюцца маладыя артысткі, якія, напрыклад, у партыі Адыліі, «атакуюць» гледача імклівымі рухамі, лёгкасцю выканання славутых «фуэтэ», але, нажаль, гэта робіцца пры поўнай абыякавасці да перажыванняў гераіні.

Роздум выклікае і сучасны стан балетнай рэжысуры ў нашым тэатры. К. Мулер і С. Дрэчын — прафесіянальна сталыя балетмайстры. У іх добры густ і дастатковая творчая практыка. Яны добра знаёмыя з традыцыямі і стылем дарэвалюцыйнага рускага і сучаснага савецкага балету.

Але ці заўсёды чутны ў спектаклях іх выразны ўласны голас, ці дастаткова прыкметны індывідуальныя схільнасці і «почырк» балетмайстраў?

Кожны з гэтых рэжысёраў мае не толькі агульныя рысы, якія вынікаюць са спецыфікі жанра, але і індывідуальную манеру. К. Мулер чула ахоўвае акадэмічныя традыцыі ў тэатры. Ён імкнецца наблізіць свае спектаклі да вядомых, атрымаўшых шырокае прызнанне класічных узораў Пеціпы, Іванова і сучасных карыфеяў балетнай рэжысуры (Захараў, Лаўроўскі і іншыя).

Так, напрыклад, «Бахчысарайскі фантан» і «Лебядзінае возера» па свайму стылю творча пераклікаюцца з такімі ж пастаноўкамі Вялікага тэатра Саюза ССР. Але хацелася б, каб прафесіянальнае майстэрства К. Мулера з такой жа ўпэўненасцю і своеасаблівасцю, як яно прагучала ў нацыянальных балетных спектаклях «Салавей» і «Князь-возера», было выкарыстана для самастойнага вырашэння класічных твораў. Пажадана, каб пры гэтым больш улічваліся «почырк» і магчымасці нашых салістаў і кардэбалету.



У «Лебядзіным возеры» ёсць цудоўныя паэтычныя танцавальныя кампазіцыі Л. Іванова (другі і чацвёрты акты), ад якіх нельга адмаўляцца (напрыклад, выдатны танец пяцёркі маленькіх лебедзяў). Але гэта не павінна абмяжоўваць уласную творчую фантазію балетмайстра, а яшчэ больш натхняць яго на самастойнасць вырашэння класічнага спектаклю ў цэлым.

Надзвычай чула і прафесіянальна ўмела працуе С. Дрэчын з салістамі ў спектаклях, якія ім пастаўлены («Лаурэнсія», «Эсмеральда», «Карсар» і іншыя). Але ён недастаткова смела шукае ўласных шляхоў узбагачэння «лексікі» класічнага танца, больш арганічнага жыцця кардэбалету (у масавых сцэнах) думкамі і эмоцыямі музычнай драматургіі.

Выклікае непакой і становішча нашага кардэбалету. Ён крыху «пастарэў» па ўзросту, часта парушае ў нашых спектаклях тую гармонію ліній і пластыкі, якія былі характэрны для выдатных харэаграфічных кампазіцый Іванова, Горскага і іншых выдатных рускіх балетмайстраў. Гэта вельмі адмоўна адбіваецца і на мастацкай выразнасці спектакляў нашага тэатра па творах савецкіх кампазітараў.

У тым, што ў многіх салістаў захапленне вонкавай выразнасцю танца пераважае над акцёрскім мастацтвам, над праўдай харэаграфічнага вобраза, прыкметна і недасканаласць харэаграфічнай адукацыі. Нажаль, і да гэтага часу ў харэаграфічных вучылішчах (і ў прыватнасці у нас, на Беларусі) акцёрскаму майстэрству і драматычнаму выхаванню балетнага саліста не аддаецца такой увагі, якой гэтая дысцыпліна заслугоўвае. Ніхто ж не можа адмаўляць таго, што ў выніку такой пастаноўкі навучання і не зусім удалага падбору слухачоў наша вучылішча не падрыхтавала ні аднаго кваліфікаванага прэм'ера або прымы-балерыны, якія былі б хоць на ўзроўні сучасных вядучых салістаў беларускага тэатра.

І разам з усім гэтым патрэбна большая смеласць нашай рэжысуры ў вылучэнні маладых нацыянальных кадраў на самастойныя партыі. Гэта — высакародны абавязак беларускага тэатра.

# *Навука і тэхніка*

Леанід БУЛАТ

# НЯБАЧНЫЯ РАЗВЕДЧЫКІ

### Крыху гісторыі

У штармавую лістападаўскую ноч 1943 года нямецкі лінкор «Шарнгорст» плыў каля паўночных берагоў Нарвегіі. Па даных разведкі, з Англіі ў Мурманск накіроўваўся караван транспартных суднаў з ваенным грузам для Савецкай Арміі. Камандаванне лінкора атрымала загад нечаканым нападам знішчыць гэтыя судны. Для фашысцкіх піратаў гэта было звычайнай справай. Шмат месяцаў «Шарнгорст» нападаў на транспартныя судны, сам застаючыся беспакараным.

І раптам вакол карабля выраслі агромністыя вадзяныя слупы разрываў. Заміргалі сігнальныя лямпачкі, зазванілі званкі ва ўсіх адсеках: «Баявая трывога!» Вялізныя гарматныя вежы павярнуліся ў бок нябачнага праціўніка, але яго снарады ўжо ірваліся на самым лінкоры. Кола разрываў хутка звужалася. Дарэмнай аказалася спроба «Шарнгорста» ўцячы. выйсці з нявыгаднага становішча. Нябачны праціўнік следаваў па пятах, не спыняючы абстрэлу.

Такім чынам «Шарнгорст», які прывык рабіць нечаканыя напады на іншыя судны, сам стаў ахвярай. Англійскія канвойныя караблі здолелі з вялікай адлегласці вызначыць месцазнаходжанне нямецкага лінкора і адкрыць па ім агонь.

Убачыць ворага, навесці гарматы, сачыць за полем бою дапамаглі англійскім маракам нябачныя разведчыкі—электрамагнітныя хвалі, пасланыя радыёлакацыйнымі станцыямі.

А на світанні, калі да месца бою падышлі выкліканыя на дапамогу англійскія крэйсеры, лёс «Шарнгорста» вырашыўся вельмі хутка. Цяжкі лінейны карабель з усёй камандай знайшоў сабе вечны спакой на марскім дне.

Так маладая радыёлакацыя, якая налічвала ўсяго некалькі год свайго практычнага прымянення, заявіла аб сабе, як аб магутнай сіле.

60 год таму назад вялікі рускі вучоны, вынаходца радыё А. С. Папоў адкрыў цікавую ўласцівасць радыёхваль—іх здольнасць адлюстроўвацца ад розных прадметаў. У 1897 годзе, у час доследаў па радыёсувязі на Балтыйскім моры, Папоў заўважыў, што радыёсувязь паміж двума караблямі «Еўропа» і «Афрыка» парушылася, калі паміж імі праходзіў крэйсер «Лейтэнант Ільін».

Угадваючы ў гэтай з'яве вельмі важныя практычныя магчымасці, Папоў напісаў у сваёй справаздачы, што адлюстраванне электрамагнітных хваль можа быць выкарыстана ў караблеваджэнні і сігналізацыі...

Далейшае развіццё радыёлакацыі стала магчымым толькі пасля таго, як радыётэхнікай быў асвоены дыяпазон звышвысокіх частот, створаны магутныя генератары электрамагнітных ваганняў, звышадчувальныя прыёмнікі, антэны накіраванага дзеяння.

На ўсё гэта спатрэбіўся не адзін дзесятак год. Цікава адзначыць, што ўжо ў 1932 годзе ў СССР была створана апаратура, якая з'яўляецца асновай сучасных радыёлакацыйных станцый. Калектыў вучоных і інжынераў на чале з М. А. Бонч-Бруевічам распрацаваў імпульсную іонасферную станцыю, з дапамогай якой адлюстраваная ад іонасферных слаёў электрамагнітная энергія паказвала вышыню іонасферы. Такім чынам, ужо гэта станцыя выкарыстоўвала асноўны прынцып радыёлакацыі—вызначэнне дальнасці па часу спазнення адлюстраванага сігналу.

Работа савецкіх вучоных Ю. Б. Кобзарава, П. А. Пагарэлка, Н. Я. Чарняцова, пачатая ў 1935 годзе, прывяла да стварэння першых радыёлакацыйных станцый. Гэтыя станцыі былі практычна выпрабаваны ў 1939 годзе.

Гады другой сусветнай вайны з'явіліся перыядам бурнага развіцця радыёлакацыйнай тэхнікі. Радыёлакацыя стала асноўным сродкам супрацьпаветранай абароны.

І хоць радыёлакацыя ў ваеннай справе адыграла важную ролю, галоўнае яе значэнне ў тым, што яна заклала фундамент для развіцця самых разнастайных галін навукі і тэхнікі.

Радыёлакацыя зараз шырока выкарыстоўваецца ў навігацыі, метэаралогіі, астраноміі, геадэзіі, спектраскапіі, у схемах электронных вылічальных машын і г. д.

### На зямлі, у небе і на моры

Вялікі пасажырскі самалёт адрываецца ад узлётнай дарожкі і знікае ў начной цемры. Хаваюцца ўнізе агні аэрапорта. Самалёт набірае вышыню.

У кабіне пілота—мноства розных прыбораў, але зараз позірк яго скіраваны на радыёлакацыйную апаратуру. Яна дазваляе вызначыць вышыню палёту, весці самалёт па прызначанай трасе, устанавіць дакладнае месцазнаходжанне машыны, пазбегнуць сутыкнення з іншымі самалётамі, зрабіць, калі неабходна, «сляпую» пасадку.

Вядома, і раней былі прыборы, якія вызначалі і вышыню палёту і дапамагалі весці самалёт па зададзенай трасе, але дакладнасць іх намнога ўступае радыёлакацыйным.

Возьмем для прыкладу вызначэнне вышыні. Ранейшыя барametрычныя вышынямеры давалі даныя аб вышыні ці адносна ўзроўню мора, ці адносна вышыні аэрадрома, з якога ўзняўся самалёт. І ў тым і ў іншым выпадку



цяжка было вызначыць сапраўдную вышыню палёту над любой мясцовасцю. Радыёлакацыйныя прыборы пазбаўлены гэтага недахопу. Яны з вялікай дакладнасцю вызначаюць вышыню самалёта над зямлёй у залежнасці ад рэльефа мясцовасці, а гэта вельмі важна для пілота і для бяспекі пасажыраў.

Месцазнаходжанне самалёта ў начных умовах ці пры дрэннай бачымасці раней вызначалася з дапамогай разлікаў штурмана, якія звязаны з вялікімі і складанымі вылічэннямі.

Дзякуючы радыёлакацыі з'явілася магчымасць вызначаць месцазнаходжанне самалёта вельмі проста і дакладна.

Савецкімі акадэмікамі Л. І. Мандэльштамам і Н. Д. Папалексі быў прапанаваны метад гіпербалічнай каардынатнай сеткі, які шырока ўжываецца зараз ва ўсіх краінах свету. Гіпербалічная навігацыйная сістэма складаецца звычайна з чатырох наземных перадаючых станцый, якія працуюць папарна. Кожная пара ўключае вядучую і вядзёную радыёлакацыйную станцыі. Перадатчык вядучай станцыі выпрацоўвае імпульсы электрамагнітнай энергіі. Праз строга акрэслены прамежак часу ўключаецца і перадатчык вядзёнай станцыі.

На самалёце знаходзіцца прыёмна-індыкатарная апаратура. Штурман настройвае прыёмнік на рабочую частату адной пары і бачыць на індыкатары два імпульсы. Паміж гэтымі імпульсамі маецца нейкая адлегласць. У залежнасці ад месцазнаходжання самалёта інтэрвал будзе розны.

Сутнасць гіпербалічнага метаду ў тым, што пункты прасторы, якія адпавядаюць аднолькаваму часу спазнення сігналаў вядучай і вядзёнай станцый, гэта значыць, аднолькаваму інтэрвалу паміж імпульсамі на індыкатары, ляжаць на крывой пэўнай формы, якая называецца гіпербалай. У фокусах гэтай гіпербалы знаходзяцца наземныя станцыі. Для кожнай гіпербалічнай навігацыйнай сістэмы выпускаюцца спецыяльныя карты. На іх з вялікай дакладнасцю наносіцца цэлая сістэма гіпербал, кожная з якіх адпавядае пэўнай рознасці часу прыходу сігналаў. Маючы такую карту, штурман па інтэрвалу паміж імпульсамі ад адной пары наземных станцый знаходзіць адпаведную гіпербалу і адзначае яе. Потым настройваецца на частату другой пары і знаходзіць другую гіпербалу. Пункт перасячэння абедзвюх гіпербал паказвае месцазнаходжанне самалёта.

Паспяхова прымяняюцца ў авіяцыі і радыёлакацыйныя маякі, якія ўстанаўліваюцца на аэрадромах. Перадатчыкі маякоў уключаюцца толькі пры атрыманні запытальнага сігналу з самалёта. Кожны маяк дае адказ у выглядзе серыі імпульсаў пэўнай паслядоўнасці. Лётчык, ведаючы коды маякоў, выбірае патрэбны і арыентуецца па ім.

... Пакуль мы вялі размову аб прымяненні радыёлакацыі ў аэранавігацыі, наш самалёт наблізіўся да буйнага аэрапорта. Пілот па радыё пытаецца дазволу на пасадку. Недзе там, на зямлі, у дыспетчарскім пункце, дзяжурны сочыць па экранах індыкатараў за паветранай абстаноўкай. Камандуючы па радыё, ён кіруе чарговасцю пасадкі, выводзіць самалёты ў раён аэрадрома, папярэджвае аб небяспечным зближэнні. Нізкія воблакі плывуць над аэрадромам, але для ўсявбачнага вока радыёлакатара гэта не перашкода.

— Рабіце пасадку! — гучыць каманда з зямлі, і праз некалькі хвілін самалёт бяжыць па бетанiраванай дарожцы. Начны пералёт закончаны паспяхова, і ніхто з пасажыраў не здзіўлены. А яшчэ зусім нядаўна, які-небудзь два дзесяцігоддзі назад, начныя пералёты пасажырскіх самалётаў з'яўляліся задачай вялікай цяжкасці.

Не менш важную службу нясуць нябачныя разведчыкі — электрамагнітныя хвалі радыёлакацыйных станцый і ў марской навігацыі.

Вада, асабліва ў спакойным стане, дае вельмі добрае адлюстраванне радыёхваль. Берагі ж рассейваюць электрамагнітную энергію. Яшчэ больш інтэнсіўнае адлюстраванне адбываецца ад розных прадметаў, асабліва металічных: радыёмачт, партовых збудаванняў і г. д. Таму на індыкатары карабельнага лакатара кругавога агляду атрымліваецца своеасаблівая радыёлакацыйная карта з абрысамі берагоў.

Вядома, радыёлакацыйная карта не заўсёды задавальняе патрабаванні пілота, бо нізкія берагі даюць слабае адлюстраванне. У такіх выпадках яны кантралююцца з дапамогай звычайных карт шляхам параўнання. Затое гэты недахоп акупляецца магчымасцю бачыць акаляючую абстаноўку ў любых умовах.

Нябачныя разведчыкі — радыёхвалі — дапамагаюць чалавеку арыентавацца не толькі ў нябёсах і на моры. Яны з'яўляюцца яго добрымі сябрамі і памочнікамі і на зямлі. Зараз цяжка знайсці якую-небудзь галіну гаспадаркі, у якой не выкарыстоўвалася б радыёлакацыя. Колькі, напрыклад, патрабуецца працы і намаганняў, каб вызначыць адлегласць паміж двума геаграфічнымі пунктамі. Работа гэтая часта цягнецца гадамі. Радыёлакацыйная апаратура, устаноўленая на самалёце і на зямлі, дазваляе зрабіць гэта вельмі хутка і без асаблівых цяжкасцей.

Спецыяльныя радыёлакацыйныя станцыі, якія ўстанаўліваюцца на самалёце, даюць магчымасць рабіць здымкі рэльефа мясцовасці. Дадзеныя аб рэльефе аўтаматычна запісваюцца пячатнымі апаратамі і затым па іх складаюцца рэльефныя карты.

Вялікую ролю адыгрывае радыёлакацыя ў вывучэнні і пакарэнні міжпланетных прастораў. Раней чым з'явіліся ў космасе яго першыя наведвальнікі — савецкія штучныя спадарожнікі Зямлі, там пабывалі ўсепранікальныя нябачныя разведчыкі — электрамагнітныя хвалі. З іх дапамогай мы даведаліся шмат новага аб пабудове сусвету. Але гэта — тэма асобнай размовы.

### Зазірнем у будучыню

... Да ўзлёту касмічнага карабля застаецца некалькі гадзін. Сюды, на стартавую пляцоўку, няспынна плывуць патокі людзей. Сярод іх — дэлегацыі з розных куткоў зямнога шара, вучоныя, карэспандэнты, фотарэпарцёры. Яны толькі што прыбылі на ракетапланах, прататыпам якіх з'явілася міжкантынентальная балістычная ракета, упершыню пабудаваная і выпрабаваная ў Савецкім Саюзе.

На вялізным металічным збудаванні з рэйкамі, накіраванымі ў неба, — першы міжпланетны карабель. На яго адпаліраванай, бліскучай паверхні вялізныя літары: СССР.

Усяго некалькі месяцаў назад зроблены запуск на Месяц аўтаматычнай ракеты без людзей. Выпрабаванне прайшло паспяхова. Ракета апусцілася ў патрэбным пункце месячнай паверхні, а магутныя імпульсныя радыёсігналы яе перадатчыка прынеслі шмат цікавых паведамленняў.

Цяпер ужо ўсё гатова для падарожжа ў космас чалавека. У міжпланетны карабель уваходзяць удзельнікі першага ў свеце пералёту Зямля — Месяц. Грыміць музыка, стракочуць кінаапараты. Яшчэ некалькі хвілін і... на гэтым мы спыняем свой расказ. Магчыма, і не зусім гэтак, як вышэй апісана, адбудзецца запуск першага міжпланетнага карабля з людзьмі. Але важна падкрэсліць, што гэта не пустая фантазія, а рэальная справа недалёкай будучыні. І тут зноў жа радыёхвалі будуць добрымі памочнікамі чалавека.



Магутныя радыёлакацыйныя ўстаноўкі дадуць магчымасць весці перагаворы з удзельнікамі палёту і нават бачыць іх. Радыёлакацыйныя вартаўнікі папярэдзяць карабель аб сутыкненні з метэорамі. На вялізных панарамных радыёлакацыйных экранах удзельнікі экспедыцыі змогуць падрабязна назіраць месячную паверхню. І, бясспрэчна, раней, чым даляцець на Месяц, камандзір карабля пашле ўперад невялікія ракеты — радыёлакацыйныя разведчыкі.

Але дасягненне месячнай паверхні — не мяжа чалавечых імкненняў. У будучым Месяцу прызначана роля стартавай пляцоўкі для палёту на іншыя планеты. І гэта не беспадстаўная фантазія.

Радыёлакацыя ў комплексе з аўтаматыкай, тэлемеханікай і рэактыўнай тэхнікай мае невычарпальныя магчымасці.

# НАВІНЫ ТЭХНІКІ

## РАДЫЁХВАЛІ ГАТУЮЦЬ ЕЖУ

У шэрагу краін створаны печы, у якіх ежа награецца радыёхвалямі, што выпраменьвае магнетронны генератар.

У такой печы пірог, напрыклад, можна спячы за 6 мінут, а двухкілаграмовы кавалак мяса засмажыць за 30 мінут, прычым патэльня і сценкі печы застаюцца халоднымі. Для прыгатавання ежы такім шляхам можа быць выкарыстана любая пасуда: шкляная, фарфаравая, металічная і нават папяровая. Так, піроажнае гатуецца проста на папяровай сурвэтцы.

## ЗАМЕСТ КОРКУ

Як вядома, да гэтага часу корак быў каштоўным рэчывам, таму што коркавае дрэва расце толькі на Поўдні. Але вучоныя стварылі новы матэрыял, які і лягчэй за корак і трывалейшы. Гэта пенапласт — асобая пластмаса. Зараз у маладым савецкім горадзе Находка ўступіў у строй новы завод, які забяспечвае танным заменнікам корку ўсю рыбную прамысловасць Далёкага Усходу.

Пенапласт у паўтара раза лягчэй корку, яго можна рэзаць, пілаваць, апрацоўваць на такарных станках. Ён добра ізалюе гук і цяпло, не гарыць і зусім не ўбірае ваду.

## АБАРОНА АД ПТУШАК

У нямецкім энтымалагічным часопісе, які выдаецца ў Заходняй Германіі, расказваецца аб спосабе абароны спелай садавіны ад шпакоў. Для гэтага асобы крык шпакоў, які папярэджвае аб небяспецы, быў запісаны на плёнку. У садах устанавілі гучнагаварыцель, і пры набліжэнні шпакоў уключалі гэты запіс. Пачуўшы трывожны крык свайго суродзіча, які папярэджваў аб небяспецы, птушкі адлятаюць. Неўзабаве яны прывыкаюць да «пастаяннай небяспекі» ў пэўных месцах і зусім пакідаюць іх наведваць.

## «ГІБРЫД» МАТАРОЛЕРА І АЎТАМАБІЛЯ

«Скуткар» — так назвалі свой малалітражны «аўтамабіль» канструктары англійскай фірмы «Ханслет Энджын компані». У гэтым «аўтамабілі» могуць ехаць два дарослыя чалавекі і адно дзіця. Пры хуткасці 40 кіламетраў у гадзіну ён расходуе толькі 3,5 літра бензіну на 100 кіламетраў. Велічыня новай аўтамашыны сапраўды мікраскапічная: даўжыня каля двух метраў, а шырыня ўсяго 1,25 метра.

## ПЛАСТМАСА З ... ПЕР'Я

У адной лабараторыі Украінскага навукова-даследчага інстытута мясцовай і паліўнай прамысловасці можна бачыць узоры гузікаў, рознакаляровых спражак, мэблевай фурнітуры, якія зроблены з адыходаў вытворчасці пера-пуховых фабрык.

Супрацоўнікі інстытута стварылі тэхналогію вырабу пластмасы з гэтых адыходаў, якія дасюль не выкарыстоўваліся.

## АБПРАМЕНЬВАННЕ ГАРОДНІНЫ

Інстытут біяхіміі імя А. Н. Баха АН СССР распрацаваў метад выкарыстання атамнай энергіі для прадаўжэння тэрміну захоўвання гароднiны. Былі вывучаны біяхімічныя працэсы, якія адбываюцца ў раслінных тканках пад уздзеяннем радыяцыі. Напрыклад, было знойдзена, што клубні бульбы пасля абпраменьвання радыёактыўным кобальтам не даюць парасткаў на працягу года і добра захоўваюць пры гэтым свае харчовыя якасці. Сканструяваны спецыяльны апарат, які складаецца з транспарцёра, бункера, у якім адбываецца раўнамернае і строга дазіраванае абпраменьванне, і перасоўнай зараднай станцыі.

## «К-8»

Так называецца капіравальны трохшпіндэльны станок для мастацкай разьбы па дрэву, зроблены ў Днепрапятроўску. Працуе гэты станок па прынцыпу шматзвеннага пантографа — прыбора, які служыць для перамалёўкі ў вобразным маштабе карт, чарцяжоў, планаў, малюнкаў. Але калі з дапамогай звычайнага пантографа можна рабіць толькі плоскія фігуры, то капір, устаноўлены на станку, дазваляе выразаць і плоскія, і аб'ёмістыя фігуры, прычым адначасова восем. Рабочы водзіць капіравальным пальцам па лініях арыгінала, і 8 фрэз дакладна паўтараюць усе яго рухі ва ўсіх каардынатах, зрэзваючы з дрэва стружку і робячы 8 аднолькавых мадэлей.

## ВЕЖАВЫ КРАН НА ГУСЕНІЦАХ

Вежавыя краны, якія шырока выкарыстоўваюцца на будаўніцтве, маюць адзін істотны недахоп. Яны «прывязаны» да рэйкавага шляху, а гэта зніжае іх манеўранасць і пазбаўляе магчымасці абслугоўваць адначасова некалькі аб'ектаў. Адэскі завод зрабіў новы вежавы кран, забяспечаны гусенічным ходам. Гэты поўнапаваротны кран можа абслугоўваць будаўніцтва памяшканняў да 8 павярхаў. Пры даўжыні выноснай стралы ў 10 метраў ён падымае груз да 3 тон, а маючы 20-метровую стралу — да 1,5 тоны. Уласная дызельэлектрычная ўстаноўка дазваляе выкарыстоўваць новы кран у месцах, дзе няма электраэнергіі.

# Гумар і сатыра



Л. БЕРАЗНЯК

# ТАТАВА ГУЛЬНЯ

Мал. Г. Шчалканавай.

Сёння загадчык бакалейна-гастранамічнага магазіна Апалінар Бенядзіктавіч Смалонскі ўпершыню адлупцаваў свайго сына. Прышоў з работы раней часу, шпурнуў пузаты партфель на туалетны столік і адразу за папругу. З такой лютасцю сцёбаў па пульхных палавінках дзевяцігадовага Ромкі, быццам той хацеў заняць яго пасаду.

Апалінара Бенядзіктавіча не так узрушыла віна сына, як самі абставіны, пры якіх гэтая віна выплыла наверх.

Выклікаў Апалінар Бенядзіктавіч да сябе ў кабінет кладаўшчыка і прадаўца з гастранамічнага аддзела, толькі пачаў іх распякаць за «ўцечку» каўбасы, як у кабінет, без аніякага яго выкліку, увайшла маладая баявая дзяўчына.

— Дзень добры. Вы будзеце бацька Рамана Смалонскага?

Апалінар Бенядзіктавіч толькі здзіўлена падняў бровы: моў хто ж, акрамя мяне, можа быць бацькам майго сына?

— Я шмат разоў прасіла вас зайсці ў школу... Ваш Ромка нямаведама што вытварае: вучыцца не хоча, хуліганіць, за грошы наймае вучняў, каб падказвалі яму.

Не вытрымала сэрца Апалінара Бенядзіктавіча: толькі што ён прабіраў людзей, а тут ужо яго самога прабіраюць. Ён не помніў, як прыбег дадому. А прыбегшы, увесь свой гнеў спагнаў на сыне.

Цяпер знясілены тата сядзеў у крэсле, уставіўшыся заплыўшымі вачыма ў адну кропку. Пухлыя яго шчокі яшчэ больш абвіслі, на порыстым носе выступіў пот. Ён і не заўважаў, што ў правай руцэ ўсё яшчэ трымаў тоўстую салдацкую папругу, дзівам уцалелўшую рэліквію інтэндацкіх подзвігаў у дні вайны.

А Ромка ўсхліпваў, схаваўшыся за камод.

Апалінар Бенядзіктавіч быў у благім настроі. Душа яго ныла за далейшылёс адзінага сына. Расце хлопец, на лес гледзячы. Які б яму прыдумаць занятак? Хіба пільнаваць, каб ніхто не садзіўся на лаўку, што Апалінар Бенядзіктавіч зрабіў сам, сваімі рукамі, пад таполікам у левым кутку двара? Але ж ён, шэльма, адразу пачне спаганяць з бабулек і нянек плату. Людзі касавурыцца пачнуць.

Раптам у галаве Апалінара Бенядзіктавіча нарадзілася адменная думка. Ён падышоў да сына.

— Ромка, хочаш мець сапраўдны матацыкл? — радасным голасам спытаўся ён.

Галава сына адразу паказалася з-за камода.

— Хачу. А купіш? — з заплаканага твару Ромкі крыўду зняло, як рукой.

— Бач, які ты хуткі, — усміхнуўся тата. — Табе, каб як у казцы: стук, грук — і гатовы матацыкл.

Ромка капрызна адставіў губу.

— Я ўжо заўважыў, — працягваў бацька, — што ты вельмі любіш грошы. Дзе рубель валяецца на стале, ці драбязя якая — адразу лапу накладзеш. А карысці што? Блазнуеш толькі ды падказчыкаў наймаеш. А цяпер мы з табой нешта накшталт гульні пачнем.

— І ты хочаш дробязь збіраць? — нахмурыўся Ромка.

— Пачакай ты з дробяззю, — пачаў нервавацца Апалінар Бенядзіктавіч. —

Замест таго, каб за грошы сабе парабкоў наймаць, дык ты гэтыя грошы ў скарбонку. Глядзіш, матацыкл і выскачыць са скарбонкі.

— Выскачыць! — перадражніў Ромка. — Гэта мне дзесяць гадоў збіраць трэба. Ты ж мне вялікіх паперак не даеш.

— Не лезь раней таты за прылавак, як гаворыць адзін мой прадавец,—зноў усміхнуўся Апалінар Бенядзіктавіч. — Усё прадугледжана. Я дапамагаць буду. Скажам, ты апускаеш у скарбонку чырвонец, а я адвальваю два. Ты — пяцёрку, а я — дзесятку. Удвая больш, разумееш?

Ромка задумаўся.

— А не скруціш?

— Ну, вось табе і на! Родны сын бацьку не верыць. Мне вунь які магазін даверылі..

— А чаму тады ў нас вобыск рабілі?

— Ат, плявузгаеш абы-што. — Апалінар Бенядзіктавіч злосна зірнуў на сына.

— Добра, давай так, — згадзіўся Ромка, баючыся, што бацька перадумае.

Бацька і сын стукнулі па руках. Гульня пачалася.

Ромка прарэзаў нажом дзірку ў гіпсавым жываце качкі — мамінай скарбонкі. На стол выпала некалькі рублёвак, пасыпалася дробязь. Усяго тры рублі і сорак сем капеек. Мала. Вельмі мала. Ромка сеў ля акна, задумаўся.

На другім баку вуліцы стары каштан выкідваў са сваіх рудых пупышак буйныя пучкі маладой ліствы. Красавіцкае сонца купалася ў аконных шыбах, у глянцавітай абшыўцы лімузінаў, у сінявататай стужцы асфальту.



Толькі Ромка не заўважыў гэтага. Ён ламаў галаву над тым, як павялічыць свой капітал. Стой! Ёсць выхад. Вунь ля газетнага кіёска хлопцы гуляюць у грошы. Ромка згроб матчыны зберажэнні ў кішэню і пабег на вуліцу.

— А ну, прымайце і мяне, — праціснуўся ён у сярэдзіну кола, трымаючы на пагатове пятак.

Незнаёмы здаравяк з квадратным загарэлым тварам і ў шапцы без брыля з-пад ілба глянуў на Ромку:

— Куды прэшся? З медзякамі не прымаем.

Прышлося папрасіць цётку з кіёска, каб усе медзякі абмяняла на дваццаціпапеечныя манеты. Ромка паставіў кон, стукнуў круглай алавянай чушкай. Манета злёгку варухнулася ды так і засталася ляжаць уверх рэшкай.

— Стаў! — загадала шапка без брыля.

— У мяне сарвалася, я яшчэ разок— хваляваўся Ромка.

— А мо', хай ударыць разік, га, Камар! — заступіўся за Ромку адзін з ігракоў.

— Стаў, кажу!

І больш яму не давялося ўзяць чушку. Камар біў і біў, і толькі зграбаў выйграныя грошы ў шапку без брыля. Апамятаўся Ромка ўжо тады, як застаўся вінен Камару цэлых пяць рублёў.

— Ды ты круціш! — раззлаваўся Ромка. — Я ж бачыў, што круціш.

Камар паднёс замурзаны кулак да самага Ромкавага носа:

— Гэта бачыў! Пайшоў адсюль! А каўпак свой у залог пакінеш, — і ён сарваў з Ромкі новую капітанку.

Выплакаўся Ромка пад лесвіцай. Толькі лягчэй ад гэтага не стала. Як выкупіць шапку? Што будзе з матацыклам? Без Ромкавай дапамогі бацька не купіць яго. На душы стала да таго маркотна і крыўдна, што ён не паспяваў глытаць гаркаватую сліну.

Ромка зайшоў у кватэру. Маці яшчэ не вярнулася ад краўчыхі, а бацька смачна пасвістваў на тахце ў сваім пакоі. Ромка абвёў вачыма парт'еры на дзвярах, карціны, нават памацаў канапу. Але ж усё гэта глупства. Грошы з яго не зробіш. Тады ён палез у камод. Абшарыў адну шуфляду, другую... І вось, нарэшце, сярэбраны бацькаў партабак.

Скачучы праз чатыры ступенькі, Ромка кінуўся ўніз па лесвіцы. Куляй пераляцеў цераз вуліцу, звярнуў на другую і ўжо ў дзвярах скупачнага магазіна ледзь не збіў з ног жанчыну з дзіцем. Цяжка дыхаючы, паклаў на прылавак перад вусатым дзядзькам у сінім халаце запацелы ў руцэ партабак.

— Украў дзе-небудзь? Прызнайся! — строга спытаў прыёмшчык.



Ромка сумеўся. І неяк само сабой у яго вырвалася:

— Мама паслала. У нас сястрычка хворая...

Прыёмшчык падазрона агледзеў Ромкаву вельветавую куртку, шарсцяныя штаны ў клетку і падсунуў да сябе кніжку з квітанцыямі.

— Дзе жывеш? — спытаў ён, падрыхтаваўшыся запісваць.

— Дзядзечка, чэснае слова, мама паслала,—ледзь не плачучы, сказаў Ромка.

Прыёмшчык палагаднеў:

— У нас парадак такі — запісваць, у каго купляем рэчы.

Ён запісаў Ромкава імя і прозвішча, адрас, пакруціў у руках партабак і назваў суму — семдзесят рублёў. Ромка спярша падумаў, што з яго жартуюць. Але калі прыёмшчык адлічыў роўна сем чырвонцаў, Ромка зацiснуў іх у кулак і без аглядкі выскачыў з магазіна. Ад радасці ён не ведаў, што рабіць.

«Вось пасапе бацька, што прыдзецца вылажыць двайную суму, — цешыў сябе Ромка. — У яго хоць і многа грошай, але ж ён скупы-скупы».

Ромка зноў залез пад лесвіцу, каб палюбавацца неспадзяваным здабыткам. Новыя дзесяцірублёўкі прыемна пахрусцвалі ў руках. «5 рублёў — шапку выкупіць, — прыкідваў Ромка. — Тады на татаву гульню застаецца ўсяго 65. Не, навошта аддаваць Камару пяцёрку. Лепш размяняю яе на двугрывеннікі і адыграюся».

Ля газетнага кіёска гульня была ў самым разгары. Камар у Раманавай капітанцы ўсё стукаў і стукаў алавянай чушкай, манеты паслухмяна пераварочваліся, а хаўруснік Камара тут жа падбіраў іх у шапку без брыля.

Ромка пабразгаў манетамі ў кішэні і прыкленчыў каля кона:

— А ну, дай і мне ўдарыць.

Камар акінуў яго пагардлівым позіркам і працягнуў алавяны кружок.

— Улічваючы тваю беднасць, на кон я за цябе пастаўлю, — усміхнуўся ён і паклаў на зямлю сваю манету.

— Э, не, няма дурных, — запратэставаў Ромка. — Тут рэшка выгнутая, таму і не пераварочваецца. Не абманеш...

Камар вымушаны быў прыняць падстаўную манету і скоса пачаў сачыць за Ромкам. Той замахнуўся, ударыў, і манета лягла арлом угару. Яшчэ удар — і зноў выйгрыш. Ад напружання высунуўшы кончык языка, Ромка, як цэпам, малаціў чушкай, адну за другой заграбаючы манеты. Камар глянуў у шапку, дзе прыкметна ўбавілася бліскучага грузу, і падміргнуў свайму хаўрусніку. Той, нібы незнарок, штурхнуў Ромку пад локаць. Чушка вылецела з рук. Ромка павярнуўся падняць яе, і ў гэты час



Камар зноў падсунуў манету з выгнутай рэшкай.

Ромка не разумеў, чаму так нечакана здрадзіла ўдача. Ён прыцэліўся добра і ўдарыў досыць трапна, а манета не перавярнулася. Не прайшло і дзесяці хвілін, як усе яго двугрывенікі апынуліся ў шапцы без брыля. Ромка рашыў размяняць яшчэ пяць рублёў і адыграцца. Дастаў з кішэні грошы, пачаў шукаць пяцёрку. Тут Камар чэпкімі пальцамі выхапіў грошы ў яго з рук. Не паспеў Ромка апамятацца, як Камар нырнуў у паток праязджаючых машын, і яго каржакаватая постаць імгненна знікла.

Ромка доўга стаяў, як акамянелы. У яго не было сіл, каб скрануцца з месца, не было слёз, каб заплакаць...

Бацька ўсё яшчэ смачна хроп на тахце. Ромка пасланяўся з кута ў кут, адчыніў шуфляду камода. Але колькі ні шарыў там, ні партабака, ні яшчэ чаго вартага пад рукі не траплялася. Выпадкова знайшоў у маленькай шкатулцы залаты медальён і, як на крыллях, пабег у другі скупачны магазін. Цяпер ён ужо ведаў, як расчуліць прыёмшчыка, і зноў паўтарыў гісторыю з хворай сястрычкай. Маленькая агністая цацка ператварылася ў дзве соценныя паперкі.

Доўга тупаў Ромка каля соннага бацькі, пакуль той не прачнуўся.

— Тата, — адразу падбег Ромка. — Гані чатыры хрусцікі. — І выклаў перад бацькам дзве сотні.

— Дзвесце рублёў!—Ачомаўся Апалінар Бенядзіктавіч. — Адкуль у цябе столькі?
Ромка задаволена падцягнуў штаны.
— Выйграў. А заўтра захачу — і больш выйграю.
— Зухаваты ты хлапец, — усхваляваўся ад замілавання Апалінар Бенядзіктавіч. — У першы ж дзень абскакаў мяне. Я нават столькі не змагу сёння, не то што каб удвая.
— Гані, гані сваю долю, — не адступаў Ромка.—Мы ж умовіліся.
Пачуўся званок.
— Во і мама ідзе,—узрадаваўся Апалінар Бенядзіктавіч, што хоць на нейкі момант удасца адцягнуць размову аб сваім узносе.
Апалінар Бенядзіктавіч адчыніў дзверы і збянтэжыўся: зайшоў зусім незнаёмы чалавек.
— А вось і сам Смалонскі Раман Апалінаравіч, — незнаёмы прыўзняў капялюш, убачыўшы Ромку.
Хлапец ад жаху аж прысеў. Перад ім стаяў знаёмы прыёмшчык у акулярах без абадкоў.
— Прашу прабачэння. Сын ваш, калі не памыляюся? — звярнуўся ён да Апалінара Бенядзіктавіча.
Апалінар Бенядзіктавіч лыпнуў вачыма.
— Я з магазіна скупкі выпадковых рэчаў, калі дазволіце, — прыёмшчык зняў акуляры і паглядзеў на Ромку, які стаяў ні жывы, ні мёртвы.—Жонка ваша дома? Няма? Так і ведаў. У бальніцы, значыцца. У вас дачка хворая, калі не памыляюся...
— ... не разумею вас, — Апалінар Бенядзіктавіч то нацягваў гумку на паясніцы сваіх піжамных штаноў, то зноў адпускаў яе.
— Так і ведаў. У мяне, калі дазволіце, адразу падазрэнне ўзнікла, — безупынна кланяўся прыёмшчык, — калі малады чалавек вось гэтую штучку прынёс.
З бакавой кішэні пінжака ён дастаў сярэбраны партабак.
— Спадзяюся, ваш, калі дазволіце?
— Так, мой, — пачаў прыходзіць у сябе Апалінар Бенядзіктавіч.
— А вечарам у нашым філіяле вось гэтая штучка аказалася, і таксама ад маладога чалавека паступіла. — Няпрошаны госць дастаў залаты медальён.
Шчоўкнуў замок, у дзверы праціснулася дзябёлая Маргарыта Пятроўна, жонка Апалінара Бенядзіктавіча. Была яна ў вялізным капронавым капелюшы, які дзівам трымаўся на самай макаўцы.
— Ух, Паля, замучылася я з гэтай краўчыхай, пакуль гіпюр падагнала, — пачала яна з парога і раптам асеклася.— Што такое? Хто гэта? Чаго вы абодва разлезлыя нейкія?
— Ды вось, — Апалінар Бенядзіктавіч разгублена паказаў на Ромку. — Гуляем, бачыш... Гульня ў нас такая...

**Уладзімір КОРБАН**

# БРАХУН

На кузні Вараны
Прывёз чатыры бараны
У рамонт бягучы.
І тут — адкуль узяўся — Бобік злючы
Падскочыў да каня,
Нібыта конь злачынца, не іначай,
А ён — аматар пільнасці сабачай —
Спрыяе выкрыццю ягоная брахня.
Ну, словам, гаўканне узняў на ўсю акругу.
Але вазак схапіў у рукі пугу
Ды па спіне
Без жалю брахуна як секане!



Дык той заскавытаў, — канчаецца амаль.
«Ях, ях!» — заскавытаў, узняўшы пысу ў неба.
«Ну вось, — сказаў каваль, —
Схапіў, што трэба.
І скардзішся цяпер на вазака?
Яго спрактыкаваная рука
Умела пугаўё трымае!»
Нажаль, у нас такое 'шчэ бывае.
Другі брахун усіх бы з'еў,
Але як за брахню у карак атрымае,
Крычыць: «За крытыку дарэмна пацярпеў!»

# СВЯКРУХА

Тэклін сын з дзяўчынай пакахаўся
І неўзабаве запісаўся.
Вяселле справілі як мае быць!
Жывуць. Усё ідзе удала.
Але пара настала
І сын пайшоў у армію служыць.
А Тэкля з той пары засумавала.
Ну, што, уласна, адбылося тут?
Звычайнае. Нявестка маладая
Кахае любага, чакае.
Свякруха ж разважае:
«Будзе цуд,
Калі яна сябе стрымае...
Ой ліха! Не далёка да пакут.
Прыгожая такая... ўсё быць можа.
А хлопцы ў нас... ратуй ласкавы божа!»
Ледзь толькі маладзіца за парог,
Свякруха: «Ах!»—ды—«Ох!
Куды? Чаго?»—жанчыну маладую
Нібы тупой пілой пілуе,
Ні печ, ні засмяяцца не дае.
«Чаго чапляецца старая да яе? —
Разводзілі рукамі людзі.—
Прычыны ж, як мы ведаем, няма».
«Свякруха, — умяшаўся дзед Кузьма, —
Баіцца, што прычына будзе.
Была яна калісь салдаткаю сама,
Дык, помніцца, паводзіла сябе не строга...
Таму і думае, што у жанчын,
Тым болей маладых, адна дарога, —
Усіх мерае на свой аршын».
А вось вам і мараль: вядома,
Хто грэшны сам, не верыць той нікому.

## ЗМЕСТ







**Па гарадах Беларусі. Гомель; Савецкая вуліца.**
Фота А. Дзітлава.